




**ЛІСТАПАД**

МІНСК, 1972

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ*
*І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ*
*ЧАСОПІС*



# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ**


**Заснаваны ў 1953 годзе**

**Выдавецтва ЦК КП Беларусі**



Вокладка **П. Лысенкі.**

Шмуцтытулы **П. Драчова** (стар. 3) і **В. Смятаніна** (стар. 113).



# ПАЭЗІЯ

- Мікола МАЛЯЎКА
- Кастусь КІРЭЕНКА
- Сцяпан АЛЕКСАНДРОВІЧ



- Яўгенія МАЛЬЧЭЎСКАЯ
- Васіль ВІТКА
- Эрвін ШТРЫТМАТАР

# ПРОЗА





**мікола маляўка**

*

ПАЭЗІЯ

*

## Каласок

Я з тое нівы каласок,
Дзе Колас вечна быў заняты —
Араў няўдобіцу, пясок
І сеяў мудрасці зярняты.

Яму і ў суш, і ў мокры год
Карцела ўсё зрабіць самому —
Каб мець зярністы намалот,
А не пустых надзей салому.

Казалі: «Адпачыць пара»,—
А ён на пляж марскі не ехаў—
Плужок руплівага пяра
Араў глыбока, без агрэхаў.

Не страшны часу халады —
У краі музыкі і спевак
Яшчэ дасюль дае плады
Яго надзённых дум засевак.

Прабіўся праз гадоў пясок
Сцяблінкай тоненькаю, кволай
І я — шурпаты каласок
На ніве той, дзе сеяў Колас.





**кастусь кірэенка**

*

ПАЭЗІЯ

*

## Кавалачак сталі

Кавалачак сталі,
Пякучы кавалачак сталі
Суровай часінай
Застаўся ў маіх у грудзях.
Кавалачак сталі,
Грымучы кавалачак сталі,
Даўно і няспынна
Мне спаць не дае па начах.

У цемры трывожнай,
Дзе зоры тугу сваю значаць,
Чую грымоты,
Бачу пажараў кастры.
Таварышаў мужных,
Таварышаў верных я бачу,
Іх песню з сабою
Здалёку прыносяць вятры.

І ў гэтыя хвілі
Шчымяць і баляць мае грудзі,
І рану пякуча
Вярэдзіць балючая сталь.
— Таварышы! Хлопцы! —
Крычу, нібы ў вогненным гудзе.—
Прашу вас — не дайце,
Каб я ад паходу адстаў!
Таварышы, хлопцы,
Героі бясконцага штурму,
Няўжо так далёка —
Ужо за легендамі вы?

Прышліце ж, прышліце
Хоць голас мне велічных сурмаў,
Прыміце ж, прыміце
Хоць спеў мой у строй баявы.

Таварышы, хлопцы,
Прашу вас — з любой сваёй далі
Гукайце, гукайце,
Каб сэрцам салдат не зачах...
Кавалачак сталі,
Грымучы кавалачак сталі,
Даўно і няспынна
Мне спаць не дае па начах.

І ходзіць трывога,
Бяссонная ходзіць трывога,
У ціхім пакоі
Не можа спыніцца да дня.
І кліча дарога,
І кліча салдата дарога —
Туды,
Дзе няўзятая
Недзе грыміць вышыня.

■

О паэты! Вы апелі брадвейскія бліскаўкі,
Вы небаскробы праславілі і неон у падхмарным акне.
А неба над галавою, свінцовае, нізкае,
І хрыстапрадаўцаў, і згубцаў пакінулі мне.

Аж трымціш, як ударацъ хлуслівых архангелаў трубы,
Аж гарыш — толькі ўбачыш наўсцяж іх крывавы пікнік.
А начамі з'яўляюцца ў сны наркаманы бяззубыя,
І з кіркою кідаецца ў вочы магіл рабаўнік.

Болем сэрца плачу за хвілінку спакою празрыстага,
Павітаўшыся ў парку з вавёрачкай, з шэптам сасны.
Але зноў —
зноў, як з пекла! —
з бляшанаю ўсмешкаю Ніксана
Б'юць экраны халоднымі хвалямі згубнай маны.

О паэты! Радкі вашы ўспомню і сэрцам аж плачу,
Дакараць вас, паверце, паверце, мой лёс мне агорк.
Ну, няхай бы вы сябра каралі як-небудзь іначай,
А нашто мне пакінулі ў грозным вар'яцтве Нью-Йорк!

Гэты горад, тлумнейшы за ўсіх, што планету абселі,
Не забудзеш,—
плывеш, як у вір, як на хісткім чаўне.
І душа, нібы ў пастцы задушнага Холанд-тунеля,
Не аднойчы адчуе сябе без ратунку на дне.

— Чалавек! — закрычыш.
— Мал наш век! — гулка водгалас сцелецца.
— Дзе ты, дзе?
— У бядзе! У бядзе! — наплывае адказ.
І неба пазелянелае, здаецца, раздзеліцца,
З двух бакоў паплыве і раструшчыць ураз.

Галава — вось разваліцца. Хоць бы шыльда з надпісам «доктар».
А прахожы смяецца:
— Хэло, містэр, ну што ж ты, ну што ж...



Вунь у вітрыне ляжыць адмысловае долата,
Вазьмі, выверні мазгі і душу не трывож...

Эх, містэр, я гэта зрабіў бы, зрабіў бы, зрабіў бы,
Эх, містэр, на любое адважышся ў гэткім жыцці.
Толькі баюся — тады ў мяне вырастуць біўні
І пачну на тых біўнях небаскробы трасці.

Толькі баюся, што прымуць мяне за ваяльніка ўдалага,
Абяруць прэзідэнтам пад крыкі ад сейфаў «віват!»,
А я не хачу, не хачу — ні «фантомамі», ні напалмам
Ні ў В'етнаме, ні ў Амерыцы не хачу я людзей забіваць!..

Містэр лыпнуў вачыма — піжоністы Будда ці Лама,
Феерверкам абсыпаў,— з ухмылкаю ўскінуў руку.
Я гляджу звар'яцела — а гэта ж не містэр,
а гэта рэклама,—
Над сцяною неонавай б'е малаток па цвіку...

О паэты! Мне хопіць! Што захочаце вы — апявайце.
Хоць і з золата рогі. Хоць і з золата д'яблаў
прыплод.
Мне ж адно толькі трэба сягоння,
мне адно толькі сёння аддайце —
Шчасце ціха падыхаць паветрам і сонечны ўбачыць усход.

Пакідаю. Бягу. Небаскробы, неон, дыяменты, палацы,—
Вам усё пакідаю. З сабою ж у шлях бяру толькі тугу,
Каб ад вашай пагоні было мне хоць чым
адбівацца,
Хай туга са мной будзе,— самота па сонцу.
Бывайце! Бягу.

## Радасць

Слаўлю радасць сваю не апошнюю,
Што прыходзіць без гучнай парадднасці.
Бачу свет—
І крывіначкай кожнаю
Рады свету
Звычайнаю радасцю.

Рады тым, што рака сёння ўспухла —
Хутка крыгі да волі рвануцца.
Рад таму, што зямля яшчэ круглая —
Можна ў край свой здалёку вярнуцца.

Рады тым, што над роднаю хатаю
Сінь-дымок грэе зоры вячэрнія.
Рад таму, што ў далонях шурпатых —
Да сяўбы
зноў аблашчаны зерні.

Рады тым, што хмурыначку гушкае
Небасхіл для палёў не навалай.
Рад таму, што і сёлета птушка
Зноў мой клён для гнязда ўпадабала.

Рады тым, што ў пачуццях — бясконцую
Чую прагу надзеі сардэчнай.
І што ўсё, што мне люба,— ад сонца,
І што ўсё, што мне люба,— навечна.

Не шукаю іншкае радасці,
Хопіць той, што ў душы сабе здзейсніў:
Радасць жыць і тварыць без ашчаднасці
І нідзе не застацца без песні!

## У Ленінградзе

У Ленінград трапляеш, як у дом бацькоў,
Дзе ўсё да рэшты ведама з калыскі.
І сцены, што хаваюць гулкі гром вякоў,
І зоркі, што вянчаюць славы абеліскі.

Бягуць імкліва хвалі па Няве,
І салютуе вымпел ім «Аўроры».
А ў позірках людскіх заўжды жыве
Спагада, што калісь пазнаў ты ў горы...

Зарой маленства вее з сініх стром.
Юнацкім сонцам стрэне дзень спаткання.
У Ленінград
Прыходзіш, як у родны дом,
Куды даўно-даўно спяшаў пасля расстання.

Прыходзіш:
— Добры дзень, мой горад дарагі!
Перад табой схілюся, шапку скіну.
У безыменнай велічы тваіх магіл
Тут спіць мой бацька — што ў Кастрычніку загінуў.

Тут брат мой каля Пулкаўскіх вышынь
І сябра лепшы —
пад аховай манументаў.
І, мусіць, я журуся не адзін
Па іх суровай песні недапетай.

Але наўкол — жыццё, як звонкі цуд,
Пяе, заве на сонечнай дарозе.
І ведаеш: цябе, як сына, тут
З пяшчотай маці стрэне на парозе.

Хай не твая, не родная зусім,
Але навек — такая дарагая.
Што, як свайго, трывогай і святлом сваім
Ад грозных бур заўжды аберагае.

І з вераю такой адчуеш зноў і зноў,
Што ты — нашчадак вечных спраў народа.
І ўся Радзіма — з сонцам і вясной —
З табою ўсюды, і з табой заўсёды

Ідзе ў шляхі, якім зайздросціць свет,
З адвагай непахісных пакаленняў,
Каб выканаць вялікі запавет,
Які вось тут даў чалавецтву Ленін.

У Ленінград
Прыходзіш,
Як у дом бацькоў,
Дзе радасна і палка б'ецца сэрца...
Нідзе так не пачуеш гул вякоў,
Нідзе так не адчуеш гул бяссмерцця.



Да шчасця кліча
горда ўзнятая рука —
Ідзі і ганарыся сваім родным сцягам!
І ў словах ветэрана і нашчадка-юнака
Гучыць Радзіме шчырая прысяга!

■

Ах, песні... Вы — мая уцеха.
І боль мой. І мая туга.
І ласка, і ўспамінаў рэха,
І прага жыць, пакуль мага.

Вы — лёс мой, ціхі, шчыры, просты.
Вы — мой узлёт і, мабыць, скон.
Даўно, даўно, пад спеў бяросты,
Я ў сэрца ўзяў ваш вешчы звон.

Як лепшы скарб бярог заўсёды
Жывую родную струну.
І — хай хоць буры, хай нягоды —
З дарогі ґернай не звярну.

Ці сум, ці радасць граюць трубы —
Са мной заўжды ваш вечны знак!
Іду і бачу край свой любы —
Навек адзіны мой маяк!



# ПРОЗА



*сцяпан александровіч*

# АД ГОМАНУ БАРОЎ

## АПОВЕСЦЬ ПРА ЯКУБА КОЛАСА

Мал. **Я. Куліка**

## ТРЫВОЖНАЕ ЛЕТА

Калі б хто з дамашніх запытаўся ў Кастуся, чаму яму гэтае лета не сядзіцца ў Альбуці, ён нічога пэўнага не мог бы сказаць. Вядома, ні маці, ні бацька, ні дзядзька Антось пра гэта не пыталіся. Можа, таму што ён, Кастусь, быў тут, у глухой леснічоўцы, ужо толькі госць, ці мо проста яны дагадваліся, чаму трывога і неспакой апанавалі яго душу.

Бацькі не загружалі будучага настаўніка працай, але Кастусь сам браў касу і ішоў, не адстаючы, пракос у пракос, з дзядзькам Антосем і Уладзікам.

Сам былы семінарыст адчуваў, што нешта дзіўнае робіцца з ім: прапала звычайная весялосць і бадзёрасць, не чыталася і не пісалася. Калі не было каля хаты ці ў полі пільнай работы, Кастусь браў кош у рукі і на ўвесь дзень сыходзіў з дому.

Лета выдалася сухаватае, ночы былі халодныя, таму грыбы пракідаліся рэдка. Бывалі дні, што Кастусь вяртаўся дахаты з пустым кошыкам, а ён жа ведаў у наваколлі ўсе грыбныя мясціны! Нарэшце, высыпалі лісічкі, сям-там пачалі трапляцца баравічкі. Гэта цяпер у нейкай меры апраўдвала перад старэйшымі сямейнікамі яго лясныя вылазкі. Хоць дома добра разумелі, што Кастуся цягнуць у лес не грыбы. Проста хлопцу трэба пабыць аднаму, яму хочацца сабрацца з думкамі.

Потым Кастусь зачасціў у Мікалаеўшчыну. Ён і раней хадзіў у сяло, звычайна пасля полудня ў суботу, і вяртаўся дахаты назаўтра позна ўвечары ці ў панядзелак ранічкаю. А цяпер ішоў ледзь не кожны дзень.

У сяле сабралася чалавек дваццаць настаўнікаў. Была ў іх свая штаб-кватэра — хата, дзе жылі бацькі колішняга дырэктара Яські Базылёвага. Іван Васільевіч Міцкевіч ужо некалькі гадоў настаўнічаў у Беларучах, за Мінскам, і кожны год прыязджаў у родную Мікалаеўшчыну. Как было менш тлуму ў хаце, калі да яго прыходзілі сябры, ён займаў на ўсё лета камору. Там была прахалода, цішыня і паўзмрок. У буднія дні пад вечар, а ў нядзелю і днём у каморку да Птушачкі (так празвалі сябры Яську за маленькі рост і меладычны голас) збіраліся настаўнікі-мікалаеўцы Антон Мароз, Цімафей Камароўскі, Ігнат Міцкевіч, Міхал Дземідовіч, наведваўся Аляксандр Фурсевіч з Галавенчыц. Прыходзілі і семінарысты Алесь Сянкевіч і Сымон Самахвал, якія сёлета выкіроўваліся ў настаўнікі і чакалі прызначэння на пасаду. Частым і жаданым госцем бываў тут і Кастусь.

— А, Стары, здароў!

— Не кісні, браток! Нос угору,— радасна віталі Кастуся настаўнікі.

У Яськавай каморцы, як заўсёды, ішла задушэўная размова. Абмяркоўвалася ўсё, пачынаючы ад мясцовых навін і канчаючы падзеямі ў краіне. У кожнага быў свой погляд, свая думка. Настаўнікі ўмелі і любілі спрачацца, даказваць і настойваць на сваім.

— Міністр унутраных спраў Плеве — моцная рука,— пачынаў Цімафей Камароўскі.— Ён навядзе парадак.

— Вось каб ты сказаў, што галава разумная,— адказваў Антон Мароз.— У гэтых чынадралаў, якога б рангу яны ні былі, усё зводзіцца толькі да таго, каб душыць і цугляць народ...

— Дзяржаўныя інтарэсы гэтага патрабуюць,— даводзіў Камароўскі.

— А ці патрабуюць дзяржаўныя інтарэсы, каб селянін атрымаў зямлю і асвету? — умешваўся ў спрэчку Кастусь.— Забываюць усе гэтыя міністры, што пачаўся дваццаты век, што народ рана ці позна скажа сваё слова. Так вечна быць не можа, народ абуджаецца, і мы, настаўнікі, павінны яму ў гэтым дапамагчы.

—Эйш ты! — ківаў галавою Цімафей.— Паглядзімо, братко, як ты будзеш абуджаць. Усе спачатку трапечуцца і гавораць высокія словы, а потым сядзяць цішком, як мыш пад венікам. Ці гуляюць у карты і спяваюць у царкоўным хоры.

— Не, я не ўседжу! І ў карты не буду гуляць,— не здаваўся Кастусь.

— Дай божа!

Каб пагасіць спрэчку, якая магла зайсці далёка, гаспадар каморкі зачынаў песню:

Гэй, ды ляцелі шэрыя гускі,
Ды лецячы гаманілі.
Гэй, ды лецячы гаманілі:
«Дзе ж мы будзем начаваці?
Што ж мы будзем вячэраці?»

Песня была з падтэкстам, усе яго разумелі. Таму пускалі па кругу шапку, браліся за качаргу, і той, хто быў апошнім, ішоў у Моўшаву карчму па сітніцу і тараны. Яська прыносіў гладыш кіслага малака і міску маласольных агуркоў. Ад семінарскага часу была завядзёнка — ніякага пітва не ўжываць. Адступалі ад гэтага ўгавору толькі двойчы за ўсё лета: пры першай сустрэчы і на развітанні.

Аднойчы прыйшоў Кастусь у Яськаву каморку. Сядзіць там Алесь Сянкевіч, падае Кастусю руку і пытаецца:

— Ты ведаеш, хто я?
— Бас, Садавы,— пачаў пералічваць Кастусь Алесевы мянушкі.
— Не, не ведаеш! Я — настаўнік Старадарожскага народнага вучылішча. Вось хто!
Сянкевіч дастаў у пацвярджэнне сказанага з кішэні сіненькі канверт, у якім ляжала паведамленне мінскай дырэкцыі народных вучылішчаў за подпісам інспектара калежскага саветніка Лаўрова, што Аляксандр Антонавіч Сянкевіч лічыцца на службе з 1 верасня 1902 года настаўнікам Старадарожскага народнага вучылішча.
— Задаволены прызначэннем? — запытаўся Кастусь.
— Сам яшчэ не ведаю,— адказаў Алесь.— Далекавата крыху тыя Старыя Дарогі ад дому.
Назаўтра Кастусь з Алесем заглянулі ў Негертава. Сымона Самахвала дома не было, ён недзе гасцяваў у мацерынай радні пад Мірам. Бацька сказаў, што Сымон ніякага пісьма з Мінска яшчэ не атрымліваў, хіба як ішоў у госці, то мо заходзіў у воласць і там яму ўручылі...
Хлопцы рушылі ў Новы Свержань. Магчыма, у воласці Кастуся чакае пісьмо, якое вызначыць яго далейшы лёс на некалькі гадоў, а мо і на ўсё жыццё. Але ў воласці пісьма не было. Пісар паабяцаў пераслаць яго адразу ж у Мікалаеўшчыну.
Прайшло дзён тры ці чатыры. Кастусь не раз парываўся схадзіць у сяло, але не пускаў дождж — дробненькі і цёплы грыбасей. Ішоў ён некалькі дзён, перастаючы толькі на якую гадзіну-паўтары. Пад яго аднастайнае шамаценне па саламянай страсе (Кастусь усё лета спаў у гумне) хлопец уставаў і клаўся спаць.
— Цяпер, брат, грыбы рвануць, яны даўно былі на падыходзе,— гаварыў дзядзька Антось.
Кастусю некалькі разоў снілася, што ён атрымаў сіні канверт. Толькі пачне яго разрываць — і ад хвалявання прачынаецца. Сёння ён надумаў абавязкова пайсці ў Мікалаеўшчыну, няхай толькі крыху сцішыцца дождж. Кастусь прысеў перакусіць на дарогу, як раптам у хату ўбег малы Юзік:
— Сымон ідзе!
Значыцца, нейкія навіны нясе, калі дажджу не пабаяўся! Кастусь выйшаў на ганак. На галаве ў Самахвала мяшок, порткі падкасаны да каленяў, ногі босыя: смела джгаў цераз лужыны і гразь. Убачыўшы Кастуся, Сымон дастаў з кішэні нейкую паперку. Пісьмо! Няйначай, прызначэнне. Кастусь як быў з лыжкай у руках, кінуўся насустрач сябру, з хваляваннем схапіў канверт.
Не! Не яму. Гэта было прызначэнне Сымона Самахвала настаўнікам Аталезскага народнага вучылішча. Сымон прыйшоў падзяліцца сваёй радасцю: школа паблізу, можна нават схадзіць у агледзіны.
— Не падай духам, Стары! — суцяшаў Сымон Кастуся.— Скора і ты будзеш ведаць, дзе прыйдзецца зімаваць. Збірай манаткі!

## ПА ДАРОЗЕ Ў СМАЛЬГАВОК

Але словы Сымона не спраўдзіліся. Пісьма з Мінска не было і не было. Прайшоў тыдзень, настаў другі, як Самахвал наведваўся ў Альбуць, а Кастусь усё яшчэ чакаў прызначэння. Хадзіў ён у воласць кожны дзень, потым цераз дзень, пакуль не абрыдла...



Настаўнікі спачатку пацвельваліся і жартавалі, што дырэкцыя народных вучылішчаў ніяк не падбярэ Кастусю такую вёску, дзе ён не змог бы крамолу разводзіць, дзе ёсць прыгожыя панадзянкі, манаполька і блізка чыгунка, каб было зручна ездзіць да сяброў у госці. Неўзабаве жарты змяніліся асцярожнымі меркаваннямі, што, магчыма, нехта забыўся выслаць паведамленне аб прызначэнні ці проста здарылася якая памылка з адрасам. Адначасова ўсе суцяшалі: да першага верасня яшчэ далёка, ды сапраўдная вучоба пачнецца толькі з кастрычніка і нават пазней: школы працавалі звычайна ад першага снегу да першай ластаўкі. Інакш кажучы, набярыся цярпення і чакай, чакай... Усе збіраюцца ў дарогу, збірайся і ты. Крыўдна адно толькі, што ўсе ведаюць, куды паедуць, а ты — не...
Каб неяк развеяцца і хутчэй прайшоў час, Кастусь на некалькі дзён пусціўся ў іншую дарогу — разам з бацькам і дзядзькам Антосем паехаў аглядаць зямлю пад Слуцк.
У Смальгавок збіраліся даўно, але ўсё неяк не выпадала мужчынам адхіліцца ад дому: толькі адсеяліся, як падышла касьба, а там жніво...
Спачатку толькі Міхал жыў думкаю пра той райскі куточак Случчыны. Ён першы распачынаў звычайна гаворку пра зямлю, калі ўсе сямейнікі збіраліся за сталом палуднаваць, уголас разважаў і планаваў, што там выгадней сеяць — жыта ці пшаніцу, які садзіць сад, больш яблынь ці груш. Памалу ў гэтыя развагі і мары пра зямлю ўцягнуўся і дзядзька Антось. У буднія дні мужчыны бачыліся рэдка: Міхал увесь час у абыходзе, дзядзька Антось у полі. Затое у нядзельку браты маглі нагаварыцца ўволю. У сваіх размовах яны заходзілі часам так далёка, што нават абмяркоўвалі, у які вугал ставіць на новым месцы хату — у нямецкі ці ў звычайны. Аднойчы маці не ўцярпела і накінулася на мужчын:
— Лепш паехалі б ды паглядзелі тую зямлю, чым па-пустому толькі малоць, не раўнуючы, як Петрусёва Альбіна каля калодзежа.
— Паедзем! — адказаў Міхал.— Дай толькі ўхадзіцца са жнівом.
Міхалаў цесць — Юрка Лёсік згадзіўся не толькі пазычыць свае драбінкі на жалезным ходу, але падахвоціўся нават сам разам паехаць паглядзець тую хвалёную зямліцу. Як толькі ўкінулі апошні сноп з поля ў гумно, дзядзька Антось падаўся ў Мікалаеўшчыну да Юркі дамовіцца, калі ехаць у Смальгавок. Міхал з Антосем збіраліся ў сераду, каб у чацвер трапіць на кірмаш у Капыль. У іх быў свой інтэрас: хацелі прыцаніцца да добрага маладога каня. Сівак быў цягавіты і не такі стары, але дробненькі конік. На новым месцы, дзе, кажуць, цяжкая зямля, ён мо і плуга не пацягне. Там жа і будавацца прыйдзецца, дзерава вазіць на хату, хлеў і гумно. Увогуле, як ні вазьмі, з якога боку ні падступіся,— выходзіла, што трэба мець, калі не важнецкага, то многа лепшага каня, чым Сівак.
Дзядзька Антось у той жа дзень прыехаў з вёскі ў хвацкіх драбінках, але без Юркі. Прывёз толькі Кастуся, які хадзіў праводзіць Яську Базылёвага. Той паехаў зноў настаўнічаць у свае Бяларучы. Старому Лёсіку выпала нейкая пільная справа, і ён не мог ехаць разам ні ў гэтую, ні ў другую сераду. Браты так нарэхціліся, што не сталі чакаць Лёсіка: хутка сеяць збажыну, а там дажджы пачнуцца. Трэба — не інакш — ехаць цяпер!
Да вечара агледзелі драбінкі, змазалі колы, узялі торбу аўса, укінулі ў палукашак мурожнага сена і канюшыны. Ехаць будзе ямчэй, і для каня папаска: дарога немалая, лічы, вёрст пад сотню ў адзін канец набярэцца.

— Кастусь, можа, і ты маеш ахвоту праехацца з намі? — запытаўся бацька.

— Магу,— падумаўшы, адказаў ён.— Можа, якраз за гэтыя дні і прызначэнне прыйдзе... Цікава і на Случчыну глянуць. Я ж далей Нясвіжа нідзе і не быў.

Выехалі ў сераду пасля сняданку. Маці напякла грэцкіх бліноў, паклала ў торбу бохан хлеба, кусок сала і вэнджанай шынкі — дарога вялікая і справа не абы-якая! Мужчыны апрануліся ў крамнае, дзядзька Антось, які звычайна хадзіў у лапцях, абуў боты — як-ніяк ехалі яны ў людзі.

Бацька з дзядзькам Антосем уселіся ззаду, Кастусь, узяўшы лейцы, спераду — і рушылі з двара.

— У добры час! З богам! — прамовіў дзядзька Антось.

Раптам маці закрычала:

— Чакайце, чакайце! Ледзь не забылася.

Кастусь прытрымаў каня. Маці хуценька збегала на ганак, схапіла вядро, зачарпнула вады ў крынічцы і, як заведзена ў добрых людзей, з «поўным» перайшла дарогу. Няхай жа будзе спор і шчасце!

Па дарозе Кастусь зноў убачыў чырвоную мураванку семінарыі. Ехалі праз Нясвіж: бацька і дзядзька Антось хацелі заглянуць у замак і перадаць знаёмым падпанкам сякі-такі гасцінец — мяшочак арэхаў, вязку сушаных грыбоў, свежай рыбы. Кінеш за сабою—знойдзеш перад сабою! Былы семінарыст у думках паслаў развітальны паклон той будыніне, якая была яму чатыры гады роднай хатай, дзе жыла дружная і вясёлая сям'я вясковых хлопцаў. Настаўнікі, як хацелі, муштравалі і здзекаваліся з семінарыстаў, папаціснулі з іх алею, калі з сырой мужыцкай гліны ляпілі апору цара, «ацечаства» і царквы. Не кожны хлапец даваўся, каб з яго зрабілі казённага і сухога чыноўніка. Вядома, часам прыходзілася нялёгка, калі нашпігоўвалі абрыдлівай і мудрагелістай непатрэбшчынай, але — што ні кажы — і шмат добрага і разумнага трапіла ў тваю галаву.

Кастусь успомніў Лычкоўскага і ўсміхнуўся: крыху дзівак ён, але ўсё ж някепскі чалавек і настаўнік. А дзе цяпер Фядот Андрэевіч Кудрынскі? Выжылі яго дырэктар Меліяранскі і поп Бонч-Багдаоўскі. А можа, і сам ён кінуў-рынуў службу ў семінарыі? Кажуць, працуе ў Віленскім музеі, піша і выдае кнігі.

Начавалі ў Кукавіцкай карчме, якая амаль на паўдарозе з Нясвіжа ў Капыль. Назаўтра рана рушылі далей. Дарогі пытацца ў Капыль ужо не трэба: трымаліся падвод, якія цягнуліся бясконцаю чарадою на кірмаш. Былі тут звычайныя сялянскія вазы, траплялiся фарбаваныя брычкі засцянковай шляхты, цягнулася некалькі падвод з высокімі цыганскімі будамі, а за Пацейкамі іх абагнала нават старасвецкая панская карэта, запрэжаная тройкай пярэстых, як на падбор, коней. Бліжэй да Капыля стала больш пешых цётак і дзядзькоў. У кашах яйкі і маладыя пеўнікі, хто валок на продаж венікі і плеценыя карзіны.

Яшчэ здалёку паказаліся дзве белыя спічастыя касцельныя вежы, пасля між зеляніны дрэў бліснуў купал царквы, а потым выглянулі і местачковыя хаты. Дзядзька Антось ведаў тутэйшыя мясціны: ён некалькі разоў прыязджаў у Цімкавічы (мястэчка калісьці належала Радзівілам, і цяпер Нясвіжская ардынацыя мела тут свой бровар), траплялася бываць яму ў Капылі і аднойчы нават у Слуцку. Куды толькі ні пашлюць цябе, калі твой брат служыць леснікам, а ўся сям'я вымушана дагаджаць той скулячцы, якая называецца панам ляснічым!



Дзядзька хваліў капыльскую зямлю і яшчэ больш капыльскі кірмаш, дзе прадаюць коней і кароў з усяе ваколіцы. На тым кірмашы ён некалі купіў аўчыны і выцяжкі вырабу капыльскіх татар-гарбароў.

— Не аўчыны, а цуд! — гаварыў Антось.— Мяккія, хоць у вуха кладзі. А выцяжкі во! — выставіў ён бот, густа змазаны дзёгцем,— — зносу ім няма і вады не баяцца. Не ўступяць гамбургскім, што нашы плытнікі з Прусаў прывозяць...

Гаворачы пра аўчыны і хром тутэйшага вырабу, не заўважылі, як уехалі ў мястэчка. Паабапал шырокай вуліцы стаялі звычайныя вясковыя хаткі, невялічкія, крытыя саломай. Як толькі пераехалі масцік, дзядзька Антось забраў у Кастуся лейцы:

— Тут недзе стромая гара была...

Рыначны пляц знаходзіўся на пагорку, у самым цэнтры мястэчка. Адным краем ён упіраўся ў царкву і цвінтарную агароджу, другім— у касцельныя сцены, а далей плошчу абступалі крамы і крамкі, за якімі бялелі муры сінагог.

Мужчыны кірмашавацъ доўга не збіраліся, таму каня не распрагалі, а звярнулі ўбок і сталі ля сцяны чырвонай мураванкі з надпісам «Клейнборть. Промышленные товары». Міхал з Антосем пайшлі паглядзець і прыцаніцца да коней, а Кастусь застаўся пры возе, адпусціў пасак і кінуў Сіваку канюшыны.

З розных канцоў цягнуліся фурманкі, людзі ўсё прыбывалі і прыбывалі, хто на возе, хто пешкі, хто верхам на кані. На вазах везлі парасят, авечак, індыкоў, гусей, за падводамі ішлі каровы, цялушкі, пярэзімкі. Кастусь тупаў ля воза і пазіраў на кірмашовы вэрхал. Увагу яго прыцягнула кучка капылян. Спачатку яны размаўлялі па-беларуску, а потым перайшлі на нейкую дзіўную гаворку, дзе нібыта і былі беларускія словы, але яшчэ больш нейкіх незразумелых: ловат, рыкуха, вакля, крэса, супік...[1] Адзін з іх, пажылы ўжо чалавек з сур'ёзным выглядам, сыпаў, як з мяха, такімі слоўцамі і некуды цягнуў сваіх сяброў. Калі вярнуўся дзядзька Антось, гаваркія капыляне зусім блізенька стаялі ля воза, на якім сядзеў Кастусь.

— Чуеце, дзядзька? — запытаўся Кастусь.— Па-якому гэта яны шпараць?

— Па-кравецку! — усміхнуўся дзядзька.— У капыльскіх краўцоў, якія ходзяць па ўсёй ваколіцы зімою шыць кажухі, ёсць такая свая гаворка. Старэйшыя капыляне ўсе яе ведаюць. Вось цяпер дамаўляюцца цану збіваць на карову і, калі ўдасца, то зробяць барыш разам...

Неўзабаве прыйшоў бацька:

— Ну і коні! Агонь, а не коні! Асабліва тая жарабіца!

— Але і цана на яе дай божа,— сказаў дзядзька Антось.— А капыляне, як тыя цыганы, так і тупаюць каля добрага каня, нікога не падпускаюць прыцаніцца.

Распыталі дарогу на Слуцк і адразу рушылі. Дарога з таржышча каля канцылярыі станавога прыстава крута спускалася ўніз. Спакойны Сівак спуджана застрыг вушамі і спыніўся. З'ехалі з гары толькі тады, калі засунулі ў задняе кола тоўсты кол, а Кастусь узяў Сівака за аброць.

Адразу за Капылем краявід перамяніўся. Пачалася Случчына: лес адступіў і сінеў толькі далёка на небасхіле, вакол прасціралася, як кінуць вокам, раўніна, на якой віднеліся вёскі і вёсачкі з ветракамі...

---

[1] Конь, карова, добра, сала, хлеб.

Падарожнікі вярнуліся дамоў у панядзелак. Ехалі назад прамейшай дарогай, з Капыля звярнулі на Рымашы, Пагарэлае. Сямейнікі садзіліся за стол палуднаваць, калі Кастусь спыніў каня на панадворку. Маці выйшла на ганак:

— Ну, як з'ездзілася?

— Добра,— адказаў Міхал.— Трэба везці задатак. Зямля — не раўня нашай...

— Дзякуй богу,— прамовіла маці,— але мне, прызнацца, ехаць у чужыя людзі не хочацца. Ой, як не хочацца!

— Мама, а мне нічога няма? — запытаў Кастусь.

— Не, няма...

Да той весткі Кастусь сябе за дарогу падрыхтаваў. Ён нават надумаўся пачакаць яшчэ з які тыдзень і, калі не будзе пісьма з дырэкцыі, пасляць туды запытанне.

## ДОЎГАЧАКАНАЕ ПРЫЗНАЧЭННЕ

Папалуднаваўшы, Кастусь выпусціў Сівака з хлява, напаіў яго і, вывеўшы за крынічку, спутаў у кустах. Няхай сабе пасецца пасля дарогі. А сам як быў з аброццю ў руках, пайшоў прылегчы ў будане, які зрабілі ўлетку дзеці.

Толькі Кастусь адхіліў дзяружку, якой завешваўся ўваход, як на хвіліну сумеўся, а потым злосць працяла ўсю яго істоту: у будане вісеў партрэт Крылова, вырваны з яго любімай кнігі. З тае кнігі, якую Кастусь так шанаваў і якую паклаў у куфэрак, каб узяць з сабою туды, дзе прыйдзецца яму працаваць. Гэта, відаць, пакуль ён ездзіў у Смальгавок, малы Юзік пагаспадарыў у яго куфэрку.

— Юзік! Юзік, ідзі сюды! — паззаў Кастусь.

Хлапец аціраўся на падворку і адразу кінуўся подбегам на кліч брата. Юзік быў ужо ля будана і толькі тады здагадаўся, што Кастусь кліча яго на расправу. Хацеў хлапчына крута рвануць назад. Але было позна: яго правае вуха апынулася ў Косцікавых пальцах.

— Твая работа? — пацягнуў брат малога ў будан і тыцнуў носам у партрэт: — Прызнавайся, хто вырваў з кнігі? Хто?

— Не, не я! — хныкаў Юзік.— Гэта Міхаліна вырвала. Гэта яна павесіла...

— Ідзі пазаві мне Міхаліну,— пусціў Кастусь братава вуха.

Але той, пачуўшы волю, залемантаваў на ўсё горла:

— Міхаліна, уцякай! Уцякай, кажу!

Дзеці, як спуджаныя вераб'і, шуснулі хто куды. Пачуўшы крык, выйшла з хаты маці:

— Што вы тут лементуеце? На ўвесь лес нарабілі галасу. У Акінчыцах чуваць, пэўна.

— Мамачка, гэта Рысь аброццю б'ецца,— выскачыў Юзік з агарода і прытуліўся да маці.

— Які Рысь? — дапытвалася маці.— За што б'ецца? Дзе ён?

— Наш Кастусь,— хныкаючы, тлумачыў малы.— Нейкую кнігу яго парвалі.

Кастусь сапраўды гнаў перад сабой Міхаліну і крычаў:

— Кажы, хто парваў кнігу? Хто!

— Я толькі з куфэрка дастала,— гаварыла сястра.— А Юзік вырваў партрэт.



— Мы разам рвалі! — апраўдваўся малы і схаваўся за спіну маці.— Гэта Міхаліна мяне падвучыла.

— Дык разам рвалі,— дапытваўся Кастусь,— ці ты адзін рваў, а цябе толькі падвучылі? Гэта ж трэба такую кнігу папсаваць!

Невядома, чым бы скончыўся гэты вэрхал, але на мосціку затарахцела падвода.

— Ціха, сараматнікі! Нехта чужы вунь едзе,— прамовіла маці.

Кастусь па гнядым кані адразу пазнаў, што ехаў сам Антон Сянкевіч — бацька Алеся. Сярэдняга росту, апрануты ў крамнае, Сянкевіч лёгка саскочыў з воза, падаў руку маці і Кастусю. Папытаўшы, як здароўе пані гаспадыні, дзе Міхал і дзядзька Антось, госць памоўніцку падміргнуў Кастусю:

— Ну, браце, з цябе магарыч!

«Няўжо, нарэшце, прыйшло доўгачаканае прызначэнне?—мільганула радасная думка.— Куды ж там хаця? Далёка ці блізка? У добрую мясціну ці туды, дзе і Макар з цялятамі не быў? Куды ўжо там ёсць, але зараз ён будзе ведаць...»

— Пісьмо? — з трывогай і радасцю запытаў Кастусь.

Нічога не кажучы, Сянкевіч падышоў да свайго воза, дастаў з-пад сядзення зашмальцаваную скураную сумку, расшпіліў яе, пакапаўся ў паперах і працягнуў сіні канверт. Кастусю, які даўно знябыўся ў чаканні, на нейкую хвілю здалося, што гэта толькі сон. Зараз ён возьме ў рукі канверт, пачне яго разрываць — і прачнецца.

Мінская дырэкцыя народных вучылішчаў паведамляла, што Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч прызначаецца з 1 верасня 1902 года настаўнікам у Люсінскае народнае вучылішча Хатыніцкай воласці Пінскага павета. Унізе была прыпіска аб тым, што на службу трэба з'явіцца не пазней 20 кастрычніка.

— Ну, сынку, куды? — не ўцярпела, запытала маці.

— У Люсіна Пінскага павета.

— А дзе гэта? — дапытвалася маці.— Далёка ад нас?

— Не так далёка, але не так і блізка,— сказаў Сянкевіч.— А вёрст сто пяцьдзесят добрых будзе...

— Каб жа я ведаў, што пападу ў Люсіна, то хаця б распытаў у Алеся Фурсевіча пра ўсё. Ён там два гады настаўнічаў, а цяпер яго перавялі ў Любашава. Я, значыцца, на яго месца еду. Ніколі не думаў і не гадаў, што туды пашлюць.

У той дзень пасля вячэры ў леснічоўцы доўга абмяркоўвалі Кастусёва прызначэнне ў Люсіна. Маці наракала, што сына пасылаюць далёка ад дому, у чужыя людзі: на святы не прыедзе і свежаніны не паспытае. А колькі тых грошай атрымае? Трэба ж нейкую вопратку на зімку купіць, боты справіць. Міхал і дзядзька Антось, якія не адзін раз ездзілі з панам ляснічым і яго гасцямі на паляванне за Ганцавічы, у Дзяніскавічы, хвалілі палешукоў за іх працавітасць, гасціннасць і прыхільныя адносіны да незнаёмага чалавека. Кастусь там не прападзе і ў крыўдзе не будзе. А што настаўніку мала грошай плацяць, дык нічога не зробіш. Усё ж такі гэта, калі не зусім панская служба, то не тое, што быць нейкім леснікам.

Кастусь пайшоў, як заўсёды, спаць у гумно. Толькі ён павысцеплваў посцілкі, як зарыпелі дзверы.

— Хто там?

— Гэта я, сынку,— пачуўся матчын голас.— Хачу пагаварыць з табою. Ты там, Косцічак, не крыўдзі дзяцей. Калі і ўзяў за вуха Юзіка, то нічога, гэта свой, ён не будзе доўга насіць злосці ў сэрцы. А чужое дзіцятка нельга крыўдзіць, бо яно да цябе горнецца ўсёй

душою, а калі што не так зробіць, то, вядома, без злога намеру. Будзь з імі ласкавы і добры. Трэба, каб яны цябе любілі і паважалі, а не баяліся... Чуеш, сынку?

— Чую, мама!

— Помні, што ласкаю ты ўвойдзеш ў любое сэрца, а злосцю напалохаеш дзіця, коса на цябе будуць пазіраць і іх бацькі... А табе жыць сярод іх. Лепш чалавеку сто разоў зрабіць добрае, чым адзін раз злое. Няхай, сынку, пра цябе людзі там гавораць добрым словам. Не гарачыся, не злуйся...

Кастусю падалося, што маці заплакала, бо голас яе захліпнуўся, і ў яго самога набеглі слёзы. Бедная мама: ёй да ўсяго клопат, усё яе абыходзіць!

Доўга не спалася ў тую ноч маладому настаўніку, ніяк не выходзіла з галавы размова з маці, яе наказ. Думаў пра сваё прызначэнне, пра тое, як сустрэнуць яго незнаёмыя людзі, як ён будзе жыць з імі...

Ад'язджаў Кастусь на станцыю ў Стоўбцы 16 кастрычніка адразу пасля снедання. Бацька з Уладзікам не чакалі, пакуль збярэцца Кастусь у дарогу, а перахапілі трохі блінцоў і падаліся ў абход. Служба — не дружба.

Дзядзька Антось запрог Сівака, Кастусь вынес з хаты свой куфэрак, высыпалі на падворак дзеці. Можна было рушыць, але маці, як заўсёды, нешта ўспомніла. Нарэшце яна паказалася з самаварам і торбачкаю ў руках. Былі там сушаны чабор, мацярдушка, мята, ліпавы цвет, яшчэ нейкія зёлкі. Кастусь замахаў рукамі: на што той самавар?!

— Хоць гарбаты вып'еш,— пусціла слязу маці.— Хто табе там вельмі што зварыць...

Каб не крыўдзіць маці, прыйшлося ўзяць самавар, а ў прыдачу да яго кусок сушанай вяндліны і гарнушак мёду.

— Ну, з богам! — перахрысціла сына маці.

## ПРАФЕСАР ВЯЛІКІХ ЛІТАР

У дарозе прыйшла неяк сама сабою думка заехаць у Любашава, да Алеся Фурсевіча. Цікава з ім пагаварыць, параіцца наконт школьнай працы. Ён ужо чацвёрты год настаўнічае, мае вопыт, ведае, як трэба паводзіць сябе з вучнямі і іх бацькамі, а таксама з валасным начальствам. Аднак самае галоўнае іншае: сябар два гады адслужыў там, у тым невядомым Люсіне, і можа пазнаёміць яго з тутэйшым жыццём-быццём, школаю і людзьмі, з якімі Кастусю прыйдзецца мець справу.

Пасажырскі цягнік памалу праставаў на поўдзень. За акном плылі між пагоркаў хаты з пачарнелымі саламянымі стрэхамі, сярод іх часам блісне белая мураванка ці бляшаны купал драўлянай цэркаўкі або пакажуцца крылы працавітага ветрака. Справа і злева бязлесныя прасторы, толькі далёка сінеюць бары ды зрэдку прабяжыць купка пажоўклых бярозак. Пуста і сумна ў полі. Вунь пляцецца адзінокая фурманка, а яшчэ далей на ржышчы чарнее статак кароў і авечак. Пастушка нідзе не відаць, мабыць, бядак прытаіўся ля мяжы і сапе носам у дзіравы каўнер.

Кастусь адышоў ад акна, прысеў на лаўку. А што, як ён не застане Фурсевіча дома ці школа яго далёка ад станцыі? З куфэркам і гэтым вось самаварам (на якое ліха ён толькі згадзіўся ўзяць яго з сабой?!) не пацягнешся шукаць сябра і яго школу. А нашто рэчы цягнуць з сабой? Хіба нельга пакінуць іх на станцыі? Тады ўлегцы можна сігануць далёка.

Пасля Баранавічаў хмары зацягнулі неба, сыпануў спорны дожджык. Але хутка хмару перагнала, і нават на якую гадзіну выглянула халоднае асенняе сонца. Кастусь зноў утаропіўся ў акно. За Ляхавічамі пацягнулася, як кінуць вокам, раўніна. Спачатку відаць былі доўгія палоскі, потым іх засланілі лясы і лясочкі. Затым пералескі і кусты перайшлі ў бясконцыя і аднастайныя балоты. Здавалася, не будзе ім ні канца, ні краю. Неўзабаве цягнік выкіраваўся на пясчаны грудок, дзе стаяў станцыйны будынак і прытуліліся сялянскія хаткі.

Гэта і быў раз'езд Любашава. Кастусь з куфэркам і самаварам саскочыў з падножкі. Пакінуўшы рэчы на станцыі і распытаўшы дарогу ў школу, настаўнік борздзенька рушыў да свайго сябра. Падганяў вечар і дробненькі халодны дождж. Добра, што ісці было не так далёка: з якую вярсту па шпалах, а там звярнуць на стары гасцінец з прысадамі, пакуль не пакажацца пры дарозе сялянская хата на дзве палавіны. У адной жыве ляснік, другую — здае пад школу. Там квартаруе і настаўнік.

— Во каго не чакаў у госці! — кінуўся Фурсевіч абдымаць сябра.— Якім ветрам і куды?

— Да цябе ў падсуседзі, ці проста сказаць — на тваё месца.

— Няўжо ў Люсіна?

— Паглядзі, калі не верыш,— падаў Кастусь сваё прызначэнне.

— Што я магу сказаць? Не зайздрошчу табе! Але і нічога страшнага. Два гады я там адбухаў. Вядома, глуш, але і там людзі жывуць, і, скажу па сакрэту, дзяўчаты там ёсць і прыгожыя і разумныя. Сам пабачыш, і, можа, каторая запалоніць тваё сэрца... Глуш то глуш, а вось збіралася ў школу дзяцей больш, чым тут. Школа там ужо даўно, а тут нядаўна, нават свайго будынка, як бачыш, яшчэ няма... Ну, а пра школьныя справы досыць, цяпер ты ў мяне госць. Нечаканы і дарагі госць.

Пакуль Алесь апавядаў сябру пра першыя ўражанні ад працы на новым месцы і ўспамінаў люсінскіх знаёмых, на стале з'явілася міска гарачай бульбы, талерка баравікоў, гладыш кіслага малака і яшчэ сёе-тое. Асеннія вечары доўгія, але сяброўская бяседа ў хлопцаў зацягнулася далёка за поўнач...

Назаўтра зранку, як і было дамоўлена, Кастусь пайшоў на ўрокі да Фурсевіча. Сеў на апошняй парце і пільным вокам зорыў за Алесем. Той вёў урокі ў добра наладжаным тэмпе: адны вучні пісалі, другія — рашалі задачкі, трэція — чыталі. Сам Фурсевіч засяродзіў усю ўвагу на першакласніках. Іх настаўнік яшчэ не столькі вучыў, як толькі прывучаў да школы і кнігі. Кожнага навічка Алесь ведаў па імені, размаўляў з імі ласкава. Калі што ў малога не выходзіла ці адказваў ён няправільна, Фурсевіч не павышаў голасу, а падыходзіў да хлапчука, клаў яму руку на плячо і падбадзёрваў:

— А ты падумай, не спяшайся, не бойся...

У час размовы з адным вучнем Алесь не спускаў вока з астатніх: аднаму сцвярджальна ківяне галавою («Малайчына, і сёння першы рашыў задачку!»), на другога паківае пальцам:

— Сяргей, шануй вочы, а то як у зайца будуць. У цябе ёсць свой сшытак.

Асабліва спадабалася Кастусю, як Алесь правёў урок чытання. Фурсевіч стаў каля стала, узяў у руку падручнік і пачаў чытаць ціха,

але з уздымам і нейкай асаблівай шчырасцю. Кастусь быў сведкам таго, як Фурсевіч чараваў, браў у палон дзіцячыя сэрцы. Спачатку ў класе не ўсе слухалі, як чытае настаўнік: хто рашаў задачкі, хто пісаў. Неўзабаве ціша запанавала ў класе, нават старэйшыя вучні, якія самі чыталі гэты твор і ведалі яго амаль на памяць, уважліва ўслухоўваліся ў кожнае слова настаўніка. І дзіўная рэч, сам Фурсевіч так захапіўся чытаннем, што на яго твары заззяла радасная ўсмешка, і сам ён нібыта папрыгажэў.

«Малайчына!» — з зайздрасцю падумаў Кастусь, любуючыся сябрам.

На развітанне Кастусь узяў з Алеся слова, што той у скорым часе наведаецца да яго ў госці, пройдзецца па знаёмых сцежках.

— Няўжо, браце, цябе не цягне глянуць на якую знаёмую?— дапытваўся Кастусь.— Паслухаеш, як я ўрокі даю. Ты ж мой самы блізкі сусед.

— Не бойся, сумаваць не будзеш, як упражэшся ў школьны хамут... Быў я люсінскім мядзведзем, цяпер ты ім станеш,— загадкава прамовіў Алесь.

●

Кастусь адпусціў сваіх вучняў у гэты вечар крыху раней. Каб нагнаць прапушчаныя дні, ён, па парадзе Фурсевіча, займаўся з дзецьмі зранку і яшчэ па абедзе. Сходзяць вучні дахаты, паабедаюць і зноў за парту. Заняткі працягваюцца, аж пакуль не змеркне. Былі дні, калі настаўнік нават прыносіў лямпу, але сёння ён не стаў гэтага рабіць. Няхай дзеці адпачнуць, ды і сабе трэба зрабіць перадышку: якраз ужо чатыры тыдні, як ён пачаў заняткі ў школе.

Здаецца, учора люсінскі дзядзька прывёз яго з раз'езда ў вёску. Было гэта перад самым вечарам, ужо сям-там у хатах паблісквалі агеньчыкі. Кастусь узіраўся ў ваколіцы. Перш за ўсё кінулася ў вока, што вёску з усіх бакоў абступаў лес. Палявая дарога вывела на шырокую і досыць роўную, але вельмі гразкую вуліцу, абапал якой без пэўнага ладу туліліся паляшуцкія хаты з буслянкамі. Месцамі калёсы па самыя калодкі правальваліся ў гразь, і тады худы нізенькі конік пяўся з усяе сілы, выцягваючы воз на грудок. Так паўтаралася некалькі разоў, пакуль настаўнік не запытаўся:

— Можа, я злезу?

— Го! Чаго злазіць? Конь пацягне,—адказаў фурман.—Дый школа вунь!

На скрыжаванні вуліцы, якой яны ехалі, і вулачкі, што вяла ў поле, стаяў высачэзны пахілены драўляны крыж, а за ім збоку ад дарогі школьная будыніна. Кастусь крытычным вокам акінуў яе і застаўся задаволены. Школу пабудавалі, відаць, нядаўна, бо сцены, складзеныя з тоўстых бярвенняў, не паспелі яшчэ пачарнець ад дажджу і сонца. Прасторны ганак, вялікія вокны, два коміны на страсе.

На школьным падворку тузаліся хлапчукі. Убачыўшы Кастуся з самаварам у руцэ (куфэрак ззаду нёс фурман), яны кінуліся наўцёкі, а адзін крыкнуў:

— Новы вучыцель прыехаў!

На ганку настаўніка сустрэла старая, але даволі рухавая кабеціна.

— Цётка Мар'я, прымай госця! — прамовіў фурман.





— А мой паночку, а мой залаценькі! Калі ласка, калі ласка, просім! — прыветліва расчыніла старая дзверы кухні.— А вунь далей ваш пакой. Я ўжо вочы прагледзела, чакаючы вас, а яго няма і няма. Думала сабе, ці не занядужаў ён, галубок, бо прапаў недзе дый годзе!

Пакуль старожка завіхалася ля печы, збіраючы вячэру, Кастусь агледзеў школу і таксама застаўся задаволены. Большую палову памяшкання займаў класны пакой, у якім было ажно пяць вакон. Маленькай, але ўтульнай была і яго каморка: пры сцяне драўляны ложак, ля акна, стол, збоку кніжная паліца.

Праз дарогу стаяў прыгожы прасторны дом з белымі аканіцамі. Кастусь ужо ведаў ад старожкі Мар'і, што там жыве пан падлоўчы— ляснічы Ігнат Баранцэвіч. Пакуль настаўнік тупаў на школьным падворку, за ім з-за фіранкі ўважлівым вокам цікавала дзяўчо. Калі ён выйшаў на вуліцу, з хаты ляснічага выбегла чарнявая стройная дзяўчына. Схапіўшы пару паленаў на дрывотні, яна подбегам кінулася назад. На нейкую хвілю іх позіркі скрыжаваліся, і Кастусь у вялікіх прыгожых вачах суседкі прачытаў насмешлівую гарэзлівасць. «Эйш ты, якая хітрая!» — падумаў настаўнік і хацеў прывітацца, але не асмеліўся. Потым ён увесь дзень сябе ўпікаў: «Мядзведзь, форменны ты мядзведзь. Такая была магчымасць пазнаёміцца...»

Кастусь, асцярожна мінаючы лужыны, рушыў цераз вёску. Люсінцы, асабліва пажылыя мужчыны, прыветліва кланяліся, з ахвотаю адказвалі на пытанні, а вучні насцярожаным вокам азіралі настаўніка і стараліся не сустракацца з ім, зварочвалі на другі бок вуліцы ці ў двор. Як старэйшыя, так і дзеці, былі апрануты ў чорныя ці карычневыя суконныя світкі. Ад шапкі-кучомкі да лапцей — усё было на палешуках свайго хатняга вырабу і аднаго колеру. Крыху больш разнастайныя жаноцкія ўборы.

Адразу кідаліся ў вока буслянкі. Цераз дзве-тры хаты на гумне ці на дрэве красавалася буслінае гняздо. Самі паляшуцкія хаты стаялі абапал шырокай вуліцы без пэўнага ладу, але былі пераважна новыя, фундаментам для іх служылі тоўстыя дубовыя калоды, укапаныя ў зямлю.

Ішоў настаўнік па дарозе, якая, як ён потым даведаўся, вяла ў тыя самыя Дзяніскавічы, куды не раз ездзіў бацька на паляванне з нясвіжскімі панамі і падпанкамі. Прайшоўшы вярсты тры-чатыры, Кастусь пастаяў на мосціку. За невялічкаю рэчкаю канчаўся лес, пачыналіся хмызнякі, парыжэлае куп'ё, блішчала вада.

Пару дзён Кастусь знаёміўся з вёскаю і яе ваколіцамі, а потым заказаў фурманку і паехаў у Хатынічы, дзе знаходзілася валаснос праўленне. Там ён пазнаёміўся з мясцовым настаўнікам Уладзімірам Дылеўскім, які павёў свайго калегу да валаснога начальства і тутэйшага панства. Валасны пісар Пётр Васінскі спачатку пачаў выгаворваць:

— Што гэта вы, малады чалавек, позніцеся на службу?

— Не мая віна,— адказаў Кастусь і паказаў пісару прызначэнне дырэкцыі народных вучылішчаў.

Стары служака ўважліва перачытаў паперку, зверыў яе з адносінай, што паступіла ў воласць. Усё было чын чынам, і Васінскі сказаў свайму памочніку:

— Маладому чалавеку належыць атрымаць плату за два месяцы. Дайце яму распісацца ў ведамасці.

Сорак рублёў (настаўніку плацілі па дваццаць рублёў у месяц)— не вельмі вялікія грошы. Але гэта быў яго першы заробак. Паклаўшы чатыры чырвонцы ў кішэню, Кастусь адчуў сябе весялей і больш упэўнена: столькі грошай ён яшчэ ніколі не меў пры сабе. Неяк нянёмка было выказваць сваю радасць перад незнаёмымі людзьмі, а так ён адразу паслаў бы пятнаццаць рублёў дахаты: пяць дзядзьку Антосю, які даў пазычку яму на дарогу, і дзесяць гасцінца мацеры, каб купіла сабе і дзяўчатам што на ўборы. Цяпер, калі надумаліся купляць зямлю, кожная капейка будзе ў бацькі на ўліку...

Неяк у пятніцу заглянуў у Люсіна Фурсевіч. Сябар стрымаў слова: прыехаў пагасцяваць і наведаць сваіх знаёмых. У суботу Алесь сядзеў на ўроках. Радаснае ажыўленне, з якім сустрэлі вучні свайго былога настаўніка, яскрава сведчыла, што яго тут паважалі і не забылі. Потым хлопцы разбіралі кожны ўрок, трохі нават паспрачаліся, і бабка Мар'я іх мірыла. Настаўнікі яшчэ, можа, доўга вялі б спрэчку, але прыйшоў Ігнат Баранцэвіч і паклікаў іх на вячэру:

— Ну, прафесары вялікіх літар, прашу да мяне!

Па тым, як Фурсевіч паводзіў сябе ў доме пана падлоўчага, як ён далікатна цмокнуў гаспадыні ручку, Кастусь зразумеў, што сябар у свой час быў тут часты госць. Фурсевіч умеў пагаварыць, патрапіць у тон гаспадару, сказаць дасціпную прымаўку, каб весялей было за сталом і лепш кулялася чарка. Гэта чамусьці ніяк не выходзіла ў Кастуся: то яму здавалася, што ён не так трымае відэлец, то не знаходзілася ў яго таго слова, каб падтрымаць вясёлую гаворку. Маладому настаўніку думалася, што кожны яго промах адбіваецца смяшынкаю ў гарэзлівых вачанятах чарнявай прыгожай дзяўчыны ў чырвонай кофтачцы. «Мядзведзь, люсінскі мядзведзь»,— дакараў сябе Кастусь.

Але на развітанне Ядвіся весела гаварыла з сябрамі, аднаго прасіла не мінаць іхняй глушы, а другога заходзіць да іх вечарамі. Кастусь паабяцаў, але ніяк не мог адважыцца ступіць за веснічкі суседскага двара.

## СМЕРЦЬ БАЦЬКІ

На каляды Кастусь ездзіў дахаты. У Альбуці ніякіх асаблівых навін не было, жыццё там ішло сваёй каляінай. Адно толькі трывожыла ўсю сямейку: у лясніцтве хадзілі чуткі, што Рачкоўскі збіраецца перакінуць Міхала ў Цёмныя Ляды. Мясціна там някепская, ёсць добрая леснічоўка, у ёй некалі жылі смалакуры. Таму ўрочышча называецца Смалярня. Але нікому не хацелася пакідаць наседжаны і даўно абжыты кут, дзе ўсё стала такім знаёмым, блізкім і дарагім. Нездарма кажуць, што, лежачы на адным месцы, і камень абрастае. А што гаварыць пра гаспадарку лесніка, які так прывязаны да свайго кавалачка зямлі, што корміць сям'ю. Як ні кажы, а ў Альбуці многа выгод: зямліцы шмат і яе ўрабілі за колькі гадоў, сена карове ўволю, рыбы колькі хочаш, грыбоў і ягад хоць заваліся. Тут склаўся ўжо нейкі прызвычаены лад жыцця. Там, у Цёмных Лядах, можа, будзе і не горш, але ўсё трэба пачынаць спачатку.

З другога боку пярэбары мо дапамогуць хутчэй пераехаць на новае месца, туды, у Смальгавок, дзе чакае іх купленая зямля. Цешыла толькі тое, што як насядуць ляснічы з Абрыцкім, то вясной Уладзік і маці з дзецьмі пападуцца ў Цёмныя Ляды. Міхал жа з Антосем

дапамогуць ім там уладкавацца, а самі паедуць засяваць новую зямлю. Трэба ж там, у Смальгаўку, абжывацца і пускаць карэнне: перш засеяць поле, агараць якое гумно, каб было куды складці збажыну, і брацца за хату. Вядома, нялёгка і нават трохі страшнавата пакідаць родны кут, знаёмых людзей, усю радню і выбірацца ў не вельмі блізкі свет. Але там чакае іх свая зямелька, урадлівая зямелька, якая не раўня наднямонскім пяскам. Зроблены па той зямлі ўжо і першы крок: дзядзька Антось паспеў восенню ўкінуць жыта. Цяпер толькі служы ёй, і зямля аддзячыць...

Вярнуўшыся з Юзяй у Люсіна, Кастусь яшчэ доўга жыў дамашнімі ўражаннямі. Не магла іх развеяць і сустрэча з Ядвісяй. Бабка Мар'я адразу заўважыла.

— Што гэта, панічку, нейкі заклапочаны прыехаў з дому? Нешта хіба не ладзіцца там?

— І ладзіцца і не ладзіцца,— ухіліўся ад адказу настаўнік.— Цяжка, бабка, жыць на гэтым свеце...

— Нічога, панічку, усё добрае ваша яшчэ наперадзе... Я ведаю, што вас чакае шчасце, і вы будзеце вялікім чалавекам.

— Адкуль вы, бабка, гэта ведаеце?

— Ведаю! Некалі ўспомніш, галубок, што праўду казала знахарка Мар'я. Ого-го! — заплюшчыла старая вочы і паківала галавою.— Вялікім будзеш чалавекам. Чуе маё сэрца! Калі б я дажыла да таго часу, то прыйшла б і напомніла б панічыку, што я цяпер кажу...

Кастусь усміхаўся.

— Смейцеся, смейцеся сабе, але не раз успомніце некалі люсінскую старожку...

У настаўніка з'явіўся яшчэ адзін клопат. Дванаццацігадовая сястра Юзя, якая вырасла ў Альбуці і ніколі яшчэ не адлучалася ад мамы, сумавала па доме, прасілася, каб Кастусь завёз яе назад. Горш за ўсё было тое, што яна саромелася ісці ў клас, а сядзела і румзала ля акна. Бабка Мар'я з ёю і так спрабавала і гэтак: то гарбузікаў прынясе, то арэхаў, а вечарам забярэ да сябе, на цёплую печ, і расказвае казкі. Неўзабаве Юзя знайшла сабе занятак: абірала бульбу, пякла грэцкія бліны-пампушкі. Потым Кастусь пачаў даваць ёй рашаць задачкі і спісваць практыкаванні (чытала сястра добра), але яшчэ доўга Юзя не хадзіла ў школу, а займалася дома.

Зіма ў той год выдалася не вельмі халодная, але дужа снежная. Мяло і мяло, удзень і ўночы, замятала ўсе сцежкі і дарожкі. Трэба было настаўніку ў валасць па справах, але ён пабаяўся ехаць. Няхай трохі аціхне завея і людзі пратопчуць дарогу.

У адзін такі дзень, калі страшэнна лютавала завіруха, у такі дзень, пра які кажуць, што добры гаспадар і сабаку на двор не выжане, на ганку школы нехта моцна загрукаў ботамі, аббіваючы снег. Кастусь, які вёў урокі, падумаў, што нехта прыехаў з валасці, бо неўзабаве Юзя прачыніла дзверы і паклікала яго.

— Хто там? — запытаў настаўнік.

— Не ведаю,— паціснула плячыма Юзя.

На кухні весела скакаў на адной назе і расціраў правае вуха — Кастусь спачатку аж не даў веры — семінарскі прыяцель Косця Болтуць. Хлопцы радасна абняліся і пацалаваліся.

— Ты ведаеш, Стары, што твой госць галодны, як воўк, і змёрз, як цюцька?

Ужо седзячы за сталом, Болтуць расказаў, што сумаваў-сумаваў адзін, у сваім Пагосце-Загародскім, а потым надумаўся скочыць у госці. У якім Пагосце? А ў тым, што між Лагішынам і Лунінцом, па



прамой не так далёка ад Люсіна, вёрст пяцьдзесят, не больш. Знаёмы фельчар падвёз на станцыю ў Лунін, а там цягніком дабіраўся, і нават на раз'ездзе ў Люсіна паравоз спыніўся. Вось пакуль у вёску трапіў, дык ледзь богу душу не аддаў...

Калі Фурсевіч быў заўсёды сур'ёзны і стрыманы ў выказванні сваіх пачуццяў, то Болтуць меў іншую натуру. Гэта весялун і рагатун, заядлы танцор і добры спявак. З ім не будзеш сумаваць ні ў мужчынскай, ні тым болей у дзявочай кампаніі,— ён усюды завадатар — ці пульку скінуць, ці застолле арганізаваць. Хват быў ён на анекдоты пра цара і царыцу. А калі да ўсяго гэтага дадаць, што быў ён рослы і прыгожы, умеў з густам апранацца, дык стане зразумела, што гэтага вясковага настаўніка цяжка было ўтрымаць на школьнай прывязі.

Болтуць многа чытаў, цікавіўся літаратурай, уважліва сачыў у семінарыі за першымі творчымі крокамі Кастуся Міцкевіча. Гэта яму семінарскі паэт падараваў на памяць цэлы сшытак сваіх рускіх і беларускіх вершаў. Таму нічога няма дзіўнага, што, трохі абагрэўшыся і перакусіўшы, госць папрасіў гаспадара прачытаць новыя вершы:

— Давай, Стары, прачытай, што ты выседзеў у палескай глушы.

— Мала напісаў,— прызнаўся Кастусь.— То школа шмат часу займае, то настрою няма.

— Ну, ну! Давай не прыбядняйся.

Кастусь ведаў, што ад Болтуця не адчэпішся, дастаў з шуфлядкі сшытак з чарнавымі накідамі паэмы «Яшукова гара» і пачаў чытаць:

Паны жывуць, не знаюць гора.
Мужык, як кінуты на мора
У стары човен і разбіты,
А вецер моцны і сярдзіты
Шуміць, бушуе і раве...

— Можа, варта сацыяльны момант праясніць і ўзмацніць,— выказаў сваё меркаванне Болтуць, калі Кастусь кончыў чытаць.— Ісці толькі ўслед за легендай мала. Табе як паэту трэба пазнаёміцца з такой вось літаратурай,— і госць паклаў на стол некалькі зачытаных тоненькіх брашурак.

Кастусь узяў верхнюю кніжачку ў сіняй вокладцы. «Правдивый рассказ, откуда и куда идут мужицкие денежки», «Лютня» — сборник революционных песен», «Лиса-патрикеевна». Гэта былі нелегальныя, пераважна жэнеўскія выданні рускіх нарадавольцаў. Была і адна беларуская кніга «Пра багацтва ды беднасць», таксама выдадзеная ў Жэневе ў 1881 годзе. Не, такіх брашурак люсінскі настаўнік не бачыў і не чытаў.

— Я думаю, цябе не трэба вучыць, каму можна, а каму нельга паказваць гэта,— сказаў Болтуць і дадаў: — А прачытаеш, дык завязі гэтыя кнігі ў Пінск. Я табе дам адрас сталяра Янкеля. Ён, дарэчы, твой зямляк, родам са Стоўбцаў... Скажаш, я прыслаў. Янкель узычыць новую літаратуру.

Пасля ад'езду семінарскага сябра Кастусь вечарамі праседжваў над нелегальнымі кнігамі. Уважліва чытаў, думаў над прачытаным, рабіў выпіскі. Гэта было для яго адкрыццём новага свету. Нібы ён хадзіў дагэтуль упоцемку, а цяпер, нарэшце, прабілася святло, і ён выкіраваўся на сцежку, асветленую сонцам. Праўда, да многага ён даходзіў яшчэ раней саматугам, пра шмат што разважаў так, як піса-

лася ў гэтых кнігах. Цвярозы чалавечы розум падказваў, а жыццёвыя абставіны прымушалі крытычна глядзець на праявы грамадскага ладу. Але тут ён упершыню сустрэўся, каб пра гэта гаварылася ўголас, без аглядак. З гэтых кніг вынікала, што цар і ўся царская хеўра — гэта крывасмокі, якія п'яўкамі ўпіліся ў жывое народнае цела.

Люсінскі настаўнік так захапіўся нелегальшчынай, што праседжваў далёка за поўнач. Найбольш цікавыя кнігі чытаў па некалькі разоў, у іншых перачытваў яркія і вострыя мясціны.

— Што гэта, панічку,— не раз пыталася старая Мар'я,— сушыце ды сушыце мазгі? Вунь суседскія паненкі скардзяцца, што зусім перасталі адведваць іх. Ці ж можна так?

— Можна, бабка, можна! — жартаваў Кастусь.— Не толькі можна, а нават і трэба, каб дзяўчаты вельмі нос высока не задзіралі... Каб ты, бабуля, ведала, якія ёсць кнігі цікавыя, што нават пра дзяўчат забудзешся...

— Не ведаю, сынку,— адказвала старожка.— Не ўмею чытаць.

— Давайце будзем вучыцца.

— Не, галубок! Вочы ўжо не тыя. Дый у яму без граматы пусцяць...

У адзін прыгожы і ласкавы вясновы дзень раптам нечакана-негадана звалілася на Кастусёвы плечы трагічная вестка. Ён быў на ўроку, калі староста Раман Круглы пад'ехаў на санках і асцярожна пастукаў пугаўём у шыбу. Кастусь падняў галаву і ўбачыў у руцэ старасты канверт. Пісьмо! З хваляваннем, нібы сэрцам адчуваючы нядобрае, ён выбег на ганак, разарваў канверт, прабег вачыма першыя радкі. У вачах пацямнела і павяло раптам убок. Каб не ўпасці, настаўнік прыхіліўся да вушака. Цяжка было даць веры таму, што паведамляў дзядзька Антось: «...тыдзень таму, як пахавалі бацьку...»

Кастусь не памятае, як ён прыйшоў у клас, адпусціў вучняў дахаты і зноў дастаў з кішэні канверт. Дзядзька Антось пісаў, што бацька хварэў тыдні два і памёр 23 лютага. Уладзік ездзіў у Стоўбцы да знаёмага тэлеграфіста, каб той даў тэлеграму на раз'езд Люсіна. Тэлеграма тая, відаць, не дайшла, бо іх, Кастуся і Юзі, на пахаванне не дачакаліся...

Настаўнік заплакаў—падняў галаву і толькі цяпер ўбачыў, што ў класе сядзіць сястра Юзя і спалохана пазірае на яго.

— Няма, Юзя, нашага таты,— ціха прамовіў Кастусь.

Пачуўшы плач Юзі, прыйшла з кухні бабка Мар'я. Яна таксама заплакала і тут жа пачала суцяшаць:

— Шкада бацькі, але сваім плачам, даражэнькія, вы яму ўжо не паможаце... Такая боская воля, панічыку мілы. Вы неяк пыталіся, чаго мы на свеце жывем. Дык я сёння вам скажу. Жывем на свеце мы, каб гаравалі, пакутаваць і памерці. Найчасцей тады, калі яшчэ дзеці не сталі на свае ногі... Колькі ж гадоў вашаму тату?

— Пяцьдзесят тры ўсяго.

У той жа вечар, як толькі трохі адлегла ад сэрца, Кастусь сеў за пісьмо. Пачаў з суцяшэння, а закончыў пытаннямі. Чаму не напісалі раней, што бацька пры смерці? Ці слухаў яго доктар? Якую ён прызнаў хваробу? Што надумалі рабіць з купленаю зямлёю?

Доўга не было адказу. Устрывожаны маўчаннем, настаўнік баяўся, каб там, у Альбуці, не здарылася яшчэ якой бяды, і збіраўся ўжо хоць на дзень паехаць дадому, калі, нарэшце, атрымаў доўгачаканае пісьмо. Дзядзька Антось пісаў коратка, ён скардзіўся, што трэба пераязджаць у Смалярню, цяпер у леснічоўцы сама што збіраюць клункі і на днях пярэбары на новае месца...



## ПЕТЫЦЫЯ СКІРМУНТУ

Дні, тыдні і нават гады бягуць так хутка... Мільгаюць, не раўнуючы, нібы тыя тэлеграфныя слупы за акном цягніка, калі паравоз імчыць састаў на поўную хуткасць.

Кастусь сядзіць пры акне ў вагоне трэцяга класа і пазірае, як нясуцца насустрач лясы і пералескі, балоты з нізкарослымі хвойкамі. Здаецца, нядаўна ён з трывогаю ў сэрцы ехаў у далёкае і незнаёмае Люсіна і вось так, як цяпер, узіраўся ў сумныя асеннія краявіды Палесся. Тады яго бянтэжыла, што едзе ў школу са спазненнем, едзе першы раз і не ведае, як там прыжывецца, які з яго атрымаецца настаўнік. Самому цяпер не верыцца, што з таго часу мінула ўжо тры гады і ён чацвёрты раз едзе пачынаць новы навучальны год у школе.

За гэты час колішні семінарыст Кастусь Міцкевіч, які тады з нейкай бояззю і сарамлівасцю ўнёс у вагон свой драўляны куфэрак і самавар і не ведаў, дзе з імі прыткнуцца, стаў іншым чалавекам. Ён пасталеў, памажнеў, даўно змяніў люсінскі лапсардак на просценькі, але прыстойны і ладна падагнаны да яго фігуры касцюм. Ва ўсёй яго паставе адчувалася энергія, бадзёрасць і стрыманая радасць.

З Кастусём у вагоне сядзелі браты: дзесяцігадовы Юзік і васьмігадовы Міхась. Браў іх настаўнік з сабою без асаблівай ахвоты, бо хлопцы былі ў такім узросце, што не спускай з іх вока. Але ў Смалярні блізка школы не было, і малыя раслі на лес гледзячы. Трэба было неяк дапамагчы маці, і Кастусь узяў братоў з тым разлікам, што яны будуць хадзіць у яго школу.

Малады настаўнік ехаў у Пінкавіцкую школу, што знаходзілася недалёка ад павятовага Пінска. Там ён будзе працаваць ужо трэці год. У Пінкавічах і самім Пінску ёсць у яго шмат добрых знаёмых і шчырых сяброў. Усе думкі цяпер у Кастуся былі скіраваны на тое, каб хутчэй сустрэцца з імі, падзяліцца навінамі. Заўтра ці не пазней паслязаўтра трэба схадзіць у Пінск, узяць у Янкеля нелегальную літаратуру і даведацца, калі будзе чарговая сходка. Трэба пагаварыць і з Сымонам Крышчуком, трэба ж ведаць, чым жыве вёска, якія настроі ў сялян тут, на Палессі.

Вунь і Люсіна. Перш паказаўся будынак раз'езда, а пасля і канцавыя хаткі самой вёскі. Усё так выглядае, як і тады, калі ён хадзіў па гэтых сцежках-дарожках. Цяпер Кастусь спакойна пазіраў на знаёмыя яму мясціны, а раней, як тыя разы ехаў ён у Пінкавічы і мінаў раз'езд, нейкі смутак і жаль агортваў яго сэрца. Пазіраў тады настаўнік на раз'езд і вёску і адчуваў сябе нібыта вінаватым перад імі, што адцураўся іх, з'ехаў у другое месца.

Павэдлуг Пінкавіч Люсіна — глухая мясціна, нічога не скажаш, але надоўга застанецца яна ў Кастусёвым сэрцы. Там ён рабіў першы крок на настаўніцкай дарозе, там сустрэў Ядвісю. Ці было гэта сапраўднае каханне? Кастусь і сам не ведае. Можа, тады ён і пагарачыўся, што так хутка пакінуў Люсіна.

Вясною 1903 года, на другім тыдні пасля вялікадня, Кастусь паехаў з трыма люсінскімі вучнямі, якія трымалі экзамен за пачатковую школу, у Лунінец. Усе хлопцы адказвалі бойка і ўпэўнена, задачкі рашылі і дыктоўку напісалі добра. Лунінецкі настаўнік Карыцька круціў галавою, а інспектар народных вучылішчаў Кедраў, які прысутнічаў на экзаменах, нават пахваліў і сказаў:

— Магу прапанаваць вам, Міцкевіч, лепшае месца. З Пінкавіч пераводжу Мархеля, а вас хачу паставіць на яго месца. Падумайце і напішыце прашэнне на маё імя.

Вярнуўся тады ён з Лунінца, пачуў, што Ядвіся, не развітаўшыся з ім, выехала з Люсіна, сеў і напісаў прашэнне. Пасля таго ні разу не давялося бачыцца з ёю. Колькі разоў парываўся наведаць Люсіна, але ні разу не сабраўся. Чаго ехаць, калі там няма Ядвісі. Відаць, не суджана ім сустрэцца — і годзе! Можа, калі і бывае яна ўлетку, але ж і Кастуся тут няма гэтай парою...

●

Другая палова лістапада ў тым годзе выдалася марозлівая, але сонечная. Кожную ноч трымаўся невялічкі марозік. Днём было на дзіва ціха і па-асенняму прыгожа. Уся прырода нібы адпачывала пасля працавітай восені і рыхтавалася сустрэць зіму, якая была недзе блізка на падыходзе. Потым прыціснуў сапраўдны мароз і скаваў усё навокал: палескія балоты, Піну, азёры, прыпяцкія затокі і самую Прыпяць.

Палешукі з дня на дзень чакалі снегу, чакалі саннай дарогі, каб можна было ехаць на балота па сена. Чакалі яны яшчэ і адказу на сваю петыцыю. Спадзяваліся на тое, што цяпер, у час агульнага ўздыму працоўнага народа, удасца вырваць у Скірмунта сервітутныя землі. З трывогаю ў сэрцы чакаў далейшага разгортвання падзей і Кастусь. Ён ведаў, што ад далейшага развіцця падзей у краіне залежыць поспех справы, за якую ён узяўся, залежыць і яго ўласны лёс. Калі хваля народнага гневу будзе нарастаць, то Скірмунт стане больш згаворлівы. Калі ж паліцыя і казакі зацугляюць народ, тады і яму не даруюць. Настаўнік ведаў, што земскі начальнік двойчы выклікаў у Пінск валаснога старшыню Аляксандра Лоя, паклікалі на допыт Сымона Крышчука і іншых сялян. Самога ж яго ніхто не трывожыў. Гэта насцярожвала і яшчэ больш непакоіла.

У той дзень, 26 лістапада, Кастусь, як заўсёды, устаў рана, глянуў у акно і ахнуў ад здзіўлення: усё белае — ноччу выпаў снег. Ішоў ён і раніцай, калі настаўнік пачаў заняткі ў школе. У час урокаў Кастусь не раз лавіў сябе на тым, што ў нейкім роздуме ўглядаецца ў акно і забывае, што з ім і дзе ён. За акном кружыліся і, падхопленыя подыхам ветру, здавалася, не падалі на зямлю, а, наадварот, уздымаліся ўгору лёгкія сняжынкі. Настаўнік любаваўся павольным лётам сняжынак і не чуў, як вучні пачыналі шумець. Калі гоман у класе перавышаў дазволеную мяжу, Кастусь вяртаўся да рэальнасці і зноў вёў урок.

Адпусціўшы вучняў дахаты, настаўнік на хаду перакусіў і сабраўся ісці ў Пінск. Ён апрануўся, выйшаў на ганак і тут убачыў, што да школы пад'ехаў і спыніўся гарадскі рамізнік. З рысорнай брычкі вылез высокі стройны мужчына ў рыжай футравай шапцы і ў чорным зімовым паліто з такім жа рыжым каўняром. Хто б гэта мог быць? Аднак Кастусь сумеўся толькі спачатку, а потым не так пазнаў, як проста здагадаўся, што ў школу прыехаў сам павятовы інспектар народных вучылішчаў Антон Рыгоравіч Русецкі.

Інспектар падаў настаўніку руку (яго папярэднік Кедраў да такога дэмакратызму не даходзіў!) і папрасіў паказаць школу.

— Калі ласка, Рыгор Антонавіч, заходзьце, распранайцеся,— запрасіў нечаканага госця Кастусь.

— Вы, Канстанцін Міхайлавіч, некуды сабраліся? Не ў Пінск?

— У Пінск.

— Ну, дык я гляну на вашу школу, а потым разам паедзем у горад, а па дарозе і пагаворым.



Госць паводзіў сябе афіцыйна, але без пыхі: зайшоў у класны пакой, паглядзеў запісы ў журнале, запытаў, колькі вучняў па спісу і колькі з іх ходзіць у школу. Потым яны селі ў брычку і паехалі. Русецкі некалькі хвілін маўчаў, а потым загаварыў:

— Што вас прымусіла, Канстанцін Міхайлавіч, напісаць гэтую няшчасную петыцыю? Ці думалі вы, што вам пагражае? Дый наогул, якая вам справа да таго, што мужыкам нечага не хапае... Ваша задача — вучыць грамаце дзяцей і ўсё. Астатняе вас не датычыць!

— Паважаны Рыгор Антонавіч, але ж я народны настаўнік,— спакойна адказаў інспектару Кастусь, робячы націск на слове «народны».— Народ папрасіў мяне напісаць петыцыю і прынёс межавы план, згодна якога сервітутная зямля належыць сялянам, а не пану Скірмунту. Ці мог я адмовіць? Хто ж ім напіша? Валасны пісар, дзяк ці ляснічы?

— А што было б, калі б вы не напісалі петыцыю?

— Хто яго ведае. Магчыма, сяляне ў гневе спалілі б панскі маёнтак у Альбрэхтове.

— Спыніцеся! — загадаў Русецкі рамізніку і вылез з брычкі.— Мы пройдзем крыху пехатою.

Злез і Кастусь. Ён не разумеў пакуль што, куды хіліць пан інспектар. Калі рамізнік ад'ехаўся, Русецкі загаварыў зноў:

— Паўтарыце, што было б, калі б вы не напісалі петыцыю.

— Сяляне маглі б пусціць пану Скірмунту пеўня. Гневу і крыўды ў іх было цераз край.

— Значыцца, петыцыя ваша выратавала маёнтак Альбрэхтова! — узрушана прамовіў Русецкі.— Гэта ваш выратавальны круг! Вы разумееце гэта ці не?! Хапайцеся за гэтую ідэю, і яна, толькі яна адна можа дапамагчы вам у гэтай сітуацыі. Чуеце, Канстанцін Міхайлавіч.

Настаўнік не чакаў такога павароту справу. Хто мог падумаць, што школьны інспектар падкажа яму такую дасціпную і сапраўды выратавальную ідэю? Цяпер і ён прыкінуў так і гэтак, і выходзіла, што можна было ўчапіцца за гэтую саломінку.

— А зараз раскажыце, Канстанцін Міхайлавіч, як гэта ўсё было,— звярнуўся Русецкі да настаўніка.— Я не раблю допыту і не праводжу дазнання, але хачу ведаць усе абставіны, каб памагчы вам.

Калі інспектар з настаўнікам міналі Вішавічы, ім трапіліся насустрач тры пінкавіцкія фурманкі. Сяляне ветліва прывіталіся. Русецкі ўсміхнуўся:

— Відаць, мясцовыя жыхары вас любяць, а вось з начальствам не вельмі ладзіце. А ці вядома вам, Канстанцін Міхайлавіч, што ў павет паступілі ўжо дзве заявы, каб вас перавялі ў другое месца?

— А каму гэта я замінаю?

— Тутэйшаму панству. Яны баяцца, што вы кепска ўплываеце на сялян. Я, са свайго боку, пастараюся вам дапамагчы, наколькі мне гэта ўдасца...

А снег усё сыпаў і сыпаў.

●

Русецкі сваё слова стрымаў. 3 снежня 1905 года ён напісаў на імя дырэктара народных вучылішчаў Мінскай губерні Мікалая Фёдаравіча Акаронкі адносіну, у якой адмятаў усе абвінавачванні ў адрас

пінкавіцкага настаўніка Міцкевіча ў падбухторванні сялян супраць памешчыка Скірмунта. Школьны інспектар настойліва даводзіў, што настаўнік не толькі не вінаваты, а, наадварот, сваімі дзеяннямі зрабіў добрую справу і выратаваў панскі маёнтак Альбрэхтова ад разгрому. Гэтае сцверджанне праводзілася з асцярогаю, каб губернскае начальства — барані, божа! — не падумала, што інспектар Русецкі абараняе нейкага там Міцкевіча. У адносіне было некалькі папрокаў у адрас настаўніка, што рабіла ўражанне аб'ектыўнага падыходу да справы:

«25 лістапада да мяне з'явіўся земскі начальнік 4-га ўчастка Пінскага павета граф дэ-Шамбарант і заявіў, што сяляне вёскі Пінкавічы падалі петыцыю суседняму памешчыку Сігізмунду Сігізмундавічу Скірмунту, патрабуючы права свабодна лавіць рыбу ў двух азёрах, бясплатна карыстацца чаротам, які расце на беразе гэтых азёр, і ўступкі сервітутнага ўчастка зямлі. Петыцыя была складзена, паводле слоў графа, мясцовым настаўнікам народнай школы Канстанцінам Міхайлавічам Міцкевічам. У сувязі з такой заявай пана земскага начальніка я на наступны дзень накіраваўся ў Пінкавічы, каб на месцы расследаваць гэтую справу...

Паводле слоў Міцкевіча, усё пачалося ў вёсцы Пінкавічы наступным чынам. У святочны дзень 21 лістапада амаль усе дарослыя вёскі Пінкавічы сабраліся ў канцы вёскі, пачалі гаварыць пра тое, што памешчык Скірмунт незаконна карыстаецца азёрамі, чаротам і ўчасткам зямлі ў 77 дзесяцін — усё гэта калісьці належала сялянам. Па той прычыне, што сяляне сышліся недалёка ад школы, то Міцкевіч, пачуўшы шум, падышоў да сялян з мэтаю даведацца, што яны задумалі. Даведаўшыся, што сяляне збіраюцца ісці грамадою да памешчыка, Міцкевіч параіў ім гэтага не рабіць, а паслаць сялянскіх дэпутатаў, якія выкажуць пану свае патрабаванні. Сяляне паслухаліся парады настаўніка і накіравалі да Скірмунта дэпутатаў, але той не стаў іх слухаць і папрасіў пакінуць яго ў спакоі. Дэпутаты вярнуліся ад памешчыка, расказалі пра вынікі сваіх перагавораў з панам, пасля чаго сяляне пачалі хвалявацца яшчэ больш. Многія з іх крычалі:

— Пайшлі граміць маёнтак Скірмунта!

Настаўнік, бачачы такое ўзбуджэнне сялян, параіў ім напісаць петыцыю памешчыку, у якой яны могуць выказаць свае патрабаванні. Сяляне паслухаліся разважлівай парады Міцкевіча і папрасілі яго напісаць петыцыю, якая і была складзена ў школе і падпісана сялянамі ў ліку 69 чалавек. Петыцыя гэта напісана ў самым міралюбівым тоне, і ў ёй няма намёку на пагрозы.

Грунтоўна пагаварыўшы з настаўнікам, я зрабіў яму строгі наказ і напамінак пра недарэчнасць выступаць у ролі кіраўніка аграрнага руху таму, хто па самой ідэі свайго абавязку павінен сеяць «разумнае, добрае, вечнае», а не ўзбуджаць страсці народныя.

У заключэнне лічу абавязкам паведаміць, што да мясцовага маршалка паступіла некалькі заяў з боку бліжэйшых да Пінкавіч памешчыкаў, якія просяць перавесці Міцкевіча ў іншае месца, бо баяцца, што ён будзе кепска ўплываць на тутэйшых сялян. Я, са свайго боку, не прыйшоў да канчатковага рашэння па гэтаму пытанню, таму што баюся, каб перамяшчэнне Міцкевіча не выклікала яшчэ большага хвалявання сярод сялян, вельмі прыхільных да яго, а таксама не пацягнуло б на якое-небудзь злачыннае дзеянне і іншых настаўнікаў Пінскага павета, якія наўрад ці застануцца пасіўнымі да лёсу аднаго са сваіх таварышаў».



Калі ў Мінск прыйшоў ліст інспектара Русецкага па справе пінкавіцкага настаўніка, дырэктар народных вучылішчаў Акаронка распарадзіўся перавесці Канстанціна Міцкевіча ў Верхменскую школу Ігуменскага павета. Гэта і выратавала Кастуся. Бо праз які тыдзень у канцылярыю дырэктара паступіла грозная адносіна самога губернатара, у якой Міцкевіча лічылі падбухоршчыкам сялян і ініцыятарам напісання петыцыі. Аднак Акаронка не стаў праводзіць дазнання. Вінаваты настаўнік ці не вінаваты, а аднаго пакарання — пераводу на новае месца — даволі.

Аднойчы вярнуўся ўвечары Кастусь з Пінска і сказаў старожцы:

— Ну, цётка Ганна, не памінайце ліхам.

— Пакідаеце ўсё ж нас, панічыку?

— Прыходзіцца. Паслязаўтра зранку еду на новае месца.

Кастусь спачатку меркаваў заехаць дахаты, каб пакінуць братоў у Цёмных Лядах, а самому падацца ў новую школу. Потым перадумаў. Нашто трывожыць маці! Яна адразу здагадаецца, што нешта ў сына здарылася нядобрае, калі яго сярод зімы пераводзяць на новае месца службы. Вось прыедзе ён у Верхмень, уладкуецца ў школе і адразу напіша, дзе працуе і што з ім. У маці сваіх клопатаў хапае, каб яна яшчэ перажывала і за сына.

У аўторак зранку ля школы спыніўся з канём Сямён Крышчук. Настаўнік вынес свой куфэрак і клунак з кнігамі, пасадзіў Юзіка і Міхася на сані, прыкрыў ім ногі дзяружкаю, а сам вярнуўся апошні раз глянуць на свой любімы пакойчык. У школьнай будыніне было ціха: яшчэ не скончыліся калядныя канікулы. Гэта добра, што ніхто з вучняў не будзе бачыць, як ён пакідае школу. Праз некалькі дзён прыедзе сюды новы настаўнік, і школа зноў ажыве...

Цяжка расставацца з тым месцам, дзе праседжваў над кнігамі вечары, а часам і ночы, пісаў вершы, рабіў запісы ў дзённіку. Любіў яшчэ і проста сядзець пры акне і пазіраць на зарэчча, дзе зімою стылі на марозе, а ўлетку квітнелі зялёнаю вербы. Колькі ў гэтым утульным пакойчыку дум перадумана, колькі здзейснілася і не здзейснілася яго мар. Колькі старонак напісана, колькі кніг перачытана! Таму і шкада пакідаць гэты блізкі і дарагі яму кут. За два з паловай гады зжыўся з гэтымі сценамі, упадабаў цёплую грубку, пры якой так добра чыталася і думалася. Тут не раз ён перажыў радасны творчы ўздым. Былі тут дні трывог і пакут, асабліва за апошнія дні, калі пасля петыцыі хмары збіраліся над яго галавой. Што ні кажы, а часцінка душы назаўсёды засталася ў гэтай школьнай бакавушцы.

Кастусь яшчэ раз акінуў вокам сцены, пусты стол і выйшаў на ганак. Выйшаў і ўбачыў, што каля саней стаяць вучні. Сабралася іх чалавек дваццаць... Былі тут Алесь Грылюк, Пятрусь Лемеш і нават Сяргей Папок, якога ніяк не чакаў убачыць Кастусь. Сяргея ён некалькі разоў восенню ставіў у кут.

— Бывайце, дзеці! Вучыцеся грамаце, вучыцеся дабівацца праўды. Без яе цяжка жыць на свеце.

Наперад ступіў Сяргей, скінуў шапку і сказаў:

— Дзякуй вам, панічыку, за ўсё добрае, што вы рабілі нам і нашым бацькам. Мы вас ніколі не забудзем. Шчаслівай вам дарогі!

Неяк балюча зашчымела на сэрцы ў настаўніка, набегла нават сляза. Ён памахаў рукою вучням і скочыў у сані.

— Но-но! — махнуў пугай Сямён Крышчук.

— Шчасліва! Добрай дарогі! — закрычалі вучні.

# З'ЕЗД І ПАСЛЯ З'ЕЗДА

Міцкевіч хутка і параўнаўча лёгка прыжыўся ў Верхмені: гэта было ўжо трэцяе месца яго настаўніцкай службы, а ва ўсіх школах губерні склалася амаль аднолькавая завядзёнка, нават будынкі іх былі ўсюды падобныя. Бярыся і адрабляй свае дваццаць рублёў, якія адмервае табе не вельмі шчодрая казна. У новай школе была толькі тая асаблівасць, што тут працавала ажно два настаўнікі. Калі ў Люсінскай і Пінкавіцкай школах прыходзілася весці ўсе чатыры класы, то ў Верхмені выпала вучыць трэці і чацвёрты.

Кастусь шкадаваў, што далёка засталіся настаўніца Ганцова, пінскія знаёмыя. Не было з кім пагаварыць адкрыта, выказаць свае думкі і меркаванні. Не трапляла больш у яго рукі нелегальная літаратура. Тут, на новым месцы службы, Кастусь адчуваў сябе нібы на востраве, адрэзаным ад усяго, што дзеецца на свеце. З калегам настаўнікам Анцыповічам не пагаворыш: той, як чорт крыжа, баяўся нават пачынаць гаворку пра палітыку.

Праўда, ён некалькі разоў з мясцовымі дзядзькамі ездзіў у Мінск. З Верхменя да губернскага горада было не так далёка — вёрст сорак. Але што асабліва пачуеш ці даведаешся ў Мінску, калі няма ў ім добрых знаёмых і блізкіх? Тым болей, што на горад, як і на ўсю губерню, распаўсюджвалася палажэнне пра незвычайную ахову, што было раўназначна ўвядзенню ваеннага становішча. Паліцыя арыштоўвала падазроных асоб, мінскі турэмны замак быў біткам набіты, акруговы суд працаваў дзень пры дні. У такі час з людзьмі не вельмі пагаворыш, кожны трымае язык за зубамі.

У час адной з такіх вылазак у губернскі Мінск — было гэта напрадвесні — верхменскі настаўнік зазірнуў у адну кнігарню, другую, накупляў сталічных і мінскіх газет, а на рагу Захараўскай і Серпухоўскай, каля чырвонай мураванкі з прыгожаю шыльдай «Минское отделение крестьянского поземельного банка», убачыў, што нейкі хлапчына прадае старыя кнігі. Падышоў, пачаў перабіраць кнігі, і раптам на вока трапіла беларуская брашура ў зялёнай вокладцы «Аб чым у нас цяпер гаманяць».

Вечарам узяўся Кастусь чытаць тую беларускую кнігу. Не, не тое! Нейкі пісака ўсяляк расхвальваў царскі маніфест 17 кастрычніка. Многа пораху трацілася на тое, каб даказаць, што трэба слухацца не злых людзей, якія падкідваюць лістоўкі, а начальства. У канцы брашуры невядомы аўтар даваў парады сялянам: не секчы панскі лес і не квапіцца на чужое дабро. Для настаўніка было зразумела, для чаго выдавалася гэтая кніга. Не зусім ясна было толькі, чаму царскія ўлады выкарыстоўвалі для свае прапаганды беларускую мову, якую самі не прызнавалі і таптaлі ў гразь. Ці не выдалі тыя «ашуканцы», тыя «злыя людзі», якія тлумачаць народу царскі маніфест па-іншаму, нейкія беларускія кнігі?

Усю зімачку Кастусь ні разу не браўся за пяро. То трывожнае чаканне нейкіх перамен, то клопат з той петыцыяй, а пасля пераезд на новае месца выбівалі з творчага настрою. Цяпер зноў Кастусь сядзеў позна начамі: ціхенька тупаў у сваім пакойчыку, каб не пабудзіць братоў, якія спалі за дашчанай перагародкай, і пісаў, пісаў.

Нібы прарвалася нейкая застаўка, што стрымлівала яго душэўныя парыванні. Словы кладліся ў радкі лёгка і проста, іх не трэба было шукаць, яны даўно былі вынашаны ў сэрцы і прасіліся на паперу:



Край наш бедны, край наш родны!
Лес, балоты і пясок...
Чуць дзе крыху луг прыгодны...
Хвойнік, мох ды верасок...

Вясна, што ўладна стукалася ў школьнае акенца, надавала яшчэ больш энергіі і творчага запалу. Радасць, бадзёрасць і ўздым поўнілі ўсю істоту маладога паэта. Усё ўспрымалася больш абвострана, глыбока і ярка. Тыя няясныя і няпэўныя пачуцці і ўражанні, якімі ён жыў штодня, тыя грамадскія трывогі, што не давалі спакою кожнаму сумленнаму чалавеку, цяпер выліваліся на паперу, набывалі акрэслены змест і напрамак. Гэта быў самааналіз, пагляд на сябе і свае думкі як бы збоку:

Чым успомніць цябе, маладасць,
Жыцця светлага ты раніца?
Прылятае вясна мілая,
Ды вясна мая туманіцца.

Не было таго дня, каб у маладога паэта не нарадзілася новай задумы, не з'явілася новага верша. Шырокай нястрымнай плынню ішла па зямлі вясна, звінелі срэбнымі званочкамі жаваранкі, абуджалі палеткі і ўсё навакол ад зімовага сну, прыносілі ў сэрца надзею на вялікія перамены.

Кастусь адчуваў, што вясна павінна абудзіць не толькі прыроду, але і людзей. Леташняя вясна была яскравым доказам гэтага. Думалася, што цяпер на шырокі прастор выльецца хваля народнага гневу, пачнецца барацьба за зямлю і волю з новай сілай. Пра гэта настаўнік думаў не раз, да гэтага рыхтаваўся і пра гэта пісаў у сваіх вершах. Хацелася сказаць пра многае. І ў першую чаргу пра сялянскую нядолю, перажытую ім, добра вядомую яму, мужыцкаму сыну. Ведаў ён і тых, хто трымаў у ярме селяніна, не даваў яму разгарнення:

Багачы і панства,
Нашы «дабрадзеі»!
Мы на суд вас клічам,
Каты вы, зладзеі!

●

Перад самым вялікаднем прыйшоў у Верхмень ліст ад Сянкевіча. Алесь запрашаў семінарскага сябра прыехаць на свята ў Мікалаеўшчыну. Унізе была прыпіска з клічнікам: «Стары, трэба абавязкова сустрэцца!» Калі Бас, які не любіў пісаць пісьмаў, напісаў з такой прыпіскай, то сапраўды нейкая важная і пільная справа патрабавала, каб Кастусь наведаў родныя мясціны. Праўда, вельмі запрашаць яго не трэба было. Ён жа ад самай восені не быў дома. Юзік з Міхасём таксама рваліся дахаты. Там недзе і маці сумавала па хлопцах.

Сам Сянкевіч вось ужо другі год, як асталяваўся ў роднай вёсцы. Ці закінуў дзе слова бацька — царкоўны староста, ці проста яму пашэнціла, але Алесь атрымаў прызначэнне ў Мікалаеўскую школу. Цяпер ён раскашаваў дома: жыў на бацькавым стале, а свае грошы пускаў на кнігі, бо збіраўся падацца далей у навуку — здаць экзамен за гімназію і паступіць на медыцынскі факультэт.

У першы дзень вялікадня Кастусь пайшоў у Мікалаеўшчыну і адразу заглянуў да Сянкевіча. Маці сказала, што Алесь з Нічыпарам Янкоўскім некуды пайшлі, можа, у школу. Кастусь падаўся туды — на дзвярах замок, завярнуў да Яські Базылёвага — і там няма. Хацеў ужо ісці да Петруся, які не раз дакараў пляменніка, што мінае дзя-

дзькаву хату, ажно бачыць — валіць з-пад карчмы цэлая кампанія настаўнікаў і тутэйшых хлопцаў, а сярод іх і Алесь і Нічыпар. Віталіся шумна і радасна.

— Як ты там, Стары, пінскае балота адваёўваў у Скірмунта? — з іроніяй запытаўся Цімафей Камароўскі.

— Адваёўваў патрошку і пакуль што выйшаў з вады сухім,— адказаў Кастусь. І, прыпамінаючы даўнюю гаворку, весела дадаў: — А ў карты не гуляў і ў царкоўным хоры не спяваў. Далей таксама не думаю сядзець цішком, як некаторыя...

— Паглядзімо, ці надоўга ў цябе хопіць пораху.

— Хлопцы, прашу ка мне ў школу! — падаў кліч Алесь.

Школа, як і некалі, калі ўпершыню ступіў на гэты ганак Кастусь, выглядала сумна і бедна. Сцяна справа ад ганка асунулася, хоць даўно была ўзята ў лісіцы, ганак спарахнеў, і замест яго ляжала сукаватая калода. Не лепшы выгляд мела будыніна ўнутры: дзіравая падлога, сцены абшарпаны, столь у чорных плямах падцёкаў.

Алесь адамкнуў дзверы ў свой пакойчык, а потым збегаў дахаты і прынёс пірог, кусок шынкі і яшчэ сёе-тое. Хлопцы павесялелі і смела зацягнулі:

Разбурым крэпасці і троны,
З астрогаў мы саб'ём замкі,
З парфіры царскай залачонай
Пашыем мы сабе парткі!..

Спявалі «Слезами залит мир безбрежный» і «Замучен тяжелой неволей», потым Сянкевіч прапанаваў:

— А цяпер папросім Косціка Міцкевіча, каб прачытаў нам свае вершы. Давай, Стары!

Кастусь падняўся, глянуў на мікалаеўцаў, усміхнуўся і пачаў:

Льецца Нёман паміж гораў,
Поўны сілы і красы,
У далёкія прасторы
Гоніць ваду праз лясы.

Верш пра Нёман вельмі спадабаўся, усе пачалі прасіць:

— Яшчэ што-небудзь, Стары!

Прыйшлося прачытаць яшчэ некалькі вершаў і кончыць радкамі, якія склаліся ўчора ў дарозе:

Ўстаньце, хлопцы, ўстаньце, браткі!
Ўстань ты, наша старана!
Ўжо глядзіць к нам на палаткі
Жыцця новага вясна.

Пасля гаворка пайшла пра тое, што трэба сабрацца ўлетку ўсім настаўнікам і заснаваць рэвалюцыйны настаўніцкі саюз. Было сказана многа слоў пра ролю і месца настаўніка — чорнага вала на ніве народнай асветы — у цяперашнім жыцці вёскі. У многіх рускіх губернях настаўнікі арганізоўвалі прафесійныя саюзы, думалі пра грамадскую дзейнасць.

— Вядома, мы павінны далучыцца да Усерасійскага настаўніцкага Саюза,— гаварыў Нічыпар Янкоўскі са Стаўбцоўскай школы.— Трэба думаць, што мы не абмяжуемся толькі чыста прафесійнымі задачамі.

— Надышла такая пара,— падтрымаў сваіх калегаў Кастусь,— што настаўніку проста нельга заставацца ў баку ад вясковага жыцця, калі ён не хоча страціць сувязі з народам. Што сказалі б сяляне, ка-





лі б я не напісаў ім петыцыі? Як я глядзеў бы ў вочы сваім вучням, калі б яны ведалі: «Наш настаўнік пабаяўся, спужаўся начальства»?

Сяброўская бяседа зацягнулася далёка за поўнач. Засталіся ў школе толькі Алесь, Нічыпар і Кастусь. Яны гаварылі адкрыта і смела. Ніхто з іх не мог прадбачыць таго, што адбудзецца тут, у гэтым самым пакойчыку, праз тры месяцы і так многа неспадзяванага прынясе кожнаму...

Коратка гісторыя ўсяго, што здарылася тут, такая.

Сябры-настаўнікі дамовіліся сабрацца ў Мікалаеўшчыне на сходку 25 чэрвеня (потым збор перанеслі на 9 ліпеня). Канспіратыўнага вопыту ні ў кога не было. Ехалі настаўнікі цэлымі групамі, хто восьмага ўвечары, а большасць дзевятага раніцай. Іван Фёдараў прыкаціў на веласіпедзе. Пра чалавека, які ехаў на двух дзіўных колах, было гаворкі па ўсёй ваколіцы на цэлы тыдзень! Калі б гэта збіраліся толькі настаўнікі-мікалаеўцы, то нічога дзіўнага — едуць хлопцы на лета да сваіх бацькоў. А то ішлі і ехалі незнаёмыя настаўнікі. Аб тым, што гэта іменна настаўнікі, можна было лёгка здагадацца па іх вопратцы, якая сведчыла, што гэта не сяляне і не сапраўдныя паны. Чаго яны едуць, куды? Свержанскі валасны старшыня Восін Сянько адразу змікіціў, што настаўнікі задумалі нейкую крамолу, і данёс земскаму. Той даў загад мясцоваму станавому прыставу «накрыць» настаўнікаў. Загад спазніўся: настаўнікі паспелі правесці на беразе Нёмана сходку і вярнуліся назад у Мікалаеўскую школу. Пакуль сакратар сходкі Аляксандр Райскі напісаў пратакол, а настаўнікі падпісалі яго, было ўжо за поўнач. Выстаўленыя настаўнікамі для аховы пасты разышліся. Вось тады і прымчаліся конныя стражнікі на чале са станавым прыставам Гаўрылавым і ўраднікам Кабяком і акружылі школу.

Настаўнікі былі ў гэтым самым пакойчыку, калі сюды ўварваўся ўраднік і схапіў са стала падпісаны пратакол і іншыя паперы. Здарылася ўсё гэта так неспадзявана, што хлопцы на нейкую хвіліну разгубіліся.

Але раптам у начной цішы пачулася трывожнае:

— Бом-бом! Бом-бом!

Нехта здагадаўся забрацца на царкоўную званіцу і падняў на ногі людзей. Мікалаеўцы, як на пажар, прымчаліся з вёдрамі і бусакамі к школе і акружылі стражнікаў. Натоўп ваяўніча шумеў:

— Хто вас прасіў сюды, архангелы?

— Прэч адсюль, а не дык рэбры палічым!

Варожыя адносіны людзей да стражнікаў выратавалі настаўнікаў ад арышту. Станавы прыстаў са сваімі ваякамі даў драла з вёскі. Час быў неспакойны, з народам лепш не задзірайся.

Раніцою ў не вельмі вясёлым гуморы пакінулі настаўнікі Мікалаеўшчыну і раз'ехаліся па сваіх школах. Кожны разумеў, што перад начальствам за такія рэчы прыйдзецца трымаць адказ. У дырэкцыі народных вучылішчаў цырымонія кароткая: дадуць воўчы білет у зубы — і не знайся! Аднак, несучы трывогу і неспакой у сэрцы, сябры суцяшалі адзін другога і наказвалі:

— Галоўнае — не падаць духам!

— А ты, Стары, напішы пра тое, як настаўнікі на з'езд сабраліся і што з гэтага выйшла!

Кастусь адкрыў у сваім характары адну немалаважную рысу. Калі навісае пагроза расправы, калі над ім збіраюцца цёмныя хмары, дык напінаецца нейкая струна, што звычайна дрэмле ў душы, расце энергія і прага да барацьбы. Тады нічога не страшна, тады ён можа



брацца загрудкі з любой злыбядою, з любым праціўнікам, што становіцца ўпоперак дарогі. Такі настрой быў у Пінкавічах. Такое адчуванне з'явілася цяпер, калі зноў навісла пагроза, што начальства на гэты раз не даруе ўдзелу ў настаўніцкім з'ездзе. Няхай! Нічога не страшна, ніякія вятры і буры не сагнуць яго. Толькі ў барацьбе чалавек набіраецца сілы, моцы і гарту. Жыццё — гэта бясконцае змаганне за сваё чалавечае права, за вялікую чалавечую праўду. Па зямлі трэба крочыць смела, ісці наперад, не зважаючы на перашкоды. Толькі тады ты даб'ешся перамогі, прыйдзеш да сваёй мэты, убачыш жаданыя далягляды.

Аднак цешыць сябе надзеяй доўга не прыйшлося: у скорым часе ён атрымаў праз валасць паведамленне, што дырэкцыя народных вучылішчаў Мінскай губерні звальняе яго з пасады. Матывіроўкі ніякай. Усё і так зразумела. Гэтую вестку Кастусь сустрэў даволі спакойна. Што ж, іншага чакаць было нельга! Хоць вестка невясёлая, але кончылася няпэўнасць. Цяпер ясна, што рабіць: трэба збіраць манаткі, здаваць школу — і ў дарогу. Куды? Пакуль што дамоў, у Смалярню, а там будзе відаць.

## ДОМА

У самае жніво Кастусь вярнуўся ў Смалярню. Сядзець у Верхмені не выпадала: пачыналася самая гарачая пара ў гаспадарцы, а ён тут б'е лынды. Трэба ехаць зарабляць сабе на хлеб, бо калі настаўніцкай пасады не дадуць, дык дзе ты інакш на зіму прыткнешся, як не ля сваіх?

Шчыра кажучы, Кастусь адчуваў сябе перад маці вінаватым. Што ні кажы, апраўдання яму няма. Маці, усе дамашнія чакалі ад яго падмогі. Быў бы на службе, то і тут, у леснічоўцы, лягчэй. Вось мінулую зімку жылі з ім Юзік і Міхась. Не так цесна было за сталом у леснічоўцы. Сямейка, дзякаваць богу, вялікая — хлеба і да хлеба толькі давай. Вопратку яшчэ трэба справіць, нейкі абутак. Вунь і дзяўчаты падымаюцца на ногі, ім уборы трэба. А дзе гэта ўсё возьме бедная ўдава? Калі і ёсць якая за душою капейка за тую прададзеную зямлю, то на яе дзірак многа. А ён, сараматнік, замест таго, каб дапамагчы маці, сам прыехаў на сіроцкі хлеб.

Каб неяк апраўдацца перад маці, братамі і сёстрамі, мець маральнае права на кавалак хлеба і лыжку поліўкі ў леснічоўцы, Кастусь палажыў на стол дваццаць пяць рублёў.

— Сынок, ты ж цяпер без службы,— ціха прамовіла маці.— Можа, табе самому грошы спатрэбяцца? Мы ў цябе нічога не просім.

— Не, мама! Няхай будзе мая доля, мой узнос у хату. Відаць, прыйдзецца зімаваць з вамі, калі не трапіцца якая служба.

Атрымалася неяк само сабою так, што адпала патрэба тлумачыць маці, чаму ён прыехаў дахаты і не трымаўся настаўніцкай службы. Яму спачатку думалася, што маці заплача і тады прыйдзецца перад ёю апраўдвацца і даказваць, што ён не мог інакш зрабіць, бо яго душа рвецца да справы і змагання за лепшую долю. Хіба ён мог застацца збоку, калі ўсе яго сябры-настаўнікі сабраліся, каб сказаць слова ў абарону свае чалавечае годнасці? Як-ніяк ён чатыры гады адслужыў, паспытаў не вельмі салодкага настаўніцкага хлеба, пабываў ажно ў трох школах, гэта значыць, жыў у трох вёсках. І ўсюды адна бяда, адны балячкі, усюды пануе беззямелле, адсюль беднасць, зарабіць якую капейчыну селяніну ў Люсіне ці Верхмені няма дзе. Хлап-

чукі горнуцца да школы, ідуць вучыцца грамаце і дзяўчаткі, але ў хаце няма лішняй капейкі, каб справіць шкаляру боты ці світку. Вучні восенню і зімою апранаюцца ў бацькавы неданоскі, душацца нішчымніцай, часта хварэюць, прапускаюць урокі.

Пасля чатырохгадовай працы ў школе Кастусь пераканаўся, што вёска абуджаецца. Гэта асабліва паказалі падзеі з петыцыяй Скірмунту. Ніхто не падбухторваў пінкавіцкіх сялян, яны самі надумалі вярнуць сваё права на сервітутныя землі і балотныя азёры і рушылі грамадою ў Альбрэхтава. Можа, і памылку зрабіў Кастусь, што прапанаваў ім не ісці ўсім разам, а паслаць сваіх прадстаўнікоў, а потым напісаць петыцыю. Калі б сяляне грамадою рушылі на панскі маёнтак, то, магчыма, Скірмунт спужаўся б і задаволіў патрабаванні сялян. Хто яго ведае, як яно лепш...

Пад вечар прыйшоў з абходу Уладзік.

— Бяры ў памочнікі,— і жартам і ўсур'ёз сказаў Кастусь.— Іншай службы, відаць, мне цяпер не дадуць.

— Нічога, хлеба і бульбы хопіць. А да хлеба і бульбы во ёсць! — Уладзік высыпаў з лесніколўскай торбы кучу чорнагаловых баравікоў.

Тыя грыбы звялі Кастуся. У нядзелю ён не пайшоў у Мікалаеўшчыну, каб сустрэцца са знаёмымі хлопцамі, а разам з Юзікам і Міхасём зрабіў паход па грыбных баравінах. Утрох кошык набралі, было ясна, што па-сапраўднаму грыбы яшчэ не высыпалі. Дый у Смалярні не было такіх хвацкіх мясцін, як у Альбуці. Потым набеглі дамашнія справы. І толькі ў наступную нядзелю Кастусь пабачыўся з Сымонам Самахвалам.

Пайшоў Кастусь у Стоўбцы на пошту. Можа, хто прыслаў пісьмо? Няма! Выйшаў на ганак і задумаўся: ісці ў Мікалаеўшчыну ці адкласці на другі дзень? Ажно бачыць: ссутуліўшы плечы, ідзе Самахвал.

— Гэй, Імбрычак, пачакай! — гукнуў Кастусь.

Сымон спыніўся, азірнуўся і радасна прывітаў сябра. Хлопцы завярнулі да Шварца ў шынок.

— Прыехаў і не паказваешся,— ушчуваў Кастуся па дарозе Сымон.— Расказвай, як жывеш, што думаеш рабіць і дзе зімаваць? Я свой імбрычак апусціў долу. Сумна аднаму.

Самахвал паведаміў навіны. Сянкевіч уцёк не адзін, а з Нічыпарам Янкоўскім. З Германіі было ад іх пісьмо, абяцалі напісаць на імя следчага, што ўсю віну бяруць на сябе.

Яшчэ Сымон сказаў, што стражнік са Свержані Восіп Клімовіч, які прыязджаў разганяць з'езд, 10 ліпеня ўтапіўся ў Нёмане, а станавога пристава Гаўрылава звольнілі са службы за тое, што спужаўся мікалаеўцаў і не арыштаваў настаўнікаў.

— Ты ж, відаць, не ведаеш яшчэ, які трафей трапіў Сянкевічу ў тую памятную ноч? Знайшоў Алесь каля школы нагайку. Згубіў яе нейкі стражнік, гарцуючы пад вокнамі школы. Казаў Сянкевіч, што возьме з сабою тую нагайку, каб паказаць усяму свету, чым адукоўваюць настаўніка ў Расіі,— закончыў навіны Сымон.

## ШКОЛА

Сябры сустракаліся часта: калі не кожны дзень бачыліся, то праз дзень — два. Не прыйдзе Сымон у Смалярню, дык Кастусь шпарыць у Негертава. Часам сустрэнуцца ў Шварцавым шынку, закажуць піва з тараном і праседзяць паўдня. Самахвал нават некалькі разоў заставаўся начаваць у леснічоўцы: асенні дзень кароткі, а хлюпаць па гразі ў дзіравых ботах няма ахвоты. Зрэдку і Кастусь заставаўся нанач у Негертаве. Часцей ён гэта рабіў тады, калі былі нейкія навіны, якія трэба было абмеркаваць разам.

Палягуць хлопцы ўдвух і ўспамінаюць семінарскае жыццё і настаўніцкую службу. Нагаворацца і нарагочуцца ўволю.

— Помніш, як я Міхайлоўскага ўгнявіў? — пачынаў Кастусь.— Хоць раз ды засердаваў Павел.

— Са сталёвай вытрымкай быў хлапчына,— згаджаўся Сымон.— Дзе ён працуе, у школе?

— Не ведаю. Можа, у чыноўнікі якія падаўся. За адзін почырк яго ў любую канцылярыю возьмуць. А дзе Зяневіч? Неяк я яму свой верш прачытаў і сказаў, што напісаў яго Лермантаў. Як Зяневіч хваліў той верш! І глыбіня думкі, і музыка радка... А другі раз верш Лермантава выдаў за свой. Спраўна ён паклаў Лермантава на абедзве лапаткі: і тое кепска, і думка не зусім ясная...

Сябры жылі ўспамінамі і гаварылі пра былое, бо сённяшняе не радавала і не магло радаваць іх. Праўда, Якаў Бязмен прысылаў з Карэліч бадзёрыя пісьмы і абнадзейваў іх, што дырэкцыя народных вучылішчаў нібыта хутка пакліча і іх на службу, як нядаўна запрасіла звольненых настаўнікаў Івана Лапцэвіча і Аляксандра Райскага. Чакалі хлопцы, калі не свята на сваёй вуліцы, дык хоць нейкай прасветлінкі, якая ажывіла б іх збалелыя душы, але не маглі дачакацца.

Ніякіх навін не прыносіла і газета «Голос провинции»: не чуваць было, каб хто з настаўнікаў адмовіўся ад прызначэння на месца, аб'яўленае пад байкотам. Заставалася адно: чакаць, калі паклічуць на следства, чакаць, як вол доўбні... Гэтае абрыдлівае і няпэўнае чаканне было горш і цяжэй, можа, за тую кару, якая была ім наканавана.

Аднойчы Кастусь прыбег у Негертава вельмі ўсхваляваны і ўзрадаваны. Сымон з бацькам якраз малацілі ў гумне. Такім вясёлым і ўзбуджаным Самахвал не бачыў свайго сябра даўно.

— Ты, Стары, можа, прызначэнне атрымаў? — выйшаў Сымон з цэпам у руках.— Дый, відаць, не абы-куды, бо ўвесь ззяеш...

— Прызначэнне не прызначэнне, але глядзі,— паказаў Кастусь сябру вялікі канверт і дастаў з яго лісткі з друкаваным тэкстам і малюнкамі.

— Беларуская газета? — здзіўлена прамовіў Сымон, прабегшы вачыма першую старонку.

Гэта былі два нумары беларускай газеты «Наша доля». Кастусь атрымаў іх учора з Вільні. Рэдакцыя прыслала яму свае першыя два нумары: адзін выйшаў 1 верасня, другі 15 верасня 1906 года.

Нарэшце, значыцца, пачала выдавацца доўгачаканая беларуская газета. На яе Кастусь ускладаў многа надзей. Радаснае хваляванне ахапіла настаўніка. Чытаў, не спяшаючыся, уважліва ўдумваўся і ўзважваў кожнае слова, некаторыя месцы чытаў уголас: «Што будзе далей?.. Так пытаюцца мужыкі ў сваіх курных хатах, так пытаецца працавітая беднатa, і з трывогай і надзеяй паглядаючы ў заўтрашні дзень, чакае таго вялікага моманту, калі сонца свабоды засвеціць і над нашым абяздоленым краем... Цяпер бунтаўшчык — увесь стомільённы цёмны галодны народ». Усё ў газеце было цікавае і новае.

Беларускае слова ў газеце, беларускае перыядычнае выданне было само па сабе радаснай неспадзяванкай. А для Міцкевіча гэта было двайное свята: на сёмай старонцы першага нумара «Нашай долі» ён раптам убачыў свой верш «Наш родны край». А пад ім, як і было дамоўлена, стаяў подпіс «Якуб Колас». Гэты і некаторыя іншыя творы

ён пакінуў у Мінску, калі ездзіў туды ў жніўні на настаўніцкую сходку. Значыцца, дайшлі яго вершы да віленскай рэдакцыі!

Кастусь углядаўся ў газету, ніяк не мог даць веры, што гэта яго верш. Надрукаваны, ён, здаецца, цяпер гучыць неяк інакш, больш складна і прыгожа. Нібыта і не сам пісаў! Стаў чытаць далей і ў другім нумары натрапіў на свой верш — «Асенні вечар» і апавяданне «Слабода».

Прызнацца, даўно ўжо Кастусь не перажываў такога радаснага адчування. Праца яго не прапала марна, а пайшла ў шырокі свет.

— З цябе, браток, магарыч! — радаваўся і Самахвал.

— Чакай, чакай, калі пашанцуе, дык і Карусь у лапцях затанцуе,— загадкава прамовіў Кастусь.— Адгадай, якія ў мяне яшчэ навіны? Ніколі не ўгадаеш. У Смалярні школа будзе! Не верыш? Праўда, вучняў збярэцца не так многа. Але на хлеб зараблю, зіма хутчэй пройдзе, а там бог-бацька...

●

Пачалося ўсё з таго, што неяк сустрэў дзядзьку Антося старшы чыгуначны рабочы Рэвут і пытаецца:

— Ці не ўзяўся б ваш Кастусь вучыць маіх Яся і Зосю? Вядома, не толькі маіх дзяцей. Абходчык Качановіч таксама сваіх дзяўчатак пашле і яшчэ хто-небудзь...

У той жа дзень дзядзька сказаў пляменніку пра сваю гаворку з Рэвутам. Тады і Уладзік успомніў:

— А ў мяне Пракаповіч пытаўся.

Праз які тыдзень пасля гэтай гаворкі прыйшлі ў леснічоўку Рэвут з Качановічам, закурылі дзядзькавага мультану, пагаварылі пра надвор'е: хапіліся раннія замаразкі, учора ўжо вучыліся лятаць белыя мухі. Пасля Качановіч і кажа:

— Мы хацелі з панам настаўнікам пагаварыць. У нас такі інтэрас... Пасылаць дзяцей у Стоўбцы, наймаць там ім кватэру не выпадае. Хадзіць жа зімою за блізкі свет...

Пагадзіліся на тым, што Кастусь бярэцца займацца з вучнямі ўсю зіму, гэта значыць пяць месяцаў. У школу будуць хадзіць шэсць хлопцаў і тры дзяўчынкі, усе яны з бліжэйшых вёсак. За фатыгу настаўніку з кожнага вучня бацькі будуць плаціць па тры рублі ў месяц. Ну, а каб кожны са шкаляроў не дарэмна еў хлеб і марна не пераводзіў бацькавы грошы, няхай пане настаўнік мае добрую лінейку, а калі што — накажа дадому...

— Нічога, я думаю, і без гэтага абыдземся,— усміхнуўся Кастусь.

Прайшло яшчэ колькі дзён. Дзядзька Антось з Пракаповічам агледзелі печ і дубальты на другой палавіне леснічоўкі, павыносілі бочкі з гуркамі і капустай. Потым пабялілі святліцу. Маці з дзяўчатамі добра вышаравалі падлогу. Засталося паставіць доўгі стол і дзве лавы. Тут пастараўся дзядзька Антось, памагаў яму сталярыць сам настаўнік. Выштукавалі сталярку дай божа! Можа, іх мэбля выйшла крыху груваcткая, але затое была трывалая і моцная.

У той дзень, калі меліся першы раз прыйсці ў новую школу вучні, Кастусь апрануўся па-святочнаму. З самага ранку ён думаў пра тое, як прывітае сваіх вучняў, што скажа ім на пачатку вучобы. Цяпер жа не ў казённай школе, бацюшка не будзе перад заняткамі служыць малебен, інспектар не прыедзе правяраць, як ён вучыць. Тут ён сам — поўны і поўнаўладны гаспадар. Сёння ўрачысты дзень і для вучняў і,



можа, яшчэ больш для настаўніка. Кастусь палюбіў настаўніцкую службу, не мог уявіць свайго жыцця без школы, вучняў і кніг.

Вось і надышла тая радасная і ўрачыстая хвіля, калі настаўнік увайшоў у святліцу, дзе яго чакалі дзеці. Яшчэ на хаду Кастусь вачыма падлічыў, колькі іх сабралася. Чатыры на адной лаве, пяць на другой.

Кастусь прайшоў на сваё месца, прывітаўся з дзецьмі і ўважліва акінуў іх позіркам. Трое дзябёлых хлапцоў, ім ужо гадоў па пятнаццаць-шаснаццаць, а двое зусім малеча, не больш васьмі-дзевяці год. Усе пазіраюць насцярожана.

Кастусь загаварыў спакойна і ласкава:

— Дарагія дзеці, вы прыйшлі вучыцца. Школа наша, як вы бачыце самі, невялікая, і вучняў у ёй будзе не так многа. Вы павінны навучыцца чытаць і пісаць, а таксама навучыцца думаць. Не бойцеся задаваць мне пытанні. Агульнымі сіламі мы будзем старацца адказаць на іх. Пытайцеся ў старэйшых, пабольш чытайце. Гэта пашырыць вашыя веды, вы будзеце ведаць, што робіцца на свеце.

Усе слухалі ўважліва. Рыжаваты дзяцюк нешта хацеў сказаць суседу, але той штурхнуў яго локцем пад бок: «Ціха!»

— Жыў у Францыі некалі адзін разумны чалавек. Ён сказаў: «Пасля хлеба самае важнае для народа — школа». Вашыя дзяды і нават многія бацькі не хадзілі ў школу, не навучыліся грамаце. А непісьменны чалавек, як сляпы. Бацькі вашыя хочуць, каб вы знайшлі сабе лепшую дарогу ў жыцці, а для гэтага трэба авалодаць навукай. Тады вам лягчэй будзе ваяваць са злом і несправядлівасцю, якая яшчэ пануе на свеце. Прыйшоў, нарэшце, такі час, калі людзі ў Расіі не хочуць па-ранейшаму цягнуць ярмо прыгнёту. Рабочыя патрабуюць новага жыцця, бунтуюцца салдаты і матросы, вёска дабіваецца зямлі і волі. Пакуль што штык і нагайка мацней народнай волі. Але гэта толькі да пары, да часу. Пакуль народ цёмны, яго лягчэй трымаць у пакоры... Дарагія дзеці! Любіце кнігу, яна навучыць вас разумець жыццё, яна дасць вам сілу і розум. Няхай засвеціць у вашае акенца сонца асветы, няхай вашая жыццёвая дарога не зарасце дзірваном... Смела ідзіце ў жыццё, дабівайцеся справядлівасці, не схіляйце галавы перад злом і нядоляю. Кніга, асвета дапамогуць вам жыць шчасліва і радасна...

Сам Кастусь застаўся задаволены сваёй уступнай размовай, бо не крывіў душой, гаварыў без аглядкі на тое, што нехта данясе інспектару ці ў дырэкцыю народных вучылішчаў.

Потым ён гаварыў з кожным вучнем, даваў яму чытаць ці рашыць вусна невялічкую задачку. Перш чым запісаць вучня ў свой журнал, хацелася хоць збольшага ведаць яго падрыхтоўку. Хлопцы бянтэжыліся, чыталі кепска, задачкі рашалі яшчэ горш...

Мінуў тыдзень, другі, і Кастусь як мае быць уцягнуўся ў работу школы. З вялікай радасцю і нават захапленнем аддаваўся працы. Ён толькі цяпер зразумеў, што без школы і дзяцей яму было б сумна і цяжка зімаваць тут, у глухім кутку Наднямоння. Сябры даўно раз'ехаліся, хто ў школу, хто падаўся на іншыя заработкі.

Што ён цяпер рабіў бы адзін, каб не школа? А так, братачка мой, і душы задаваленне і сякую-такую капейчыну прынясе ў хату. Зіма пройдзе ў клопатах пра школу, а там, глядзіш, следства пра з'езд закончыцца, і, можа, нікога ў суд не пацягнуць. З усіх толькі ўзята падпіска аб нявыездзе. Кастусь таксама падпісаўся, што нікуды не паедзе са Смалярні. А куды паедзеш, куды? Праўда, за кожным настаўнікам — удзельнікам з'езда ўстаноўлены яшчэ тайны нагляд. Пра

гэта яму ніхто не казаў, але гэта было і так добра відаць: не праходзіла ніводнага тыдня, каб ураднік ці які стражнік не зазірнуў у леснічоўку.

Настаўнік на гэтыя «візіты» не звяртаў асаблівай увагі. Усё крамольнае — нелегальная літаратура, лістоўкі, якія друкаваў на гектографе Бязмен у Карэлічах, пісьмы сяброў — было прыхавана надзейна ў лесе пад вываратнем.

Трывожыла іншае. Не так даўно Міцкевіч атрымаў пісьмо ад Белазерчыка. Цяперашні настаўнік Верхменскага народнага вучылішча прасіў, каб Кастусь адмовіўся ад байкоту свайго месца, а не, дык ён, Белазерчык, будзе скардзіцца самому мінскаму губернатару.

Заняты школьнымі справамі, Кастусь некалькі тыдняў не быў у Стоўбцах. Дарога пасля дажджоў раскісла так, што ні праехаць было, ні прайсці... А калі настаўнік нарэшце зайшоў на пошту, Цвілы неяк загадкава падміргнуў яму і сказаў:

— Пачытай, пане педагог! Вунь на апошняй старонцы.

Кастусь узяў газету «Голос провинции» ад 28 кастрычніка. Белазерчык пісаў у рэдакцыю, што яго прымушалі пакінуць месца, але ён не думае гэтага рабіць. Прозвішча Міцкевіча ўпаміналася толькі адзін раз. Тон даволі стрыманы. Але ў дырэкцыі народных вучылішчаў і, вядома, у губернскім праўленні ўзялі яшчэ раз на заметку Міцкевіча. Добра, што не сваёй рукой ён запаўняў тую адносіну Часовага бюро, адрасаваную Белазерчыку...

Асенні дзень кароткі, не аглянешся — ужо вечарэе. Увесь час, ад відна і да змяркання, Кастусь аддаваў вучням, а вечарамі пісаў. Пісаў многа. З Вільні прасілі прысылаць вершы, апавяданні, гумарэскі.

Кастуся радавала яго школа, бо за якія два месяцы яму многае ўдалося зрабіць. Цяпер у школе дзесяць платных вучняў. Гэта ў асноўным дзеці чыгуначнікаў, але некалькі чалавек ходзіць з Яблонаўкі і Задвор'я. Трое сваіх: сястра Алена, браты Юзік і Міхась. Усяго набіралася трынаццаць — якраз як сесці на адной і другой лаве.

Ужо цяпер настаўніку было ясна: двух-трох хлопцаў можна смела рыхтаваць да экзаменаў за народнае вучылішча. Быў прыемна задаволены ён і сваімі «першакамі». Многія з іх усіх літар не ведалі, а цяпер чыталі, як рэпу грызлі. Асабліва Гэля Качановіч. Вось што значыць трымаць пад сваёй увагай кожнага вучня кожны дзень. Дый на дзяцей нельга крыўдаваць: той добры працавіты настрой, якім жыў настаўнік, перадаваўся ім.

Яшчэ лепш ішлі літаратурныя справы. Цяпер у Вільні выдавалася беларуская газета «Наша ніва». На яе старонках ахвотна друкавалі Якуба Коласа, Дзядзьку Каруся, Тамаша Булаву, К. Альбуцкага. З рэдакцыі чамусьці патрабавалі, каб Міцкевіч вершы падпісваў адным псеўданімам, прозу — другім, а артыкулы і допісы — трэцім. Толькі пазней даведаўся Кастусь, чым дыктавалася гэтая невялічкая рэдакцыйная хітрасць: няхай чытач думае, што ў газету пішуць не адзін, а некалькі аўтараў.

З вялікай ахвотай, з нейкім унутраным гарэннем, як некалі ў Пінкавічах і Верхмені, праседжваў ён вечары, а часам і ночы. Пісалася лёгка, пісалася многа. Вершы свае ён даўно вынасіў, над імі не трэба было доўга сядзець, яны ліліся ракою з яго сэрца. Бывалі такія нумары газеты, дзе змяшчаліся па два, а то нават і па тры яго матэрыялы. Гэта бадзёрыла маладога паэта і надавала яшчэ больш жадання пісаць. Праўда, некаторыя найбольш смелыя і вострыя вершы траплялі не ў газету, а ў рэдакцыйны кош. Ды нічога! Гэта не бянтэжыла Кастуся, ён перапісваў іх у асобны сшытак. А можа, калі спатрэбяцца і гэтыя творы.



Дзядзька Антось часам увечары даставаў з-пад бэлькі газеты, садзіўся бліжэй да газоўкі і чытаў:

На камінку корч пылае;
Каля печы дзед сядзіць,
Бацька лапці папраўляе,
Маці ніткі села віць...

Дзядзьку абступалі дзеці, падсоўвалася з кудзеляю маці. Чыталі не толькі Кастусёвы вершы, але ўсё цікавае, што было ў газеце...

## ЗНОЎ ПЯРЭБАРЫ

Панове з Нясвіжскай княжацкай ардынацыі і падпанкі, што аціраліся каля начальства ў Акінчыцкім лясніцтве, коса і падазрона паглядалі на Кастуся і яго школу ў Смалярні.

Зрэдку заглядаў у леснічоўку ўраднік. Часцей, чым звычайна, пачаў наведвацца аб'ездчык Абрыцкі. Ён невысокага росту, таўсматы, у вялікай заечай шапцы і хвацкім кажушку. У яго вялікія рыжаватыя вусы, у роце заўсёды дыміць крывая люлька. Прыязджае Абрыцкі верхам у сядле, а ў самыя маразы на важнецкім вазку.

Аб'ездчык лёгка злазіў з сядла, прывязваў да шула свайго каня, заходзіў на кухню, кашляў у кулак і пытаўся, дзе настаўнік, хоць сам чуў Кастусёў голас: у святліцы ішлі заняткі. Убачыўшы аб'ездчыка ці яго каня, настаўнік адпускаў дзяцей на перапынак, а сам выходзіў пагаварыць з Абрыцкім.

Аб'ездчык паводзіў сябе не па-людску: стаяў у парозе, не хацеў садзіцца, хоць дзядзька выдыгаў перад ім, як толькі мог:

— Проша, пане Абрыцкі, проша! Такі дарагі і жаданы госць...

Калі заходзіў Кастусь, аб'ездчык кожны раз пачынаў гаворку адным і тым жа запытаннем:

— Ну, як жывеш? Што робіш?

Відавочна, Абрыцкі атрымаў даручэнне сачыць, чым займаецца звольнены з пасады настаўнік. Гэтая місія была аб'ездчыку не вельмі па душы, але той, хто даваў даручэнне, не лічыўся з яго воляй. Крыўдзіла Абрыцкага і тое, што яму, пажылому ўжо чалавеку, даводзіцца пасвіць жаўтадзюбае птушанё, якое не баялася царскіх улад і не вельмі шанавала панства, што давала прытулак і хлеб яго сям'і. Кажуць, яблыка ад яблыні далёка не адкоціцца, а бач яно як... Міхал быў ляснік добры, служака хоць куды, а яго сын што думае. Вось і вучы мужыка на сваю галаву.

Напрадвесні адбылася ў Кастуся сутычка з аб'ездчыкам. Прымчаў Абрыцкі конна на падворак, накінуў повад на шула і, не прывітаўшыся, пачаў яшчэ з парога лаяць і бэсціць Уладзіка апошнімі словамі: той нешта не ўнаравіў, не так зрабіў, як яму загадаў аб'ездчык. Малыя са страху схаваліся на печ, за камінак. Кастусь, які займаўся з вучнямі ў святліцы, не вытрымаў, выйшаў і сказаў:

— Пасароміліся б, пане аб'ездчык, так распускаць пры дзецях язык!

— Што?! Як ты сказаў? — вызверыўся Абрыцкі на Кастуся.

Настаўнік смела ступіў крок наперад і спакойна, але рашуча прамовіў:

— Зачыніце, калі ласка, пане аб'ездчык, дзверы з таго боку!

Абрыцкі не чакаў такога павароту, ён падаўся назад, спатыкнуўся аб парог і, як ачмурэлы, выскачыў з хаты...

Пасля гэтага здарэння аб'ездчык пачаў нагаворваць лясічаму Рачкоўскаму, што ў Смалярні знайшоў прытулак «бунтаўшчык» і «забастоўшчык», і чакаў толькі выпадку, каб прычапіцца да Уладзіка і выгнаць яго са службы. Надыходзіў зручны момант для гэтага: вясною ў лясніцтве ішла ператасоўка леснікоў, іх пераводзілі з месца на месца. Калі ж пастарацца не проста перавесці Уладзіка Міцкевіча, а вытурыць яго з княжацкіх леснікоў, то адпадзе сам сабою абавязак дакладваць жандармскаму падпалкоўніку Солату пра настаўніка.

Доўга меркаваць, як гэта зрабіць, Абрыцкаму не трэба было. З восені ў лесе каля Цёмных Лядаў і Арцюхоў хадзіў паранены кімсьці ў нагу лось. Уладзіка цягалі да ляснічага на допыт, але ўсё абышлося: гэта была не яго віна.

Усю зіму кульгавага лося не было відаць, а нядаўна Абрыцкі ўбачыў яго каля Сверанава. На чарговай сесіі аб'ездчык накінуўся на Уладзю:

— Падбіты лось твая работа?

— Дальбог, паночку, не!

— Чакайце, чакайце! — прыгразіў Абрыцкі.— Ты і твой вельмі разумны брацёнік мяне папомніце...

Расказаў Уладзік дома пра гэту размову.

— Не зважай от,— махнуў рукой дзядзька Антось.— Дрэнчыць яго нейкая трасца...

Восенню ў лясніцтве не прыйшлі да пэўнага скутку адносна лася. Цяпер Абрыцкі зноў падварушыў гэтую справу, заявіў Рачкоўскаму, што ў яго ёсць дакладныя звесткі, чыіх рук гэта работа. Праўда, прозвішча вінаватага ён не назваў, але леснікі ўжо здагадваліся, каго ён мае на ўвазе.

Стары панскі служака Уладзіслаў Абрыцкі цвёрда вырашыў прагнаць Уладзю. Да гэтага ён рыхтаваўся старанна і ўмела. Многае залежала ад обер-аб'ездчыка Юзіка Арцюшэўскага. Трэба было яму ўбіць у галаву, што Міцкевіч кепска выконвае свае абавязкі, не даражыць службаю. Нібыта ён не аднаго лася ўлажыў, а што да сарнаў, то тым і ліку няма...

Хітраму старому воўку Абрыцкаму лёгка ўдалося настроіць Арцюшэўскага супраць Уладзіка. Праўда, той і сам быў крыху вінаваты. Неяк пайшоў Уладзя ў абход і, як на тое вяло, не ўзяў з сабою трубы. А тут адкуль ні вазьміся тройчы затрубіў у рог старшы, выклікае да сябе. У такім выпадку леснiку трэба падаць голас сваёй трубой і спяшацца на панскі кліч. Уладзіку нічога не заставалася рабіць, як загалёкаць на ўвесь лес:

— Чую! Чую! Іду, паночку!

Кінуўся ён напрарэсцігі, а снег глыбокі ў кустах, правальваешся па пояс. Пакуль выйшаў на дарогу, рог чуваць ужо з другога боку, недзе каля Задвор'я. Кінуўся туды, упрэла спіна, твар заліло потам. За хвойнікам, каля вёскі, чакаюць яго конна Арцюшэўскі з Абрыцкім.

— Ты чаму, галгане, не адказваеш на мой сігнал? — накінуўся обер.

— Труба сапсавалася, паночку! — не знайшоў што іншае сказаць Уладзік.— Бляхару аддаў паправіць.

Нічога яны не адказалі, адразу пагарцавалі ў леснічоўку. Уладзік, змораны і збянтэжаны, паплёўся за імі ззаду.

Абрыцкі ўскочыў у хату і закрычаў:



— Дзе труба?!

У хаце ляжаў на палку хворы дзядзька Антось. Ён спрасонку адказаў:

— Вунь, на сцяне, паночку...

Абрыцкі схапіў трубу, кінуўся да Уладзіка і пачаў тыцкаць той трубою яму ў грудзі:

— Хлусіш, хаме. Ты ніколі, галгане, праўды не кажаш!..

Цяпер Абрыцкаму заставалася ўламаць бліжэйшага Уладзікавага суседа — лесніка Ігната Лёсіка, які меў пасаду ў Арцюхах. Разлік аб'ездчыка быў і просты, і хітры.

Ігнат Лёсік даводзіцца Уладзіку Міцкевічу дзядзькам, ён малодшы брат яго маці. Трэба прымусіць Ігната пасведчыць, што Уладзік падстрэліў лася. Толькі тады ляснічы паверыць. Ігнат спачатку нават і не даваўся гаварыць. Тады аб'ездчык змяніў тактыку і пайшоў на такі крок:

— А ці ведаеш ты, чалавеча, што твой пляменнічак сказаў мне, што гэта дзядзька Ігнась параніў лася?

— Што? Што Уладзік сказаў? — затрапятаўся збянтэжаны ляснік.— Не, няпраўда! Я не страляў!

Але па тым, як Ігнат Лёсік аднекваўся, хваляваўся і паводзіў сябе ў тую хвіліну, Абрыцкаму стала ясна, што гэта ён спрабаваў забіць лася. Цяпер аб'ездчык насядаў на арцюхоўскага лесніка смела і настойліва. Той быў у яго руках.

— Выбірай адно з двух: або ты пасведчыш, што гэта Міцкевіч вінаваты, або я сам скажу ляснічаму, хто гаспадарыць у княжацкім лесе... Выбірай!

Праз дні тры ў Акінчыцы паклікалі Уладзіка. У сенцах лясніцтва стаялі ўжо леснікі Лёсік і Ліхтаровіч. Уладзік здагадаўся, што рыхтуецца расправа над ім, але якая кара чакае яго, ён яшчэ не ведаў.

Паклікалі Ігната, а праз хвілін дзесяць — Уладзю. За сталом блішчала лысіна ляснічага, тут жа тупаў яго намеснік пан Гедрыновіч. Справа ад стала ляснічага пераступалі з нагі на нагу Арцюшэўскі з Абрыцкім, каля іх, панурыўшы галаву, стаяў Ігнат.

— Хто падстрэліў лася? — падняў лысіну Рачкоўскі.

— Не ведаю! — зрабіў крок да стала Уладзік.— Я не страляў...

— А што ты скажаш? — звярнуўся Гедрыновіч да Ігната.

Лёсік маўчаў, апусціўшы галаву.

— Гавары, не бойся! — насядаў на Ігната Абрыцкі.— Гавары тое, што ты нам нядаўна казаў...

— Ну! — падняўся з-за стала Рачкоўскі.

— Ён! — ціха прамовіў Ігнат і паказаў пальцам на Уладзіка.

— Дзядзька Ігнась, што вы гаворыце? — закрычаў Уладзік.— Як вы можаце браць такі грэх на сваю душу? Перад богам клянуся!..

Але ніхто яго не слухаў. Стаяў Уладзік, як аглушаны, і ніяк не мог прыйсці да памяці. Гэта ж падумаць толькі! Свой чалавек, а якую напасць узводзіць. Божа літасцівы!

Так дзядзька Ігнась дапамог Абрыцкаму выжыць Уладзіка са службы. Прызначэнне ў Смалярню атрымаў Ліхтаровіч, а Міцкевічам хоць з моста ў рэчку. Асабліва перажываў Кастусь. Яму здавалася, што гэта бяда прыйшла ў хату толькі праз яго.

Усе старэйшыя ў леснічоўцы хадзілі, як прыбітыя. Адзін толькі дзядзька Антось не разгубіўся, запрог каня і паехаў у Нясвіж. Вярнуўся ён толькі назаўтра пад вечар. Цераз знаёмых падпанкаў, што служылі пры замку, яму ўдалося выстарацца ўзяць у арэнду княжацкую карчму ў Мікалаеўшчыне, а таксама зямлю і сенажаці пры ёй.

— Ну, то і добра! — сказала маці.— Няхай бог крые і бароніць выслухоўваць больш крыкі Абрыцкага ці якога іншага чорта.

Неўзабаве Ліхтаровіч заняў тую палавіу, дзе была Кастусёва школа. Самі ж Міцкевічы не маглі яшчэ перабрацца на новае месца: Моўша сядзеў у карчме. Праўда, ён абяцаў праз які тыдзень рушыць у дарогу.

Неспадзяваныя падзеі прыскорылі заканчэнне навучальнага года ў Смалярні. Але праца Кастуся не прапала марна: тры вучні тым летам здалі ў Стоўбцах настаўніку Бормату экзамен за народнае вучылішча...

## КАРЧМА

— У каторы раз пярэбары,— наракала маці.— Вось каб быў кавалачак свае зямліцы, то не ганялі б, як Марку па пекле... Можа, і кепска зрабілі, што тады не аселі ў Смальгаўку. Ужо даўно і хату агаралі б там, абжыліся, прывыклі неяк і жылі... А цяпер?

— От, Ганна, на плач вельмі,— суцяшаў кабету дзядзька Антось.— Нам яшчэ пашэнціла. Што мы рабілі б, ты мне скажы, калі б не выязджаў Моўша? А так мы жывем! Абрыцкаму кланяцца не трэба. Зямля добрая. Праўда, раскідана там і сям. Не забывайся і на тое, што можна кусок зямлі выкупіць. Толькі перш нагледзім, дзе лепш, і пачнем з восені ўносіць задатак, а там лесу купім, хату паставім...

— Ты як выведзеш, Антоська, дык выходзіць — добра, што нас выгналі са Смалярні і мы пераязджаем у Мікалаеўшчыну?

— Вядома, добра! — не здаваўся дзядзька.— Рана ці позна, а прыйшлося б кідаць Уладзіку сабачую службу... Крыўдна, што свой чалавек не памагае табе, а топіць цябе. Не чакаў я такога ад Ігнася, але няхай бог будзе яму суддзя... Можа, гэта якраз на шчасце выкіроўваецца... Пажывем гадоў колькі ў карчме, а там за сваю хату возьмемся.

Пераязджалі ў самае разводдзе. Шчасце, што лясная дарога праз Арцюхі не была раз'езджана. Прыехала мікалаеўская радня, падахвоціўся і будучы сусед Юзік Белы, але ўсё роўна за адзін раз на пяці падводах усё не забралі. Здаецца, не так і многа таго скарбу ў хаце, але як пачынаеш укладваць на воз, дык збіраецца ўсякага ламачча. Салома і сена ў гумне, бульба ў варывеньцы, сані пад паветкаю, пустыя кадушкі, бочкі і дзежачкі, варштат у сенцах — усё гэтае і многае іншае начынне засталося ў Смалярні.

У самым пачатку Казённай вуліцы, пры Нёмане, на высокім каменным падмурку здавён-даўна стаяла карчма. Была гэта вялікая будыніна: тры акны пазіралі на вуліцу, тры ўглядаліся ў Нёман, тры выходзілі на шырокі падворак, адкуль быў заезд у стадолу, дзе падарожныя людзі ставілі коней.

Пры карчме здаваліся ў арэнду княжацкія пусткі — зямля і сенажаці ў Русаковічах, Смольні, Пажарніцы, Будах. Моўша наймаў парабка, які абрабляў зямлю, а сенажаці прадаваў мікалаеўцам. За зямлю і сенажаці ён і наскрабаў сотню рублёў, якія плаціў за арэнду. Ён лічыў гэта нявыгадным заработкам і вясною 1907 года кінуў наседжаны кут і падаўся да сыноў, за акіян.

Карчма даўно была без догляду і рамонту. Сцены пакрывіліся, падаконнікі павыгнівалі, столь закурана. У пярэдняй земляная падлога з ямінамі; у пакоях, дзе жыў Моўша з сям'ёю, нібыта паслана падлога. Дошкі пассыхаліся, дзе пагнілі — усюды дзіркі і гразь...

Цэлы тыдзень дзень у дзень кіпела ў карчме работа. Усё мылі, шаравалі, бялілі — добра, што вада бізка: Нёман падыходзіў ледзь не да самага парога. Вокны насцеж — няхай выветрываецца хата, выходзіць кіслы дух. Дома завіхаліся маці і дзяўчаты. Дзядзька Антось, Уладзік і Кастусь таксама не сядзелі склаўшы рукі. Мужчыны перавезлі са Смалярні рэшту свайго дабра, а потым узяліся за плуг і сявеньку.

Пераезд са Смалярні ў карчму, хатнія клопаты выбілі Кастуся на нейкі час з творчай каляіны. Можа, з месяц ці нават больш не браўся ён за пяро: то настрою няма, то часу, то прыйдзе Уладзік Сальвэсяў — таксама звольнены настаўнік — і цягне да знаёмых хлопцаў.

У вёсцы па-ранейшаму была свая «панская» зборня. Пакуль не прыехалі на летнія канікулы мясцовыя настаўнікі, верхаводзіў там дзяк Жыжэйка. Высокага росту, хударлявы з твару, зімою і ўлетку ён хадзіў у нейкай чорнай апранасе з доўгімі фалдамі. Добры піяка і забіяка, востры на слова, дзяк вычвараў такое, што ніяк не стасавалася з яго духоўным званнем.

У Жыжэйкі нічога не было святога. Мікалаеўцы доўга расказвалі, як ён аднойчы ноччу пайшоў трэсці чужыя кашы-бучы, расстаўленыя ў Пастаўніковай луцэ. Дзяк натрос рыбы, але ўрэшце праваліўся ў палонку і ледзь-ледзь выбраўся з яе. Пакуль ускочыў у хату, увесь абледзянеў. Назаўтра — было гэта ў нядзелю зранку — прыходзіць да яго царкоўны стараста і пытаецца, ці не пара званіць.

— Ані дзвэнк! — падняў галаву з падушкі Жыжэйка.— Як бог да мяне — так і я да бога!

Дзяк меў свой гармонік і хвацка іграў на ім. У нядзелю ці якое свята ён гармонік у рукі — і пайшоў па вуліцы. Схіліць галаву набок, рэжа наўдалую, аж мяхі трашчаць, сам падпявае, а часам яшчэ і прытанцоўвае. За ім з крыкам і смехам валіць цэлая чарада дзяцей, але дзяк-гарманіст не зважае на іх.

Быў у яго грамавы бас. Як пачне чытаць «Апостала», дык, здаецца, царква разваліцца. Бывала, збяруцца дамоў настаўнікі перад вялікаднем, сядзяць дзе-небудзь на ганку на дзесятым двары, а дзяку наказваюць:

— Ты ж, братко, чытай на ўсяночнай так, каб і мы чулі...

За яго паводзіны, выгляд, голас і дзікі рогат поп Красоўскі прazваў Жыжэйку Мефістофелем.

Як толькі Міцкевічы пераехалі ў карчму, на трэці дзень прыцягнуўся да іх «пад мухай» дзяк. Ён прыйшоў знаёміцца з Кастусём і прасіцца на кватэру. Пад сакрэтам сказаў настаўніку, што таксама піша вершы, але не мае часу пасылаць іх у газеты. Каб пераканаць Кастуся, дастаў з кішэні лісток і прачытаў:

Самовар на столе кипит,
Пришел Скоробогатый чай пить...

Ні ладу, ні складу не было ў дзяковым «вершы». Прыйшлося далікатна выправадзіць яго з хаты. На развітанне Жыжэйка з крыўдай сказаў:

— Я да вас з добрым сэрцам. Думаў, на кватэру возьмеце, а потым, можа, і сваяком стану. Вунь да той,— паказаў дзяк на Міхаліну,— мог бы хоць заўтра сватоў пасласць...

Пачуўшы гэта, дзяўчына пырснула са смеху і выбегла ў бакоўку. Ну і было ў той вечар жартаў і смеху! Дасталося беднай Міхаліне, дый Жыжэйку, відаць, не адзін раз ікнулася...

# ГІБКАЯ КЛАДКА

Даўно ў карчме не шынкарылі, сам Моўша з жонкай недзе ў Лібаве чакаў свае чаргі, каб сесці на параход, а мікалаеўцы па даўняй звычцы ў суботу ці нядзелю збіраліся на лаўцы каля хаты, дзе пасяліліся Міцкевічы-Альбуцкія.

Так называлі ў вёсцы Кастусёвых бацькоў у адрозненне ад іншых Міцкевічаў — Геравых, Чыжыкавых, Сотнікавых. Трэба сказаць, што ў Мікалаеўшчыне многа было Міцкевічаў, траха не чвэрць сяла...

Так ужо здаўна павялося, што карчма ў вёсцы — гэта месца ўсіх зборышчаў, ігрышчаў і сходак. Тут заўсёды ў святы дзень, а часам і ў будні збіраліся мужчыны пакурыць, пагаманіць, абмеркаваць навіны. Тут канторшчыкі наймалі мікалаеўскіх плытнікаў гнаць плыты, тут пілі барыш, сюды ішлі жанкі шукаць сваіх гаспадароў-пустадомкаў. Хочаш ведаць вясковыя навіны ці знаць, што дзеецца на свеце,— ідзі ў карчму. Там усё пачуеш, усё пабачыш...

Спачатку, як толькі перабраліся ў карчму, дзядзька Антось хацеў раскідаць лаўку. Рагочуць, галёкаюць пад вокнамі, не даюць спаць, а потым махнуў рукою.

Збяруцца мужчыны, кураць, гамоняць пра тое ды сёе, успамінаюць, як ашуквалі Моўшу і выцыганьвалі ў яго кватэрку гарэлкі.

Як хто, а Кастусь быў рады, што каля карчмы па-ранейшаму збіраюцца мікалаеўцы. Па-першае, разам з дзядзькамі ідуць у карчму і мясцовыя настаўнікі, якія з'ехаліся ў родную вёску на лета. І нікому гэта вельмі не кідаецца ў вока. Па-другое, настаўнікам не трэба збіраць людзей, каб пагаварыць з імі. Хіба Сымон Самахвал, які ідзе праведаць сябра, можа прайсці міма мікалаеўцаў? Ён раскажа, чаму цар другую Думу разагнаў, што было ў вёсцы Сетча Ігуменскага павета, куды вядзе Расію Сталыпін, хто такія чарнасоценцы...

Сымон умее гаварыць: дзе жартам, дзе ўсур'ёз. І анекдот раскажа. Гаворыць так, што да яго не вельмі прычэпішся, калі б тут апынуўся і той, каго настаўнікам трэба асцерагацца. Кастусь падыдзе, і гаворка ідзе весялей і жвавей. Карусю Семяняку ці Андроцкаму Казіміру або каму іншаму цікава паслухаць настаўнікаў. У іх можна смела пытацца, хто такія сацыялісты і чаго яны дабіваюцца, што такое канстытуцыя. Калі людзі тут свае, то Кастусь і верш свой прачытае:

Канстытуцыю далі,
Адчынілі дзверы,
І... ў астрог нас павялі,
І таўкуць без меры...

Настаўнікам тады, летам 1907 года, здавалася, што вось-вось зноў падымецца на ногі ўся Расія, толькі трэба адкрыць народу вочы, расказаць праўду... Энергіі і смеласці ў іх хапала. Днём пісалі пад капірку лістоўкі і звароты, а ноччу разносілі па бліжэйшых вёсках. Кастусь з Сымонам складалі лістоўкі самі, заклікалі сялян не плаціць падаткі, а плытнікаў і рабочых-лесарубаў не выходзіць на працу, пакуль ім не павялічаць плату. Пракламацыі, якія траплялі ў Мікалаеўшчыну з Мінска і іншых гарадоў, настаўнікі старанна перапісвалі і пускалі ў людзі бунтаваць Наднямонне.

Ураднік і два стражнікі цікавалі за настаўнікамі, сачылі за іх кожным крокам, вынюхвалі, што тыя гавораць і робяць. Яны здагадваліся, што настаўнікі не толькі падбухторваюць сялян сваімі гаворкамі, але і лістоўкі супраць цара і начальства — справа іхніх рук. Але паспрабуй дакажы, калі ні аднаго не ўдалося злавіць, як ён іх расклейваў, пісаў або нёс пры сабе. У той жа час віна іх была відавочная: зімою лістовак не было і повідам, з'яўляліся яны ў чэрвені, калі з'ехаліся ў вёску настаўнікі. Супадзенне невыпадковае! Але даносы мясцовай варажбіткі Магдалены Варэйчыхі, якая тайком перапрадае гарэлку, да справы не падшыеш.

Стражнікі пачалі асабліва ўважліва сачыць за былой карчмою. Хлопцы тады перабраліся ў гумно да Уладзіка Сальвэсевага, ажно на Стаўпецкую вуліцу.

Гумно стаяла далёка ад хаты і ўпіралася ў палеткі, а за палеткамі крыху збоку — Канцывалокі, а далей Залессе. Хлопцы зрабілі патайны выхад-падкоп пад сцяной гумна і засыпалі яго сечкаю. Калі што якое, дзверы не трэба адчыняць, а проста шусь у яму, разгроб сечку і пасмаліў на Залессе. Сальвэсь паставіў у гумне бочку буракавага квасу. Хлопцам добра смагу прагнаць, і ёсць прычына хадзіць у гумно.

Стражнікі заўважылі, што настаўнікі перасталі збірацца ў карчме. Адзін з іх неяк перапыніў малую Маню і пытаецца:

— Дзе ваш Косцік падзеўся?

— Паехаў з дзядзькам Антосем сена касіць,— адказала дзяўчына так, як яе навучылі старэйшыя.

Вечарам Маня расказала брату пра стражніка.

— Эх, каб падпільнаваў катарага ў лесе і дзеўбануў дручком між вушэй,— сказаў ні то жартам, ні то ўсур'ёз Кастусь.

Праз тыдзень той самы стражнік зноў тыц нос у карчму.

— Ты чаго да нас ходзіш? — строга падступіла да яго Маня.— Брат казаў, што падпільнуе цябе ў лесе і калом рэбры палічыць...

— Хе-хе-хе! — засмяяўся стражнік.— Я табе цукерак прынёс... Скажы ты мне, якія песні ведаеш?

— «Марсільянку» ведаю...

— А як яна пачынаецца?

— Як? Я зараз успомню,— адказала малая і зацягнула:

Раве ды стогне Днепр шырокі...

— А яшчэ?

— Яшчэ ведаю такую песню:

Развялося стражнікаў,
Як якой жывёлы,
Ад іх плёшак і шнуроў
Чырванеюць сёлы...

Ну і было крыку і смеху ў хаце, калі Маня пахвалілася, як яна другі раз гаварыла са стражнікам! Малая ў плач, а Кастусь прытуліў яе і пацалаваў у лоб:

— Мая тыя сястрычка! Малайчына! Так ім, сабакам, і трэба. Добра секанула!.. А больш хаця нічога не казала? Не? Ну, то і добра!..

Аднак стражнікі высачылі месца, дзе збіраюцца настаўнікі. Неяк хлопцы прыйшлі ў хату паснедаць, толькі селі за стол, як убягае Сальвэсь:

— Стражнікі каля Замка́ ўжо! Ідуць сюды.

Настаўнікі шуснулі хуценька на агарод, а адтуль заламалі ў каноплі, і толькі іх бачылі... Стражнікі доўга трэслі ў гумне салому, перакідвалі з месца на месца дзяружкі, забралі з сабою некалькі кніг. Але Уладзіка Сальвэсевага неўзабаве ўсё ж такі арыштавалі і павезлі ў Мінск.

Кастусь з Сымонам яшчэ доўга хаваліся то ў склепе Скарабагатых на Дворнай вуліцы, то ў Паласенскім лесе, то на сенажаці. Потым Сымон атрымаў прызначэнне і паехаў на службу. Сталі раз'язджацца і астатнія настаўнікі. Неўзабаве давялося і Кастусю збірацца ў дарогу: прыйшло прадпісанне 12 жніўня 1907 года з'явіцца ў Мінск на следства па справе настаўніцкага з'езда. Хацеў спачатку не ехаць, хоць у позве і была прыпіска: «У выпадку няяўкі вы будзеце арыштаваны і дастаўлены па этапу». Маці разважыла па-свойму:

— Сыночак, гордага і непакорнага нават бог з неба спіхае... А хавацца — кладка гібкая... Калі б хацелі арыштаваць, то падпільнавалі б і забралі б, як Уладзіка. А калі самі клічуць, то трэба ехаць...

## «АСАДЗІ НАЗАД!»

— Каб адкрыць рэдакцыю, многа не трэба. Калі маеш дванаццаць унцый маладога энтузіязму, а яшчэ кватэру ў горадзе, свой прымус, чайнік, дзве шклянкі і адміністратара, дык гэта лёгка зрабіць. Праўда, забыўся яшчэ сказаць, што адміністратар павінен быць сакратаром, старажам і кухарам. А ў дадатак трэба, каб яго кармілі і адзявалі бацькі ці жонка, бо ў нас няма грошай яму плаціць,— весела рагатаў, тлумачачы некаму ўмовы працы ў беларускай газеце, яе рэдактар Аляксандр Мікітавіч Уласаў.

Перагародка дашчаная, толькі заклеена аблезлымі шпалерамі, і Кастусю ўсё добра чуваць.

Пайшоў вось ужо трэці месяц, як ён цягне цяжкае рэдакцыйнае ярмо. На яго плячах многа клопату, уся асноўная чарнавая работа. Ён габлюе шурпатыя і сукаватыя вершы, ператрасае і правіць артыкулы і апавяданні, скарачае іх, калі трэба, перакладае. У яго абавязкі ўваходзяць яшчэ і пісьмы: найболып цікавыя выбраць для газеты, а на астатнія даць адказ. Усяе платы за гэта—абед у таннай сталоўцы, гарбата, што ўвесь дзень грэецца на прымусе, і надзея трапіць на вучобу ў Кракаўскі ўніверсітэт. У рэдакцыі Кастусь не толькі днюе, але і начуе. У прамым і пераносным сэнсе. Праўда, увечары ён яшчэ ходзіць даваць прыватныя ўрокі, каб зарабіць якую капейку. Але на сваю долю не наракае: цераз нумар-другі ў газеце друкуюцца яго вершы і апавяданні. Цяпер ён сам прыдумляе новыя псеўданімы — Лесавік, Ганна Груд, Агарак, Пятрусь Дзягіль, каб не так кідалася ў вочы, што часта друкуецца Якуб Колас...

Ён тады добра зрабіў, што паслухаўся маці, не стаў хавацца, а паехаў у Мінск на допыт. Жандарскі ротмістр больш цікавіўся Кастусёвым почыркам, чым настаўніцкім з'ездам. Напрошвалася пытанне: «Ці не трапілі яму ў рукі якія самаробныя лістоўкі?» Праўда, адна акалічнасць усцешыла настаўніка: у павятовым паліцэйскім упраўленні яму выдалі афіцыйны дазвол на права жыхарства ў Вільні і іншых мясцінах Паўночна-Заходняга краю. Значыцца, яго не лічаць вялікім злачынцам, калі дазваляюць жыць і працаваць нават у горадзе, дзе знаходзіцца рэзідэнцыя самога генерал-губернатара. З'явілася надзея, што ўвогуле ўся судовая справа са з'ездам у Мікалаеўшчыне будзе спынена. Тады ўра! Цяжкая гара зваліцца з Кастусёвых плеч.

Вясною прыязджаў у Вільню, але доўга не засядзеўся ў рэдакцыі. Ноччу прыйшлі гарадавыя,ператрэслі яго манаткі і загадалі, каб праз тры дні і духу яго тут не было. Цяпер жа Кастусь можа быць смелы,



ніякі чорт не прычэпіцца. Ліха яго бяры, што з грашыма скупа, але затое на сэрцы весялей...

За перагародкай чуваць жаночыя галасы і вясёлы смех рэдактара. Кастусь ніяк не можа зразумець, ці гэта такі характар у чалавека, ці ён так умее трымаць сябе на людзях. Потым дзверы адчыняюцца, і на парозе паказваецца сам Аляксандр Мікітавіч. Ён высокага росту, у паношаным бастонавым касцюме, з-пад камізэлькі выглядае модны гальштук. На прыгожым твары з заліхвацкімі вусамі радасная ўсмешка:

— Прашу, прашу, Елізавета Андрэеўна, і вы, Аляксандра Георгіеўна, заходзьце... Тут у нас сядзіць сам Якуб Колас. Ён не толькі свае вершы піша, але і чужыя падгладжвае...

У пакой увайшлі мілавідныя дзяўчаты, з выгляду настаўніцы ці курсісткі. Кастусь хуценька ўстаў, прынёс з рэдактарскага кабінета крэслы, пасадзіў дзяўчат.

— Я хросны бацька Якуба Коласа,— хваліўся рэдактар.— Знайшоў яго не праз абвестку ў газеце, а цераз плытнікаў з Мікалаеўшчыны. Ёсць такая вёска на Нёмане. Яна пастаўляе не толькі рачных ваўкоў-плытнікаў, але і народных настаўнікаў ды яшчэ і, як бачыце, паэтаў... Сеў я аднойчы ў Коўні ў вагон трэцяга класа, а там едуць плытнікі. Разгаварыўся з адным хлопцам, стаў яму вершы Мацея Бурачка чытаць, а ён мне кажа: «У нас адзін настаўнік сам вершы складае і смешна чытае па-нашаму: «Льецца Нёман паміж гораў, поўны сілы і красы...»

Дзяўчаты пачалі прасіць Кастуся, каб ён прачытаў ім што-небудзь з новых вершаў. Пажадана з тых вершаў, якія не трапілі яшчэ ў друк ці ўвогуле не трапяць.

— Што ж вам такое прачытаць? — задумаўся паэт і сказаў: — Верш называецца «Асадзі назад!»:

Дрэнна маё жыцце,
Усё ідзе не ў лад,
І крычаць мне ўсюды:
«Асадзі назад!»

Верш новым Кастусёвым знаёмым спадабаўся. Трэба сказаць, што і аўтар прачытаў яго на дзіва артыстычна. Пачаў чытаць ціха, глухаватым голасам, але ўнутраны драматызм, гумар і іронія, якімі быў прасякнуты верш, яркі дыялог дазволілі Кастусю мяняць інтанацыю.

— Ну, Саша, вось табе яшчэ адзін доказ,— узрадавалася Ліза,— якая прыгожая і мілагучная беларуская мова... Калі аўтар нічога не мае супраць, то я запісала б гэты верш.

— Нашто запісваць? — умяшаўся рэдактар.— Мы верш неўзабаве надрукуем у нашай газеце.

Так Кастусь Міцкевіч пазнаёміўся з настаўніцамі Алесяй Зотавай і Лізай Карніловіч.

Знаёмства з Алесяй Зотавай многае дало Кастусю. Малады паэт, які звыкся з адзінотай і няўтульнай рэдакцыйнай бакоўкай, раптам трапіў у віленскі дом, дзе збіралася перадавое мясцовае настаўніцтва двух пакаленняў. Алесін бацька працаваў настаўнікам у рэальным вучылішчы, і да яго вечарамі сыходзіліся калегі — розныя калежскія сакратары і надворныя саветнікі. У дачкі была свая кампанія. Праўда, сярод настаўнікаў у форменных віцмундзірах, зашпіленых на ўсе бліскучыя гузікі, Кастусь адчуваў сябе няёмка. Больш па душы яму была шумлівая і гаваркая моладзь.

Паміж двума пакаленнямі віленскага настаўніцтва ўсчыналіся ча-

стыя спрэчкі адносна грамадска-палітычнага жыцця краіны. Толькі ў адным пытанні абодва пакаленні былі амаль салідарныя: яны з цікавасцю слухалі Кастусёвы вершы і... у той жа час выступалі супраць беларускай мовы. Адчувалася казённая афіцыйная закваска. Дый усе яны былі гарадскія жыхары, чулі беларускае слова толькі на віленскім рынку. Кожны раз Кастусь вытрымліваў нялёгкі бой, на яго баку былі звычайна толькі студэнты Віленскага настаўніцкага інстытута Лукаш Гарбацэвіч і Сямён Анішчук, беларускія хлопцы, адзін з Дукоры, а другі з-пад Слоніма.

Можа, па гэтай прычыне, а мо таму, што Кастусь увогуле не любіў вялікіх і шумных зборышчаў, ён з большай ахвотаю ішоў з Алесяй, а часам і з Лізай (яна працавала настаўніцай недзе каля Маладзечна і бывала ў Вільні наездамі) у кінематограф ці тэатр.

Як падмарозіла і выпаў першы скупаваты сняжок, усёй кампаніяй хадзілі па горадзе, узбіраліся на Замкавую гару. Аднойчы Лукаш, любуючыся з гары віленскімі купаламі і гатычнымі вежамі, падаў прапанову:

— Давайце ўсе разам паедзем у Пецярбург. Якраз каляды ідуць... На дні два-тры. Паглядзім горад... Няўжо мы не можам дазволіць сабе гэтага?

Яго прапанову падтрымалі ўсе, але на дамоўленым месцы каля касы вакзала 23 снежня Зотава застала толькі аднаго Кастуся Міцкевіча.

— Аляксандра Георгіеўна, едзем? — радасна прывітаўся Кастусь.

— Едзем! Няхай астатнім будзе сорамна, што не стрымалі слова.

Кастусь упершыню трапіў у Пецярбург. Прайшоўся па шумлівым святочным Неўскім, палюбаваўся Ісакіем, пабачыў славутага Меднага Конніка, Зімні палац, страшную Петрапаўлаўскую крэпасць. Закаваная лёдам, стыла на марозе дзяржаўная Нява.

Паездка гэтая і для Алесі і для Кастуся не была поўнасцю ўдалай. Усе чатыры дні, якія яны былі ў Пецярбурзе, стаялі суровыя калядныя маразы. Добра, што Кастусь не пашкадаваў і ўзяў у дарогу сваё новае зімовае паліто з шэрым баранковым каўняром і такую ж баранковую шапку. Зотава — сакратар нелегальнага віленскага саюза настаўнікаў ехала з надзеяй пабачыць прадстаўнікоў Усерасійскага саюза і пагаварыць з імі па Кастусёвай справе. Тройчы хадзілі яны, але ні разу не засталі патрэбнага ім чалавека: настаўнік той выехаў з горада, яго шукала паліцыя... Урэшце, у дзень ад'езду са сталіцы Кастусь занядужаў, і яму ўсю дарогу было кепска.

Вярнуліся ў Вільню перад вечарам у суботу, 29 снежня. Мароз і тут узяўся не на жарты. Як ні ўпіраўся і ні аднекваўся Кастусь, Алеся сілком пацягнула яго дамоў:

— Канстанцін Міхайлавіч, я вас не пушчу ісці цяпер у рэдакцыю... Мама знойдзе якіх лекаў, вып'еце гарачай гарбаты... Вы ж хворы!

— Мілая і дарагая Аляксандра Георгіеўна, адпусціце грэшную душу маю на пакаянне... Лепш я прыйду да вас заўтра... Трэба вам адпачыць пасля дарогі, і мне таксама. Ніякі я не хворы, проста змарыўся трохі...

Кастусь не хацеў ісці да Зотавых, нібы сэрцам адчуваў, што яму прыйдзецца там трымаць цяжкі бой за роднае слова. Цэлае застолле праферансістаў радасна прывітала падарожнікаў. Не паспеў Кастусь абагрэцца, як прыйшлося садзіцца і выпіць «штрафную». Потым слова за слова і пайшла, як звычайна, гаворка пра беларусаў, іх гісторыю і мову. Асноўны і найбольш заядлы Кастусёў апанент па гэтым пытанні калежскі сакратар Есін сёння наступаў асабліва заўзята: беларускі народ адстаў у сваім гістарычным развіцці, свае школы не мае, а значыцца, не можа быць гаворкі пра яго культуру; адраджэнне можа толькі адбыцца на грунце больш развітай і дасканалай культуры. Стомлены і хворы Кастусь пярэчыў слаба.

— Таму беларусы прыгнечаныя, што адсталыя,— нарэшце, вывеў бойкі і гаваркі калежскі сакратар, якому здавалася, што ён ушчэнт скасаваў Кастуся.

— Не! З гэтым і я катэгарычна не згаджаюся,— пастукаў відэльцам гаспадар.— Адстаў у сваім развіцці і беларускі, і рускі, і маларасійскі працоўны чалавек, бо шматвяковае ярмо паншчыны не давала прастору для развіцця яго інтэлектуальных сіл. Цяпер беларусы абуджаюцца, задача перадавой рускай інтэлігенцыі дапамагчы ім, а не таптаць свайго малодшага славянскага брата ў гразь. Давайце мы папросім нашага госця Канстанціна Міхайлавіча, каб ён нам што-небудзь прачытаў са сваіх вершаў...

Кастусь моўчкі падняўся з-за стала, падышоў да піяніна, што стаяла пры сцяне, ціхенька прабег пальцамі па клавішах, а потым заспяваў:

А ў ляску, ляску,  
На жоўтым пяску,  
Стаіць святліца  
З трыма акнамі.  
Спявайце, братцы, спявайце!..

Закончыў адну песню, пачаў другую:

А на небе месячык узышоў,  
А ў дзяжы каравай падышоў:  
— Ка мне, малодкі маладыя,  
Ды памыйце рукі бяленька,  
Мясіце каравай харашэнька,  
Каб наш каравай красен быў,  
Каб наш Іван весел быў,  
Каб ён весел быў, як вясна,  
Каб ён багат быў, як зямля,  
Каб ён здароў быў, як вада!

Праспяваў ён яшчэ дзве песні, а потым прачытаў свае вершы «Не бядуй!» і «Асадзі назад!»

Першым кінуўся да Кастуся Есін, усхвалявана пацiснуў яму руку:

— Усё, што я гаварыў за сталом, бяру назад. Ёсць беларуская мова! Толькі цяпер я адчуў і зразумеў, што беларускі народ мае свае песні, сваю культуру, сваю мову...

●

Роўна праз дзесяць дзён пасля таго вечара ў Зотавых Кастусь выехаў з Вільні.

Перад гэтым доктар доўга і заклапочана слухаў і выстукваў грудзі, пасля выпісаў парашкі і сказаў:

— Малады чалавек, мая вам парада такая: адпачыць у вёсцы, есці паболей масла і піць свежае малако. Працэс яшчэ не пачаўся, але можа пачацца...

Ехаць у Мікалаеўшчыну Кастусю не хацелася: знаёмыя настаўнікі ўсе раз'ехаліся, а як весці кампанію з Жыжэйкам ці Сатыгам, то лепш на печы сядзець. Рэдактар абяцаў знайсці праз сваіх знаёмых службу канторшчыка ў якім-небудзь маёнтку каля Радашковіч, але гэта толькі абяцанкі-цацанкі...

Кастусь быў на раздарожжы, калі, парадкуючы рэдакцыйныя навагоднія пісьмы і віншаванні, натрапіў на ліст нейкага Канстанціна Гардзялкоўскага, які збіраўся ў сваім маёнтку Папоўка Сенненскага павета адкрыць беларускую школу. Гардзялкоўскі звяртаўся ў рэдакцыю газеты з просьбаю параіць яму вопытнага настаўніка. Ліст канчаўся прыпіскаю: «Настаўнік мне патрэбен, які добра ведае беларускую мову. Плата 25 рублёў у месяц, плюс кватэра і сталаванне. Адрас для тэлеграмы: станцыя Слаўнае. К. Гардзялкоўскаму».

Сам лёс пасылаў яму тую станцыю Слаўнае. І назва якая мілая! Доўга не думаючы, Кастусь паказаў ліст рэдактару і сказаў:

— Еду!

Сказаў такім тонам, што Аляксандр Мікітавіч не стаў яму пярэчыць, бо ведаў настойлівы характар Міцкевіча. Шкада было такога ды яшчэ, лічы, дармовага работніка, але затрымліваць Кастуся ён не меў ніякага маральнага права. Рэдактар прасіў толькі аднаго:

— Не забывай нашу газету. Абяцаю даваць у кожным нумары Якуба Коласа, толькі прысылай паболыш вершаў і апавяданняў...

Яшчэ паблісквалі цьмяныя агеньчыкі ў хатах, замеценых па самыя вокны снегам, калі раніцою 8 студзеня 1908 года Кастусь выйшаў з вагона і з сакваяжам у руцэ накіраваўся ў станцыйную мураванку. У вочы бязлітасна сек вецер са снегам, прыйшлося наставіць каўнер. Таму ён, мабыць, не адразу заўважыў лёгкі вазок.

— Ці не вы, паночку, Міцкевіч? — падбег да Кастуся дзядзька ў кажушку з пугаю ў руках.

Фурман павёў Кастуся да свайго вазка, даў апрануць вялікі цёплы кажух, у якім нястрашна было ехаць хоць на паўночны полюс. «Нічога не скажаш, слаўна ўсё пачынаецца»,— падумаў настаўнік.

У полі шалёна сваволіў вецер, кідаў снег то ў вочы, то ў спіну, перамятаў дарогу. Жвавы дагледжаны конік весела імчаў вазок. Мінулі адзін лясок, падняліся на ўзгорак, праехалі вярсты дзве борам і зноў выскачылі ў поле. Неўзабаве звярнулі ў кляновыя і ліпавыя прысады. Кастусь убачыў, што прысады вядуць да невялікага драўлянага дома з двума белымі слупамі пры ўваходзе.

На ганку Кастуся сустрэў гаспадар. Гэта быў на гадоў чатырыпяць старэйшы за настаўніка высокі русявы мужчына ў чорным суконным касцюме і простых ботах.

Як пасля даведаўся Кастусь, памешчык Гардзялкоўскі вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, але навуку не кончыў, асеў дома і пачаў весці гаспадарку на новы лад. Цяпер у яго была шкляная гута, цагельня, свой паравы млын. Маці яго Тарэза Гардзялкоўская, хваравітая ўдава, гаспадаркай не займалася, жыла зімою ў Ніццы і толькі ўлетку прыязджала ў Слаўнае, дзе быў у яе свой маёнтак. Яна любіла літаратуру, займалася нават перакладамі на беларускую мову твораў польскіх пісьменніц Ажэшкі і Канапніцкай, з якімі яна была асабіста знаёмая...

Пасля снедання ўвесь дзень прайшоў у клопатах. Гардзялкоўскі паказаў Кастусю будынак, дзе ён меркаваў размясціць школу. У суседнім доме, побач з маёнткам, настаўніку было падрыхтавана жыллё. Два цёплыя пакойчыкі: у адным кабінет, у другім — спальня. Калі ж Кастусь даведаўся, што з шаснаццаці вучняў дзесяць будзе хадзіць з вёсак Сані і Плоскае, ён прапанаваў свой варыянт размяшчэння школы. Лепш за ўсё зрабіць, каб дзеці вучыліся ў Санях, тады нікому не будзе далёка хадзіць. А настаўніку прабегчы якія кіламетры тры — дык гэта толькі добрая размінка.

— Няхай будзе па-вашаму, Канстанцін Міхайлавіч,— згадзіўся Гардзялкоўскі.— Можна і ў Санях. Але зробім па-гаспадарску. Мой фурман Аляксей будзе падвозіць з Папоўкі ў школу і забіраць назад і вас і вучняў, пакуль зіма. Згода? Вось вам на кнігі і іншыя школьныя прылады,— палажыў ён чатыры залатыя пяцёркі.

Назаўтра Аляксей перавёз з Папоўкі ў Сані, у новую хату Ларыёна Жураўлёва парты і стол. Сам настаўнік паехаў у Абчугу і купіў грыфельныя дошкі, сшыткі і ручкі на ўсіх вучняў. Горш было з падручнікамі. Прыйшлося паслаць пераводам грошы ў Вільню, каб рэдакцыя паклапацілася прыслаць «Беларускі лемантар», «Першае чытанне» і іншыя беларускія кнігі.

Праз некалькі дзён адбылося свята на Кастусёвай вуліцы: ён прыйшоў на першы ўрок у беларускую школу.

У штодзённых клопатах пра школьныя справы хутка беглі тыдні. Не азірнешся, як зноў субота. Усе вучні (іх цяпер было васемнаццаць чалавек) займаліся добра.

Настаўнік сам складаў задачкі на матэрыяле беларускага народнага побыту. Заняткі вёў, як і было дамоўлена з Гардзялкоўскім, на роднай мове ва ўсіх групах. Вучні хутка і лёгка навучыліся чытаць па-беларуску, шкада толькі, што кніг з цікавымі апавяданнямі, гістарычнымі і геаграфічнымі звесткамі не было.

Жывое слова настаўніка расчыняла перад вучнямі дзверы ў навакольны свет, вяло іх у глыбокае мінулае і далёкія краіны. Праводзіў ён асобныя гутаркі пра грамадскае жыццё і навіны ў краіне. Шырока выкарыстоўваў Кастусь рукапіс свае кнігі «Другое чытанне для дзяцей беларусаў», вывяраў на практыцы, як даходзяць да разумення вучняў яго апавяданні і пейзажныя замалёўкі. З задавальненнем прыходзіў да думкі, што кніга ўдалася, толькі сёе-тое трэба скараціць, а таксама дапісаць некалькі вершаў і казак. Не раз настаўнік шкадаваў, што яго кніга толькі ў адным экземпляры, што не дасі яе вучням дадому. Таму дамашнія заданні задаваў па «Нашай ніве», а таксама па кнізе «Гутаркі аб небе і зямлі». Гэтая папулярная брашура выйшла летась у Пецярбурзе, і Кастусь выпісаў адтуль для свае школы дзесяць экземпляраў.

Прайшло тыдняў тры, як Кастусь пачаў займацца з вучнямі. Аднойчы запыніў яго Гардзялкоўскі і пытаецца:

— Канстанцін Міхайлавіч, хачу з вамі пагаварыць па такой далікатнай справе. Тутэйшы бацюшка пытаўся ў мяне, чаму ў нашай школе няма закону божага. Што яму сказаць?

— Я і сам не ведаю. Гледзячы, што гэта за поп. Можна сказаць, што няма закону божага толькі па той прычыне, што позна пачаліся заняткі ў школе. А калі так сказаць яму нельга і напэўна вядома, што ён сам не захоча ездзіць да нас, то запрасіць самога. Сам я тлуміць дзецям галовы не буду...

На гэтым гутарка закончылася. Што сказаў Гардзялкоўскі папу з Плоскага, Кастусь не ведаў. Даходзілі пасля чуткі, што бацюшка ўсяляк высмейвае настаўніка-мужыка і яго мужыцкую школу, дзе заняткі ідуць «па-простаму». Сам Кастусь лічыў, што ў няласку ён трапіў па другой прычыне. Сярод яго вучняў былі чатыры перабежчыкі з Плоскага народнага вучылішча, дзе працавала настаўніцай пападзянка...

Пасля рэдакцыйнай неўладкаванасці, пасля посных віленскіх абедаў і вячэры ўсухамятку для Кастуся ў Папоўцы настаі святочныя дні. Аднак раскашаваць тут на добрай кватэры і на добрых харчах яму доўга не давялося.

Настаўнік у Папоўцы не так часта сустракаў прадстаўнікоў улады,

але здагадваўся, што знаходзіцца пад нядрэмным жандарскім вокам. Зімою толькі адзін раз наведаўся ў школу ўраднік і то пытаўся нібыта самога Гардзялкоўскага. Але як толькі прыйшла вясна, заспявалі першыя жаваранкі, Кастусю не стала спакою: амаль кожны тыдзень яго выклікалі ў Мінскае губернскае жандарскае ўпраўленне на дазнанне. Фурман замест таго, каб везці настаўніка ў школу, вёз яго ў Слаўнае, на станцыю.

Усё як быццам сведчыла, што вось-вось паклічуць на суд. 18 красавіка 1908 года з Віленскай судовай палаты прыйшло запытанне, на які адрас прысылаць яму копію абвінаваўчага акта. Кастусь адказаў, каб прысылалі на Мікалаеўшчыну, і пачаў збірацца дахаты.

— Вашая Папоўка — слаўная мясціна,— сказаў Кастусь Гардзялкоўскаму,— але бачыце, якія варункі. Трэба ехаць шукаць добрага адваката.

## МАЦІ

На сэрцы ў маці было неспакойна. Выпаліўшы ў печы, яна выйшла ў агарод і пачала церабіць буракі. Але праца не спорылася, усё валілася з рук. Не давалі спакою трывожныя думкі: «Гэта ж сёння суд... Як там Кастусь? Ці пусцяць яго дахаты?»

Раптам маці ўздумалася схадзіць да Варэйчыхі, каб тая кінула на карты, што суджана Кастусю. Яна паднялася і пайшла ў хату памыць рукі.

Старая карчма, у якую летась перабралася іх сямейка, здалася прасторнай і няўтульнай стадолай. Гэта адчуванне было асабліва моцным таму, што ў хаце нікога не было: дзядзька Антось з Уладзікам касілі атаву, Юзя з Ленай пайшлі жаць бульбоўнік у Пажарніцу, Юзік пасвіў каровы, а малодшыя дзеці недзе гулялі на суседнім двары.

Маці глянула на пустыя сцены, і позірк яе спыніўся на Кастусёвых кнігах, якія сіратліва ляжалі высока на палічцы. Сэрца ў Ганны балюча сціснулася. Яна выцерла рукавом слязу і пайшла ў святліцу, дзе на камодзе стаяла новая сынава картачка.

Кастусь спакойна і ўважліва глядзеў на маці. У яго вачах была задума і заклапочанасць, нават прыгожыя чорныя вусікі, закручаныя ўгору, стасаваліся да ўсяго сур'ёзнага выразу твару. Ганна ўзіралася ў Кастусёвы вочы, у высокі лоб з прыкметнымі заездамі і падумала: «У Лёсікаў удаўся, будзе, як мой тата, лысы...»

— Як ты там, сынку? — уголас запыталася маці.

Яна доўга размаўляла з сынам, удосталь паплакала, успомніла сон, які сніўся ноччу.

Здаецца, прыйшоў гэта з абходу нябожчык Міхал, павесіў стрэльбу ў кут і кажа: «Ты чула, маці, што задумаў наш Костусь? Просіць сватоў слаць да Алесі Вераб'ёвай. А вянец хоча не ў Мікалаеўскай царкве, а ў Свержані браць». І тады Ганна нібыта адказала: «Не знаю, як ты, бацька, думаеш, а я не супраць. Алеся — добрая дзяўчына, руплівая...» — «Эт, нічога ты не разумееш,— кажа Міхал,— хлопцу, як і паміраць, жаніцца няма чаго спяшацца... Гэта ўсё Варэйчыха, трасца яе галаве, навядзьмарыла, гэта яе работа...»

— Ці не хочуць цябе, галубок, абвянчаць з казённым домам? — зноў уголас запытала Ганна.— Чуе маё сэрца штосьць нядобрае...

І ў маці адразу прапала жаданне ісці варажыць на карты да Варэйчыхі. Нашто выстаўляць на вочы ёй, праклятай ведзьме, сваё гора і неспакой? Нашто?



Назаўтра дзень прайшоў у трывозе. Ганна некалькі разоў заходзіла да Сальвэся Міцкевіча, сына якога, Уладзіка, судзілі разам з Кастусём. Але і Сальвэсь нічога не ведаў, толькі і сказаў:

— Не вернуцца нашы хлопцы сёння вячэрнім цягніком, значыць, усё — упяклі ім тыя гіцлі па якой пяцёрцы. Але ты, Ганна, не падай духам! Яны хлопцы маладыя, вучаныя, не прападуць, неяк будуць жыць, знойдуць нейкую раду...

У той вечар маці доўга не спала: чакала Косціка. Яе вуха чуйна прыслухоўвалася, ці не пачуюцца пад акном сынавы крокі, ці не заскрыпяць весніцы, ці не забарабаніць ён дробненька ў шыбу. За акном тупацелі нейчыя крокі, ад подыху ветру скрыпелі весніцы, недзе на кухні пазвоньвала шыба, а Кастуся не было і не было. Заснула Ганна позна, спала кепска і прачнулася яшчэ на цямочку. Адразу ж накінула хустку на плечы і памкнулася ісці да Сальвэся. Выйшла на вуліцу і спынілася: вёска яшчэ спала, толькі ў некага на Свіной вуліцы курыўся дымок з коміна.

Ганна вярнулася ў хату і пачала ўходжвацца ля печы.

Садзіліся ўжо снедаць, калі парог пераступіў Сальвэсь.

— Мой жа ты суседка, што ж хаця чуваць? — з плачам кінулася да яго маці.— Гавары, не муч мяне! Гавары, што ўжо ёсць...

— Не трэба слёз, яны нічога не памогуць...— спакойна адказаў Сальвэсь.— Нашым хлопцам укацілі па траячцы — вось і ўсё! Гэтага і трэба было чакаць...

Маці хацела заплакаць, але сэрца ў яе неяк закамянела, яна толькі сказала:

— Сальвэська, дзе гэта праўда на свеце? Дзе? Калі яна прыйдзе на зямлю? Скажы, мне, Сальвэська, ці ёсць той бог на небе? Ці бачыць ён нашы пакуты і слёзы?

Праз некалькі дзён Сальвэсеву вестку пацвердзіла кароценькае Кастусёва пісьмо. Наваспечаны арыштант, як называў сябе аўтар пісьма, паведаміў, што прывыкае да турэмнай жыткі і падбрыквае, як цяля на вяроўцы. Усё пісьмо было ў жартаўлівым тоне. Відаць, Кастусь хацеў паказаць, што настрой у яго добры і турэмныя краты яму не ў страх, і гэтым самым супакоіць маці, якая, вядома, перажывае за яго.

Цяпер усе думкі ў Ганны былі аб тым, каб пабачыцца з сынам, пагаварыць з ім, падбадзёрыць яго. Матчына сэрца адчувала, што Кастусь больш за ўсё непакоіцца пра сваіх сямейнікаў, пра тое, як яны ўспрынялі вестку пра яго турэмнае зняволенне. Маці ведала, што сам Кастусь даўно падрыхтаваўся да горшага, але каб супакоіць маці, увесь час пацяшаў яе, што ўсё абыдзецца добра... І раптам — горшае збылося.

Ганна думала аб тым, што яе сын, відаць, не здагадваецца, а калі здагадваецца, то не перакананы ў тым, што і маці і дзядзька Антось таксама падрыхтавалі сябе да таго, што Кастусю не даруюць, і цяжкая вестка пра тры гады — для іх не навіна і не неспадзяванка. Чым больш разважала маці сама з сабою і дзядзькам Антосем, тым больш прыходзіла да думкі, што ёй трэба абавязкова сустрэцца з сынам і пагаварыць з ім. Пагаварыць, каб супакоіць яго, сказаць: няхай шануе сябе і не турбуецца ні пра маці, ні пра дзядзьку, ні пра братоў і сясцёр.

І маці пачала рыхтавацца ў дарогу. Але стрымлівалі Кастусёвы пісьмы. Ён пісаў, што жыў, здароў, і кожны раз рабіў прыпіску: «Спатканняў з родзічамі нам пакуль яшчэ не дазваляюць». Чакала, чакала

маці, калі нарэшце з'явіцца вестка, што можна ехаць у адведзіны да сына, не дачакалася і неяк пасля пакроў сказала Уладзіку:

— Скоч, мой хлопча, у Мінск. Можа, Кастусь не хоча нас турбаваць і выдаткаў нам рабіць, таму і піша, што не пускаюць на спатканні. Завязеш яму перадачу, глянеш, як там нашай Міхаліне ў цёткі Аксені паводзіцца ў наймічках...

Маці напякла бліноцоў, адварыла каўбасу. Напакавалі поўны куфэрак: там былі слоік марынаваных грыбоў, торбачка арэхаў, яблыкі-антонаўкі, кусок сала, галоўка цукру.

Вярнуўся Уладзік з Мінска роўна праз суткі.

— Як там Кастусь?

— Ці бачыў ты яго?

— Што ён гаварыў? — накінуліся ўсе з пытаннямі.

— Кастуся я не бачыў,— адказаў Уладзік.— У астрозе бунтуюцца зняволеныя, таму начальства не дазваляе спатканні. Цётка Аксеня ўжо некалькі разоў хадзіла да начальніка турмы прасіць дазволу на сустрэчу, але нічога не выхадзіла...

Калі суседка Наталля Скарабагатая дачулася пра Уладзікаву паездку, яна сказала Ганне:

— Паеду я ў Мінск... У мяне ёсць знаёмая з Кнотаўшчыны Стома Яўгеня, яна служыць пакаёўкай у сакратара акруговага суда. Яўгеня не раз казала, што да іх сыходзяцца гуляць у карты ўсе мінскія тузы... Быць не можа, каб мне не ўдалося дабіцца сустрэчы з Кастусём...

— Тады, можа, мая дачушка, і я паеду з табой? — запыталася Ганна.

— А як не ўдасца? Не! Лепш пакуль што я адна з'езджу, працераблю сцежку, а там і вы...

Зноў маці наладкавала куфэрак. Дзядзька Антось падвёз Наталлю ў Стоўбцы — і пацягнуліся пакутлівыя дні чакання. Мінуў дзень, другі, трэці. Толькі на пяты дзень увечары вярнулася Наталля ў Мікалаеўшчыну. Адразу, не заходзячы дамоў, прыйшла яна, радасная, у карчму і, ледзь пераступіўшы парог, пачала расказваць.

— Дабілася гэта я дазволу, узяла тую цыдульку ў жменю і пайшла да турэмных варот. Чакаю, калі адкрыецца дзюрка ў варотах. Потым бразь нешта, адчыняецца маленькае акенца, і нейкі вусаты вартаўнік пытае: «Што зволіце?» Я яму цыдульку тыц у нос. Праз некалькі хвілін адчыняе ён брамку і кажа: «Звольце праходзіць, мадам!» Я іду, а калені дрыжаць. Дальбог, страшна. Высокія мураваныя сцены, а ў іх малюпасенькія акенцы. Прывёў мяне вусаты ў нейкую халодную бакоўку, а сам недзе прапаў. Няма яго, няма, мне ўжо абрыдла чакаць, аж потым адчыняюцца дзверы і той самы вусаты кліча: «Заходзьце сюды! Міцкевіч чакае вас». Заходжу, а там — матачкі мае! — ніякага Міцкевіча няма. Стаіць нейкі барадаты дзядзька, пазвоньвае кайданамі і смяецца. Калі ж прыгледзелася добра я да таго барадатага, аж гэта Кастусь...

— Такі страшны ён, што ты, Наталля, не пазнала? — заплакала маці.

— Не, цётачка, не тое зусім, не страшны ён! — адказала Скарабагатая.— Проста нязвыкла было ўбачыць Кастуся барадатым... «Не пазнаеш, Наталля?» — запытаў ён і смяецца, а я ў плач... Не хачу плакаць, а слёзы, як боб, так і коцяцца, так і сыплюцца... Селі мы на лаўку, а вартавы зорыць за намі, не спускае вока. Мне неяк страшна, не знаю, што і гаварыць, а Кастусю хоць бы што. Стаў мяне распытваць пра ўсіх вас, пра мікалаеўскія навіны. Я адказваю і плачу. Тады Косцік пачаў мяне суцяшаць і расказваць розныя смешныя гісторыі з турэмнага жыцця. А перад развітаннем кажа: «Перадай там нашым і Сальвэсевым бацькам, няхай не гаруюць па нас, усё будзе па-нашаму ў скорым часе. Царская ўлада стаіць толькі на адной назе, другую ёй падпілавалі ўжо. Так што доўга яна не накрасуецца...» Дальбог, так і сказаў...



— Скажы мне, любка, як ён сябе адчувае? — цікавілася маці.

— Цётачка, Кастусь адчувае сябе добра... Ён жартаваў і смяяўся...

Наталля заседзелася доўга: жанкі выпілі чарнічнай настойкі за здароўе Кастуся, паплакалі, пагаварылі ад душы...

Ганна ў тую ноч не магла заснуць. Успаміналa і ўзважвала кожнае Наталліна слова. Можа, Кастусю не так і весела — адкуль тая весялосць у турме! — але ён паказаў сябе перад Наталляй бадзёрым, бо ведаў, што маці будзе лягчэй. «Эх, сыночак, пакутнік, галубок мой! Ты, я знаю, стараўся для мяне, думаў пра нас...»

●

Камеры ад ранішняй да вячэрняй паверкі не замыкаліся, і астрожнікі пасля снедання разбрыліся хто куды. У восьмай засталіся двое: Кастусь і Уладзік Сальвэсеў.

Уладзік ляжаў на нарах і чытаў нейкі старасвецкі падручнік логікі: ён збіраўся пасля выхаду з турмы паступіць ва ўніверсітэт і з вялікай стараннасцю ўзяўся за навуку.

Кастусь зранку звычайна браўся за свой патайны сшытак з вершамі або садзіўся пісаць лісты знаёмым настаўнікам ці ў родныя палясціны, як ён жартам называў Мікалаеўшчыну. Сёння ён адразу адгарнуў тую старонку свайго сшытка, дзе ўверсе было напісана: «З песень астрожніка», а далей дробненькім уборыстым почыркам выведзены даўно ўжо вынашаныя радкі:

Ліпы старыя шумяць за сцяною,
Жаласна, глуха шумяць,
Смутна ківаюць, трасуць галавою,
Толькі галіны рыпяць.

Кастусь глянуў на закратаванае акенца, што свяцілася ўгары, прайшоўся некалькі разоў па камеры, прабег вачыма яшчэ раз пачатак верша і напісаў:

Плачуць гаротныя ліпы старыя,
Плачуць на долю сваю...

«А чаго яны плачуць? — пайшлі чарадою думкі,— хіба ім не лепш было б красавацца ў лесе, чым марнець на турэмным двары? Колькі там прастору, раздолля... Эх ты, нешта ў іх долі ёсць агульнае з астрожнікамі...»

Кастусь задумаўся. На памяць прыйшлі чамусьці ўспаміны пра блакітную елачку, пасаджаную некалі ў Ластку. Ці вялікая яна вырасла? Эх, заглянуць цяпер бы ў Ласток, а яшчэ лепш у Альбуць. Ён утаропіўся позіркам у шэрую сцяну, і перад ім з'явілася леснічоўка, старадрэвіна-хвоя з буслянкай, уроскідку дубы, а далей лес, што агінаў падковаю ўсю сядзібу. Родная, мілая сэрцу мясцінка! Колькі там светлых надзей і парыванняў нарадзілася, колькі маркотных дум перадумана! Божачкі, як хутка ідзе час! Нядаўна, здаецца, яны пераехалі з Ластка ў Альбуць. Ён хлапчуком коўзаўся там на замерзлай рачулцы, хадзіў з дзядзькам Антосем на грыбныя баравіны, карміў ласяня... Колькі прайшло з таго часу? Пятнаццаць год! Як хутка! Так у вечных клопатах і барацьбе, горы і радасці жыццё пройдзе...

— Кінсцінцін Міцкевіч! — перарваў Кастусёвы думкі гучны воклiч на калідоры.

— Кінсцінцін! — гукнуў, увайшоўшы ў камеру, наглядчык Пікулік.— Да цябе прыйшлі! Жыва!

Кастусь борздзенька ўсхапіўся, згроб свае паперы ў кішэню і кінуўся ўслед за Пікулікам.

У пакоі, дзе ён нядаўна сустракаўся з Наталляй Скарабагатай, стаяла некалькі наглядчыкаў. А вунь сядзіць, ссутуліўшыся, нейкая кабета, твару не відаць. Знаёмая ваўняная хустка ў клетку!

— Мама! — радасна закалацілася сэрца.

— Кастусёк, даражэнькі! — абняла Ганна сына.— Як ты тут, галубок?

Пяшчотныя ласкавыя матчыны словы балюча расчулілі Кастуся, і ён нічога не мог сказаць, бо баяўся, што заплача.

— Нічога, сынку, не гаруй! — сказала маці.— Усяляк бывае ў жыцці...

Разважлівыя матчыны словы неяк адразу супакоілі Кастуся, і ён сказаў:

— Вы не крыўдуйце, мама, што так выйшла...

— А што тут крыўдаваць? Ганьбы на табе няма... Не абабраў ты каго, не забіваў, а толькі праўды шукаў. А хто цябе за гэта асудзіць, няхай таго гром лясне на гладкай дарозе...

— Як там дома? Як дзядзька Антось, Уладзік, дзеці?

— Уладзік са мною прыехаў... Ля варот чакае. Дзядзька Антось паклон перадаваў... А пра нас не турбуйся. Бульба ўрадзіла добрая, атаву за пагодай скасілі. За арэнду без малога расплаціліся ўжо... Чырвонец вось і табе прывезлі...

— Не, не, мама! — закруціў галавой Кастусь.— Грошай я не вазьму. Мне знаёмыя настаўнікі нядаўна прыслалі.

— Ну, як сабе хочаш! Толькі гавары праўду. У нас грошы будуць. Вось цялушку прадамо, пару авечак зарэжам на продаж... Калі ўсё будзе добра, то яшчэ адну рату ўвесну ўнясем за зямлю ў Смольні.

Ганна расказвала пра вясковыя справы, а Кастусь пазіраў на маці, якая гэтак проста, па-хатняму склаўшы рукі на грудзях, сядзела тут, у турэмнай пачакальні, слухаў вясковыя навіны, і неяк лёгка і спакойна рабілася ў яго на душы.

Калі прыйшла пара расставацца, Ганна перажагнала сына і тройчы пацалавала ў лоб:

— Бывай, сынок! Калі што якое, пішы, не таіся... Мы паможам...

...Праз некалькі дзён прыйшло ад Кастуся пісьмо.

— Чытай, Уладзя, уголас, і я паслухаю,— папрасіла Петрусёва Альбіна, якая была якраз у іхняй хаце.

Кастусь дзякаваў маці за спакойныя і бадзёрыя словы пры сустрэчы, пісаў пра сваё турэмнае жыццё-быццё.

— «Пасля сустрэчы з мамай,— чытаў Уладзік,— я атрымаў добрую зарадку на ўсе тры гады. Мне цяпер нічога не страшна! Я не ведаў, што мама можа так паводзіць сябе, што і слязінкі не бачна было...»

— Няўжо ж ты, мая любка, і праўда не заплакала? — са здзіўленнем запытала Альбіна.— Не веру!..

— Не заплакала...— цяжка ўздыхнула Ганна.— Прыйшла да турэмных варот, сэрца скамянела, і я кажу Уладзіку: «Чакай мяне тут», а сама рушыла ў брамку... Калі ж вярнулася, пытае мяне Уладзік, як там Кастусь, а я слова не магу вымавіць, толькі плачу, аж сэрца разрываецца...





# ПЕРШАЯ ВЯСНА

Ішла вясна. Першая вясна, якую Кастусь сустракаў за турэмнымі кратамі.

За сценамі астрога ласкава прыгравала вясновае сонца, весела булькалі ручаіны, радасна выспеўвалі жаваранкі, а тут, у камеры, вясна яшчэ зусім не адчувалася, яе повідам не было відаць. Мужчыны з ранку да вечара таўкліся ля акна, але што ты там выгледзіш, калі вочы мазоліць аблезлы мур, а пад ім учарнелы снег, які і не думае раставаць.

Тры дні таму назад на вячэрнюю паверку ў дванаццатую камеру, куды к гэтаму часу перавялі Міцкевіча, зайшоў сам начальнік астрога Пётр Славінскі са старшым наглядчыкам Дожджыкам. Пікулік таксама быў з імі, ён застаўся ў дзвярах і высока падняў ліхтар: у камеры было ўжо цемнавата. Усе арыштанты шуснулі на нары: было дамоўлена сустрэць турэмную адміністрацыю лежачы.

Начальнік астрога ступіў некалькі крокаў і пачаў, не спяшаючыся, здымаць пальчатку з левай рукі, потым сярдзіта сіплым голасам крыкнуў:

— Устаць!

Ніхто на нарах не паварушыўся. У гэты момант у камеру ўвайшоў стараста Кролік і спакваля на вачах у начальства выцягнуўся на сенніку.

— Уста-а-аць! — зароў Дожджык.

Мірман, які ляжаў побач з Косцікам, са страху аж падскочыў, але сусед паклаў яму руку на грудзі — ляжы! Пасля падняўся Кролік і, не злазячы з сенніка, абхапіў рукамі калені і спакойна пачаў:

— Мы пратэстуем супраць таго, што нам перасталі даваць газу і зменшылі норму дроў. Мы, хоць і арыштанты, але людзі... І патрабуем да сябе людскіх адносін!

— Пасвяці! Пасвяці! — крыкнуў Славінскі Пікуліку.— Паглядзім, што там за мудрэц аб'явіўся.

Кролік выйшаў наперад:

— Стараста камеры.

— Тыдзень карцару,— павярнуўся да дзвярэй начальнік турмы.

— Пратэстуем! — загудзела камера.

— На столькі ж дзён пад замок астатніх,— кінуў Славінскі ўжо за парогам.

Першы дзень Дожджык адчыняў «вочка» ў дзвярах і пацвельваўся:

— Якое сёння сонца слаўнае! Любата!

Паспрабаваў ён дражніцца і назаўтра, але маскоўскі студэнт Дурмашкін не вытрымаў здзеку, схапіў дзяркач, якім падмяталі камеру, і шпурнуў у «вочка». Дожджыка як вадой змыла, больш ён не паказваўся.

Кролік сядзеў у смярдзючым каменным мяшку, а жыхары дванаццатай снавыдаліся па камеры. Сонца і вясну бачыў толькі той, хто выносіў парашу...

Кастусь зранку да вечара вылежваўся на нарах. Кожную вясну ён перажываў чамусьці вельмі хваравіта. Нейкія няясныя трывогі і парыванні апаноўвалі сэрца, думкі імкнуліся далёка-далёка ад будзённых клопатаў. Рэзка мяняўся настрой. То з'яўлялася адчуванне бадзёрасці, радасці і ўпэўненасці ў свае творчыя сілы, і тады нібыта выраталі крылы. Пасля раптам без дай прычыны, здаецца, агортвала



цяжкая беспрасветная туга. Не пісалася, не чыталася, ноччу не спалася. Калісьці ў такіх выпадках, нідзе не знаходзячы сабе месца, ён ішоў у лес. Доўга хадзіў там у бяздум'і, сядзеў дзе ў зацішку на пеньчуку ці на зямлі, слухаў птушыныя галасы і лясны пошум. Так прыходзіў у лес дзень у дзень, блукаў у адзіноце,— і паволі вяртаўся душэўны спакой.

Зараз было горш. Смутак падкрадваўся даўно, а потым туга запаланіла ўсю істоту. Спачатку Кастусь не паддаваўся, расказваў вясёлыя здарэнні і анекдоты, разам з усёй дванаццатай чвэрыў што-небудзь смешнае. Але надышоў такі дзень, што не толькі расказваць, але і слухаць нічога не хацелася, ляжаць — не ляжалася, думаць — не думалася, прапаў сон,— усё вярэдзіла душу, хоць рукі на сябе налажы. Калі ж ён не ўстаў аднойчы папалуднаваць, Шпакоўскі, які быў за кухара, сказаў:

— Расклеіўся наш Стары.

— Ты што, браток, захварэў? — устрывожыўся Дурмашкін.

Жыхары дванаццатай камеры абступілі Кастуся, кожны даваў парады, прапаноўваў лекі. Падышоў нават нясмелы селянін Мацей Цярэшка з-пад Маладзечна, які яшчэ не асвойтаўся на новым месцы: яго нядаўна перавялі з дзевятай камеры. Ён дастаў са свае торбачкі пляскатую бутэлечку:

— Во, хлопча, загавораная вада... Памагае ад захалоду, падвяроду і кепскіх вачэй...

Усе дружна накінуліся на дзядзьку Цярэшку, паднялі на смех яго ваду і яго веру ў бабскія забабоны. Гэтае здарэнне адразу скіравала гаворку на розныя прымхі, замовы і чарадзействы. Хто расказваў, як памагло некаму; хто даводзіў, што ўсё гэта выдумкі і шарлатанства.

Кастусь слухаў гэты гармідар, і яму раптам захацелася адзіноты... Вось каб цяпер у Альбуць, выпіць конаўку бярозавіку і на цэлы дзень сысці ў лес. Усю хворасць як рукой зняло б. Але... На сэрцы ў яго стала горка, крыўдна і балюча, аж набеглі слёзы.

Ноч прайшла неспакойна. Бачыў у сне Алесю Зотаву. Стаіць яна ў царкве, уся ў белым, і пытаецца ў Кастуся: «Няўжо ты не ведаеш, дзе забіты Вальдзерозе?» Ён нібыта адказаў: «Ведаю. Каля Блоні, што пад Ігуменам».

Дзіўна было тое, што сон добра застаўся ў памяці, нават прозвішча нейкага Вальдзерозе запомнілася. «Хаця б Алеся не захварэла»,— падумаў ён і запытаўся ў Дурмашкіна:

— Хто такі Вальдзерозе?

— А ліха яго ведае. Не чуў такога...

Уставаць не хацелася, і паслужлівы Цярэшка падаў Кастусю кубак чаю. Дзень абяцаў быць такі ж сумны, доўгі і нецікавы, як учарашні.

Выручыў наглядчык Пікулік. Адразу пасля снедання ён адчыніў камеру і весела аб'явіў:

— Хто пойдзе снег раскідаць?

Ахвотнікаў было многа: кожнаму хацелася вырвацца на прастор, каб палюбавацца сонцам і вясною, падыхаць свежым паветрам. Але Пікулік падышоў да нараў, на якіх ляжаў Кастусь, і запытаўся:

— А ты, Кінстанцін, чаму не ўстаеш? Падымайся! Каяцца не будзеш...

Пасля змрочнай камеры на двары быў рай. На высокім сінім небе ні хмурынкі, сонца прыгравала так, што па турэмным двары ўжо зранку было не прайсці: на самай сярэдзіне яго красавалася вялікая лужына. Арыштанты дружна завіхаліся з рыдлёўкамі, прабілі даро-

гу вадзе, а потым узяліся за гурбу снегу. Кастусь раскідаў снег каля ўваходнай брамы.

У абед, седзячы побач за сталом, Шпакоўскі запытаўся ў Кастуся:

— Ну, як, Стары, ажыў?

— Дзіва што. Паўдня грэў зубы на сонцы,— весела прамовіў Кастусь.

— То атрымлівай яшчэ адну порцыю поліўкі,— сказаў кухар.

Назаўтра Кастусь зноў грэўся на сонцы: рыдлёўка ў яго была на двух з Дурмашкіным.

Яшчэ праз пару дзён вярнуўся з карцара Кролік. Зямлісты твар яго цяпер стаў белы, як палатно, і нібы прасвечваўся. Дванаццатая наладзіла свайму старасту ўрачыстую сустрэчу. Цераз Пікуліка дасталі хлопцы нават «божых» кропель і бохан свежай сітніцы. Было ў той вечар гамонкі, смеху і жартаў!

Здавалася, турэмная жытка ўвайшла ў сваю звычайную каляіну, як раптам новая бяда навалілася на дванаццатую камеру. На трэці чацвёрты дзень, як вярнуўся староста, захварэў Іван Сарока. Гарэў агнём, ноччу трызніў. Раніцою забралі яго ў турэмны лазарэт, дзе прызналі тыфус.

Прыйшоў фельчар; не пераступаючы парог, пакруціў носам — і наклаў каранцін. Цяпер зноў нікога не выпускалі з камеры. Хлопцы нібыта духам не падалі, спявалі песні, жартавалі, але гэта былі невясёлыя жарты: кожны чакаў з дня на дзень, што і яго падкосіць хвароба.

Вось у гэтыя трывожныя дні абрыдлівага чакання Кастусь атрымаў пісьмо ад Алесі Зотавай. Пісьмо кароценькае, але з важнымі навінамі. Алеся пісала, што выйшла замуж за настаўніка Рамановіча з Блоні. Кастусь успомніў сон пра Вальдзерозе і ўсміхнуўся: глядзі, што можна прысніць. Але вестку гэтую ён успрыняў даволі спакойна. Алеся, вядома, дзяўчына разумная, прыгожая, але не для яго. Ён гэта даўно ведаў і ніколі не цешыў сябе надзеяй. Больш таго, Кастусь заўсёды стараўся сябе паводзіць з Алесяй стрымана, халаднавата нават, хоць і далікатна. Сур'ёзную гаворку заўсёды пераводзіў на жарт.

У той дзень ён узяўся пісаць Алесі адказ. Але штосьці не пісалася. Спачатку здалося, што напісаў вельмі суха і казённа. Другі раз падалося, што Алеся (а можа не так Алеся, як яе муж) пакрыўдзіцца,— і зноў парваў. Няхай, іншым разам напішацца, можа, лепш.

Але атрымалася так, што Кастусь забавіўся з адказам. Не па сваёй, вядома, віне; была другая прычына.

Назаўтра на ранішнюю паверку ў дванаццатую нячысцік прынёс Славінскага. Ніхто яго не чакаў, усе спадзяваліся, што, пакуль існуе пагроза тыфусу, у камеру ён і носа не пакажа. Ажно бравы служака, відаць, задумаў у гэтыя трывожныя дні, калі над астрогам навісла цёмнай хмарай хвароба, зламаць арыштантаў, паставіць іх на калені. Калі Дожджык забразгаў ключамі, ніхто не падумаў, што ідзе начальнік турмы. Таму і не дамовіліся, як яго сустрэць.

— Устаць! — падаў каманду Дожджык.

Хто валяўся яшчэ ў пасцелі, некаторыя тупалі па камеры і, памятаючы ранейшы ўгавор, шуснулі на нары, сёй-той спасаваў і выцягнуўся перад начальствам.

— У карцар! — коршунам наляцеў Славінскі на Дурмашкіна.

— І ты!

— І ты! — тыцкаў ён пальцам.



— Пойдзеш і ты! — палец нацэліўся ў Кастуся.

Пра карцар Кастусь наслухаўся многа, але ў каменны мяшок сам трапіў упершыню. Нічога тут не відаць, і вочы тут не патрэбны. Кажуць, цемра дрэнна ўплывае на зрачок, таму вочы трэба завязваць. Увайшоўшы, ён пастаяў ля дзвярэй, якія з бразгам за ім зачыніліся, і пачаў пакрысе асвойвацца. Нагой намацаў цабэрак-парашу. Рукою асцярожна правёў па сценах. Шырыня заканурка — крыху больш як на адзін крок, удаўжкі — чатыры, пальцы дастаюць столь. Ні нараў табе, ні табурэткі; падлога драўляная, уся ў закарэлай гразі.

Знаёміўся Кастусь са сваім новым месцам спакойна і стрымана. Што ж, у турме ўсяго трэба паспытаць, усё перанесці. Ён патупаў крыху, пасля паслаў бушлат і прылёг. Думкі паплылі чарадою. Як там дома, як маці? Хаця б не прыехаў хто ў адведзіны, пакуль ён тут адседжвае кару. Будзе тады гаворкі...

Неўзабаве ў мінскім турэмным замку здарыліся такія падзеі, што пра іх загаварыў увесь горад і нават уся губерня.

Тыя памятныя дні пачаліся з таго, што начальнік турмы атрымаў па пошце на свой дамашні адрас смяротны прыгавор, афармлены па ўсіх судовых правілах. Каб паказаць, што яго не запалохаеш, Славінскі ў той жа дзень абабегаў усе камеры, тыцкаў «прыгавор» старастам пад нос і дапытваўся:

— Хочаце мяне шантажыраваць? Не выйдзе! Не баюся!

А праз два дні, на змярканні, загрымела ўся турма:

— Начальніка забілі!

— Славінскага ўхадалі!

Яшчэ ніхто дакладна не ведаў, як гэта здарылася і ці наогул здарылася, але ўся турма хадзіла ходырам. Арыштанты крычалі, грукалі ў дзверы, свісталі,— кожны выказваў як толькі мог сваю радасць і задавальненне.

Толькі раніцой стала вядома, што Славінскага сапраўды забілі. Увечары ён выйшаў за браму, ступіў колькі крокаў, як нехта двойчы стрэліў у яго з рэвальвера: адна куля трапіла ў грудзі, другая прабіла галаву.

Увесь дзень у дванаццатай служылі «малебен» па рабу божаму Пятру. «Адпявалі» кожны на сваёй мове: па-беларуску слова сказаў Міцкевіч, па-руску — Дурмашкін, па-польску — Шпакоўскі, па-яўрэйску — Лейвік Гальперын. Пасля Славінскага хавалі «поп», «ксёндз» і «рабін». З коўдраў былі зроблены адпаведныя апранахі, з паперы — шапкі і іншыя прычындалы, «папу» за кадзіла была турэмная медная конаўка, падвязаная на шнурку.

— Так яму і трэба!

— Туды яму і дарога! — цягнуў басам «поп».

Хор падхопліваў:

Хлопцы, спявайце!<br>
Недавяркі, спявайце!<br>
Ох-хо-хо-хо!

Яшчэ праз дзень у астрозе быў вялікі «шмон» — праверка. Трэслі куфэркі астрожнікаў, іх сеннікі, абмацвалі кожны рубец вопраткі, прымушалі распранацца. Забіралі ўсе недазволеныя рэчы. Кастусёвы вершы былі ў надзейным спрацe: дома ў Пікуліка. Але пры ім былі грошы. Ажно пятнаццаць рублёў, а трымаць пры сабе можна было не больш рубля. Крыўдна будзе, калі забяруць. А дзе дзець?

У Кастуся за зіму вырасла густая і доўгая барада. Хіба паспра-

баваць? Ён схаваў у барадзе свае грошы і Дурмашкіна, маленькі сцізорык Лейвіка.

Калі праверка кончылася, староста камеры сказаў:

— Цяпер, Міцкевіч, ведай — твая барада будзе нашай!

## СУМНАЯ ГАДАВІНА

Што ні поп, то свая малітва. Што ні начальнік астрога, то свае здзекі над людзьмі.

Пасля забойства начальніка Мінскага турэмнага замка арыштантаў пачалі тасаваць і перакідваць каго куды. Адных пераводзілі з камеры ў камеру, другіх у іншае месца. Міцкевіч і яшчэ сем «крапаснікоў» (так называлі засуджаных да зняволення ў крэпасці) трапілі ў жаночы астрог на Дабрамысленскім завулку, што каля Брэсцкага вакзала.

У астрозе як у астрозе, чалавек заўсёды на прывязі. Але на новым месцы былі свае невыгоды: па-першае, зусім перасталі даходзіць пісьмы, па-другое, чамусьці нікога не пускалі на спатканне, нават самую блізкую радню. У Пішчалінскім замку гаспадарыў Дожджык, тут старшы наглядчык Алейчык. У гэтага астрожнага «бацькі» свае законы, свая завядзёнка, свае больш строгія парадкі.

Там, у турэмным замку, ад ранішняй да вячэрняй паверкі камеры адчынены, можаш на сваім паверсе і ў сваім адсеку хадзіць у госці да суседзяў. Тут жа — клетка на замку ўвесь дзень. Там для крапаснікоў існавалі пэўныя прывілеі: можаш хадзіць у сваёй апранасе, дазвалялася самім кухарыць і купляць прадукты, на якія адпускалася па дзесяць капеек на чалавека, кожная камера мела свой самавар. Усё гэта Алейчык скасаваў...

Кастуся, калі ён сядзеў у замку, усю зімачку, амаль кожны тыдзень, наведвала сястра Міхаліна. Прыносіла перадачы, навіны пра тое, што чуваць дома і ў вёсцы. Гэта яна першая прынесла вестку пра Уладзікава вяселле. Узяў той замуж Любу Пракаповіч з Кучкуноў. Гэта яе малодшы брат Алесь вучыўся ў Смалярні.

Некалькі разоў за зіму прыходзіла разам з Міхалінай адведаць Кастуся яго хрышчоная маці — Аксеня Сянкевіч. Яна жыла ў зяця Галонскага па Каломенскай вуліцы, дапамагала дачцы Вікці гадаваць дзяцей.

На новым месцы ні Міхаліна, ні хрышчоная ніяк не маглі дабіцца сустрэчы. Не дазваляецца — і баста! Праўда, Міхаліна нядаўна перадала Кастусю пару чыстай бялізны і — самае важнае — два нумары «Нашай нівы»: за 20 лютага і 7 мая 1909 года. Чаму гэтыя нумары? Відаць, таму, што ў іх былі змешчаны яго вершы «Панас гуляе» і «Сон у астрозе», а таксама лірычная замалёўка Пётры Простага «Абразкі», прысвечаная яму, Якубу Коласу.

Нейкі невядомы аўтар, схаваўшыся за псеўданімам Просты, пісаў прачула, ярка і ўзнёсла: «Люблю цябе, мая родная старонка, мая матка — Беларусь! Ты выгадавала мяне, ты мне паказала нядолю і слёзы маіх братоў... Веру — устане сонца, пашле яно нам свой свет, разгоне туман, што спавіў цябе, Беларусь. Прыйдуць для цябе лепшыя часы... Для сыноў тваіх зачнецца новае жыццё — вольнае, светлае!» Гэтымі думкамі і спадзяваннямі жыў і Кастусь, таму так узрушыла і ўсхвалявала прысвячэнне замалёўкі менавіта яму. Невядомы аўтар нібы чытаў яго настрой і пачуцці...



Але найбольш узрадаваў верш Янкі Купалы «Вучыцелям людскім», змешчаны ў газеце за 20 лютага. Здзіўляла незвычайная глыбіня думкі, мужная настраёвасць, вялікая вера ў сілы і будучыню свайго шматпакутнага народа:

> Гулка нясецца стогн лесу ў начныя пацёмкі,
> Плача-галосіць ў коміне вецер глухі...
> Спіце вы, слаўныя гора і працы патомкі,
> Хутка над вамі распалім памінкаў агні!..
>
> Свежыя наспы мураўка яшчэ не пакрыла,
> Жвір толькі свеціцца, змыты сцюдзёным дажджом...
> Спіце! Мы вашых вавек не забудзем магілаў;
> Збуджаны вамі, мы ўскрэслі, мы больш не заснём!

Некалькі разоў чытаў і перачытваў Кастусь гэты верш і нейкія новыя грані адкрываў у ім. Гэта было развітанне з ахвярамі нядаўняй барацьбы, але не слёзны плач над іх свежымі магіламі, а клятва ісці іхняй дарогай і працягваць іх справы, заклік да новага пакалення змагароў смела і мужна крочыць наперад. У купалаўскім творы быў унутраны падтэкст, такі зарад, які акрыляў, бадзёрыў, прымушаў падымаць галаву, напаўняў сілай і энергіяй.

Вечарам, як усе крапаснікі сабраліся ў камеры, Кастусь прачытаў ім купалаўскі верш на памяць.

— Сёння напісаў?

— Не! Гэта верш Янкі Купалы,— паказаў ён газету.

— Здорава напісана!

— А хто гэта такі? — запытаўся Лейвік Гальперын, малады яўрэйскі паэт.

Гальперын трапіў у астрог нядаўна. Сын ігуменскага настаўніка, ён вучыўся ў мінскім ешыбоце — яўрэйскай духоўнай семінарыі, адтуль яго выгналі за вальнадумства. Тады былы ешыботнік пайшоў на завод. Пасля ўдзелу ў забастоўцы знаходзіўся на нелегальным становішчы, друкаваў вершы пад псеўданімам Лейвік. Вясною 1909 года мінская жандармерыя высачыла яго, і вось у чаканні судовага працэсу дваццацігадовы паэт адлежваўся на мулкіх нарах.

— Янка Купала — гэта беларускі паэт,— тлумачыў Кастусь.— Паэт з божай ласкі, талент незвычайны.

— Ты, Міцкевіч, бачыў яго? — запытаўся Сарока.— Цікава, як гэта выглядаюць незвычайныя людзі?

— Не, Янку Купалу я не бачыў,— адказаў Кастусь.— Але творы яго вельмі люблю... Памятаю першы яго верш «Касцу», які ён прыслаў у рэдакцыю «Нашай нівы». Было гэта ў маі 1907 года. Рэдактар прачытаў верш сам, потым кажа: «Па-мойму, тут нешта ёсць...» Узяў я той лісток, почырк не вельмі, ды, прызнацца, і верш не зрабіў на мяне вялікага ўражання. Праўда, калі цяпер разабрацца, дык песенька тая была вострая, як каса. Мы тады не вельмі разабраліся і цэнзура не прыдралася, хоць там быў выразны заклік брацца за зброю...

Кастусь падышоў да акна, моўчкі ўтаропіўся позіркам у адчыненую фортачку, цяжка ўздыхнуў і працягваў:

— Ёсць у Янкі Купалы верш «Ворагам беларушчыны». Тады я толькі-толькі вярнуўся з Магілёўшчыны. Прыносяць мне газету, прачытаў я той верш, і ажно мурашкі прабеглі па спіне. Чытаў і радаваўся, аж слязу выцер, бо сам не раз пра гэта думаў. Так яшчэ ніхто не выступаў у абарону беларускага слова:

Чаго вам хочацца, панове?
Які вас выклікаў прымус
Забіць трывогу аб той мове,
Якой азваўся беларус?
Чаму вам дзіка яго мова?
Паверце, вашай ён не ўкраў,
Сваё ён толькі ўспомніў слова,
З якім радзіўся, падрастаў...

Не верш, а святая праўда... Шкада, што мне не давялося сустрэцца з Купалам. Выйду на волю — абавязкова пабачуся...

●

Каля брамы турэмнага замка заўсёды тоўпіцца многа народу. Найбольш кабеты. Яны з цяжкімі клункамі за плячыма. Вечна нешта не ладзіцца, таму ў варотах стаіць крык і плач.

Прысадзісты, мажны хлапчына ў акулярах выстаяў чаргу і падышоў да закратаванага акенца:

— Мне трэба сустрэцца з Канстанцінам Міцкевічам.

Пісарчук пагартаў тоўстую канторскую кнігу:

— Яго перавялі ў жаночы астрог.

— А дзе гэта?

— Каля Брэсцкага вакзала.

Хлапец у акулярах хуценька пабег на Дабрамысленскую да Алейчыка. Бравы служака адказаў:

— Трэба дазвол начальніка. А яго няма, паехаў у Пінск.

— Даражэнькі дзядзечка, пусціце... Я стрыечны брацёнік Міцкевіча. Еду ў Маскву, мой цягнік хутка адыходзіць. Калі я з Кастусём не пабачуся, то адзін бог ведае, калі і ці сустрэнемся мы з ім... Майце літасць!

Чалавек так прасіў, што Алейчык пачухаў за вухам, моўчкі ўзяў з паліцы звязак ключоў і паклыпаў да вялікай драўлянай будыніны з кратамі на вокнах. Хлопец пайшоў за ім і трапіў у брудную бакоўку. «Старшой» загадаў тут чакаць, а сам пайшоў па калідоры.

Кастусь гуляў з Якавам Бязменам у шахматы, калі расчыніліся дзверы і наглядчык сказаў:

— Міцкевіч, хадзі сюды... Брат да цябе прыйшоў.

Але замест Уладзіка ці Алеся ля дзвярэй стаяў незнаёмы плячысты хлопец у белай кашулі і цёмных портках. Прывіталіся. Кастусь узрадавана прамовіў:

— Ведаю, ведаю Цішку Гартнага. Чытаў у газеце. Ну, што там чутно на свеце? Расказвайце...

Капыльскі гарбар Зміцер Жылуновіч прыехаў з Вільні на працу ў Мінск і першым чынам задумаў сустрэцца з Якубам Коласам. У Вільні ён часта заходзіў у рэдакцыю «Нашай нівы». Там пазнаёміўся з кіеўскім студэнтам Сяргеем Палуянам і шчыра пасябраваў з ім. Яны шмат гаварылі пра народную долю і царскую Думу, пра сялянскую галечу і забастоўкі рабочых, але найбольш пра маладую беларускую паэзію, Янку Купалу і Якуба Коласа. Першы недзе вучыцца ў Пецярбурзе, а другі, бедалага, сядзіць у мінскім турэмным замку.

— Рэакцыя ціснe вольную думку жалезным абцасам,— гаварыў Жылуновіч.— Але ёсць свае законы развіцця грамадства. Сонца ўзыдзе незалежна ад таго, ці заспявае певень...

Пасля размова пайшла пра новыя беларускія кнігі, вершы Максіма Багдановіча. Кастусь расказаў нейкае смяхотнае здарэнне з турэмнага побыту, Зміцер — новы анекдот пра Вітэ. Здаравенны наглядчык з рэвальверам на шырокім поясе нервова круціў вус, чуючы, як весела і задаволена рагочуць хлопцы. На развітанне Кастусь і Зміцер тройчы пацалаваліся.

З турэмнай брамы Жылуновіч выйшаў узрадаваны і ўсхваляваны сустрэчай. Вось ён які, Якуб Колас! Звычайны, крыху лысаваты, з вялікай чорнай барадой чалавек. Але малайчына, мужна і бадзёра трымаецца, турма не зламала яго.

Задаволены сустрэчай з капыльскім гарбаром быў і Кастусь. Які настырлівы! Нават самога Алейчыка ўламаў, каб пусціў. Не тое, што Фурсевіч. Той напісаў паштоўку, што быў у Мінску, але наведаць сябра не знайшоў часу. Дык чаго ж ты вярэдзіш душу, напамінаеш пра сваю персону?! А гэты, бач, чужы і незнаёмы, а прыйшоў адведаць, каб выказаць сваё спачуванне і спагаду.

З лёгкай рукі Цішкі Гартнага лета 1909 года выдалася для Кастуся Міцкевіча багатае на сустрэчы. Блізкая радня, сябры-настаўнікі, добрыя знаёмыя і нават тыя, каго ён не чакаў, прыходзілі адведаць няшчаснага астрожніка.

Праз некалькі дзён пасля таго, як Кастуся наведаў капыльскі гарбар, у астрог на Дабрамысленскай прабілася Ліза. Ліза Андрэеўна Карніловіч закончыла Бястужаўскія вышэйшыя жаночыя курсы, вярнулася на радзіму і працавала ў вёсцы Хожава, каля Маладзечна. Аднойчы яна разгаварылася са сваім вучнем Пятром Цярэшкам. Пятро сказаў, што яго бацька сядзіць у мінскай турме. У адной камеры з ім былы настаўнік Канстанцін Міцкевіч.

Як дачулася пра гэта Карніловіч, дык рашыла абавязкова адведаць свайго віленскага знаёмага. Ліза выпісвала беларускую газету і часта сустракала там вершы Якуба Коласа. У бурлівым 1905 годзе яна сама сядзела ў «Крыжах» — вядомай пецярбургскай турме для палітычных — і ведала па чым фунт астрожнага ліха, разумела, якую неспадзяваную радасць прынясе Міцкевічу.

Аднойчы бразнула засаўка ў дзвярах:

— Міцкевіч, нарачоная прыйшла!

Толькі Кастусь пераступіў парог пачакальні, Ліза падбегла да яго, цмокнула ў адну шчаку, у другую, весела засмяялася:

— А якая ж страшная барада! Мой жа ты Каласок!

Кастусь не чакаў такой сустрэчы і крыху разгубіўся. Ён не ведаў, што Ліза, каб дабіцца сустрэчы, назвала яго сваім жаніхом, з якім яна быццам бы заручоная. Бястужаўка і далей паводзіла сябе з добрым веданнем нораву турэмных служак: яна сунула рубля ў лапу, і наглядчык адышоў у кут.

На другім тыдні пасля Пятра камеру, дзе сядзелі «крапаснікі», сярод ночы паднялі на ногі, усім адзелі кайданы і пагналі назад у Пішчалінскі замак. Узмоцнены канвой ішоў з шаблямі нагала. Размясцілі на другім паверсе, у кутнай камеры, пад самай вежай. Адразу для крапаснікоў вярнуліся ранейшыя правы. Уладзік Салвэсяў стаў загадваць арцельнай гаспадаркай і фінансамі, даваў грошы на крупы і хлеб Пікуліку, а той купляў, што трэба, на Віленскім рынку. Кастусю ж прыйшлося ўзяцца кухарыць.

Пасля нясмачнай і рэдкай баланды, якой кармілі на Дабрамысленскай, Кастусёвы абеды ўсім прыйшліся да спадобы: і крупнік густы, скалкі плаваюць, і дабаўка ёсць. Хлопцы часам пыталіся:

— Ці не дакладаеш ты, Стары, са свае кішэні?

— Я прыняў у нашую арцель новага начальніка астрога,— пасмі-

хоўваўся Кастусь.— Ён пабойваецца, каб і яго не ўходалі, дык па рублю дакладае.

Неяк спраўны кухар абіраў бульбу. Прыбягае Уладзік Сальвэсяў і кажа:

— Ідзі, браце! Да цябе дзядзька Антось прыджгаў. Я пакухавару...

Толькі глянуў Кастусь на госця — і зразумеў: нейкая бяда здарылася дома. Дзядзька ссутуліўся, даўно не голены твар учарнеў. У жывых і прыветных вачах смутак і разгубленасць, кашуля без падпяразкі.

Пляменнік і дзядзька Антось абняліся, моцна пацалаваліся.

— Што? — запытаў Кастусь, і яму чамусьці падумалася, што нешта з маці.

— Пагарэлі,— ціха прамовіў дзядзька і выцер слязу.— Карчму як языком злізала. Увесь наш бок выкаціла. Толькі гумно ацалела. Там, у гумне, пажывем да халадоў. За гэты час, можа, якую хатку агораем. Бач, нябож, як яно выходзіць: не куецца, а плешчацца...

Навіна, якую прынёс дзядзька Антось, растрывожыла Кастуся. Самае крыўднае было, што ён нічым не можа дапамагчы дамашнім у гэтую нялёгкую для іх часіну. Іншая справа, каб быў на волі. Паехаў бы зноў у Папоўку, зарабіў бы за зіму сотні паўтары. Дый што казаць! На волі ён знайшоў бы нейкую раду, каб падсабіць маці. А так сядзі тут, трубі ў кулак, кусай локці са злосці...

На другім тыдні, нарэшце, паказаўся доўгачаканы Сымон Самахвал. Хацеў спачатку Кастусь даць яму добрую праборку, але як убачыў знаёмы нос-імбрычак, дык адразу ўся крыўда на яго прапала. Сымон расказаў пра сваё жыццё-быццё, даў адрас настаўніка Жука, які напісаў праклamацыю, за якую трапіў Кастусь на казённыя харчы. Якаў Бязмен ведаў таго Жука і паслаў яму пісьмо-карыкатуру: вялікі чорны жук выводзіць пяром «Дарагія таварышы!» (так пачыналася тая лістоўка), а побач чалавек нясе тры вялізныя крыжы, на верхнім з іх напісана: «Тот грехи наша понесет и язвою его мы исцелехом».

Праз колькі дзён заглянуў і Антон Лявіцкі, які выступаў на старонках «Нашай нівы» пад псеўданімам Ядвігін Ш. Вясёлыя былі яго апавяданні, весялун быў і ён сам — сярэдняга росту, гадоў пад сорак чалавек у просценькім вынашаным касцюме. Прывёз ён Кастусю паклон ад Янкі Купалы...

Так у трывозе, клопатах і сустрэчах са знаёмымі і сябрамі прайшло лета. На турэмным двары вецер змятаў першыя жоўтыя лісты, калі Кастусь зноў дастаў з сенніка свой патайны сшытак, куды запісваў свае астрожныя думы.

Прайшоўся Кастусь па камеры раз, другі. Усе разбрыліся, хто куды. На нарах ляжаў толькі Цярэшка: яму штосьці нездаровілася. Ды ў суседняй камеры галёкалі арыштанты-крымінальнікі: у іх заўсёды нейкія забаўкі.

— Сёння ж гадавіна! — раптам успомніў Міцкевіч.

Каб упэўніцца, што сёння 15 верасня 1909 года, Кастусь глянуў на сцяну, дзе вёўся каляндар. Правільна, сёння якраз роўна год, як яго запякалі ў каталажку! Значыцца, адну трэць адбухаў. Зіма пройдзе — будзе палавіна тэрміну, а там і другі верасень.

Вечарам, лежачы на сенніку, Кастусь успамінаў, як год таму назад вырашаўся яго лёс у судзе. Усё быццам вяло на тое, што ўдасца выйсці «сухім». Пра настаўніцкі з'езд гаворкі адносна было мала, следства круцілася вакол надрукаваных на гектографе лістовак, але



вывады экспертаў адносна таго, хто іх пісаў, разыходзіліся. Кастусь вінаватым сябе не прызнаваў, адвакат Петрусевіч выступіў таксама добра. Таму ў Кастуся была надзея на апраўданне. Ён у часе перапынку пасля пасяджэння схадзіў на Захараўскую, перакусіў у харчэўні, а ідучы назад у суд, купіў новыя чаравікі. Цяпер смешна нават, які быў наіўны. Спадзяваўся на адно, а выйшла зусім другое. Успомніў яшчэ, як акалодачны, пачуўшы, што і Кастуся трэба браць пад варту, падбег і цап за руку.

— Ты чаго, пеўнік, хапаешся? — агрызнуўся тады Міцкевіч.— Не бойся, не ўцяку!..

Думаў пра сумную гадавіну, а ў галаве ўжо складаліся радкі:

Нешчаслівы дзень прыдаўся:
Волю я ў той дзень хаваў...

●

У суседняй вялікай, як казарма, камеры сярод лета 1910 года з'явіўся гарбаты дзядзька ў суконнай світцы і юхтовых ботах з высокімі халявамі.

Новы астрожнік прывалок два цяжкія, як падняць, самаробныя куфэркі з начыннем, запэцканы фарбай пляскаты чамаданчык і мех нейкіх сукаватых дзеравяк. Паводзіў ён сябе ў камеры смела, асвойтвацца яму не трэба было. Ціхенька насвістваючы нейкую вясёлую мелодыю, ён у першы ж дзень абсталяваў святлейшы кут камеры пад рабочае месца. Адзін куфэрак, раскрыты і падвешаны на сцяну, стаў зручнаю палічкаю з наборам рознага прыладдзя. Там былі фігурныя і кантовыя стамескі і стамесачкі, долаты і долатцы, малюпасенькія напільнікі і нейкія іншыя штуковіны. Другі куфэрак служыў гаспадару сядзеннем.

Гарбаты ўмела майстраваў, і на вачах здзіўленых астрожнікаў увачавідкі з'явіліся пацешныя драўляныя фігуркі хлопчыка, сабакі і ката. Паглядзець, як выразае цацкі навічок, сабраліся ўсе цікаўныя, прыйшлі таксама Кастусь, Якаў Бязмен і шавец Іцка Мардуховіч. Глядзелі яны, глядзелі, а потым Якаў і кажа:

— Якія малайцы гэтыя астрожнікі! Адзін умее майстраваць шылам, другі стамескай, а трэці пяром.

— А хто гэта пяром? — падняў галаву гарбаты.

— Вось настаўнік Міцкевіч,— адказаў Якаў і дадаў, паказваючы на Кастуся:— Ён жа яшчэ Якуб Колас, Тарас Гушча, Тамаш Булава — усіх яго псеўданімаў не злічыць...

— Якуб Колас? — усхапіўся на ногі навічок.— А я Казімір Кастравіцкі або інакш Карусь Каганец...

Новыя знаёмыя моцна абняліся і пацалаваліся.

— Раз такая выйшла справа, то на сёння хопіць,— Каганец развязаў фартух.— Во, браце, дзе нам давялося ўпершыню пабачыцца. Але і малайчына ты, хлопча! Хвацкія вершы пішаш! Ой, хва-а-ацкія!

— Дый у вас, дзядзька Карусь, ёсць добрыя. «Кабзар» напрыклад.

— Няма часу мне вершы пісаць,— махнуў рукою Каганец.— Дый, скажу я табе, не пішуцца вершы, калі дзеці галодныя плачуць.

З самага пачатку Каганец устанавіў свой рытм турэмнага жыцця. Уставаў ён раненька, перш карміў галубоў, потым снедаў сам і садзіўся за варштат. Маляваў карціны і майстраваў цацкі на продаж. Пасля кожнай гадзіны рабіў размінку, падыходзіў да «тэлефона» —

так называлі акенца паміж камерамі, праз якое можна было пазычыць махоркі на папяросу, шклянку гарбаты ці лусту хлеба — і пазіраў, што робіць Кастусь. Каганец не любіў, калі яму перашкаджалі працаваць, і сам не хацеў нікога адрываць ад занятку.

Ва ўсёй постаці і абліччы Каганца адчувалася моцная сіла волі. Глыбокае перакананне было ў яго любімых словах:

— Беларусь трэба падымаць!.. Трэба вучыць селяніна грамаце. Гэта наша задача — задача свядомых беларусаў.

Каганец змалку захапіўся беларускім нацыянальным рухам. З усімі, нават з панамі і падпанкамі, гаварыў толькі на роднай мове. Нацыянальныя праблемы, характар і ўчынкі беларускіх дзеячаў былі ўлюбёнай тэмай яго размоў. З асаблівай замілаванасцю ён расказваў пра Янку Купалу:

— Мы, Кастусь, з табою лапцяватыя мужыкі як сваім выглядам, так і творамі. У Купалы прыроджанае шляхецтва ва ўсім. Блакітныя задуменныя вочы, невялікія светла-русыя вусікі. Спраўна сядзіць на ім светлы шчыгульны касцюм, бялюткая манішка. Неяк пры мне зайшла гаворка пра беларускую паэзію. Адзін з супрацоўнікаў «Нашай нівы» сказаў: «Многа паэтаў нам і не трэба, тым болей, каб некаторыя перараслі нас». Янка Купала яму запярэчыў: «Я рады буду, калі новае пакаленне паэтаў перарасце нас...»

У буднія дні Каганец старанна працаваў, зарабляў сям'і на хлеб. Пра яго ўмельства дачулася турэмнае начальства, і заказаў было ўволю. Перш-наперш ён адштукаваў Пікуліку з фотакартак партрэты яго дзяцей. Той паказаў Каганцову работу Дожджыку, «старшой» яшчэ некаму, і пасыпаліся заказы. Праўда, хто плаціў, а каму прыходзілася маляваць і бясплатна. Аднак і ў горшым выпадку збіралася за месяц чырвонцы два.

Кастусь, бачачы, што ў дзядзькі Каруся час дарэмна не марнуецца, устанавіў і для сябе распарадак дня. Ад снядання да абеду ён кожны дзень пісаў. Кончыў паляшуцкую гісторыю «Батрак», пачаў «Паўлюкову бяду». У суботу надвечар збіраліся хлопцы з іншых камер, прыходзіў Каганец, і Кастусь чытаў тое, што напісаў за тыдзень. Толькі пасля гэтага Пікулік нёс пакет на пошту.

Трэба сказаць, што летам і восенню 1910 года сувязь з воляю неяк пачала абрывацца. Чамусьці ніхто з настаўнікаў за ўсё лета не адведаў Кастуся, рэдка трапляла яму і беларуская газета. Адна толькі Міхаліна прыносіла перадачы. Праўда, неяк на пачатку лета заглянуў Ядвігін Ш., узяў у Кастуся згоду на складанне і выданне рэдакцыяй «Нашай нівы» зборніка яго вершаў. Пасля гэтага прайшло шмат часу, а з рэдакцыі больш ні слова.

А ў пачатку кастрычніка прыбягае ў камеру дзядзька Карусь і паказвае Кастусю «Нашу ніву» за 30 верасня 1910 года. На першай старонцы ў рамцы з віньетак надрукавана аб'ява:

Выйшла з друку новая кніжка Якуба Коласа
«Песні жальбы».
Зборнік вершаў; 128 старонак.
Цана 30 кап.

Была ў гэтым нумары і рэцэнзія нейкага Бульбы на «Песні жальбы». Кастусю хацелася хоць адным вокам як найхутчэй глянуць на сваю кнігу. А яе не было і не было. Прыйшлося напісаць у рэдакцыю адно пісьмо, потым другое — усё дарэмна! Толькі пазней ён даведаўся, што абвестка ў газеце была «анонсам», а рэцэнзія пісалася па карэктуры з надзеяй, што зборнік на падыходзе. Кніга ж, як



на тое, пазнілася ў віленскай друкарні Ендрасевіча і з'явілася ў продажы толькі ў пачатку снежня.

Сам аўтар не мог бы толкам адказаць, чаму ўсхвалявалі і ўзрадавалі «Песні жальбы» непараўнальна больш, чым першая кніга. Можа, таму, што «Другое чытанне» ён атрымаў нечакана і негадана, а другую кнігу чакаў даўно і ніяк не мог дачакацца. А можа таму, што змест «Другога чытання» ён ведаў наперад, бо сам пісаў і складаў кніжку. Тут жа ён прапанаваў толькі назву зборніка ды параіў змясціць вершы асобнымі цыкламі. А што ўвайшло ў «Песні жальбы», ён да гэтага дня не знаў.

Родныя беларускія краявіды, ад якіх ён быў вось каторы ўжо год аддзелены жалезнымі кратамі, зноў паўставалі перад яго вачыма. У небе сумна курлычуць жураўлі, адлятаючы ў вырай; сыплюцца чыстыя і дробныя кроплі асенняга дажджу; потым за акном вецер шуфляе снег; нарэшце вясна, вясна, жаданая! І за кожным малюнкам прыроды стаяла перад вачыма альбуцкае прыволле.

Чытаў Кастусь сваю кнігу, і замурзаныя сцены камеры ў тую ноч быццам бы рассоўваліся перад ім. Свежы подых наднёманскага ветрыку ўрываўся ў смярдзючы турэмны пакой і нёс яго думку далёка-далёка. Успомніліся семінарскія сябры, настаўніцкі з'езд, тая ноч, калі стражнікі паказаліся пад вокнамі школы. З таго часу пачаліся пакуты, якім няма канца. Дзе сябры-настаўнікі, куды закінула іх доля? Чаму ніхто з іх не падаў за ўсё лета голасу?

Гартаў Кастусь старонку за старонкай, пакуль не дайшоў да радкоў:

Уздыхнула цяжка маці,
Аб сынку гадае,
Што ў астрозе, ў паняверцы
Кару адбывае...

Адразу стала цяжка на сэрцы, набегла няпрошаная сляза. Кастусь прайшоўся па камеры з кута ў кут. Брудная турэмная клетка, асветленая цьмянай газнічкай, выглядала панурай ямай-магілай. Цішыня. Толькі хто-небудзь загаворыць праз сон, варочаючыся пад бушлатам — арыштанцкай курткай.

Нялёгка яму тут, за жалезнымі кратамі, але ён абабіўся, прызвычаіўся ўжо. Чалавек прывыкае да ўсяго: і добрага, і кепскага. А як там мама жыве? Як маюцца дзядзька Антось, браты і сёстры?

Кастусь ведае, што вось роўна год, як перабраліся яго дамашнія з карчомнага гумна ў Смольню. Так называюць у Мікалаеўшчыне невялічкі грудок за Церабяжамі, пры самым Нёмане. Дзядзька Антось з Уладзікам у тое ж лета, як згарэла карчма, купілі ў Яршах зруб, збілі з яго плыт і прыгналі ў Смольню. Нарэшце збылася даўняя мара Міцкевічаў: яны маюць сваю сядзібу! Няхай жа прыйдзе шчасце ў іхнюю хату. Яны, здаецца, выпакутавалі яго сваёй цяжкай працай.

## «МОЙ РОДНЫ КУТ, ЯК ТЫ МНЕ МІЛЫ...»

Зіма з 1910 на 1911 год здалася Кастусю вельмі доўгай, а таму і цяжкай. Душа яго ўжо знебылася ў чатырох сценах і рвалася на волю, а да яе, доўгачаканай, было яшчэ так далёка.

Калі разважыць спакойна і цвяроза, то не так ужо і многа яму

засталося тут кукаваць, лічаныя месяцы ўжо. Хутка вясна, а там лета — і збірай бэбахі, як кажа шавец Мардуховіч, што спіць з Кастусём побач на нарах. Бяда толькі, што ўсё гэта так і не так. Ён і раней лічыў кожны дзень, з радасцю выкрэсліваў яго з календара, напісанага вуглем над дзвярыма камеры. Цяпер жа дні неймаверна здоўжыліся. Хацелася падганяць іх, каб яны беглі скарэй.

Кастусь хадзіў з кута ў кут, снаўдаўся з адной камеры ў другую, але нідзе не знаходзіў прыпынку. Не вабілі яго ні розныя выдумкі краўца Ёселя, ні штукарствы шаўца Свінкіна. Што толькі ні выдумлялі яны, каб пацешыць арыштантаў!

Смяротная кара за ўдзел у пінскай арганізацыі бамбістаў Ёселю была заменена пажыццёвай катаргай. Чакаючы адпраўкі ў Сібір, ён адкрыў крамку і гандляваў папяросамі, абаранкамі і іншымі таварамі, якія знаходзілі збыт у турме. І не проста прадаваў, а з рознымі выдумкамі.

— Хто з'есць вязку абаранкаў, той атрымае бясплатна яшчэ адну...

— Даю пяць пачак папярос таму, хто з'есць зараз два фунты сала,— аб'яўляў Ёсель.

Мінскі злодзей Свінкін меў свой «рэпертуар». Часты госць у замку, ён быў дока наконт таго, як змарнаваць час і пасмяяцца з навічка. «Пілаванне дуба», «банькі» і іншыя здзеклівыя забаўкі Свінкін умеў наладзіць лепш, як хто.

Раней Кастусь часам зойдзе ў суседнюю камеру паглядзець, што чвэраць арыштанты, а цяпер ні кроку туды: было яму балюча і крыўдна за чалавека. Мала здзекуецца турэмная адміністрацыя, дык яшчэ і самі арыштанты памагаюць таптаць і пляжыць людскую годнасць!

Аднак нудзіўся сёлета ён не так доўга. Як толькі зірнула па-вясноваму на турэмны двор сонца, яго неспакой і ўтрапенне як рукой зняло. Мабыць, дапамагло тое, што ён пачаў пісаць вершаванае апавяданне «Як дзядзька ездзіў у Вільню і што ён там бачыў». У аснову яго была ўзята гісторыя Антосевых паездак, звязаных з афармленнем продажу зямлі, на якую пры куплі бралі пазычку ў Віленскім зямельным банку. Кастусь расказаў гэтыя падзеі дзядзьку Карусю, а той насеў:

— Вазьмі напішы. Такі цікавы твор атрымаецца, а я зраблю да яго малюнкі.

Узяўся Кастусь і так уцягнуўся ў работу, што зноў, як апантаныя, пабеглі дні. Гэта цешыла аўтара, і ён не здаваў тэмпу. Даўно Кастусь заўважыў: калі творча працуецца, то і на сэрцы весялей, і час ідзе хутчэй.

Перастане пісаць — і нэндза агортвае душу. Таму, яшчэ водзячы Антося з Грышкам Верасам па Вільні, ён задумаў паказаць любімага дзядзьку не толькі ў гарадскіх, нязвыклых для яго абставінах, а павесці ў Ласток і Альбуць, каб і самому прайсціся незабыўнымі сцежкамі маленства.

Лежачы на турэмным сенніку, ён у думках пераносіўся ў далёкае мінулае, і ўсё пražытае паўставала перад яго вачыма нанова, у паэтычным святле і прыгажосці. Было тады ўсё: і голад, і холад, але цяпер успаміналіся толькі радасныя і вясёлыя падзеі. Памяць быццам адсейвала ўсё кепскае і захоўвала толькі добрае і прыемнае. Што ён даў бы, каб хоць на адзін дзянёк вырвацца з турэмнай задухі і з дзядзькам Антосем заглянуць на Нёман, пасядзець за хатнім сталом, паслухаць песні лясных жаваранкаў...



Яшчэ ў самым разгары была работа над вершаваным апавяданнем, яшчэ дзядзька Антось падыходзіў толькі к банку, а Кастусю не давалі спакою, прасіліся на паперу радкі:

Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы!
Не раз, утомлены дарогай,
Жыццём вясны мае убогай,
К табе я ў думках залятаю
І там душою спачываю...

Былі ў яго паасобныя сцэнкі дамашняга побыту, складзеныя ім даўно і не раз чытаныя зімовымі вечарамі яшчэ ў Альбуці:

Хадзіў па лесе зранку бацька,
У Нёмне рыбу вудзіў дзядзька,
А старшы хлопец пасвіў статка,—
Адна у хаце з дзецьмі матка...
А ззаду, узяўшысь за спадніцу,
За ёй ішоў Юзік-шаляніца,
Ахвотнік рэпай пажывіцца
Або ў садок у вішні ўбіцца...

Даўно напісаны былі і іншыя замалёўкі, асабліва шмат іх прысвячалася дзядзьку Антосю. Інакш і быць не магло: дзядзька ўмеў ладзіць з пляменнікамі, заўсёды знаходзіў для іх цікавую гульню ці забаўку.

Закончыўшы вершаванае апавяданне пра дзядзькавы прыгоды ў Вільні, Кастусь пераключыўся на альбуцкія ўспаміны. Памалу ажывалі даўно знаёмыя мясціны: ціха шумелі асіны, што разам з хвоямі абступалі леснічоўку, булькала ў алешніку крынічка, а на старых пахіленых вербах прабіваліся першыя кволыя лісточкі... Цудадзейную сілу мае паэтычнае слова! Дзякуючы яму не толькі ўзнаўляліся ў памяці мілыя сэрцу драбніцы даўняга клопату і радасці, але і лячыліся балючыя турэмныя раны.

Зноў вярнуўся колішні творчы настрой, бадзёрасць і сіла. Увесь час паміж ранішняй і вячэрняй прагулкай на астрожным двары ён сядзеў над новым творам. Былі ўжо амаль цалкам закончаны раздзелы «Раніца ў нядзельку» і «Леснікова пасада», «Смерць ляснічага», але пэўнага плана паэмы ў Кастуся яшчэ не было. Ён увесь час думаў над тым, каб неяк скампанаваць, аб'яднаць у адзінае цэлае вершаванае апавяданне пра дзядзькавы прыгоды і новыя раздзелы. Трэба было знайсці нешта такое, што звязала б разрозненыя раздзелы. Але што?

Рашэнне з'явілася нечакана. Кастусю прыйшла чарга кухарыць, у памочнікі да яго напрасіўся Цярэшка. Сядзелі яны ўдвух, абіралі бульбу, гаварылі пра волю: у ліпені 1911 года Мацей адбываў свой трохгадовы тэрмін.

— Абрыдла тут мэнчыцца,— казаў Цярэшка.— Рукі даўно сумуюць па плузе і касе... Зямля для селяніна — родная маці. Яна мілая і дарагая карміцелька...

«Зямля — вось што аснова»,— прыйшлі раптам на памяць бацькавы словы. Бедны, не дачакаўся ён свае зямлі. Праз цяжкія выпрабаванні і пакуты набылі сваю палоску маці з дзядзькам Антосем і Уладзікам. Аддалі зямлі яны многа сіл і яшчэ аддадуць, але ці знойдуць шчасце, якое шукаюць?..

Вядома, зямля — найпершая ўмова сялянскага шчасця, яна асно-

ва яго дастатку і дабрабыту. Так думаў бацька, так думае маці, так здаецца і яму, Кастусю. Аднак маскоўскі рабочы Аляксандр Голуб, якога нядаўна пасадзілі ў іхнюю камеру, кажа, што селяніну мала свае зямлі, каб па-людску жыць на свеце. Трэба яму перш за ўсё свабода.

Як бы там ні было, а зямля ёсць зямля. Яна пакуль што аснова сялянскага жыцця. Таму хай зямля будзе ў цэнтры ўвагі паэмы. Можа, і назваць паэму «Зямля»? Бацька збіраўся на сваёй зямлі пачынаць жыццё нанова, на новы лад... Дык няхай і паэма называецца «Новая зямля». Яму яшчэ самому няясна, як выкіруецца сюжэт, але хочацца паказаць дзядзьку Антося, бацьку і маці так, каб усе пабачылі працавітага беларуса, зразумелі яго душу і сэрца. Зачын, здаецца, зроблены някепскі. Дзядзька Карусь хваліць. Дый яму і самому падабаюцца некаторыя мясціны.

Сярод лета ў камеры адбылося многа перамен. Старыя астрожнікі раз'ехаліся хто куды, на іх месца прыйшлі новыя. Студэнта Дурмашкіна яшчэ з вясны павезлі судзіць у Маскву. Дожджык неяк адамкнуў уранку камеру і гукнуў:

— Цярэшка, з вяшчой!

Радасны Мацей кінуўся развітвацца. Пацалаваўся з усімі, а з Кастуся ўзяў слова, што той прыедзе пагасцяваць у Хожава:

— І я рады буду, і яшчэ нехта цябе там чакае...

Цярэшка меў на ўвазе Лізу. Яна нядаўна зноў прыязджала адведаць Кастуся.

Праз некалькі дзён забразгаў ключамі Дожджык і ў суседзяў:

— Кастравіцкі! Збірай манаткі.

Кастусь дапамог дзядзьку Карусю сабраць начынне і фарбы, занёс яго чамаданы ў пачакальню.

— Ну, братко Якуб,— праслязіўся Каганец,— жадаю хутчэй і табе гэтага.

Яшчэ раней паехаў Ёсель на пасяленне ў Сібір, Уладзіка Сальвэсевага і Якава Бязмена перавялі на ніжні паверх. У камеры са старых знаёмых засталіся толькі Мардуховіч і Шпакоўскі. Людзей паменшала, у камеры стала цішэй, і Кастусь увесь жнівень 1911 года цэлымі днямі праседжваў над паэмай.

Акрыляла яго адчуванне набліжэння волі. Засталіся лічаныя дні, а там, браце, загуляем. Толькі б удалося ўладкавацца на настаўніцкую службу! Тады днём займаўся б з вучнямі, а вечарамі пісаў бы «Новую зямлю». Калі б удалося на вясну кончыць паэму, то ўзяўся б за другую. Планы ў Кастуся вялікія. Выспелі, вынасіліся думкі пра Сымона-музыку. Хацелася расказаць пра свае пакуты, нялёгкія жыццёвыя вандроўкі. Хутчэй бы воля, а ён яшчэ пакажа свету, што можа напісаць! Ого-го! Хіба зноў схопяць за руку ці заганяць у салдацкую казарму. Ёсць такая пагроза...

25 жніўня 1911 года нарэшце падаў пасля вялікага перапынку голас Самахвал. Сымонава пісьмо было невясёлае. Праз дзень Кастусь сеў пісаць яму адказ, як мог суцяшаў сябра: «Пасаваць перад жыццём нельга. Ты ж знаходзішся на волі, табе ёсць магчымасць адстаяць сваё права на шчасце і долю. Я яшчэ ў турме, але думкамі даўно на волі...»

— Калі сам шавец ходзіць у падраных ботах, то паўбяды,— сказаў у той дзень Мардуховіч, збіраючыся пасля абеду ў майстэрню.— Але калі ў суседа развальваюцца камашы, то гэта ўжо зусім кепска.

Кастусь абуў новыя чаравікі, купленыя перад судом, і хадзіў у іх, пакуль Мардуховіч падбіў у старых падноскі. А праз некалькі дзён



глянуў пад нары — няма новых чаравікаў, адчыніў чамадан — і там няма. Што за праява?

— Хлопцы, хто прыставіў ногі маім чаравікам? — запытаўся Кастусь.

— Абрыдла тваім камашам у турме,— адказаў Шпакоўскі.— Падаліся яны на волю, не дачакаўшыся гаспадара...

Жарты жартамі, а кінуліся шукаць прапажу ўсёй камерай. Перарылі куткі і закуткі,ператрэслі ўсе куфэркі і бэбахі, але Кастусёвых чаравікаў і след прастыў. Клікнулі ў «тэлефон» Івана-верхавода камеры крымінальнікаў. З «палітычнымі» Іван жыў у згодзе, а Кастусь нават аднойчы пісаў па яго просьбе пісьмо. Некалькі хвілін у суседняй камеры стаяў страшэнны гармідар: Іван вёў допыт у сваёй «парафіі». Потым гукнуў Кастуся:

— Чаму ж ты, хлопча, раней не агледзеў? Свіння той Свінкін! Гэта яго работа... Я яму, сабаку, галаву адкруціў бы. Ён толькі ўчора выйшаў на волю... Цяпер лаві ветру ў полі...

Кастусь па новых чаравіках вельмі не бедаваў. Ліха іх бяры! Ці гэткае прападала. І колькі яшчэ прападзе... Вунь тры гады змарнаваліся. Радавала адно: скора на волю. Можна тыя дзянёчкі па руках палічыць. Нават цяжка даць веры...

11 верасня Кастусь прачнуўся, як заўсёды, рана, глянуў на каляндар. Заставалася яшчэ чатыры ночы пераджыць, а там, там... Ён радасна ўсміхнуўся. У гэты час нехта загрукаў замком, дзверы расчыніліся, і Дожджык нечакана закрычаў:

— Міцкевіч! З вяшчой!

Кастусь даўно чакаў гэтай каманды, але не думаў, што пачуе яе на некалькі дзён раней. Саскочыўшы з нараў, ён у адных сподніках пайшоў упрысядкі...

## НА ВОЛІ

Апынуўшыся за астрожнай брамай, Кастусь з Уладзікам Сальвэсевым у той жа дзень пайшлі на паклон да Райскага.

Пакуль абодва Міцкевічы сядзелі ў астрозе, іх прыяцель і калега Аляксандр Райскі выйшаў у людзі. Колішні сакратар настаўніцкага з'езда, за ўдзел у якім Кастусь з Уладзікам трапілі на казённы харч, быў цяпер памочнікам начальніка канцылярыі самога Эрдэлі — мінскага губернатара. Вось што значыць мець шчасце і ажаніцца з разлікам!

Як ні ўпіраліся сябры, але губернскі чыноўнік зацягнуў іх у рэстаранчык, прапанаваў па чырвонцу на дарогу, ды нядаўнія астрожнікі грошай не ўзялі. Ім патрэбна было іншае: даведка пра добранадзейнасць. Без гэтай паперыны дырэкцыя народных вучылішчаў на пасаду іх не прызначыць. А дзе ты якую другую службу знойдзеш? Уся цяжкасць была ў тым, што даведку павінен падпісаць губернатар. Паспрабуй да яго даступіцца і даказаць, што ты стаў добранадзейны! Таму ўсе спадзяванні на Райскага. Ён, як-ніяк, аціраецца каля высокага начальства дый паручыцца можа за няшчасных «агаркаў».

Даведка патрэбна для таго, каб атрымаць настаўніцкую пасаду. Аднак была яшчэ адна прычына, якая прымушала настойліва дабівацца даведкі. Будзеш настаўнікам — не возьмуць у салдаты. Пасля астрожнага жыцця трапіць у салдацкую казарму пад уладу фельдфебеля — перспектыва не вельмі прывабная.

У той жа дзень Уладзік падаўся ў Мікалаеўшчыну, а Кастусь позна ўвечары сеў у Мінску на віленскі цягнік. Вёз у рэдакцыю «Нашай нівы» тры сшыткі вершаў і пачатак «Новай зямлі». Была надзея, пакуль удасца выстарацца даведку ў губернатара, прыляпіцца на працу, як не ў рэдакцыі, то наогул дзе-небудзь у Вільні.

Імжыў халодны асенні дождж, калі а шостай гадзіне цягнік спыніўся на віленскім вакзале. Кастусь наставіў каўнер і тунелем выйшаў на перон. Гадзіны паўтары ён чакаў, пакуль развіднее і трохі сціхне дождж.

Перш-наперш заглянуў на Завальную вуліцу. У рэдакцыі «Нашай нівы» сядзеў толькі справавод. Ад яго Кастусь даведаўся, што наступны нумар газеты выйдзе здвоены, ажно 22 верасня, таму рэдактар паехаў у Радашковічы. Калі ён будзе, невядома...

Прыйшлося завярнуць да Зотавых. Там выпіў шклянку гарбаты і падаўся ў Ландварова — віленскую дачную мясціну, дзе жыў знаёмы настаўнік Іван Касяк.

Праз дзень з Іванам трапілі ў Вільні на настаўніцкую вечарынку. Кастусь у паношаным касцюмчыку і латаных чаравіках адчуваў сябе няёмка сярод кампаніі маладых выфранчаных людзей. Рэй на вечарынцы вяла прыгожая дзяўчына, маладая беларуская паэтэса Канстанцыя Буйлянка. Калі яна запытала, чаму ён такі сумны, а позірк яго халодны, Кастусь адказаў экспромтам:

Мой зрок, як лёд халодны,
Гарыць тады ён толькі,
Калі накормлены галодны
І гояцца людскія болькі...

Усе віленскія знаёмыя хвалілі яго вершы, спачувалі, але ніхто не мог ці не хацеў дапамагчы з уладкаваннем на працу. Прыйшлося ні з чым ехаць у вёску.

Радасна і шчыра сустрэлі яго толькі ў хаце, што стаяла непадалёку ад Нёмана. Было тут усё разам: смех, слёзы, пацалункі. Кастуся адразу ўсадзілі за стол, дзядзька прынёс бутэльку, якая даўно чакала госця. Дзяўчаты паставілі на стол марынаваных баравікоў, маласольных агуркоў, палажылі кус вяндліны. Пасля пачастунку дзядзька Антось вылез з-за стала і павёў пляменніка аглядаць сялібу.

— Во, бачыш, які маем, пане мой, палац! — паказваў задаволены дзядзька.— Тут мы жывем, а ў той палавіне Уладзік з Любаю... Каб ведаў твой бацька, як тут гаспадарым, то яму і паляжанне было б лягчэйшае...

Праз некалькі дзён Кастусь пайшоў у лес, выкапаў некалькі стройных ліпак і бярэзінак, пару груш-дзічак і пасадзіў іх у двары. Няхай растуць! Весялей будзе выглядаць увесь гэты куточак, калі тут зазеляняюць дрэўцы.

Потым схадзіў у грыбы ажно ў Паласенскі лес. Не сядзелася без работы. Перш напісаў пісьмо Русецкаму ў Пінск, пасля Гардзялкоўскаму ў Папоўку. Пінскі інспектар адказаў хутка: узяў бы з вялікаю ахвотаю, але без згоды губернатара не можа гэтага зрабіць. Гардзялкоўскі таксама баяўся, што запярэчаць улады. Адказы прыхільныя, але карысці з іх мала. Вось тут і жыві!

Пад ляжачы камень вада не цячэ. Кастусь паехаў у Мінск: трэба паспрабаваць трапіць да губернатара. А можа і пашанцуе. Але Эрдэлі быў у адпачынку недзе на водах. Прашэнне прыйшлося пакінуць у Райскага.

На душы нявесела. Што рабіць, куды падацца? Зрэдку браўся пісаць «Сымона-музыку». Але такіх дзён было мала. Часцей нападала беспрасветная туга. Лезлі ў галаву розныя недарэчныя думкі. Было страшна, ці вытрымаюць нервы.

Вось у такую хвілю нэндзы і адчаю раптам прыходзіць неспадзяванае пісьмо з Лунінца. Вікенці Філіповіч, з якім Кастусь некалі сядзеў у семінарыі на адной парце, клікаў да сябе ў госці. І не проста ў госці, а прапаноўваў вучняў. Дзеці чыгуначнікаў збіраліся паступаць у Пінскае рэальнае вучылішча, ім патрэбны настаўнік-рэпетытар. Плата не вельмі, але рублёў трыццаць збярэцца...

Аднак у Лунінцы, на ціхай невялічкай станцыі, закінутай сярод палескіх лясоў і балот, доўга пажыць не давялося. Ды Райскі ў пачатку студзеня 1912 года паведаміў, што губернатар на Кастусёвым прашэнні напісаў рэзалюцыю: «Отказать». І гэта было б яшчэ паўбяды, але праз які месяц позва павятовага воінскага начальніка знайшла яго і ў Лунінцы... Куды дзецца? Што рабіць?

Восенню споўніцца трыццаць, а ён жа яшчэ па-людску не жыў. Пайсці ў салдаты — значыцца, выкрасліць яшчэ тры гады. «Не!» — разважыў Кастусь. Кінуў рэпетытарства, сабраў лісткі з паэмай «Сымон-музыка» і апавяданнямі «Нёманаў дар» і «Недаступны», заехаў дамоў сказаць, што паспрабуе адседзецца ў Бяларучах, у Яські Базылёвага. Пісьмы каб пісалі на Астрашыцкі Гарадок, на Яськаў адрас. Па дарозе да земляка заглянуў у губеранскую канцылярыю.

— Пішы новае прашэнне,— параіў Райскі.— Можа, другое шчаслівейшае будзе...

Красавік прайшоў спакойна, а ў маі зноў кліча воінскі начальнік. Сабраў Кастусь манаткі і зноў да Райскага. Той загадкава ўсміхнуўся, пайшоў з нейкімі паперамі на даклад да губернатара. Доўга яго не было, а потым прыходзіць, разгортвае папку і кладзе перад Кастусём даведку:

— Можаш ехаць да Русецкага!

Кастусь схапіў доўгачаканую паперку і адразу ж падаўся ў Пінск. Рыгор Антонавіч сустрэў Міцкевіча як добрага даўняга знаёмага.

— Службу знойдзем у Пінску,— сказаў Русецкі.— Толькі трэба пачакаць да восені... Чуў я і пра вашыя літаратурныя справы. Віншую і жадаю поспеху!

— Да восені чакаць не магу,— паказаў Кастусь позву.— Згодзен на любое месца.

Інспектар паклікаў справавода Федзюка:

— Дзе ў нас ёсць вакансіі, каб можна было прызначыць Міцкевіча?

— У Лапаціне, у Бярозцах...

— Глядзі, што бліжэй.

— У Купяцічах.

Кастусь даў згоду на Купяцічы. Блізка павятовы горад — усяго якія-небудзь дзесяць вёрст, дый школьны будынак там нядрэнны. Некалі, як у Купяціцкім народным вучылішчы працавала Ганцова, ён хадзіў у госці да суседкі, браў у яе нелегальную літаратуру. Дзе цяпер Вольга?

Заняткі ў народных вучылішчах ужо скончыліся, але Кастусь пераначаваў на новым месцы, агледзеў школу. Назаўтра прыйшоў у Пінск, сустрэў Федзюка, а той кажа:

— Як добра, што цябе ўбачыў. Русецкі хоча з табою пагаварыць.

Інспектар прапанаваў месца ў трэцім Пінскім прыходскім двухкласным вучылішчы. Плата дваццаць восем рублёў у месяц, плюс адзінаццаць кватэрных. Кастусь падумаў і згадзіўся.

Цяпер можна было ехаць да воінскага начальніка і са спакойным сэрцам адпачываць лета, каб першага верасня ўключыцца ў школьную працу.

## СУСТРЭЧА Ў СМОЛЬНІ

Летнім адвячоркам з мінскага цягніка на станцыі Стоўбцы сышоў сярэдняга росту русявы мужчына гадоў трыццаці. Блакітнавокі, з невялікімі светла-русымі вусікамі. Апрануты ён быў не багата, але досыць прыстойна і з густам: сівенькі гарнітур у палоску, белая кашуля, новыя чорныя чаравікі. У адной руцэ ён трымаў невялікі саквояж, у другой — светлую накідку і саламяны капялюш.

Пасажыра ніхто не сустракаў. Ён некалькі разоў павольна прайшоўся па пероне, паглядаючы на дарогу, дзе стаялі фурманкі балаголаў. Потым у роздуме паставіў на лаўку саквояж, палажыў накідку і капялюш, дастаў з кішэні гадзіннік.

На яго прыгожым твары з мяккімі, крыху насмешлівымі вачыма з'явілася заклапочанасць. Ён яшчэ раз зірнуў на дарогу, потым на сонца, якое садзілася за лес, выцер хусцінкай лоб, прыгладзіў валасы і звыклым рухам падкруціў рыжаватыя вусікі.

Цягнік пагрукатаў у бок Замір'я. На пероне стала ціха і бязлюдна. Пасажыр закурыў папяросу.

Вечарэла. Цёплы жнівеньскі дзень адыходзіў на спачынак. Ружовыя водбліскі пазалацілі верхавіны дрэў. З-за драўлянай прыбудоўкі, што прытулілася да станцыйнай мураванкі, выйшаў нейкі дзядзька ў форменнай адзежы з ліхтарыкам у руках.

— Скажыце, калі ласка, ці далёка Мікалаеўшчына? — падышоў да яго пасажыр.

— Не так далёка, вёрст восем будзе,— адказаў чыгуначнік.— Але ісці на ноч гледзячы...

— Нічога, пакуль змеркне, вёрст пяць прайду... А як мне, скажыце, будзьце ласкавы, на мікалаеўскую дарогу трапіць?

— Вунь бачыце агеньчык? Гэта пераезд. Там звернеце налева. Мінуўшы вадзяны млын, трымайцеся дарогі, што вядзе ў Акінчыцы. За Акінчыцамі трэба звярнуць направа цераз Альбуць. Увогуле, трымайцеся так, каб з правай рукі ў вас быў Нёман... А, можа, лепш было б завярнуць у маю хатку — вуньдзека ля самага пераезда — і пераначаваць? А заўтра ранενька фурманка надарыцца... Мікалаеўскія настаўнікі заўсёды ў Доніса Дракі, гэта значыцца ў мяне, свае куфэркі пакідаюць, калі ідуць пехатою дамоў... Вы, відаць, таксама настаўнік?

— Не, не настаўнік, але да аднаго знаёмага настаўніка еду,— адказаў пасажыр і, падзякаваўшы гаваркому дзядзьку Доніcу за запрашэнне пераначаваць, падаўся ўздоўж чыгуначнай каляі туды, дзе на пераездзе віднелася будка стрэлачніка і блішчаў ліхтар.

За невялічкім азярцом, на беразе якога стаяў вадзяны млын, дарога павярнула на пясчаны ўзгорак, у малады хвойнік. Мужчына з саквояжам у руцэ і накідкай цераз плячо ішоў хутка і лёгка: відаць было, што ён прывык хадзіць пехатою.

Вечар быў ціхі. У хвойніку пахла смалою і грыбамі. Падарожны чалавек на хвілю спыніўся і азірнуўся назад, дзе між дрэў свяціліся прывакзальныя агеньчыкі. Над возерам слаўся рэдкі туман. Нейкая незвычайная цішыня панавала навокал.



Неўзабаве хвойнік перайшоў у густы бор. Ужо надыходзіў змрок, калі сярод лесу паказаліся няясныя абрысы хат і гумнаў. Вось бліснуў адзін агеньчык, другі. Недзе рыкала карова і бляялі авечкі...

З паўвярсты за вёскай лес справа кончыўся. Пачаўся луг, зарослы кустамі вербалозу і алешніку.

«Тут недзе павінна быць паваротка»,— прыпамінаючы размову з Доніcам Дракам, падумаў падарожны. Вось яна! Вытаптаная сцяжынка збочвала ў кусты. Чалавек спыніўся, а потым смела рушыў на сцежку... Праз якую вярсту ён адчуў, што з правага боку павеяла прахалодай: там недзе Нёман! Значыцца, ідзе правільна: Мікалаеўшчына на беразе ракі. Неўзаметку кусты перайшлі ў дробналессе, а потым сцяжынку абступілі бярозы і старыя дубы.

Мужчына ішоў, высвістваючы нейкую мелодыю, пакуль сцяжынка не прывяла да балотнага ручайка. Берагі ручайка, які паблісквоў між кустоў, былі багністыя, ногі правальваліся ў гразь. Чалавек паспрабаваў абысці ручаёк, але набраў у чаравікі вады і пачаў разувацца. Вада была сцюдзёная, і прыемны халадок асвяжыў ногі.

«З крынічкі цячэ»,— падумаў падарожны і пайшоў далей басанож. Мяккая вільготная сцяжынка вывела на грудок, укрыты верасам. Пад ногі пачалі трапляць сухое голле, хваёвыя шышкі. Чалавек прысеў на пянёк і абуўся.

Далёка ў лесе крычала, аж заходзілася сава. Пошчак ад яе крыку доўга разлягаўся ў паветры.

Чалавек закурыў, глянуў на гадзіннік і рушыў далей. На скрыжаванні дарог пастаяў у роздуме і звярнуў направа. Ішоў доўга, пакуль не скончылася сцежка. Куды ж цяпер? Чалавек спыніўся і прыслухаўся. Спакойна і аднастайна шумелі дрэвы, недзе справа крычалі качкі, падаваў голас бекас. З таго боку пацягнула вільгаццю. Відаць, блізка Нёман. Раптам у вячэрняй цішы пачулася песня, звонкія дзявочыя галасы выводзілі:

Маладая дзеванька свае мамачкі просіць:  
— Мамачка мая родная, едзь у лужочак,  
Па калінку ды па калінавы цвяточак,  
Мне, маладзенькай, на вяночак!..

Чалавек радасна рушыў напрасткі ў той бок, дзе гучала песня. Прайшоў крыху, і дарогу яму перагарадзіла балота. Ён спыніўся і прыслухаўся. Да дзявочых галасоў далучаліся хлапечыя:

Мамачка пад'язджае —  
Каліначка адцвітае.  
Мамачка бліжай, бліжай —  
Каліначка вышай, вышай.

Прыйшлося ўзяць улева. Раптам хвоі спынілі сваю гамонку над галавой. Лес скончыўся і перайшоў у ядлоўцавы пералесак. Праз некалькі хвілін чалавек выйшаў на пясчаны ўзгорак і ўбачыў на шырокім лузе вогнішча начлежнікаў. Далёка наперадзе бліснулі рэдкія цьмяныя агеньчыкі. Вёска!

Чалавек прыбавіў кроку і пайшоў пагоркам туды, дзе на зорным небасхіле вырысоўваліся сілуэты будынкаў. Калі ж спусціўся з узгорка, дык зусім блізенька ўбачыў Нёман і непадалёку адзінокі хутар — прысадзістую хату на дзве палавіны, хляўчук і гумно.

●

У сенцах гарэла газоўка. Цьмяны водбліск праз расчыненыя дзверы падаў на ганак і падворак. Ганна перамывала ў ночвах бульбу,



І ты закрасуеш, наш Мінск старадаўны,
У плошчах, садах зацвіцеш.

(Мінск.)

**Юры ТЫШКЕВІЧ. З КОЛАСАЎСКАГА АЛЬБОМА**



Ўстаньце, хлопцы, ўстаньце, браткі!
Ўстань ты, наша старана!

(Беларусам, 1906 г.)

**Юры ТЫШКЕВІЧ. З КОЛАСАЎСКАГА АЛЬБОМА.**



Дзед Талаш.



Аксіння і Мартын Рыль.

Пятро ДРАЧОЎ.

ІЛЮСТРАЦЫІ ДА АПОВЕСЦІ ЯКУБА КОЛАСА «ДРЫГВА».

а дзядзька Антось збіраўся класціся спаць, калі на ганку пачуліся крокі і нехта прамовіў:

— Добры вечар у хату!

— Добры вечар!

— Ці не тут часам жыве Міцкевіч?

— А які, паночак, вам трэба? — запытаўся дзядзька Антось.— У нас у сяле Міцкевічаў многа...

— Канстанцін Міцкевіч мне трэба. Якуб Колас,— з усмешкай дадаў падарожны чалавек.

— Тут, тут,— адказаў дзядзька, здагадваючыся, што прыехаў нейкі Кастусёў знаёмы.

— Тады мне пашанцавала,— зноў усміхнуўся чалавек і, паставіўшы саквояж, падаў дзядзьку руку.— Будзем знаёмы, Іван Луцэвіч — Янка Купала...

— Янка Купала?! — радасна ўсклікнуў дзядзька Антось.— Няўжо? О, які дарагі госць!

— Як Косцік узрадуецца! — прамовіла маці.— Заходзьце, калі ласка, у хату! Косціка якраз няма дома, пайшоў у сяло. Зараз мы яго паклічам...

Антось запаліў на кухні лямпу і запрасіў госця:

— Праходзьце далей! Будзьце як дома...

Ганна ў гэты час наказвала дачцы:

— Маня, схадзі пазаві Кастуся. Ён недзе ў Мілюка або Яські Базылёвага, скажы, што прыехаў Янка Купала. Толькі хуценька, мая галубка!..

Выправіўшы дзяўчыну, маці пачала завіхацца ля печы.

— Цётачка, а нашто такая турбацыя? — запытаў Купала.

— Гэта ж такі неспадзяваны і жаданы госць,— весела адказала Ганна.— Скажыце мне, Яначка, як гэта вы патрапілі так позна? Падвёз вас хто?

— Мне Кастусь пісаў, што Мікалаеўшчына стаіць на Нёмане, а ваша хата з краю вёскі. Ну, я і пайшоў пехатою,— пачаў Янка расказваць, як ён ішоў адзін незнаёмай дарогай, пераходзіў ручаёк, блукаў у лесе.— Некалі мы жылі ў Прудзішчы і Селішчы, гэта за Лагойскам. Там наўкол лясы і лясы...

Слова за слова, і гаворка пайшла пра тутэйшыя радзівілаўскія лясы, пра Нёман, пра жыццё-быццё мікалаеўцаў.

— Жывецца ў нас нялёгка,— гаварыў дзядзька Антось.— Зямля — пясок ды каменне, ды і мала яе. Калі б не лясы і Нёман, даўно трэба было б кінуць-рынуць гэтае месца і ўцякаць куды вочы глядзяць... Лясы даюць сякі-такі кавалак хлеба нашаму брату. Скрозь цяпер купцы завіхаюцца і без усякай літасці пляжаць лес. Зімою нашы мікалаеўцы возяць калоды на рум, а вясною гоняць плыты... Нёман нам добра служыць, цягне ў наш мужыцкі бок. Гады два назад ён змяніў рэчышча і прырэзаў мікалаеўцам ад княжацкай сенажаці добрую лукавіну.

За акном пачуўся тупат. Янка Купала ўсхапіўся з тапчана.

— Дай жа я, браце, пагляджу на цябе добра,— весела прамовіў Янка Купала, акідваючы позіркам Кастуся з галавы да ног.— Даўно вершы чытаю, некалькі лістоў нават атрымаў ад таго Якуба Коласа, а як ён выглядае — упершыню бачу... Глядзі, які малайчына! Відаць, як і мне, трыццаць стукнула? Восенню? А вершы добрыя пішаш... Як гэта там у цябе:

> Рэдкае збожжа, травы палавіна,
> Колас не гнецца зярном да зямлі.





Знаць, нешчаслiва была та часiна,
Як кiдалi зерне сяўцы па раллi...

Кастусь уяўляў сабе Янку Купалу паводле яго вершаў, цiхiм i задумлiвым сялянскiм хлопцам, а перад iм быў гаваркi i вясёлы чалавек, апрануты ў гарадскi шчыгульны гарнiтур.

— Якi там малайчына,— прамовiў Кастусь, глянуўшы на свае латаныя картовыя порткi i стаптаныя сандалi.— Бяздомны арыштант без сталага прыстанiшча i службы — вось хто я! Паспытаў казённага хлеба, дык у школу не хацелi браць. Ледзь-ледзь уладкаваўся ў Пiнску.

— Вядома, цяжкi крыж табе выпала несцi. Наперадзе яшчэ многа спраў i клопату, затое служба ў нас з табой ганаровая: мы народу служым.

За сталом гаворка пайшла жвавей. Госць расказваў пра жыццё ў Пецярбурзе, пра свайго добрага апекуна — Бранiслава Эпiмах-Шыпiлу.

— Прыехаў у лiпенi да мацi ў Акопы, што каля Заслаўля,— працягваў Янка.— Адпачыў крыху. Тут неўзабаве твой лiст атрымлiваю... Я сам сабе i падумаў: «Сапраўды трэба нам сустрэцца, пагутарыць...» Сабраўся i прыехаў у Стоўбцы. Не такi я багацей, каб наймаць балагола...

— А чаму табе, браце, не напiсаць было? Так i так, у суботу прыязджаю. Дык мы цябе на станцыi сустрэлi б цэлым настаўнiцкiм хаўрусам. Цябе ж тут добра ведаюць...

— Дарагi госцейка, бярыце, ешце! — запрашала мацi.— Бульба ў нас смачная, на пясочку расце, баравiкi таксама ўдалiся... Гэта Кастусь збiраў.

Калi чарка абышла яшчэ адзiн круг, дзядзька Антось сказаў:

— Цяпер, панове паэты, вы, мажа, нам што-небудзь прачыталi б.

— Тады хiба я раскажу,— устаў з-за стала Янка Купала i роўным спакойным голасам пачаў:

Можна хатку убраць тынкаваннямi з плеснi,
Можа вiхар нядоляй заенчыць над ей,
Можна пець салаўiныя шумныя песнi,
Што шчаслiвы ўвесь свет, няма гора ў людзей...

Янка Купала перадыхнуў, глянуў на Кастуся, i яго голас загучаў бадзёра i звонка:

Але ёсць жа вялiкая праўда на свеце,—
Праўда, сiлаю роўная сонца агням,—
Цяпер спiць, але ўстане i бляск свой расквецiць,
За сваё панiжэнне адплацiць людзям.

— Так-то яно так,— вывеў з развагаю дзядзька Антось,—праўда ёсць на свеце, але бяда ў тым, што да яе, як да цара, далёка i, як да бога, высока...

— Нiчога, дзядзька Антось, народ верне праўду на зямлю,— прамовiў Янка.— Толькi трэба дружна ўзяцца...

— Цяжка!.. Вось Костусь спрабаваў яе знайсцi, дык адразу ў казённы дом трапiў.

— Ат, годзе вам пра палiтыку,— умяшалася мацi.— Чым хата багата — тым рада. Бярыце, Янaчка, бярыце!

— «Хлеб на стале — рукi свае»,— сказаў бы Сцяпан Крынiцкi,— засмяяўся госць i дадаў: — Гэта я напiсаў нядаўна невялiчкую камедыю «Паўлiнка», дык там ёсць такi засцянковы шляхцiч... Ну, цяпер ты, Каласок, што-небудзь прачытай. Давай, давай!

— Добра, прачытаю i я,— сказаў Кастусь i кiнуў вокам у бок дзядзькi Антося:

Яшчэ машына не спынiлась,
Як усе вакруг заметушылiсь.
Стаяць у праходах пасажыры.
Пад рукi б'юць зайцы-пранырьi...
Срэдзь люду рознага i панства
I мiж усякага ўбранства
Вiдна i дзядзькава апратка
I шапка, збiтая ў аладку...

— Глядзi ты, нiбыта i ён там быў са мною,— засмяяўся дзядзька Антось.

— А гэтыя радкi ты, Кастусь, помнiш? — запытаўся Янка:

Хоць зернейкi засохшымi былi,
Усё ж такi жыццёвая iх сiла
Збудзiлася i буйна ўскаласiла
Парой вясенняй збожжа на раллi.

Вось сiмвал твой, забыты краю родны!..

— Максiм Багдановiч,— адказаў Кастусь.— Тонка разумее i адчувае ён верш... Пара яму ўжо зборнiк выдаваць.

— Будзе зборнiк,— адказаў Янка.— Паэзiя ў нас iдзе паперадзе... Горш з драматургiяй i прозай. Няхай бы ты якi вадэвiль напiсаў. Не! Лепш напiшы, Каласок, раман. Сапраўдны беларускi раман. Во будзе здорава!

Шчырая сяброўская размова зацягнулася. Кастусь з Янкам выйшлi з хаты i селi на лаўцы пад лiпамi.

На высокiм небе ярка свяцiлiся зоры.

## МАРЫЯ ДЗМIТРАЎНА

Двухпавярховая мураванка трэцяга прыходскага вучылiшча ў Пiнску знаходзiлася недалёка ад вакзала, на Чыгуначнай вулiцы. Тут недзе паблiзу трэба было шукаць i кватэру. Кастусь цэлы дзень выхадзiў, але нiчога людскага не траплялася: то вельмi дорага, то кватэра кепская. Прыйшлося пераначаваць у гасцiнiцы. Затое назаўтра яму мясцовыя настаўнiкi параiлi схадзiць на Вадаправодную вулiцу, да фельчара Арсеня Балевiча. Яго прыгожы i ўтульны домiк быў не так блiзка, але i не так далёка ад вучылiшча. Тут Кастусь i наняў невялiчкi пакойчык з кухняй. Вулiца цiхая, пры домiку садок. Любата!

Навiчку, як усюды i заўсёды вядзецца, выпала найцяжэйшая работа. Кастуся прызначылi працаваць са старэйшым аддзяленнем. Адных сшыткаў правяраць колькi! Уставаў ранелька, гатаваў сабе снядакак, а палове дзевятай пачынаў урокi. У дзве гадзiны занятки канчалiся, i настаўнiк iшоў абедаць у сталовую. Пасля рыхтаваўся да заўтрашнiх урокаў, правяраў сшыткi. Пiсаць сваё садзiўся позна ўвечары i то не кожны дзень. Але ў першы ж месяц работы ў Пiнску ён паслаў у «Нашу нiву» апавяданне «Дзеравеншчына».

Калiсьцi ў Пiнкавiчах Кастусь атрымлiваў дваццаць рублёў у месяц — i нiбыта хапала. Цяпер амаль у два разы больш — i мала.

Выдаткі ў горадзе непараўнальна большыя. А тут яшчэ трэба форменны касцюм і паліто справіць. Прыйшлося зноў ісці ў заробкі: даваць прыватныя ўрокі.

Пакуль абабегаеш усіх вучняў — ужо і вечар. Папасядзіш над урокамі, папраўляеш сшыткі, аж у вачах зелянее. Пара спаць. А здараліся дні, што так хацелася засесці за «Сымона-музыку»! У галаве самі сабой складваліся радкі, прасіліся на пяро. Эх, каб прымеў ды не пайшоў на тое рэпетытарства. Засеў і пісаў, пісаў...

Так круціўся Кастусь, як вавёрка ў коле, усю восень. Школа, прыватныя ўрокі — з дня ў дзень. Затое ехаў на каляды дамоў у новай апранасе з бліскучымі гузікамі, вёз гасцінцы сёстрам і братам, а мацеры некалькі чырвонцаў на гаспадарку.

— Як паблажэў, сынок! — паківала галавою маці.— Няма каму цябе даглядаць. Няхай бы ты жаніўся, Косцічак. Было б табе весялей і лепей жыць...

— Добра, мама! Летам прыеду з жонкай,— жартам паабяцаў Кастусь.

Ён нават каяўся, што не застаўся працаваць у Купяцічах. У вёсцы было б куды больш часу займацца любімай працай. Да паўдня ў школе, а пасля сядай за стол і пішы сабе. А тут гойсаеш ад аднаго да другога чыноўніка, вучыш іх тупаватых і гультаяватых сынкоў, а карысці з гэтага ніякай.

З рэдакцыі «Нашай нівы» прасілі новыя вершы і апавяданні. А дзе ты іх возьмеш, калі няма часу пісаць? Трэба перш зарабіць кавалак хлеба...

Аднойчы вясною 1913 года атрымаў ён газету, а ў ёй у раздзеле «Паштовая скрынка» надрукавана:

«Тарасу Гушчу: Шмат ужо нашых чытачоў замаркоцілася па вашых вясёлых апавяданнях і пішуць да нас, даведваючыся, як вы жывы-здаровы. Адгукніцеся».

«Шаноўныя, каб вас воўк паеў! — падумаў сабе Кастусь.— Надрукуйце хаця б тыя мае вершы, што даўно адлежваюцца ў рэдакцыйнай шуфлядзе».

Доўга ў той вечар хадзіў настаўнік па пакоі, думаў, пасміхаўся сам сабе. А можа сапраўды напісаць нешта вясёлае? На памяць прыйшла па-свойму смешная гісторыя пра мікалаеўскага плытніка Лукаша, які, стоячы ў царкве, заснуў, а калі яго разбудзілі, спрасонку крыкнуў свайму памочніку: «Пініп! Кідай шырыгу!» [1]

Вось як! І назва добрая кладзецца: «Адгукнуўся». Няхай ведаюць у рэдакцыі, што ён чытаў іхнюю «Паштовую скрынку».

Кастусь сеў за стол і пачаў пісаць: «Ноч была цёмная, ціхая, цёплая. Ні месяца, ні зорак зусім не было відаць. Праўда, у гэтую ноч месяц і не падымаўся; можа і ён пёк сабе дзе-небудзь пірагі і бабкі на вялікдзень, павярнуўшыся спіною да зямлі. А што належыць да зорак, то яны хоць і былі на небе, але пазакрываліся хмарамі. Можа, яны там мыліся ды прычэсваліся — іх дзявочая справа...» Так на адным дыханні, у жартаўліва-гумарыстычным плане за адзін вечар 13 красавіка 1913 года напісаў Кастусь апавяданне «Адгукнуўся»...

●

У канцы мая Кастусь прыслаў з Пінска пісьмо, якое дома ўзбударажыла ўсіх. У ім была нечаканая вестка: Кастусь збіраўся ажаніцца з настаўніцай Марыяй Дзмітраўнай Каменскай і прасіў матчынага благаславення.

[1] Шырыга — кол, якім тармазілі плыт.



Маці заплакала ад радасці і папрасіла дзядзьку Антося яшчэ раз прачытаць пісьмо. Сын пісаў коратка. Ён пазнаёміўся з Марыяй восенню. Яна родам з Вільні, але працуе ў Пінску, у чыгуначнай школе.

— Адпішы, Антоська,— сказала маці.— Мы вельмі рады, што нарэшце Кастусёк знайшоў сабе жонку. Няхай яна прынясе яму шчасце, няхай усё ідзе ў іх на лад і дабро!

Дзядзька Антось напісаў доўгае пасланне з благаславеннем ад імя маці і самога сябе.

Неўзабаве Кастусь паведаміў, што 3 чэрвеня 1913 года ўзяў шлюб, а праз тыдзень, у суботу, прыедзе з жонкай у вёску.

Маці з дзяўчатамі ўзяліся парадкаваць і прыбіраць у хаце, а потым завіхацца каля печы. Варылі, пяклі, смажылі. Трэба было добра сустрэць гасцей. Чым дагадзіць Кастусю, ведалі, а вось што любіць яго жонка, ніхто не знаў.

Пасля паўдня дзядзька Антось запрог маленькую, але даволі жвавую кабылку Порах і паехаў на станцыю. Маці расставіла на сталах пачастункі і задумалася, як яна сустрэне нявестку і сына.

Дзядзька Антось прыехаў позна, ужо на дварэ цямнела.

— Прыехалі! Прыехалі! — закрычала Маня.

Усе выбеглі на ганак. Побач з Кастусём сядзела прыгожая круглатварая маладзіца з вялікімі задуменнымі вачыма і русявымі валасамі. Кастусь першы саскочыў з драбінак, падаў жонцы руку. Марыя Дзмітраўна падышла да маці. Жанкі доўга цалаваліся, выцíралі слёзы, радасна пазіралі адна на другую. Хвіліна была ўрачыстая і важная, у маці ад хвалявання вылецелі з галавы ўсе словы, якімі яна хацела сустрэць нявестку. Таму замест благаславення яна сказала проста і шчыра:

— Жывіце, мае дзеткі, дружна і хораша, у радасці і шчасці. Паважайце і шануйце адно аднаго...

Неўзабаве Марыя Дзмітраўна стала сваім чалавекам у Смольні: дапамагала маці ўходжвацца каля печы, даіла карову, ішла разам з усімі сушыць сена. Суседкі часам пыталіся ў маці:

— Дык як, Ганна, спадабалася нявестка?

— А мае вы даражэнькія, ні ў кога няма такой працавітай і добрай, як мая Марыля...

Калі падышло жніво, Марыя Дзмітраўна паехала жаць жыта на Русакоўскія пусткі. Нікому не прызналася, што жаць не ўмее. Узяла серп у рукі. Чах-чах! — і па руцэ. Юзя пачала яе вучыць. На трэці дзень Марыя жала не горш астатніх. А як спраўлялі дажынкі, пацягнула кроплю медавухі і сустрэла Кастуся песняй:

Ах ты, мілы мой,
Адчыні мне двор.
Ідзе твая міленькая
Ды весяленькая...
Ці рады ты ёй?!

## ВАЙНА

Зіма прайшла ў штодзённых клопатах пра кавалак хлеба. Кастусь з жонкай па-ранейшаму кватаравалі ў фельчара Балевіча, займалі цяпер ужо дзве бакоўкі. Плаціць трэба было больш. Па-другое, як людзі

сямейныя, яны абзаводзіліся сваёй гаспадаркай. Таму грошай, як заўсёды, не хапала, і Кастусь вымушаны быў падзарабляць рэпетитарствам. Горкі і цяжкі гэта быў хлеб! Але якую ты знойдзеш іншую раду?

Цешыла яго толькі тое, што, нягледзячы на загружанасць у школе і прыватнымі ўрокамі, ён умудраўся знаходзіць час працаваць творча. У «Нашай ніве» друкаваліся яго новыя вершы і апавяданні з задуманага цыкла «Казкі жыцця». У пачатку года выйшлі ў пецярбургскім выдавецтве Антона Грыневіча тры тоненькія кнігі: «Нёманаў дар», «Тоўстае палена» і «Прапаў чалавек». Апрача таго, была дамоўленасць, што ў наступным годзе ў Вільні выйдзе вялікі зборнік «Родныя з'явы».

Сустракаючы 1914 год, Кастусь пісаў у вершы «На новы год»:

Атупелі мы ў нашай нягодзе,—
Холад, голад, гарэлка, суды...
Чым пацешыш ты нас, Новы годзе?
Што нясеш ты нам, год малады?

Ні паэт, які пісаў гэтыя радкі, ні вялікія палітыкі, ні нават тыя, у чыіх руках былі дзяржаўныя лейцы,— ніхто на пачатку года не ведаў, што 1914 год нясе ў дадатак да ўсіх нягод вайну — найгоршую бяду, якая бывае на свеце.

Цёмныя хмары на небасхіле збіраліся даўно, у паветры пахла порахам. А сярод лета 1914 года наспела кульмінацыя: 14 ліпеня пачалася ўсеагульная мабілізацыя, а 19 ліпеня [1] немцы аб'явілі вайну Расіі.

Гэтая вестка як абухом па галаве стукнула Кастуся. Што яго возьмуць у армію, ён не баяўся. Бянтэжыла іншае: пойдзе ў салдаты, не развітаўшыся з жонкаю, і невядома, ці давядзецца ім больш пабачыцца. Кастусь сядзеў у Смольні і чакаў позвы, а Марыя Дзмітраўна была ў далёкай дарозе. Як настаўніца чыгуначнай школы, яна мела бясплатны білет і за некалькі дзён да мабілізацыі паехала ў Крым. Кастусь ніяк не мог дараваць сабе, што адпусціў жонку ў такое падарожжа. Намучыцца яна і накараецца ў дарозе: уся ж чыгунка забіта вайсковымі эшалонамі.

Кастусю не сядзелася дома, ён кожны дзень хадзіў у Стоўбцы. А можа, сустрэне Марыю. А яе не было і не было. З Масквы на Варшаву ў цяплушках ехалі салдаты, гарлапанячы п'яныя песні; на адкрытых платформах стаялі гарматы.

Аднойчы Кастусь вярнуўся са станцыі, сеў за стол і сумна апусціў галаву. Трывога і неспакой нараinduсталі ў яго сэрцы. Хаця б чаго не здарылася?

— А што было б, каб раптам паказалася твая Марыя? — увайшоў у хату Уладзік.— Што ты рабіў бы?

— Хоць не ўмеючы, а пусціўся б у скокі.

— То, хлопча, танцуй!

Назаўтра Кастусь з жонкай паехалі ў Пінск. Там яго неўзабаве мабілізавалі і адправілі ў Мінск, у казармы Серпухоўскага палка. Меліся залічыць у 240-ю рабочую каманду, але выратаваў цыркуляр міністра асветы. Вярнуўся ў Пінск. Афіцыйна было аб'яўлена, што заняткі ў школах пачнуцца 1 кастрычніка. Выхаашылі паехаць да Марынай маці, якая жыла ў ваколіцах Вільні. Ды доўга не пагасцявалі: Кастуся там прызвалі ў войска, але ў скорым часе зноў адпусцілі. Пашанцавала і на гэты раз: у сувязі з набліжэннем навучальнага года ваенны міністр загадаў адпусціць настаўнікаў, якія яшчэ не былі прыпісаны да палкоў дзеючай арміі.

Таму атрымалася так, што яшчэ адзін год зімавалі ў Пінску. Год быў цяжкі і трывожны. Руская армія адступала, стаўка галоўнакамандуючага з Баранавіч пераехала ў Магілёў. Кастусь адчуваў сябе няёмка: усе мужчыны цягнуць акопнае ярмо, а ён сядзіць дома.

Летам 1915 года, калі рускія войскі вымушаны былі пакінуць Варшаву, Коўна і баі разгарэліся пад самым Брэстам, пачалася эвакуацыя Пінска. Кастусь з Марусяй і маленькім Данілам рушылі ў бежанскай хвалі на ўсход і трапілі ажно ў Маскоўскую губерню. Толькі прыняў настаўнік Старыкаўскую земскую школу Дзмітраўскага павета, як зноў паклікалі ў армію. Развітаўся ён з жонкаю і сынам, узяў з сабою «Песні жальбы» і «Родныя з'явы» і трэці раз падаўся на прызыўны пункт.

Цяпер забрылі ўсур'ёз. Становішча на Заходнім фронце было цяжкае. За жнівень-верасень 1915 года руская армія адкацілася далёка на ўсход. Немцы захапілі Вільню, Ліду, Баранавічы, Пінск. Полымя вайны бушавала на беларускай зямлі, набліжалася да тых мясцін, дзе жылі блізкія Кастуся.

Радавы 55-га запаснога пяхотнага батальёна спачатку маршыраваў па Замаскварэччы, а потым трапіў на чатыры месяцы ў Аляксандраўскае ваеннае вучылішча. Знаходзілася вучылішча прапаршчыкаў тут жа, у Маскве, на Хамоўніцкім пляцы. 1 мая 1916 года Кастусь атрымаў афіцэрскае абмундзіраванне, скрыпучую партупею і прызначэнне ўзводным у 162-гі запасны пяхотны полк, раскватараваны ў Пермі.

Прапаршчык Міцкевіч добра зрабіў, што ўзяў з сабою ў далёкі ўральскі горад Марусю і малога Даніка. Разам весялей і на сэрцы спакайней. Жылі недалёка ад ваеннага гарадка на Манастырскай вуліцы, у папоўскім муры. Чуць развіднее, Кастусь бяжыць у казарму, і да вечара абрыдлівыя палявыя заняткі, вучэнне штыкавому бою, поўзанне па-пластунску, капанне акопаў. Сумна і цяжка. Але такая ўжо салдацкая доля.

Лета 1916 года, калі руская армія пад камандаваннем Брусілава прарвала фронт у Галіцыі і захапіла Львоў, прайшло ў трывожным чаканні, што запасны полк вось-вось рушыць у дарогу. Але абышлося. Адправілі на фронт толькі дзве маршавыя роты.

Восенню Кастусь займаўся з салдатамі, якія прыбылі ў полк пасля шпіталя. Прыйшоў ён аднойчы ў каманду, а яму насустрач пажылы салдат:

— Ваша благароддзе!

Салдаты ў форме ўсе на адзін твар, але прапаршчык адразу пазнаў:

— Пікулік?!

Колішні турэмны наглядчык расказаў, што летам 1912 года пакінуў службу, працаваў на заводзе, а ў пачатку 1915 года трапіў у армію і перажыў пекла пры абароне крэпасці Асавец.

Дні цягнуліся марудна і сумна. Пісьмы з Мікалаеўшчыны даходзілі рэдка. Хаця б маці з дзецьмі не пагналі ў бежанцы. Кастусь усё часцей успамінаў родныя мясціны, маці, дзядзьку Антося. Як яны там гаруюць, дарагія? Чаму не пішуць?

У афіцэрскім асяроддзі прапаршчык Канстанцін Міцкевіч па-ранейшаму адчуваў сябе чужаком, мужыцкім сынам. Нездарма кажуць: «Курыца — не птушка, а прапаршчык — не афіцэр». Любіў пагава-

[1] Усе даты ў кнізе даюцца па старым стылі.

рыць з салдатамі, асабліва, калі трапляўся зямляк. Па акцэнце, прозвішчы і іншых прыкметах ён мог беспамылкова пазнаць братку-беларуса.

Армейскія будні не вельмі спрыялі творчаму настрою. Аднак у канцы 1916 года Кастусь зноў узяўся за пяро. Ён зразумеў, што не можа жыць, каб не пісаць. Пайшоў ён неяк на бераг Камы, успомніў Нёман — і растрывожылася сэрца. Усё тут інакшае, больш суровае і дзікае. На Беларусі зараз стаіць залатая восень, сама грыбная пара, а тут ужо гаспадарыць зіма, шуфлюе і сыпле снегам. На душы нявесела:

Прайшлі незваротна дзянькі залатыя,
Адспеваны песні вясны маладыя,
І краскі пажоўклі, павялі.
І толькі ўспаміны, як зоркі ў тумане,
Мігнуцца, засвецяць... І сумна так стане,—
Дзе моладасць? Мары? — Прапалі!

Надзеі на тое, што нешта зменіцца ў лепшы бок, не было. Таму так часта ў думках вяртаўся ён у далёкі і мілы край маленства.

Эх, што ёсць мілей вас, дзяціныя годы?
І чым, як не вамі, ў часіну нягоды
Ты смутак развееш, душой ажывеш!..

14 лютага 1917 года Канстанцін Міцкевіч атрымаў чын падпаручніка і прызначэнне ротным камандзірам. Не паспеў ён прыняць роту, як Расію скаланула вестка, што цар адрокся ад трона і ў Петраградзе створаны Часовы ўрад. Праз некалькі дзён прыйшлі першыя новыя загады: адмянялася тытулаванне афіцэраў, прапанавана было выбраць палкавы камітэт. Аднак усё астатняе заставалася па-ранейшаму: Часовы ўрад заклікаў працягваць вайну да пераможнага канца.

Аднойчы падпаручнік Міцкевіч бачыў на вуліцах Пермі дэманстрацыю рабочых. Яны неслі лозунгі: «Далоў вайну!», «Няхай жыве рэвалюцыя!», «Хлеба!».

Тады ўпершыню ён пачуў пра Леніна — правадыра бальшавікоў.

## НА ШЫРОКІ ПРАСТОР

Кастусю давялося сербануць горкага і салёнага франтавога поту на румынскім фронце. Рускія карпусы стаялі ў гарах — румынскіх Карпатах, адрэзаныя ад рэвалюцыйнай Расіі адлегласцю, бездаражжу і намаганнямі галоўнакамандуючага фронтам. Верны царскі служака генерал Шчарбачоў баяўся, што падуладныя яму войскі набяруцца «бальшавіцкай заразы». Таму салдат трымалі ў гарах, куды газеты з Расіі амаль не траплялі. Кармілі кепска, у палках лютавала малярыя і крываўка. На ўсе нараканні і скаргі вышэйшыя афіцэры адказвалі:

— Быў цар — быў парадак; няма цара — няма і парадку.

Вось сюды, у Румынію, падпаручнік Міцкевіч вёз падмацаванне — эшалон злоўленых дэзерціраў і тых, хто адлежаў свой тэрмін у пермскіх шпіталях. 25 ліпеня 1917 года яго прызначылі начальнікам эшалона, далі ў падмогу двух прапаршчыкаў — вязі сваіх ваякаў на пазіцыю, не давязеш каго — адказваеш галавой па законах ваеннага часу.



Пакідаць Марыю Дзмітраўну з сынамі на Урале не было сэнсу. Таму Кастусь узяў іх з сабою ў эшалон і па дарозе высадзіў у павятовым гарадку Абаяні, што на Куршчыне, дзе ў гэты час жылі Марыіна маці і брат. А сам пасунуўся памалу са сваімі цяплушкамі ў напрамку румынскага горада Ваксо. Там недзе непадалёку размяшчалася 70-я дывізія.

Накараўся Кастусь у дарозе. У вагонах душна, на прадуктовых пунктах пуста, не заўсёды і хлеба дастанеш, салдатам гарачага прыварку не даюць. Ваякі крычаць, лаюцца, мяняюць салдацкае абмундзіраванне на харчы і віно. Жытка такая, што толькі глядзі, каб не разбегліся.

Не лепшае чакала яго наперадзе. Сяк-так здаў сваю каманду, афарміў усе дакументы і прыняў роту ў 282-м палку. Салдаты накінуліся з пытаннямі да новага камандзіра:

— Ці хутка канец вайне?
— Чаму кормяць толькі сачыўкай?
— Ці будуць раздаваць сялянам панскую зямлю?
— Хто такія сацыял-дэмакраты?

Жылі ў паўразбуранай немцамі вёсцы Карадул. Да лініі фронту было недалёка, снарады часам рваліся ля канцавых хат. Салдаты варылі мамалыгу, жывіліся ў мясцовых садах, але, наеўшыся сырызны, качаліся жыватамі, хварэлі на крываўку. Ідучы на абед, яны спявалі:

Если сварят чечевицу,
Отдадим и Черновицу.
Если будет каша,
Ватра-Дорне станет наша.

Кастусь адчуваў сябе кепска. У гарах часта ішлі цёплыя дажджы, ночы стаялі парныя і душныя. Днём не было ратунку ад гарачыні, таму ён не хадзіў на палявыя заняткі. Думалася, што проста арганізм не прызвычаіўся да рэзкай перамены клімату. У Пермі выкіроўвалася ўжо на восень, а тут, у Румыніі, такая спякота, у самым разгары лета...

Прайшоў адзін тыдзень, настаў другі. А ў галаве па-ранейшаму лёгкі чад, трымаецца тэмпература, слабасць ва ўсім целе, твар зрабіўся жоўты. Палкавы доктар знайшоў не адну, а некалькі хвароб: малярыю, жаўтачку і пачатак працэсу ў лёгкіх.

Афармляць адпускны білет прыйшлося ехаць у штаб дывізіі. Увайшоў Кастусь да намесніка начальніка штаба, адрапартаваў, хто ён і што яму трэба. З-за стала падняўся падпалкоўнік. У яго твары штосьці знаёмае. Русецкі! Ён пастарэў, ссутуліўся, скроні пасівелі.

— Такой рэвалюцыі вы чакалі? — запытаўся Русецкі.— Дэмакратыі, за якой стаіць анархія? Свабоды, якая развաліла армію?

— Не, не такой! Што цара скінулі — добра! Але трэба з вайной канчаць. Народ чакае зямлі, міру, хлеба.

— Значыцца, рэвалюцыя толькі пачынаецца?

— Я не прарок!

— Не, дарагі! Кожны сапраўдны паэт заўсёды прарок. Кастамараў некалі казаў, што паэзія ідзе наперадзе жыцця, а па яе слядах — гісторыя і навука...

Франтавыя ўражанні засталіся ў памяці Кастуся, як страшны і недарэчны сон.

У канцы верасня 1917 года ён дабраўся ў маленькі і ціхі Абаянь да свае сям'і. На хатнім харчу трохі акрыяў і целам і душой і тады толькі ўзяўся парадкаваць бачанае і пеpажытае, пачаў пісаць франтавыя нататкі:

«На бяздонным небе мігацелі далёкія ясныя зоры, і нейкі спакой сходзіў ад іх на зямлю, на тую зямлю, каторая ўжо чацвёрты год не ведае супакою... То там, то сям з тых даляў, на каторыя апіралася гэта прыветнае і спакойнае неба, вынікалі дрыготныя бляскі ракет. Бледны іх свет дрыжаў, калыхаўся, трапятаў, бы матылёк, садзячыся на краску. І здавалася, што нейкаму богу вайны заляцела ў вока мошка, і ён моргаў сваімі агнявістымі зрэнкамі. Вось замігацела зарніца. Ноч скалыхнула сваімі чорнымі крыллямі і заспакоілася, а следам за гэтым бухнула гармата, цяжка і злосна...

Чуць толькі ўзышло сонца, пайшлі другія малюнкі, другія з'явы. Падымаем вочы ўгору — невысока ў паветры плаўна нясецца аэраплан, шыбуючы ў бок нямецкіх пазіцый. Праз некаторы час з нямецкага боку забухалі гарматы... А пазіцыі тым часам ажываюць, там пачынаецца штодзённая работа зніштажэння адных другімі. Загулі гарматы на розныя галасы...»

Перачытаў Кастусь напісанае раз, другі. Карціна атрымалася праўдзівая, але вельмі сумная. А што каб крыху ажывіць малюнак? На кожную падзею можна і трэба глянуць з гумарам... Ён зноў узяў ручку:

«Адны грукалі сярдзіта, адрывіста і глуха, бы той упарты баран у сценку загарадкі, а другія бумкалі з нейкім здушаным звонам; трэція бахалі, як у кадзь, абернутую дном у ваду, а некаторыя грымелі доўга і працяжна, як далёкі гром. Усе ж разам рабілі яны нейкае дзікае ігрышча, даўшы поўную волю сваёй прагавітасці да людской крыві».

Кастусь глянуў у акно. Злосны восеньскі вецер з дажджом злосна гаспадарыў на дварэ, зрываў апошнія лісточкі, кідаў іх у гразь і лужыны. Успомнілася яму іншае, жнівеньскія дні на фронце:

«А неба такое пагоднае, прыветнае, яснае! Сонейка шчыра залівае гарачымі стрэламі гэтыя неспакойныя далі. У паветры пыл, духата, ад каторых некуды схавацца. За горадам, у бок пазіцый, высока ў небе нерухома вісіць прывязаны шар. Здалёк ён выглядае так, як бы які-небудзь святы (даруй, божа, грэх) вывесіў сушыць на сонцы свае порткі. З гэтага шара наглядаюць за тым, што робіцца ў ворагаў...»

За сцяною заплакаў малы Юрка. Заплакаў і сціх. Кастусь ціхенька адчыніў дзверы. Юрка спіць. Няхай спіць, пакуль Марыя прыйдзе з рынка.

Цяжка жонцы з двума малымі. Добра, што маці памагае. Клопату прынёс і ён, Кастусь, сваёй хваробай. Лёгкі чад, які дурманіў галаву, прайшоў ужо, але тэмпература трымаецца. Трэба яму малако, мяса, мёд. А дзе ты ўсяго гэтага накупляешся, калі на рынку такая дарагавізна.

Раз-пораз Кастусь пазірае ў акно, ці не ідзе Марыя Дзмітраўна. Ён сёння чакае яе, не дачакаецца. Яна абяцала зайсці на вакзал, каб купіць свежых газет.

У ціхі правінцыяльны гарадок навіны прыходзяць з вялікім спазненнем. Учора ў Абаяні стала вядома, што 25 кастрычніка 1917 года бальшавікі ўзялі ўладу ў свае рукі і ў Петраградзе пачаўся Другі Усерасійскі з'езд Саветаў, які прыняў дэкрэты аб зямлі і міры. Вось цяпер будуць доўгачаканыя перамены... Гэта адчувае Кастусь сэрцам.

Вунь, у канцы вуліцы, паказалася Марыя Дзмітраўна. У адной руцэ сумка, у другой — парасон. Накінуўшы наапашкі шынель, Кастусь выбег насустрач жонцы, узяў ношку:

— Газеты, Марусечка, купіла?

— Купіла... Людзі толькі і гавораць пра новую ўладу і Леніна.



— Вядома, будуць гаварыць, бо ўсе чакаюць міру.

У дзвярах бацькоў сустрэў трохгадовы Данік:

— Юрка плача... Я яго калышу, а ён усё роўна плача.

Маці карміла малога Юрку, а Кастусь узяўся за газеты. У іх былі змешчаны важнейшыя дакументы Савецкага ўрада. Газета «Известия» ў нумары ад 27 кастрычніка 1917 года друкавала «Дэкрэт аб міры», а ў наступным «Дэкрэт аб зямлі», падпісаны Старшынёй Савета Народных Камісараў Уладзімірам Ульянавым-Леніным.

— Жывем, дарагая! — радасна прамовіў Кастусь да Марусі.— Паслухай, што тут напісана: «Рабочее и крестьянское правительство, созданное революцией 24—25 октября и опирающееся на Советы Рабочих, Солдатских и Крестьянских депутатов, предлагает всем воюющим народам и их правительствам начать немедленно переговоры о справедливом и демократическом мире...» Значыць, салдаты вернуцца з акопаў дамоў і зоймуцца мірнымі справамі...

Кастусь ужо складаў планы жыцця іхняй сямейкі ў мірны час:

— Вернемся мы настаўнічаць у Пінск ці падамося бліжай да Мікалаеўшчыны. Мая мама будзе рада, калі мы прыедзем з нашымі качанчыкамі-сыночкамі.

— А чаму не пад Вільню? Там жа ў мае мамы свая хата,— уставіла слова Марыя Дзмітраўна.

— Можна і пад Вільню ці нават у Мінск. Настаўнікі ўсюды будуць патрэбны. Беларускі народ і наш край, як і ўся краіна, выйдуць на шырокі прастор новага жыцця. Я веры́ў у гэта і рад, што дачакаўся вялікіх перамен. Цяпер у кожнага адукаванага чалавека будзе шмат працы. Многае нам, беларусам, трэба будзе зрабіць. Сваю школу развіваць, падручнікі складаць... Мне трэба «Новую зямлю» кончыць, «Сымона-музыку» напісаць. Можа, і раман які напішацца. Некалі я абяцаў Янку Купалу зрабіць гэта...

— Цара скінулі, прыйшоў Керанскі, а ўсё ў Расіі засталося па-старому,— выказала сваю думку Марыя Дзмітраўна.— Ці не тое будзе і цяпер?

— Не, па-старому ўжо цяпер не будзе,— упэўнена разважыў Кастусь.— Калі савецкая ўлада пачынае з дэкрэтаў аб міры і зямлі, з дэкрэтаў пра самае важнае ў жыцці народа, то адразу відно, што Ленін ведае, з чаго пачынаць. Ты думаеш, толькі мы з табою хочам міру? Мільёны салдат і іхніх сем'яў даўно чакаюць міру. Ты думаеш, толькі мая маці, якой яшчэ столькі выплачваць грошай за княжацкія загончыкі, узрадуецца Дэкрэту аб зямлі? Яго чакаюць мільёны сялян Расіі... Спадзяюся, што бальшавікі вырашаць справядліва і нацыянальнае пытанне. Інакш не можа быць сапраўднай дружбы і роўнасці між народамі...

У той жа вечар Кастусь, узрушаны і ўсхваляваны, зноў узяўся за пяро. Пісалася з небывалым уздымам:

Браты! Вялікая дарога
Чакае нас і родны край —
Жніво настала, працы многа,—
Навукі семя засявай!
Святло нясіце,— ў мроку дрэмле
Наш мілы край, наш родны кут.
Хай уваскрэснуць нашы землі,
Няхай асветліцца наш люд...



*яўгенія мальчэўская*



ПАЭЗІЯ



■

Адчуваю цябе, жыццё,
Як уласнага сэрца біццё.
Нібы позірк пяшчотны твой,
Адчуваю істотай усёй.

Бачу клопаты ўсе твае,
Бачу ўсё, чаго нестае.
Па крупінках, нібыта соль,
Пазнаю тваю радасць і боль.

Твой агонь прыму, як зару,
А спатрэбіцца — ў ім згару.
Ад таго, што, як сэрца біццё,
Адчуваю цябе, жыццё.

## Залатая мяцеліца

Нейк проста не верыцца
Чарадзейству без слоў.
Залатая мяцеліца
Ад бяроз і дубоў.

Зноў за хмаркаю лёгкаю
Цень бяжыць па зямлі,—
На зімоўку далёкую
Ляцяць жураўлі.

Дымным воблакам сцелюцца
Туманы над ракой...
Залатая мяцеліца,
Залаты непакой.

Восень сеткі развесіла —
Павуціны антэн...
Мне і сумна і весела
Ад такіх перамен.

Залатая мяцеліца,
Залаты непакой...
Хай жа сэрца даверыцца
Прыгажосці такой.

■

Мне заўсёды чагосьці
Не хапае ў жыцці,
То пяшчоты, то злосці,
То умення ісці.

То успыхну парою,
То замоўкну, як госць.
Мне не трэба спакою —
Я такая, як ёсць.

Хай характар няроўны,
Хай лунаю у сне...
Не хачу быць спакойнай,
Бо спакой не па мне.

■

О, неспакойны, сіні вецер,
Што піў расу з зялёных траў,
Чаму ж ты не застаўся ў леце
Маіх прыгод, маіх забаў?

Няўжо спадаючае лісце
І сум гаркавы ціхіх дрэў
Табе прыносяць больш карысці,
Чым бесклапотнасці напеў?

Ці колер жоўты болей яркі,
Ці пах антонавак п'яней?..
Ты ж, як і я — ў вачах ні хмаркі...
Мяне хоць крыху зразумей.

Мне так не хочацца у восень,
У фарбаў спад, у гукаў спад,
Дзе маладосць маю адносіць
Мяцельны, сумны лістапад.





**васіль вітка**



**паэзія**



## Праводзіны лета

●

Баяўся цябе, перадзім'е маё,
Не спадзяваўся, што буду шчаслівы.
Ранкам навеяла снегу сумёт,
А надвячоркам — новае дзіва:

Сад варухнуўся, прачнуўся, ажыў,
Светлай душою наскрозь заіскрыўся.
Такі малады ён ніколі не быў,
А галава, галава — ў серабры ўся!

●

Я да цябе, мая вярбінка,
Прыпаў лістком і так прырос,
Што сівер не атрос узімку,
Гарачы не спаліў мароз.

Апошнім упаду вясною
На дол, у цёплую зямлю.
Ты не журыся нада мною —
Я светлую цябе люблю.

●

Не ўпікай, не дакарай,
Не карай за гэта,
Што ў людзей — самы май,
А маё лета

Канула за далягляд
У смузе сіняй.
Цешыўся — у цвеце сад,
Аж на голлі — іней.

●

У ладзе, у згодзе — і на́ табе: годзе! —
Ні развітання і ні праводзін.

Толькі і следу — два напаміны,
Дзве каляіны, дзве палавіны,

Дзве даты: адна так шчасліва пачата,
Другая чакае прагнай расплаты.

І разышліся, і анямелі,
А ўсё ж яны сыдуцца зноў, паралелі,

Перакрыжуюцца
Каляіны,
Непрымірымыя
Палавіны.

●

Невядома, колькі год
Прастаіць на скрыжаванні
Недарэчны Дон-Кіхот,
Векавечны у чаканні.

А пасмеюць ветракі
Зноў пачаць усё спачатку,
Горда ён шпурне з рукі
Ім у твар сваю пальчатку.

●

Адышло за небасхіл
Мілае мне лета.
А ці быў я лету міл —
Ні адной прыметы.

Утаіла свой сакрэт,
Нават успаміны.
На дарозе толькі след
Позняй павуціны.

## Край гасцінца

На павароце, край гасцінца,
Даўно нагледжаны пагорак,

Дзе мне заўсёды будзе сніцца
Мой незабыўны адвячорак,

Калі здалёк вясну пачула
У клопаце аб новым хлебе,
Гарачая, у твар дыхнула
Адвечная, жывая глеба.

Яна вяртала ўсё, што брала,
Апроч саміх аднавяскоўцаў,
Хоць і не ўсіх занатавала
Імёны на каменнай зводцы.

Радні гусцее — дальняй, блізкай,
Але нікому тут не цесна,
Бо аніводнае калыскі,
Ніводнае вясёлай песні

У суджаныя дні разлукі,
Як свет стаіць, яны не бралі,
Каб вечна матчыныя рукі
Паэтаў новых калыхалі.

## Прыёмны дзед

З вёскі ў вёску ходзіць быль
Аж па ўсім Палессі,
Як памог сусед Васіль
Удаве Алесі.

Век пражыўшы без дзяцей
Са сваёй старою,
Стаў гарнуцца ён часцей
Да сям'і чужое.

Першых яблык атрасе,
Агурок прымеціць,
На тым часе і нясе
Ўсё суседскім дзецям,

Горкім сіратам вайны,
Тым сынам салдацкім,
Што гадуюцца адны
Без бацькоўскай ласкі.

Западозрылі сакрэт
Бабіны суседкі:
— Не да сірат ходзіць дзед,
Да ўдавы ў адведкі...

Затаіла баба дух
І між цёмнай ночы
Пад страху запалку — шух
У будан сірочы.

Як насохлая трава
Дом з агнём — упрочкі.
Ледзь паспела удава
Выхапіць сыночкаў.

А жытла як не было
У малых пасельцаў.



Засмуцілася сяло
Лёсам пагарэльцаў.

І сказаў злой бабе дзед
Ад людзей употай:
— Я пазнаў твой чорны след
І тваю работу.

Дык жа ведай ты мой план,
Як бяду папраўлю:
Ты спаліла ёй будан,
А я — дом пастаўлю.

— Дом? Заб'е цябе хай гром!
Сам жа босы, голы!..

— Адплаціць за зло дабром
Дапамогуць пчолы,—
Гэтакі ёй даў адказ
Працавіты бортнік.
І не траціў марна час
Слаўны наш работнік.

Сам сякеру — у руку,
І часаць бярвенцы.
Пойдзе ў лес, а там — мядку
Два і тры вядзерцы.

Як сказаў, так і зрабіў.
Аж на ўсю дзялянку
Хату новую зрубіў,
Звонкую, як шклянку.

Быў выдатным цесляром
Паляшук наш хітры.
— Колькі возьмеш ты за дом?
Кажа дзед:
— Паўлітра.

Усялілася сям'я.
Рады ўсе суседзі.
Усе хваляць Васіля.
А Васіль:
— Пры чым тут я?
— Як пры чым?
А хто ж памог?
Дзед смяецца:
— Мабыць, бог,
А яшчэ — мядзведзі...

— Ты мядзведзяў не чапай,—
Крыўдзяцца вяскоўцы.

— А без іх бы я прапаў—
Лепшыя дазорцы.
Хто глядзеў маіх калод,
Вартаваў у вуллях мёд?

Быў жа гол я, як сакол,—
Дзед зірнуў на бабу,
Паказаў рукой наўкол:
— Не дасі мне рады.

Я лясным сябрам кіўну —
І прымчаць па бервяну.
Бервяно да бервяна —
І гатовая сцяна.

Не згарэць ёй, не спалаць.
Глянеш — і стаіць палац.

Колькі будзеш ты паліць,
Столькі буду жыць і жыць,
Будаваць яшчэ ямчэй,
Што не адарвеш вачэй.

Бачыць баба — кепскі жарт,
Перці на ражон не варт.
Чорт залез яму ў рабро,
Падбівае на дабро.

Трэба памірыцца,
Мужу пакарыцца,
Бо разлучніца-ўдава
Давядзе да згубы.
Бач, злысела галава,
Голая, як бубен.
А калісь быў чуб густы
Кучаравы, цёмны...
— Кім жа будзеш дзецям ты?
— Дзед.
— Які?
— Прыёмны...

Вырасціў дзяцей Васіль
Добрым словам, ласкай.
Так пайшла па свеце быль.
Потым стала казкай.



*эрвін штрытматар*

# ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА

## Паэтычныя мініяцюры

Мал. **К. Ціхановіча**

### ЗОРАЧКІ Ў КАЛЕНДАРЫ

Калі туман вісеў над палямі і вёскай, дзед ставіў у календары крыжык. «На соты дзень пасля гэтага туману задажджыцца»,— вешчаваў ён свае прагнозы. Ранішні туман, вячэрні туман, абложны туман цалюткі дзень — усе яны ў дзеда загадвалі надвор'ем.

І сапраўды, калі-нікалі ў тыя дні, што дзед адзначаў крыжыкам, перападуць дажджы, а здаралася, што нават і не пакапаюць. Тады пачыналіся дзедавы адгаворкі: навальніца, ці бачыце, прасунулася бокам, над суседняй акругай, альбо — не мог жа ні з таго ні з сяго пакрапаць дожджык, калі навокал такая сухмень.

Здольнасць дзеда настройваць пагоду па сваёй задуме не давала мне спакою ні ўдзень ні ўначы, аж пакуль я — з гадамі, вядома,— і сам не раскусіў, у чым тут уся справа: сонечныя дні ў календары пачаў адзначаць зорачкай. Пагодлівы дзень — радасны дзень, а радасць, як я чуў змалку, спараджае радасць, дык і сам бог даў нам права спытацца, чаму б не завітаць ёй і да мяне праз сто дзён пасля таго сонечнага дня?

Так і павялося. Мусіць, я ўсё-такі ад дзеда займеў у спадчыну пагоду. І калі ў дзень, адзначаны зорачкай, радасць чамусьці да мяне не прыходзіла, я ў думках стараўся суцешваць сябе такімі ж несупадзеннямі ў мінулым альбо хітра падміргваў будучыні. І ў гэтым знаходзіў радасць.

Нарэшце я ўсе радасці, якімі спадзяваўся ўзбагаціць сябе, запісаў у агульны сшытак. І цяпер яны сабраны тут у гэтай кніжцы ў выглядзе маленькіх гісторый ці чагосьці накшталт гэтага.

### ВЫРАЙ

Пакольні дні пакарацелі, я зазвычай пасля полудня адразу ж сядлаў сваю кабылку і трухаў на ёй памаленьку ў лес. Якая б ні была пагода на дварэ, я не мяняў сваёй звычкі і вяртаўся дадому аж на самым змярканні. Дактары сцвярджаюць, што здароўю іх пацыента было на карысць спрачацца з навaламі непагоды і выходзіць пераможцам. Так я пакрысе ачуньваў і дужэў пасля працяглай хваробы.

У іншы вечар выедзеш за вароты з двара — не відно табе ні дрэўца, ні тэлеграфнага слупа — усё ў імжыстым мораку, але я ўсё-такі тое-сёе распазнаваў наўздагад, і хоць крупа снегу даждажом секла мне ў твар і шчыпала, як соль з перцам, настрой у мяне быў неблагі. Кабылка несла мяне на сабе праз цемру і грэла цяплом сваёй спіны.

Надараліся і ясныя спакойныя вечары, калі ў лесе вухкалі пугачы, быццам парнасць у паветры надзімала ім пад пер'е яўную вясну, але, як ні кажы, пара была позняя — набліжалася зіма.

Насустрач мне час ад часу выскачыць з лясной гушчэчы то лань, то заяц альбо дзікая каза; праз некалькі крокаў — чародка коз, а аднойчы я змеціў нейкага незвычайнага адзінарога з іхняга статку. Кабылка, прышпораная мною на прасецы, спалохала яго. Яшчэ не зусім сутонілася, і казёл неахвотна шалдыхнуў з прасекі ў бор. На горда ўзнятай галаве яго быў толькі адзін рог ды і той абабіты; ён трымаўся ў яго на галаве, як чужы парык.

Ах, чакайце, я ж бачыў яшчэ варон, соек і дзятлаў; чорны дзяцел трывожна цвыркнуў і схаваўся за ствол. Лясныя галубы жыравалі ў кронах сосен, мне чуваць было, як яны лопаюць крыллем, пералятаючы з вяршыні на вяршыню дрэў.

Час ад часу дзе-небудзь на выжарах ці на баравой мачажыне кракаў качар, а вецер з рэдкалесся шоргаў чарацінай аб чараціну датуль, пакуль гэты шоргат не пераходзіў у аднагучнае шапаценне. Вада ў азярынах была цёмная, як атрамант, а дзе-нідзе пярэстая, нібы малюнкі ў кнізе дзіцячых казак. Колер яе залежаў ад колеру неба, афарбоўка ж неба залежала ад асвятлення сонцам, ад шчыльнасці воблакаў залежала, выгляне з-за іх сонца ці не — неразрыўны ланцужок узаемазалежнасцяў.

Ужо на змярканні я ўгледзеў густую чараду пярнатых, што браліся на поўдзень. Гэта былі дробныя птушкі, якія адляталі ў вырай з нашых краёў. Я стаяў, пакуль яны шугалі ўгары над маёй галавой; святло вячэрняй зары сляпіла мне вочы, і я не мог разабраць, якое ў іх апярэнне. Мне хацелася, каб гэта былі жаваранкі, жаваранкаў я любіў за іх спевы.

Рухомы шнурок крылатых істот па-змяінаму то згібаўся, то разгібаўся на ляту, нагадваючы надзьмутых папяровых драконаў, якіх кітайцы запускаюць на сваіх святочных шэсцях.

Калі порсткія важакі птушынай чарады па незразумелых прычынах раптам крута бралі ўвышыню і апісвалі дугу, уся гэта крылатая пляцёнка паўтарала іх рух з дзівоснай зладжанасцю.

Я прыпыніў сваю кабылку і наглядаў, як птушкі ўсё ляцелі і ляцелі, здавалася, канца не будзе гэтай чарадзе. Яны нібы толькі што браліся на крыло над забалочанымі лугамі і адразу ж інстынктыўна накіроўваліся да лесу, на поўдзень. Гэта рухомая хмара на вачах усё гусцела і гусцела, і здавалася, не будзе ёй ні канца ні краю.

А між тым у вышыні каб што ціўкнула — ні гуку, нават фыркання крыльцаў не чуваць. Цішыня, з якой адлятаюць вырaі пеўчых стрынатак на поўдзень, міжволі наводзіць на думку аб неверагоднасці нашых сноў: з пустаты, як нямая залева, ліўнем льюцца птушкі, і калі праз некалькі хвілін гэты лівень радзее і канчаецца рассеянымі жменькамі па парачцы, а там-сям і па адной — познім лапуном ці падранкам,— мне ўяўляецца ў вячэрнім паўзмроку прачэрчаны іх крыллем пісяг — вузкая сцяжынка, што пакідаюць за сабой, пераходзячы па расе, зямныя дзікія істоты.

Сцяжынкі я, вядома, не ўбачыў, хаця, магчыма, і паветру патрабаваліся нейкія долі секунды, каб сышліся, зраўняліся ў берагах тыя разоркі, што былі пралажаны ў ім птушынымі крыльцамі. Але перш чым гэта магло б адбыцца, крыху ўбаку ад мяне ў вышыні пранеслася, цяпер ужо ўрассыпную, яшчэ адна чародка — невялічкая, можа з прыгаршчы ці са жменьку, нібы шпурнутая наўздагон першай нейкім разгневаным веліканам. Тры разы заграбастаў велікан рукой у сусветнае птушкасховішча, таму што тры жмені, пушчаныя, як зярняты, у прастору, прамільгнулі ўбаку ад мяне, і на нейкую сотую долю секунды ружовае вячэрняе неба здалося мне быццам падзёўбанае на чорныя дзірачкі. І тры гэтыя жменькі птушак апісалі ў паветры такую ж дугу, як і першая вялікая чарада, што апярэдзіла іх на нейкую чвэрць хвіліны.

Усё гэта я бачыў на свае вочы, калі апошнія птушкі для майго не такога ўжо і пільнага ў мае гады вока нібы расталі, растварыліся над макаўкамі сосен, і я, нібы прычасціўшыся вялікай тайны прыроды, крануў стрэмем кабылу і паехаў далей сваёй лясной дарогай.

### КАРАБЛІКІ

Мой сын Мацес падараваў мне два караблікі. Змайстраваныя з квадрацікаў станіёлевай сухазлоцiны, яны маюць адну асаблівасць: калі зірнуць на іх, ніхто б не сказаў, што гэта караблікі. Проста пакамечаныя лісткі пазалочанай паперы. Калі б Мацес мне не растлумачыў, я б таксама не здагадаўся, што гэта караблікі.

— Нашто ты трымаеш на кніжнай паліцы гэтыя абрыўкі сухазлоціны? — пытаюцца ў мяне.

— Няхай сабе, гэта ж два караблікі.

Караблікі будуць аставацца на паліцы, пакуль Мацес не падрасце і не пакладзе туды што-небудзь новае.

Я думаю аб сваім першым вершы. Гэта быў шматок паперы з накрэмзанымі на ім каракулькамі, і ніхто не хацеў лічыць яго вершам.

### ЗАЕЧЫЯ ХІТРЫКІ

Памылкова лічаць, што заяц — гэта проста экземпляр пэўнай пароды, заяц — ды ўсё. Я ўпэўнены, што не памылюся, сказаўшы: колькі зайцоў — столькі характараў.

Адзін з іхняй пароды аблюбаваў сабе лежку пад невялічкай сасонкай на самым узлессі. Іншы раз, калі я праязджаю міма гэтага месца на сваёй кабылцы, ён, мабыць, лічыць ніжэй сваёй годнасці ўсхапіцца і даць драпака. Бачу — натапырыць вушы, вылупіцца на кабылку і сочыць за кожным яе рухам. Я гэта расцэньваю так: бегаць касавокаму неахвота, ён аб нечым разважае, я таксама не звяртаю на яго ўвагі, бо і



сапраўды, калі я адзін, на якое ліха ён мне патрэбен. Але калі я, здараецца, еду праз лес са сваімі гасцямі, тут хочаш не хочаш чакай пытання: «А зайцы ў вас тут не трапляюцца?»

Замест адказу я скіроўваю сваю кабылку на маладзенькую хвоечку, пад якой адлежваецца мой знаёмы заяц, ён падхопліваецца, і госці ў крык:

— Ай, заяц! Вось нечаканасць — заяц!

Я, разумеецца, загадзе ведаю, дзе ён перахаваецца, і праз некалькі хвілін выганяю яго з новага котлішча; госці захлiпаюцца ад захаплення:

— Глядзі, глядзі, яшчэ адзін!

А калі я падымаю яго трэці і, нарэшце, чацвёрты раз, лічыцца, што гэта «зноў заяц» і «невядома які па ліку!»

Але стараму шараку, мабыць, надакучыла ўся гэта пацеха. Ён агібае вялікае кола і ўпрыскокі імчыцца да першага свайго прыстанішча. А мае госці аж іўкаюць ад здавальнення:

— Ну й зайцоў у вас тут расплядзілася!

— Так, зайцоў у нас процьма,— адказваю я з ухмылкаю.

### КРУГАВЫЯ СЦЕЖКІ ГРЫБОЎ

З лясной гушчэчы маленькія хвоечкі выбягаюць на ялавіну, дзе нашы поні штолета выскубаюць пырнік да самага кораня. Я заўважаў, што спачатку гэта былі адзінокія самасейкі-аднагодкі, падобныя на карлікаў, што паразбягаліся па абложным полі, але з кожным годам іх усё прыбывала і прыбывала, і мы агледзецца не паспелі, як тут паявіўся новы малады лясок.

Да таго як на гэтай ялавіне насяяліся хвоечкі, там кожнае лета на конскіх «яблыках» раслі шампіньёны. Вось і выходзіць, што поні, акрамя сваёй цяглавай сілы, падкідалі нам і прадукты харчавання. З цягам часу па сасновым карнявішчы пракінуліся споры і некаторых іншых ядомых грыбкоў. Спачатку гэта былі сыраежкі, пасля казлякі і рыжкі, а гэтым летам мой Мацес, выйшаўшы паглядзець поні на пасце, упершыню знайшоў там баравіка.

Я хадзіў паіць поні і назбіраў рыжкоў поўную сваю белую летнюю шапку. Рыжкі адразу забрудзілі яе ўсю ярка-чырвонымі плямамі, і ўсе сустрэчныя, убачыўшы мяне з акрываўленай шапкай у руках, зжахаліся і кідаліся ўбок.

Але не з шапкі я дзівіўся, а з кругавых сцежак, што выбірае сабе прырода, калі яна пакінута сама сабе. Для шампіньёнаў у дадатак да тых спажыўных рэчываў, што яны бяруць з карэння травы, патрэбна была толькі невялікая кучка конскага гною, а для рыжкоў і баравікоў ужо неабходна, каб ялавіна зарасла лесам.

Каб здабыць з травы масла, трэба карова. Але ж нядаўна я прачытаў, што вучоным пашанцавала вырасціць грыбы і без лесу. У другім часопісе чорным па белым пісалася, што вучоныя спадзяюцца здабыць масла без кароў — з травы. Чаго ж жадаць лепшага! Калі навука выбракоўвае з нашага жыцця кругавыя шляхі, я ўсім сэрцам яе вітаю, бо жыццё ж кароткае, а кругавыя шляхі ўкарочваюць яго яшчэ больш. Але нядаўна я прачытаў і пра тое, што навука імкнецца стварыць і літаратуру без пісьменнікаў. Гэта, прызнацца, вельмі мяне зацікавіла.

### ГІБЕННЕ ХУТАРА

За вёскай у лагчыне відзён хутар багатага селяніна-баўэра; ён асуджаны на знос, хоць пакуль што і раскапусціўся сваімі чырвонымі дахамі, як стары мухамор-аплэвух, каля старых прысадаў. Вятры, як спуджаныя лістападам зайцы, гайсаюць над полем, то прыгібаючы, то ўздымаючы мяцёлкі мятліцы і гірсы, якімі скрозь зарасла там даўно не араная зямля. Тры палявыя дарогі, як плывунцы-павукі, бягуць ад калючых прысадаў на памежках удалечыню, да гарызонту і губляюцца за пагоркамі вясковага ўзаранага поля.

Дом, хлявы, свіран і канюшні па стрэхі схаваны за кустамі бузіны; квадрат, утвораны гэтым хмызам, яскрава сведчыць: тут быў двор. За свірнам павольнай смерцю жалезнай прылады памірае касілка; брус-разак з жалезным зуб'ем, якое паспела ўжо ўкрыць рыжым аксамітам іржа, вытыркаецца з-пад настольніцы на дождж і непагоду. Лапушыстае пустазелле і непралазныя кусты вішання абступілі старую рабацяжніцу, і вецер спявае над ёй адыходную.

Да сцяны муравaнай аборы прыхіліліся жалезныя бароны, таксама ўкрытыя іржой, як камлі старых дрэў мохам. З трухлявых, ужо абвіслых на паржавелых завесах варот патыхае тленам апусцелай канюшні.

Фасад дома, што думаў увесь свой век звекаваць без вясковай вуліцы, калі яшчэ каго і цешыць сваёй прыветлівай і вясёлай афарбоўкай, дык толькі дзікіх пчол і матылёў. Дзве ліпы каля ганку раскінулі густы цень. Магчыма, з гэтых дамавітых дрэў павінна была пачынацца алея накшталт той, якую баўэр — колішні гаспадар хутара — бачыў у памешчыка. Хто ж не пабываў у тых прыцененых залах з вертыкальнымі сценамі карабатых ліпавых камлёў! Нязваных наведвальнікаў яны адпуджваюць

дашчэчкай з надпісам: «Прыватная дарога», а званых сустракаюць урачыстай прахаладай фальварковай раскошы.

Палавіна дома спіць, зачыніўшы павекі аканіц, другая падслепаватымі, збялелымі шыбамі вакон утаропілася паверх палісадніка ў невядомасць і, здаецца, чакае, што вясковыя жэўжыкі, спраўляючы свае гулі на гэтым пустыры, таго і чакай, улепяць з рагаткі каменем у акно.

У мураванай сцяне пад самым дахам зеўрае дзірка, нібы гэты дом, разявіўшы рот, недалужна разважае аб даўным-даўно мінулым і навекі страчаным.

Вецер абвявае дом з усіх вуглоў, але дому сумна. Ветру, як і паштальёну, рабіць тут няма чаго. З падвор'я ніхто нікога не клікне на полудзень, не заржэ жарабок, не рыкне карова, не чутно ні сабачага брэху, ні сакатання курыцы, ні дзіцячага голасу— і нечага адгэтуль ветру захапіць з сабой у поле, куды ён ляціць як на крыллі.

У далечыні, за хутаранскай аблогай, нібы на нявідных хвалях тарарахкання свайго матора, плыве трактарыст, мяшаючы раллю пад азімы пасеў. Мацярынскае цяпло вёскі парадзіла і яго, і гэтыя гукі.

Хутар баўэра-багацея, што толькі вільчакамі дахаў віднеецца з-за кустоўя бузіны, вішанніку і палыноў — гэта асколак-метэарыт, што адшчапіўся ад мацеры-зоркі і цяпер паступова гасне і рассыпаецца ў пыл у пустыннай адзіноце.

## МОЦ СЛОВА

Штогод дзед садзіў у кампост адборныя семкі гарбузікаў і вырошчваў на зіму велізарныя жоўтыя гарбузы. Куча кампосту зімавала на полі. А па полі тады-сяды праходзілі божыя людзі, якія, калі верыць слову з біблії, не сеялі, не жалі, а спажывалі гатовенькае. Таму штоночы, калі гарбузы пачыналі даспяваць, дзед, ашушкаўшыся, ішоў у поле на варту. Ён умошчваўся на сваім сінім брызентавым фартуху і спаў на мяжы, і паколькі ў сне ён хроп, як раззлаваны вярблюд, зладзюкі-пагароднікі чулі і асцерагаліся.

Так працягвалася даволі-такі доўга, але мая бабка была яшчэ раўнівая, яна не хацела такога мужа, які па начах, нібы той цыган, лындае дзесьці па полі да раніцы.

— Падумай аб зіме, пабойся свайго раматусу ў нагах. Я то не стану цябе шмараваць ды расціраць, калі зноў абляжаш, старая раскарачына. У роснай траве ўздумаў валяцца — ды ты алень, ці што?

Дзед згарнуў свой фартух і паслухаўся бабкі, але перад тым, як пайсці з поля, выняў з кішэні складаны ножык і лязом накрэмзаў на скурцы кожнага гарбуза: «Украдзены ў Islкі».

Гарбузы раслі сабе. Разрастаўся і дзедаў надпіс: «Украдзена ў Кулькі». Зладзеі здалёку абыходзілі кампостную кучу, і гарбузы каб хто пальцам крануў. Літары, выразаныя дзедам, засцерагалі, як чарадзейныя руны.

## ПА КУННЯМУ ТРОПУ

З нізкіх хмар паваліў снег і не сціхаў некалькі дзён запар. У лесе цяпер толькі завостраныя былінкі высокіх траў вытыркаліся з-пад белай пярыны і драмалі пры кожным павеве ўсходняга ветру.

На ўскрайку мокрага лесу па тарфянішчы я двойчы ўлетку на змярканні бачыў куніцу. На імшарынах у гэтым забалочаным лесе шмат карчажын і дуплаватых дрэў; у гэтых дуплах і карчажынах і кватаруюць куніцы, недаступныя і недасягальныя ў летні час.

Але цяпер балота скавана марозамі, звярок раскідаў па снезе вузенькі троп, а каля карчэўя, па бруснічных і журавінавых купінах, проста аж выкаўзаў усё, выграбаючы з-пад снегу бліскучы брусьнічны ліст і настылыя ягадкі.

Для язды па балоце я асядлаў лёгкага на бягу белага жарабка са стайні нашага сельскагаспадарчага кааператыву. Гэтаму жарабку ў гонар Івана Тургенева далі клічку Малек-Адэль. Перада мной трушком бегла кабыла Равана — маці жарабка; разумная жывёліна, яна служыла мне як бы следапытам.

Не паспеў я ўехаць у забалочаны лес, як кабыла спудзілася, застрыгла вушамі, фыркнула і стала біць капытамі. З-за хвоек паказаліся чатыры алені. Без апаскі, як бы тут і жывой душы не было, яны паважна прайшлі ў баку ад нас; коні, мабыць, ім былі не страшныя, а тое, што чалавек сядзіць на кані, гэта здавалася ім зусім бяскрыўдным.

І раптам Равана захрапла. З'явіўся яшчэ пяты алень, велізарны, з яе ростам, за ім — шосты, сёмы, восьмы; дваццаць самцоў і самак прайшлі так блізка, ну амаль побач з намі, і я, каб захацеў, мог бы хвастануць каторага па крупе сваім арапнікам.

Думка аб куніцах у мяне і з галавы вылецела. Сэрца ў мяне тахкае, як не выскачыць: бяры тое, што перад табою, памятай — двойчы тое самае пабачыць не давядзецца.

Алені схаваліся ў гушчары высокага ельніку. Я паехаў за імі па заблытаным следзе Можа дзве гадзіны гнаўся за імі ўслед, але болей бачыць не бачыў.



## НАЧНАЯ НАВАЛЬНІЦА

Маё акно было адчынена. Стаяла парная ноч. На небе каб дзе зорачка. Маўклівасць. Зацішна перад навальніцай.

Дзесьці за лесам жахнула бліскавіца, а ў скорым часе — грукнуў гром. Я падумаў аб сене, што з вечара асталося нязгрэбеным на лузе.

Што не дазваляе нам кіраваць пагодай? Вайна, якую трэба ўгамаваць перш за ўсё.

## ЖАРАБЁ НА ДАЖДЖЫ

Нашаму жарабяці было сем дзён ад роду. Гэтае даўганогае, нязграбнае ўвасабленне цікаўнасці снавала каля маткі на выгане, абнюхвала нейкую скамечаную паперку, напыжвалася і замірала перад чарнатой кратавіння на купінах, палохалася бялізны, якую шаматаў вецер на вяроўках, расцягнутых праз двор. І пакуль кабыла-матка пасвілася на выгане, яно то галопам выбрыквала ад прысады да прысады, то ржала, круцілася на месцы і, адбегшы ўбок, спужаўшыся сваёй храбрасці, зноў што было сілы неслася да маткі, і толькі хвост, як пашматаны чорны сцяжок, развяваўся па ветры.

З-за лесу незаўважна паднялася і засланіла сцяной усё неба сіняя хмара, раздалася ўшыркі і ўвысь — і вось ужо прайшла перадналвальнічная разведка: першыя буйныя кроплі чмякнулі па траве. Яны змачылі жарабячую скуру, і жарабё здрыганулася: што гэта? Яго нібыта казычуць, дражняць. Яно стуліла вушы, падняло хвост, брыкнулася раз-другі, пазяхнула, выскаліўшыся сваім белаватым нёбам, глынула вільготнага паветра і замітусілася туды-сюды ў вялікім узрушэнні.

А кабылка-маці, зусім не шманаючы на тое, што на яе падаюць і сцякаюць з бакоў дажджавыя кроплі, падышла да яго, прыціснула свайго стрыгунка да густой зялёнай агароджы і прыкрыла яго сабой ад нахлынуўшай непагоды.

Пад прыкрыццём матчынага крупу ўглядалася жарабё ў навальніцу; заўважыўшы кроплі, што пацеркамі блішчэлі на дроце агароджы, яно памацала іх губамі, капкі расплыліся па яго пысцы, і жарабё стаяла, як стаім і мы, дзівячыся таму новаму, што ўпершыню адкрываецца перад нашымі вачыма.

## ЖУРАЎЛІ

— Не паспеў ты паехаць, як і журавы прыляцелі,— сказаў мне сусед, і вочы яго бліснулі, як у юнака.

Ключ з пятнаццаці жураўлёў праплыў у вышыні над нашым хутарам. Мы з ім прэтэндуем толькі на шасцярых; гэтыя шасцёра з-пад самых воблакаў пазнаюць тое месца, дзе яны вылупіліся з яек на свет божы, яны вунь і зніжаюцца, у той час як увесь ключ імкліва ляціць далей. Наступныя дзве пары, адлучыўшыся ад зваротнага выраю, садзяцца ў бураломе, каля возера, а тым часам трохкутнік, што імкне на поўнач, усё меншае і меншае, а бакавіны яго — усё карацей і карацей.

Мы селі на асядланых коней і выехалі з двара, каб наслухацца першага клічу жураўлёў і паверыць у прыход вясны. Але надвор'е было яшчэ халоднае, шчыльныя хмары засцілі сонца, і мы не засталі жураўлёў на аблюбаваным імі месцы — там яшчэ не адскочыла ніводнай зялёнай травінкі.

На другі дзень я быў заняты абрэзкай прышчэпак у сваім маладым садку, як раптам сонца вызырнула з-за грудастых воблакаў, і ў прасветах між хмарамі пачалі кружыцца жураўлі. Іх ваяўнічы кліч чуўся над нашым хутарам, і было іх восем, а не шэсць, на якіх мы разлічвалі. Два маладых леташніх жураўкі вярнуліся разам са старымі, каб гэтай вясной гнездавацца дзе-небудзь у нашай ваколіцы.

Сэрцы нашы напоўніліся пачуццём гордасці, мясцовы патрыятызм ахапіў нас да глыбіні душы; нават у раённай нашай газеце пісалася, што і «ў нас селіцца самая буйная кантынентальная птушка».

## ЗЛАМАНАЯ ГОРДАСЦЬ

Тысячы прыкмет падавала вясна, перш чым прыйсці. Лёд раставаў марудна, вельмі марудна для рыб, што аж захлыналіся пад яго аковамі ад задухі; паверхня яго была падобна на застылую манную кашу.

На набрынялых крыгах каля праламак сядзелі вароны і нешта дзяўблі на закрайках прамоін, а калі я паказаўся на беразе, залопалі крыллем і з карканнем паляцелі на сярэдзіну возера, каб там працягваць сваю разбуральную работу.

Ніякая курыца не грэбаецца ў зямлі абы грэбацца, так і варона не стане дзяўбці лёд абы дзяўбці. У бінокль я заўважыў нейкіх з пятох варон, што раздзёўбвалі карпа вагой з кілаграм, іншая чародка даклёўвала акуня і лінёў.

Штосьці, мабыць, парушылася ў чарговасці азёрнай вясны: днём лёд раставаў, і цяпло абуджала ў рыбах жыццёвую энергію; лёдавае покрыва хоць і патрэскалася каля берагоў, але разводдзе не наступала, бо па начах падмаражвала.






«І тут наляцелі вароны з крыкам «гразь-гразь», і лёд на возеры — трэсь, хрась, і бліснула вадзічка для жвавай плацічкі...» — так магла б пачынацца бабчына казка пра казлянятак. Асавелыя рыбкі скучыліся каля вераб'іных прамоін і проламак, і порсткія чайкі і вароны выдзёўбвалі іх з вады. Я налічыў над такімі прамоінамі пяцьдзесят, шэсцьдзесят і нават восемдзесят такіх крылатых рыбаловаў. Над вараннём кружыўся шуляк, але яны яго сваім гуртам не праганялі, як гэта звычайна бывае на сухазем'і; шуляк, зрабіўшы плаўны віраж, апусціўся на лёд і пакульгаў да прамоіны — рыхтачкі як крываногі панок у штоніках гольф. Вароны закаркалі, адбягаючы ад яго кручкаватай дзюбы, прабягалі ў яго пад хвастом, адным словам, паводзілі сябе так негасцінна, як разбагацеўшыя мяшчане. У шуляка глюга не прыстасавана для таго, каб прадзяўбаць лёд; пакутуючы ад голаду, ён тыцкаўся ёю то ў ледзяную кашку, то ў лунку з вадой і, нарэшце, накінуўся на тое, што пакінулі яму вароны; хуценька ўсё заглытнуў, праўда, з прысаромленым выглядам — знакаміты панок, у якога ручкі не прыдатны для лома і матыкі.



Вароны ж і каўкі асмялелі проста да нахабства: глядзіш, як адна ці другая не-не ды і дзеўбане яго сваёй спічастай глюгай, а той быццам нават і ўвагі не звяртае, гордасць яго зламана, і ён валюхае па лёдзе ад аднаго аб'едзенага куска да другога.

## ВЯСНА СНЕГУ

Мы дзелім год на вясну, лета, восень і зіму. Аднак жыццё і поры году — бесперапынны працэс, што з вялікімі цяжкасцямі кладзецца ў простыя лініі і клетачкі. Адно залежыць ад другога, адно ў адно пераходзіць.

Людзі, рабочым месцам якіх з'яўляюцца лясы, моры, лугі і палі, карыстаюцца больш дакладнымі вызначэннямі: ранняя і позняя вясна, лета і бабіна лета, ранняя і позняя восень.

Рускі пісьменнік Прышвін адкрыў вясну святла, а я цвёрда перакананы, што ёсць яшчэ і вясна снегу. Яна пачынаецца, калі пасля першых завірух высока ў бясхмарным

небе стаіць палавое сонца, крышталікі снегу ззяюць на палях, а дрэвы, нават самыя тонкія іх галінкі, усе ўкрыты снежнай квеценню. Леташнія сцяблінкі чарнобылю, піжмы і лопуху аж палыскуюцца пад сонцам уздоўж дарог, а мячы рагозу схаваны ў белыя снежныя ножны.

Вясна снегу абуджае ў жывёл заўчасныя надзеі: прарэзліва ціўкае сівагаловы пярэсты дзяцел і з радасцю пералятае з адной сухадрэвіны на другую. Вароны рэпеціруюць веснавое карканне, а на лясных прасеках звіняць галасы папаўзняў і сініц. З гушчару выходзяць дзікі, рохкаюць, скачуць навыперадкі з важаком-кноразам, галопам імкліва носяцца па беразе возера, і тонкі прыбярэжны лёд патрэсквае пад іхнімі раздвоенымі капытамі.

Лысухі і чомгі падаліся на поўдзень, толькі дзікія гусі думаюць дачакацца вясны каля родных гняздоўяў.

Але аднае начы ледаставу, як жалюзі на вокнах, сцінае чыстую ваду. Дзікія гусі як бы нехаця развінаюць крылле і адпраўляюцца ў доўгае падарожжа на сваю зімнюю радзіму. З іх адлётам — па сухому снежнаму цаліку і з марозам-пекуном — прыходзіць лета снегу.

## РАДАСЦЬ — ЗАЎСЁДЫ РАДАСЦЬ

Наколькі мне вядома, у нас егераў больш няма, яны цяпер называюцца ўпаўнаважанымі паляўнічай гаспадаркі. Гэта канцылярскае слова-бансюк кульгае на крывых папяровых ножках па квітнеючых лугах нашай мовы. Іншы раз мне здаецца, што ў кожнай установе, у кабінеце з дашчэчкай на дзвярах: «Просьба не перашкаджаць» сядзіць чынуша, які склешчвае паўнакроўныя словы роднай мовы з агіднымі канцылярскімі словамі-паразітамі. Не жадаючы прыносіць задавальненне гэтым штучным асемяняльнікам, я з гідлівасцю адкідаю такі іх гібрыд, як «упаўнаважаны паляўнічай гаспадаркі», і гавару па-даўняму — егер.

Адзін з нашых сельскіх егераў высыпаў неяк зімой на беразе возера поўны кошык дзічак. Ён хацеў падкарміцьляснымі яблычкамі аленяў і коз, але, відавочна, яшчэ не ведаў прывычак дзікіх жывёлін. Скрынку — у такіх прывозяць з-за мора паўднёвыя фрукты — ён кінуў навідавоку, побач з кармушкай. Маленькія яблычкі на марозным паветры прывабна папахвалі, алені, зайцы і козы чулі пах сваім вострым нюхам, ішлі на прынаду, але іх палохала стракатая скрынка.

Здарылася так, што мая кабыла, пушчаная мною з сядлом і павадамі на грыве пацёрціся каля кустоў, пакуль я ў бінокль сачыў за палахлівымі аленямі, набрыла на яблычкі і, пахрумстваючы, зжавала іх амаль усе сваімі крэпкімі зубамі.

Калі я за грыву злавіў «падбіршчыцу» на месцы злачынства, яе вёрткая пыса была ўкрыта духмянай яблычнай пенай, а доле яблычкаў — хоць бы адзін.

Я падняў з берага скрынку-пудзіла, прывёз яе дадому і спаліў.

Вясковы егер, несумненна, аднойчы праверыць сваю кармушку і ўзрадуецца, што жывёлы прынялі яго дарунак і з'елі нават картонную скрыначку з этыкеткай «Westindia Bananen».

Так памылка можа прынесці радасць, але ж радасць — заўсёды радасць, маленькая апора ў жыцці. Вядома, пры ўмове, што той, хто зведае яе, не заўважыць сваёй памылкі.

## КНІГІ

На паліцах у маім пакоі шмат кніг. У некаторыя я заглядваю, бачу, што ім нечага мне сказаць, загортваю і забываюся на іх.

У іншых я там-сям знаходжу ісціну альбо пацвярджэнне ўласных думак. Часам мне падабаецца змест толькі адной старонкі ці паасобныя асабліва ўдалыя фармуліроўкі. Пройдзе год, і я зноў бяру іх у рукі, каб перачытаць тое, што мне спадабалася.

Ёсць і такія кнігі, якія з дня іх пакупкі стаяць у маім кабінеце, як чужыя. І раптам яны заяўляюць аб сабе. Можа я стаў ім духоўна бліжэйшым?

Я разгортваю іх, прачытваю ў адзін прысест і праз некалькі тыдняў перачытваю зноў. Многім з іх ужо шмат гадоў, яны прыйшлі з даўно мінулых часоў і эпох, і ўсё-такі яны робяць мяне маладзейшым і дапамагаюць мне зразумець мой час. Гэта амаладжальная сіла кніг называецца паэзіяй.

## ПАДЛЁДНАЯ КАРОВА

Уначы над палямі і над вёскай узвінуўся вецер, прыціснуў мароз. Размытыя асеннімі дажджамі дарогі акамянелі грудай. Раніцай сляды вартаўніка, як адлітыя ў гіпсе, ляжалі на дарожках і сцежках. След ад веласіпеда мясніка бясспрэчна сведчыў, што чалавек вярнуўся дадому нецвярозы.

Дзень заняўся над бярозавым ляском за аселіцай, закукарэкалі пеўні, вароны з граем падняліся з седала на зарэчных вербах і чарадой паляцелі на вёску. Жыццё пачало выплёхвацца з дамоў і дамочкаў. Людзі спяшаліся на работу. Жывёлагадоўчая брыгада пагнала на вадапой кароў да возера. Брыгадзір выдзеўб пешняй балонку, каровы, выцягнуўшы шыі, пілі ваду. Толькі адна цялушка-пярэзімка ступіла на лёд. Старая карова яе як бы засцерагала; спачатку нібы рыкнула, потым мікнула: ты што гэта, дурная задавака, не бачыш?

А тая, падняўшы хвост, гайсанула далей ад берага. Пачуўся сухі трэск, лёд праламаўся, цялушка схавалася з галавой у вадзе. Вынырнуўшы, яна раўнула, б'ючы аб крыгі нагамі. Пастухі кінуліся па вяроўкі. Яны прыхапілі заадно і драбіны; распластаўшыся, ляглі на лёд ніцма і закінулі тапельніцы на рогі пятлю. Выцягнулі рабую на бераг. Ляжыць яна, як абернуты воз, падкурчыла ногі, калоціцца. Што ж рабіць?

— Натрыце яе гарэлкай!

— Дарагавата ж абыдзецца.

Нехта збегаў і прынёс дэнатурату з кааператыўнай крамы. Мужчыны ўчатырох прыняліся расціраць купальшчыцу. Упарыліся. Іх змянілі чацвёра другіх...

Нарэшце азалелая цялушка паднялася на ўсе чатыры нагі і, спатыкаючыся, пацягнулася да аборы.

Настала лета. На раніцу ўсю чараду статку гналі на луг. Увечары яна вярталася ў вёску.

— Вунь падлёдная карова ідзе,— гаварылі людзі.

А «падводніца» цяпер баялася не то што ракі, нават маленькай лужыны. Усякая вада здавалася ёй ледзяной купальняй возера. Ніколі больш не хадзіла яна на вадапой. Паіць яе даводзілася з калодзежа. Яна стала прывілеяванай каровай. Уласнае глупства ўзвысіла яе над астатнімі.

## ПРЫЛЁТ ШПАКОЎ

Павеяла цёплымі вятрамі, і снег пачаў раставаць; два дні стаяла цеплыня, і вось ужо паявіліся праталіны. Адамкнутая з-пад зімовых акоў зямля пахла, і мы ступалі па двары, як па мокрай мешкавіне.

— Няхай мяне назавуць Ніврэ Ратамтыртш,— кажу я сваім сынам,— калі сёння ноччу не прыляцяць шпакі!

Сыны падседзелі мяне на слове. Я легкадумна абышоўся са сваім бацькоўскім аўтарытэтам. Уначы я многа разоў прачынаўся, падыходзіў да акна і прыслухоўваўся. Неба было зацягнута воблакамі, і з двара да маіх вушэй не далятала ні гуку. На золку, перш чым сесці за работу, я зноў прыслухоўваўся, углядаўся ў прыцемкі за акном — веснавога выраю ў паветры было не чутно.

— Ну, бацька, як там справы са шпакамі? — спытаў у мяне за сняданнем мой меншы сын Мацес; але ў гэты час Ілля вярнуўся з канюшні, дзе ён чысціў коней, і кажа:

— На жаль, з гэтым вар'яцкім імем нічога не выйдзе: у суседзяў на тэлевізійнай антэне сядзяць два шпакі.

Мы выскачылі на панадворак: шпакі сядзелі на антэне і пасвіствалі; я з удзячнасцю ўглядаўся ў іх — як-ніяк, яны выратавалі мой бацькоўскі аўтарытэт. Але тут спытаўся Ілля:

— А дарэчы, хто гэты Ніврэ Ратамтыртш, клоун які-небудзь ці што?

Ці ж можна было прызнацца, што гэта я сам, калі чытаць маё імя і прозвішча задам наперад.

## МАЯ ВЁСКА

Мне яшчэ і сямі гадоў не было, калі я ўпершыню ўбачыў гэту вёску, а жылі мы за тры паселішчы ад яе. Помніцца, я тады ўзвышаўся фурманам на высокім сядзенні пазычаных у суседа калёс і кіраваў канём. Упобач са мной сядзеў мой дзед, і пад яго вусамі, падобнымі на чайку ў палёце, пабліскваў агеньчык самакруткі.

Калёсы былі наладкаваны клеткамі, а ў клетках сядзелі куры і трусікі. Калі калёсы, што скрыпелі па глыбокім пяску, наязджалі на камень і ўздрыгвалі, куры кудахталі, а трусікі палахліва стрыглі вушамі.

З-пад колаў бесперапынна ўздымаліся воблакі пылу, якія паволі сплывалі наўзбоч і рассейваліся над палеткамі. Там скрозь былі лавы жыта і бульбы, бульбы і жыта, і толькі зрэдку дзе мы праязджалі паўз шырокія палі азімай пшаніцы, а там-сям і аўса.

Вёскі, у якую мы ўязджалі, ні я, ні дзед не ведалі. Кадук яго ведае, як называецца гэта вёска за высокімі соснамі на ўзгорку, дзе было суджана лёсам адбегаць басаножжам і майму маленству.

І не мог я ў той дзень уявіць сабе, што праз пяцьдзесят гадоў, калі я з жонкай і сынамі буду вяртацца ў гэтую вёску, сэрца маё заб'ецца яшчэ мацней, чым тады.

Тая мясціна, дзе высяцца сосны, з якіх ні адна не падобна на другую, па-мясцоваму называецца Леманава Жышка; расказваюць, што на гэтым месцы загінуў у бітве правадыр сорбаў Жышка. Там быццам бы ляжаў некалі і надмагільны камень, дакладней, неачэсаная адколіна гранітнай скалы (магчыма, прысунутая ў гэты край яшчэ ў ледавіковы перыяд) з абразком таго самага Жышкі, але гэты старажытны надмагільны

помнік адвезлі ў музей, а ў які горад — ніхто дакладна не ведаў, ды мы і не дапытваліся. Не было нам справы да нейкага там палабскага сорба. У нас быў наш час і наша дастаткова стракатае жыццё.

На баравіне паўмежкаў Леманавай Жышкі пчолы і чмялі шышкамі віселі па бурачковым версе, і не было на свеце вёскі прыгажэйшай; калі вакол яе ў жніўні зацвіталі верасы, навакольныя жоўта-белыя пяскі доўга і ўпарта даказвалі, што пры аздобе гэтых самых верасоў яны харством пераўзыдуць нават колер вячэрняга закатнага неба.

У верасе злавіў я сваю першую яшчарку, з-пад верасовага кусціка выграб першае чмялінае гняздо. У той час пад хвойнікам на ўзгорку могілак з іх беднай каплічкай яшчэ не было, але цяпер яны там, і ўлетку над імі звіняць раі пчол, а зімой яго прадзімаюць рэзкія ўсходнія вятры; першымі іх прымаюць сваімі грудзьмі надмагільныя камяні, і вятры, раз'ярыўшыся да свісту і енку, абрушваюцца бурай на вёску, якая пакорліва схіляецца перад імі сваімі чаротавымі стрэхамі, і дзеду, з яго вусамі, падобнымі на крылы чайкі ў палёце, лежачы там пад магілкай з геранямі і бягоніямі, зручна ўранні першаму прадвяшчаць пагоду — цюцелька ў цюцельку так, як ён рабіў гэта пры жыцці: «Вось успомніце маё слова — будзе дождж».

У тыя часы мы яшчэ праводзілі нябожчыкаў у суседняе сяло, дарога туды была няблізкая, і колькі ж жалобных песень трацілі мы на тыя праводзіны! Настаўнік ласылаў нас на пахаванне, каб мы спявалі песні і каб людзі іх чулі, таму што арандатарыпалавіншчыкі і жыхары гор, беднякі і беззямельныя сяляне пелі рэдка калі, а калі і спявалі, то вельмі ўжо ціхенька — эканомілі, мабыць, дыханне для сваёй цяжкай працы.

Чым больш я сталеў, тым больш дзіўнае пачуццё ахоплівала мяне пры кожным наведванні роднай вёскі. На ўзгорку за ёй, у тым садку мёртвых, знаходжу я магілы тых, хто разам са мною насяляў пару майго маленства і хлапецтва, і з кожным годам іх збіраецца там пад хвойкамі ўсё больш і больш. А ўнізе, у даліне, усё прыбывае і прыбывае людзей, якіх я ўжо не ведаю, і я праходжу па вуліцы роднай вёскі хоць і нікім не асвістаны, але і нікім не прыласканы; толькі там, наверсе, у садку мёртвых, здаецца мне, як то адзін, то другі, паскрыпваючы касцямі і ківаючы чэрапам, дапытваецца: «Кнігі пішаш? Гісторыі, што заканчваюцца забойствам? Яно вядома, падмайстрам у пекара многа не заробіш, але чаму б табе не пайсці працаваць на руднікі? Кнігі, на ліха яны патрэбны! Я ўжо стары для кніг, некалі мне іх чытаць ды і акуляры недзе закінуліся!»

Праз неператораныя бульбянішчы перад могілкамі ў красавіку сорак пятага года ў вёску ўварваліся савецкія танкі. Яны ішлі з Нэйсе і трымалі напрамак на Берлін — на Берлін, які знаходзіцца ад нас у ста пяцідзесяці кіламетрах. Жыхары маёй вёскі, усе гэтыя даўнія сацыял-дэмакраты, як зайцы, разбегліся куды папала, толькі тры ці чатыры сям'і асталіся па сваіх дварах, і сярод іх мае бацькі.

Калі танкі грукацелі на шашы яшчэ ў дваццаці кіламетрах ад вёскі, дзве шлюбныя пары пажылых людзей спяшаліся па дарозе паўз бульбянішчы да старой, пакінутай шахты «Фелікс», у якой прадонне ствала заўсёды зеўрае чорнай вадой — чорнай, чорнай з мацицовымі плямамі нафты на паверхні. Чорная вада там глыбокая, а на нашых супясках у палёх і пясчаных дарогах ніхто з сялян не навучыўся плаваць.

Ніхто з гэтых чатырох не быў партыйным функцыянерам звар'яцелага фюрара, яны не ўзвальвалі на свой гарбяк ніякай віны, але крываногі міністр прапаганды пастараўся ўвагнаць ім у мазгі неадольны страх перад савецкімі салдатамі. І вось чацвёра тых даведзеных да вар'яцтва аднасяльчан, звязаўшыся за рукі адной вяроўкай, крок за крокам, усё глыбей і глыбей уваходзілі ў чорную ваду і пры гэтым спявалі харал. Адзін з тых мужчын-самагубаў быў не толькі сацыял-дэмакратам, але і кіраўніком акругобага духавога аркестра, а таксама рэгентам царкоўнага хору. Другі быў толькі сацыял-дэмакратам і верыў у чарцей і іншую нечысць. Жанчыны былі адданымі рабынямі сваіх мужоў, і ўсе ўчацвярых усё глыбей і глыбей уваходзілі ў чорную ваду, пакуль круты схіл ствала шахты не заглынуў іх у зяпу смерці.

Да жыхароў вёскі, якія пахаваліся ў зямлянках у лесе, даляталі гукі царкоўнага спеву, што ўсё выразней і выразней пераходзіў у булькание; некаторы час яшчэ чуўся голас набожнага сацыял-дэмакрата, а потым каб што шурхнула — усё сціхла.

Ох, бяда, бяда! Такой вось ці іншай, але таксама нічога не вартай манетай заплацілі жыхары маёй роднай вёскі за вайну, прадухіліць якую ў той час, калі яна рыхтавалася, яны не здолелі.

## МАТЭМАТЫКА І ДЗІВА

Бук і сасна раслі на беразе возера так блізка адно да аднаго, што кара на іх ствалах здзіралася. Але сокі абодвух дрэў, мабыць, зладзілі між сабой, і дрэвы час-пачасе зрасліся ў тым месцы, дзе са ствалоў, тручыся адно аб адно, садралася кара.

Убачыўшы гэты саснабук ці букасасну, мы палічылі яе за дзіва прыроды. Але варта адзін раз звярнуць увагу на якую-небудзь выключнасць, як яна трапляецца ў другі і ў трэці раз. Так здарылася і з намі: за два гады на берагах розных азёр нам траплялася не менш дзесяці дрэваў-спарышоў. Праўда, яны ўжо для нас страцілі сваю выключнасць, але мы патрапілі на след матэматычнага закона: дзіва заўсёды звязана з лікам «адзін»; у спалучэнні ж з лікам «два» яно адразу ператвараецца ў штодзённасць.

## ЗАЕЧАЯ ПОЎСЦЬ

З бярозы зваліўся домік-локак і дзіцячы пакой. Я знайшоў птушынае гняздо на лясным імху і ўбачыў, што яно звіта з мноства камячкоў заечай поўсці. На донцы гнязда прыліпла і візітная картка яго былога насельніка — пёрка валасянкі.

У лесе вельмі цяжка знайсці нават адзін шчыпок заечай поўсці — гэтак жа цяжка, як і адшукаць касмічныя праменні ў міжпланетнай прасторы. Колькі ж старання трэба было прыкласці самцы зябліка, каб сабраць сотні такіх камячкоў-пушынак. Я пачціва зняў свой стары цірольскі капялюш — той самы, што з бліскучымі кнопкамі на скураной надбрылёвай істужцы.

Але ў нейкіх трыццаці кроках ад скінутага ветрам гнязда я наткнуўся на астанкі зайца. У суровую зімовую бяскорміцу гэтага шарачка, напэўна, даканаў голад. Поснае заечае мяса даўно ўжо крумкала па лесе ў вобразе вароны ці крумкача, а пра тое, што і ён некалі гайсаў тут, наставіўшы вушы, сведчылі толькі некалькі голых костачак ды тысячы камячкоў зляжалых пад непагоддзю паўсцінак.

Глыбокая павага да стараннеяў самкі зябліка аказалася неапраўданай. Уласцівая ад прыроды пашана да працы ўжо ў каторы раз прымусіла мяне і тут выказаць знакі пахвалы.

Доўгі час я захапляўся карпатлівай настойлівасцю філатэлістаў, пакуль не дазнаўся, што яны проста купляюць маркі на вагу ў філатэлістычных крамах, а не падтрымліваюць перапіску з сябрамі дзесьці на Малых Антыльскіх астравах альбо ў Грэнландыі.

Раз за разам я даю сябе абмішуліць лоўкім прамоўцам, якія ахвотна слухаюць самі сябе і могуць дзяжурна выказвацца ў любы час і на любую тэму. Захапляючыся іхнім красамоўствам, я тым часам не вельмі ўнікаю ў тое, пра што яны гавораць, і толькі заўважыўшы, што іхнім прамовам канца не будзе, пачынаю разумець, што словы іх — тая самая поўсць з дохлага зайца: здзьмухнуць яе не патрабуецца ніякіх намаганняў.

## ХВАЛА ЧЭРВЕНЮ

Май вабіць нас квецённю вішань, каштанаў і яблынь. Духмянасць бэзу і белапенных кустоў цярноўніку проста ап'яняе, і мы амаль не заўважаем больш сціплых кветак чэрвеня.

Але ўсё зялёнае найзеленейшае іменна ў чэрвені, калі бузіна працягвае нам паўдзённы свой водар на сваіх белых талерачках, што з цягам часу напаўняюцца сінявата-чорнымі ягадамі.

Каля дарогі кусціцца шыпшыннік; цвет яго далікатна-ружовы, пах ледзь улоўны, пад восень даспеюць на ім бліскуча-чырвоныя плады. Дрок вяртае нашым успамінам залатыя казкі дзяцінства, а пад кроплямі золата кветак наша ўяўленне ўжо дарысоўвае важкія кунатыя стручкі. Выкідзістыя ўверх сінія стрэлы дзікага лубіну рыхтуюць сваім гарошынам разбег для скачка ўдоўжкі, а лугавы падляднік напамінае аб сабе пахам мёду. Акацыі на памежку перапляўляюць запас азоту ў гронкі сукеццяў, якія сваім водарам будуць здалёку прываблівацъ пчол. Гарошак-грабеннік, вабячы жоўтым цветам мошак і жучкоў, ужо клапоціцца аб пярэстых калючых стручках свайго насення. Гудзенне жужаляў і звон пчол над саламяна-жоўтымі кветкамі ліпы зліваецца ў суцэльны гул. Наплываюць успаміны: дрэва на двары бацькоўскага дому гудзе, як арган, і зацяняе ўсё падвор'е; мядовы пах расцвіўшых ліп праз расчыненае акно пакойчыка пранікае нават у нашы сны — водарны пах ліповага чаю, што зніжае пал прастуды ў дзяцей.

Пра травы і гаварыць нечага. У маі яны растуць, у чэрвені зацвітаюць. Дзікія козы прыводзяць прыплод між кветак густой травы зарасляў — дзяцельніку, скрыпеню і лугавых званочкаў.

Ніхто не можа зразумела растлумачыць, чаму начная фіялка зберагае свой водар для чэрвеньскіх вечароў. Можна б ізноў успомніць даўнія спрэчкі з часоў дзяцінства: што было раней — курыца ці яйцо? Ці то начная фіялка беражэ свой водар для начных матылькоў, ці то начныя матылькі трапятаннем сваіх крыльцаў падтрымліваюць жыццё начной фіялкі.

І ўсё гэта бывае ў чэрвені, калі бляклa-ружовая палоска дня стаіць над лесам усю ноч напралёт, да самага світання.

Пра май напісана мноства вершаў, а хто напісаў хоць некалькі ўзнёслых радкоў пра чэрвень? Можа паэтаў прываблівае само слова «май», што лёгка рыфмуецца са словамі «рай», «край», «грай». Уласна, гэта не мае асаблівага значэння, але не абмінайце, паэты, і чэрвеня з кучавымі воблачкамі пылку — у чэрвені ж і жыта красуе.

**А ЦІ МУДРАЯ ПРЫРОДА!**

На вяршынях галінак верасу яшчэ відны дзе-небудзь бэжавыя пацеркі кветачак, але знізу галінак большасць іх ужо адцвіла. Там сцяблінкі кусцікаў ужо працуюць над стварэннем насення.

У маленькіх хвоечак на кончыках лапак з'явіліся жоўта-зялёныя пупышкі. Як толькі адбудзе восень, яны зробяцца бурымі. Пад прыкрыццём бурай афарбоўкі гэтыя бубачкі перазімуюць і ў будучым маі стануць маладымі лапкамі з кволымі іголачкамі.

Мяцёлкі мятліцы абцяжарыліся і схіляюць сцябло да зямлі. Так семя траў скарочвае сабе адлегласць у глебу, якая ўкрые яго ад зімніх халадоў.

Вавёркі закопваюць жалуды, лясныя і букавыя арэшкі ў мох іігліцу непадалёку ад сваіх гнёздаў. Звяры і расліны працуюць, стараючыся зберагчы свой род і насенне як на працягу зімы, так і ў будучым; усё, здаецца, як і мае быць.

І ўсё-такі я не люблю, калі «сентыментальныя цётачкі і дзядзечкі» балбочуць аб «мудрасці прыроды».

Як правіла, прырода разлічвае на безліч патомкаў і насення, на незлічоную колькасць свайго семя, што звяры і расліны рассяюць па яе загаду, а вельмі часта і наогул разлічвае на шчаслівую выпадковасць.

Калі ў той час, як з мяцёлак мятліцы пачне асыпацца семя, узнімецца моцны вецер ці раптоўна наляціць буран, ён аднясе іх немаведама куды, і толькі шчаслівы выпадак дапаможа ім, што хімічныя ўмовы на тым ласкутку зямлі, куды іх прыгоніць ветрам, паспрыяюць таму, што яны прарастуць з надыходам вясны.

Вавёркі, бывае, робяць многа складаў для сваіх запасаў. У сярэдзіне зімы, калі нагуляны за лета слой тлустасці пад іхняй шкуркай падыходзіць к канцу, іх даймае голад, і звяркі прачынаюцца ад спячкі. У галадаючага і цела і мозг недастаткова забяспечваюцца крывёю. Вавёркі ўжо не памятаюць, дзе іхнія каморы з прыпасамі. А калі пры гэтым лес засланы глыбокім снежным покрывам, праз якое не пранікае пах ежы, вавёркам не дапаможа нават іх востры нюх. І здараецца, што ў суровую зіму ў той ці іншай мясцовасці гібнуць з голаду ўсе вавёркі, а ў іншым месцы, дзе клімат больш мяккі, вавёркі вызімуюць і будуць спакойна пладзіцца ў наступным годзе; іх дзеці (магчыма, таксама зусім выпадкова) адправяцца ў вандроўку і засеяляць тую мясцовасць, дзе іх родзічы вымерлі.

Не, прырода, зусім не мудрая. Але яна не эканоміць сродкаў і ў яе ёсць час, безліч часу, калі не мераць яго маштабамі чалавечага жыцця.

З нямецкай пераклаў Язэп СЕМЯЖОН.



# ПУБЛІЦЫСТЫКА



- Сцяпан КУХАРАЎ
- Віктар ПЛЕШАВЕНЯ
- Серафім АНДРАЮК
- Герман КІРЫЛАЎ
- Сяргей ГРАХОЎСКІ
- Міхаіл СУПАНЕЎ





У Дубах, пад Мікалаеўшчынай, 17 верасня 1972 года адбылося свята паэзіі.

● Сцяпан КУХАРАЎ

# ВОБРАЗЫ РОДНАГА КРАЮ

Ці хвалююца сёння юнакі і дзяўчаты гэтак, як хваляваліся некалі мы, калі бачылі жывога паэта? Відаць, і цяпер сэрца кожнага, хто неабыякавы да жывога роднага слова, пачынае стукаць жвавей, і ў душы нараджаюцца цеплыня і дабрата пры сустрэчы з паэзіяй.

...З паэтамі Янкам Купалам і Якубам Коласам я пазнаёміўся завочна, яшчэ не ведаючы добра граматы і пісьма, а ўжо, услухаўшыся, як старэйшыя хлапчукі-школяры вучылі іх вершы:

...Ярка на камінку
Смольны корч палае.
Бацька на калодцы
Лапці выплятае...

Такі ж белагаловы, у зрэбнай кашульцы і ў латаных-пералатаных штоніках з сураўніны, за лета набіў сабе цыбкі, якія і з маразамі ніяк не гаіліся, лаўлю музыку паэтавых слоў і п'янею ад хвалявання. Як і «сынок Ігнатка», я маркочуся па школе, сумую, бо маці сказала: «Пойдзеш на тое лета, як Дуня трохі падрасце, а ету зіму дзіцёнка няма каму калыхаць...»

А вучнем трэцяга класа са школьнай сцэны я сам дэкламаваў:

Дрэнна маё жыцце,
Ўсё ідзе не ў лад,
І крычаць мне ўсюды:
«Асадзі назад!»

Я ўжо ведаў: гэты, як многія іншыя вершы, што ў хрэстаматыях і падручніках, склаў выдатны беларускі пясняр Якуб Колас. З нейкага часопіса я выразаў яго партрэт і мякішам хлебным прыклеіў на багаўні, дзе стаялі абразы. Ціхенька, баючыся, каб не заўважыла маці, паківаў пальцам грознаму божаньку, які ўвесь час на мяне касавурыўся і цікаваў, каб я чаго-небудзь недазволенага не натварыў, і амаль шэптам прамовіў: «Божанька, я цяпер цябе не баюся. Тут будзе Колас, ён цябе ўціхамірыць...»

...Ужо юнаком, з атэстатам вясковага настаўніка ўлетку 1939 года займаўся я на настаўніцкіх курсах у Мінску і ў парку імя М. Горкага нечакана ўбачыў групу паэтаў. Чамусьці адразу здагадаўся, што гэта яны. Крадучыся ўслед, я не спускаў з іх вачэй. Ля дашчаных вітрын з партрэтамі Купалы і Коласа прыпыніліся. Нехта з іх, відаць, Пятро Глебка, з адценнем жарту заўважыў: «Вось нашы зоркі». Я прыглядзеўся і ў групе заўважыў сталых дзядзькоў — абодва ў цёмных гарнітурах, у белых кашулях пры гальштуках; у аднаго і другога на лацкане пінжакоў зззяў ордэн Леніна і дэпутацкі значок. Мне яны падаліся тады вельмі падобнымі з твару, былі амаль аднаго росту і ў абодвух — акуратныя, з сівізною вусікі. Адзін з іх, больш вузкаплечы і ссутулены, з папяросаю ў кутку рота неяк усмешыста і як бы задумліва прамаўчаў, а той, што з большай лысінай, крануў таго, што сказаў гэтак, за плячо і, як бы паплескваючы, прагаварыў: «Ат, кінь ты, Пятрок, усе мы аднолькавыя зоркі. Сапраўдныя зоркі вунь, на небе.» Усе весела засмяяліся, рушылі шпарчэй, і неўзабаве зліліся з шумлівым натоўпам, які віраў на шырокай алеі.

Пасля вайны мне шчасціла сустракаць Якуба Коласа, часцей за ўсё — ля Дома друку, дзе ён са сваёй нераз-

лучніцай-кавенькай яшчэ лёгкай хадою, задумлівы і строгі, праходзіў адзін ці з кім-небудзь з пісьменнікаў; бачыў я дзядзьку Якуба і ў рэдакцыі «Чырвонай змены», куды ён неяк зайшоў—яго прасілі напісаць невялічкае слова ў газету; неаднойчы слухаў прамовы Коласа на пасляваенных пісьменніцкіх з'ездах. Аб чым бы ні гаварыў Якуб Колас—паэт і акадэмік, дэпутат і змагар за мір,—яго заўсёды слухалі ўважліва, з затоеным дыханнем. Коласа аднолькава цікавілі і літаратурныя справы, і адбудова разбураных вайною гарадоў і вёсак, і жыццёвыя турботы знаёмых і родных, і зусім далёкіх, яму не знаёмых людзей; не зважаючы на стан свайго здароўя і свае асабістыя творчыя справы, ён спяшаўся дапамагаць. Яго турбавала нізкая ўраджайнасць, і ён ля свайго дома, на дзялянцы, робіць доследы з жытам; яго непакоіў увесну і ў летнія часы стан надвор'я, і ён павесіў на сцяне, перад пісьмовым сталом, барометр і вёў каляндар назіранняў. Дзядзька Якуб, як дзіця, радаваўся, калі адзін год улетку пасля доўгай сушы, нарэшце, паліў доўгачаканы дождж. «Я ўсё жыццё клічу дождж на наша поле»,—не раз гаварыў Канстанцін Міхайлавіч.

Коласа заўсёды, калі была якая нарада ці сход у Саюзе пісьменнікаў, акружалі ўсе—і маладыя, і старэйшыя, і ён з усімі ахвотна ўступаў у гаворку.

Да Коласа ўсе ішлі—знаёмыя і незнаёмыя, з Мінска і з далёкіх вёсак і, вядома, яго землякі. Са сваім горам і надзеямі, з радасцямі і бядою. Памятаю, як аднойчы і мая швагерка, калі пачала будаваць у Мінску сабе хаціну і зусім абязгрошылася, сказала неяк: «Хіба схаджу да Коласа. Кажуць, ён нікому не адмаўляе».

...Коласа ўсе мы вучылі ў школе. Яго творы з ахвотай, да самазабыцця чыталіся і пасля ўрокаў. Дзе-небудзь з кніжкай зашыешся ў садку ці на пагрэбнішчы, каб маці не выкрыла і не дала якое-небудзь хатняе работы. Коласава кніжка была з сабою ў торбачцы, калі выпраўляўся з коньмі на начлег ці падыдзе радоўка пасвіць кароў ды авечак.

Памятаю, мы, студэнты педвучылішча, як тыя мікалаеўцы-семінарысты, назубрыўшыся храналагічных табліц ды «сінусаў-косінусаў», чыталі для аддыху «Сымона-музыку». Нас, вясковых хлопцаў, захапляў і хваляваў коласаўскі Лабановіч, і мы гэтак жа, як і ён, марылі, каб паехаць у самую далёкую, у самую глухую вёску. Нашымі любімымі вобразамі былі коласавы Алёнка і Сцёпка, у іх мы бачылі свой ідэал, саміх сябе. І як хваляваліся мы, чытаючы і перачытваючы старонкі цудоўных палескіх аповесцяў. Калі настала пара—першы свой самастойны ўрок,—вялікім святам было расказваць гэткім жа хлапчукам і дзяўчынкам, якімі яшчэ ўчора былі самі, пра Якуба Коласа, пра ягонага Андрэя Лабановіча...

З Янкам Купалам, з Якубам Коласам мы былі на франтах мінулай вайны, у партызанах. І Коласавы словы паэта-трыбуна, паэта-патрыёта: «Наперад і толькі *наперад*—ні кроку назад»—падымалі нас на бой...

Калі часам бывае агорне сум ці маркота, возьмеш у рукі томік Коласа, адгорнеш наўгад старонку:

Краска, мілая мая,
Госця веснавая!
Як ты хораша цвіцеш
У глушы, любая.
З ціхім усмехам з табой
Вецярок жартуе,
І цябе ў вясёлы дзень
Сонейка цалуе.

І ўжо сплывае той смутак, весялее душа, і паэтава радасць як бы ўліваецца ў тваю душу.

●

Гэтым летам, на схіле гарачага жніўня, пабываў я на Стаўбцоўшчыне, наведаў мясціны, дзе нарадзіўся, гадаваўся і вырас народны паэт Беларусі Якуб Колас.

...Акінчыцы, Ласток, Альбуць, Смольня, Мікалаеўшчына... Яго родныя мясціны, матчына песня, калыханка яго натхнення... Зямля і людзі, якія яму далі талент і бяссмерце. Калі находзіш па тых дарогах і сцежках, пасядзіш ля тых дубоў-волатаў, якія бачылі Коласа, здаецца, зноў сустрэнешся з ім, пачуеш яго голас....

Акінчыцы. Шырокая, як праспект, вуліца. Новыя, з светлымі, вялікімі вокнамі хаты. Зялёныя купчастыя прысады. Недзе ў канцы доўгай вуліцы, угадваеш, чарнее лес. Усё вакол зялёнае і сіняе. У Акінчыцах цэнтр калгаса «Чырвоны Кастрычнік». Кажуць, у вёсцы больш за трыста двароў. Некалі тут была лесніčоўка. Недалёка ад дарогі, якая праходзіць са Стоўбцаў на Мікалаеўшчыну, разразаючы акінчыцкую вуліцу амаль пасярэдзіне,—хата. Звычайная сялянская хата, ужо старэнькая. Пры ўваходзе, на сцяне, мемарыяльная дошка: «Тут 3.XI.1882 г. нарадзіўся народны паэт Беларусі Якуб Колас (Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч)».

«Хаты тае, дзе я нарадзіўся, няма,—пісаў Я. Колас.—Пабудавана такая самая».

У Акінчыцах, як вядома, сям'я лесніка Міхала Міцкевіча пражыла паўгода. З панскае ласкі давялося







Бацька Якуба Коласа Міхаіл Казіміравіч.

Малюнак **У. І. Міцкевіча**—загадчыка філіяла Літаратурнага музея Я. Коласа.

●

Маці Якуба Коласа Ганна Юр'еўна.

перабірацца на новае месца—урочышча Камора, блізка ля Мікалаеўшчыны, дзе жыў бацька Міхала—малазямельны селянін Казімір Міцкевіч.

Праз два гады былі новыя пярэбары. На гэты раз бліжэй да Стоўбцаў, на леснікову пасаду ў Ласток (другая назва—Сухопшчына).

У Ластку захавалася леснікова хата, а таксама адрына, прыгрэбак. Недалёка лес, які, відаць, раней быў вельмі блізка да лесніčоўкі. Прыгожая, утульная паляна.

У Ластку Міцкевічы жылі з 1885 па 1890 год. І першыя з'явы-малюнкі, якія запалі ў дзіцячую душу хлапчука Кастуся, будучага паэта, нарадзіліся тут, калі ўвечары бацька ў лесніковай торбачцы прыносіў «зайцаў хлеб», а дзядзька Антось расказваў лясныя здарэнні і казкі.

...Мы едзем у Альбуць, у лесніčоўку, куды Міцкевічы перабраліся з Сухопшчыны і дзе сям'я Міхала жыла з 1890 па 1903 год. Едзем лесам. Густы малады сасоннік напірае на лясную дарогу. Аблітыя сонцам, сосны нібы свецяцца; з-за зялёных шапак-верхавін усміхаюцца белыя прыгажуні-бярозкі. Востра пахне верас, цягне грыбным духам...

— Слаўная мясціна!—абзываецца за рулём «козліка» Даніла Канстанцінавіч, сын Якуба Коласа.—Іншым годам, бывала, баравікоў процьма, кашамі носяць мікалаўцы...

А мне здаецца, што я чую голас жывога Коласа. Нібы жывыя паўстаюць малюнкі, якія запомніліся з коласавых вершаў і апавяданняў.

...Нечакана лес як бы расступіўся, даючы нам дарогу. Перад вачамі—невялікая зялёная паляна. Лугавіна. Кусты алешніку ўводдалі...

— Леснікова пасада,—аб'яўляе Даніла Канстанцінавіч.—Альбуць...

Толькі добра прыглядзеўшыся, убачыш між алешніку і кустоў невялічкую рачулку, праз яе—хісткі дашчаны масток, а некалі была простая кладачка, па якой пераходзілі на той бок, дзе прыгарнулася леснікова пасада—хата, хлевушок, студня, невялічкі гародчык.





Сёстры Якуба Коласа — Юзэфа Міхайлаўна (злева) і Міхаліна Міхайлаўна.

Нас вітае драўляны калодзежны журавель. Сланечнікі ганарліва ўзнялі рыжыя галовы. У хаце цішыня і спакой.

Вакол паляны — вячысты лес. Сосны, елкі. Справа — магутны, разгалісты дуб, яму, відаць яшчэ доўга не будзе старасці. Пад гэтым дубам гулялі не раз Кастусь і яго браты Уладзік, Алесь і Юзік; тут недзе блізка тыя бярозы, ля якіх дзядзька Антось частаваў дзяцей клёцкамі з бярозавым сокам.

Альбуць — гэта непаўторны коласаў свет, які дзякуючы вялікаму таленту мастака стаў нам блізкім і родным.

— Дакладнае апісанне Альбуці ў паэме «Новая зямля», — гаворыць Даніла Канстанцінавіч і чытае па памяці:

Парэчча — слаўная мясціна,
Куток прыгожы і вясёлы.
Як мора, лес, як неба — долы,
Зіхціць у кветках лугавіна...

Гэта пра Альбуць паэт напісаў свае славутыя радкі, якія сталі афарыстычнымі: «Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы!..» Ловіш сябе на думцы: сапраўды, не было б Альбуці (Парэчча), можа не было б і «Новай зямлі».

Потым, калі мы былі ў Смольні, дзе ў чэрвені 1967 года быў адкрыты філіял Літаратурнага музея Якуба Коласа, у яркай, змястоўнай гутарцы Уладзімір Іванавіч Міцкевіч, пляменнік паэта, прывёў цікавыя дэталі і факты з жыцця Міцкевічаў у Альбуці.

Альбуць спачатку не спадабалася Міхалу і асабліва Ганне, яго жонцы. «Балота, пясчанік». Затое не сумаваў дзядзька Антось. «Паедзем у Альбуць, і там людзі жывуць», — весела сказаў ён. Упадабалі новае месца і хлопцы. Лугавое раздолле, рэчачка, крынічка, а недалёка, за дубамі — Нёман...

Парэчча — слаўная мясціна! Каб умеў гаварыць гэты лес, у якога некалі сам Колас-юнак пытаў: «Лес! Аб чым шумяць вяршыны? Лес! Што шэпчаш, векавы?»; каб можна было спытаць і разгадаць мову гэтага ручая, які «і шуміць і грыміць між алешын, кустоў», і музыку, якую любіў слухаць Колас-хлапчук; каб можна было распытаць усё ў таго дуба, што «сілачом стаіць» і «здалёк відаць пышны верх яго»; каб умеў пагаварыць з небам, дзе «спакойненька, ў разлогах ходзіць хмарак карагод», — то адкрыліся б, мабыць, сакрэты паэтавай душы. Гукі прыроды ўмеў слухаць паэт-чараўнік і, прапусціўшы ўбачанае і пачутае праз сваё сэрца, з дапамогаю слова ператварыў у мастацтва — плён натхнёных думак і працы.

Кажуць, што паэт — дзіця прыроды. Калі гэта так, то іменна Наднямонне нарадзіла Коласа. Альбуць, як зазначае сам паэт, запомнілася найбольш яскрава. Ходзіш па гэтых, здаецца, даўно знаёмых табе альбуцкіх сцежках, дыхаеш лясным, настоеным на кветках і травах водарам і, як зачараваны, услед за паэтам паўтараеш:

Вобразы мілыя роднага краю,
Смутак і радасць мая!
Што маё сэрца да вас парывае?
Чым так прыкованы я
К вам, мае ўзгорачкі роднага поля,
Рэчкі, курганы, лясы,
Поўныя сумнай красы?

З біяграфіі Я. Коласа яскрава відаць, чым выкліканы гэтыя вобразы і малюнкі, напоўненыя смуткам і жальбою. Сям'я Міцкевіча — панскага палясоўшчыка — усё жыццё цешылася думкаю: набыць кавалак свае зямлі, каб вызваліцца з-пад уціску паноў. Шматлікая радня Міхала Міцкевіча — браты Пятро, Яўхім, а таксама Антось, які і звекаваў бабылём, бо не меў магчымасці завесці сваё гняздо, — жыла бедна. Нялёгкім быў і лёс Кастуся, спачатку семінарыста, потым настаўніка, які праз колькі год страціў месца і адседзеў тры гады ў турме. Уражлівая паэтава душа поўнілася гневам і нянавісцю супраць прыгнятальнікаў, і ўжо ў яго ранніх вершах і апавяданнях, якія напісаны, як правіла, на аснове сапраўдных здарэнняў і гісторый, выразна гучаць пратэст і бунтарства супраць несправядлівасці і нядолі.

У Альбуці напісаны дванаццацігадовым Кастусём першы верш на беларускай мове «Вясна». Яго прачытаў аўтар сваім родным, і ўражаны бацька даў сыну гасцінца — рубель на кніжкі.

«Ну, а чаму першы верш лёгка напісаўся?» — пытаў Канстанцін Міхайлавіч праз многа-многа гадоў, калі гутарыў з Максімам Лужаніным, і адказваў: — Матчына мова за руку павяла...»

Родная прырода, свае хатнія, блізкія людзі, мікалаеўцы, дзядзька Антось, браты, сёстры, леснікі, што прыязджалі да бацькі па службе і ў госці — яны ўсе ўвайшлі ў творы і сталі вобразамі вялікай мастацкай сілы і



Брат Якуба Коласа Язэп Міхайлавіч. 1917 год.



Язэп Міхайлавіч — дзядзька Юзік — сёння.

вялікага ўздзеяння на розум і сэрцы пакаленняў.

Прыгадаем хаця б паэму «Новая зямля»—гэту энцыклапедыю сялянскага жыцця.

«Хацелася апісаць так проста і ясна,—успамінаў Я. Колас,—тое, што так маляўніча прадстала ў маёй памяці... І я апісаў леснікову пасаду. Як успамін аб сваіх дзіцячых гадах». Вядома, што паэма, якую мы цяпер чытаем, грунтоўна дапрацоўвалася і была закончана пасля Кастрычніка, у савецкі час. Колас вельмі хваляваўся, аддаючы сваё любімае дзецішча на суд чытача. Так, у пісьме да П. Глебкі ад 13.IV.38 года ён пісаў: «...Я пагадзіўся з думкаю, што «Новую зямлю» ацэняць людзі потым, калі я буду ўжо нябожчыкам».

...У Смольні жыве адзін з герояў паэмы—Коласаў брат Язэп Міхайлавіч Міцкевіч (яму семдзесят сем)—рухавы, бадзёры, з жывымі карымі вачамі. Яго ўсе называюць дзядзька Юзік. Ён, звычайна адрэкамендаваўшыся: «Я той Юзік-шаляніца, якога пакрытыкаваў Колас», спаважна, выразна дэкламуе:

А гэты Юзік-шаляніца,
Яшчэ малы, зусім дурніца,
Так пад нагамі і таўчэцца,
Або, як хвост той, валачэцца
І ад работы адрывае
І толькі сэрца ад'ядае.

Язэп Міхайлавіч успамінае:

— Альбуць я помню вельмі цьмяна. Памятаю я Кастуся з тае пары, калі мы жылі ў Смольні. Ён, ужо настаўнік, прыязджаў дахаты. Помню яго заўсёды з кніжкай. Калі Кастусь настаўнічаў у Люсіне і ў Пінкавічах, то пры ім жыла наша сястра Юзя, а ў Верхмені—сястра Марыя, і я жыў у брата. Да Кастуся, на кватэру, часта прыходзіў бацюшка, быў ахвотнік да вясёлых анекдотаў, рыбак заядлы. Гэты бацюшка—айцец Уладзімір, апісаны Коласам у трылогіі «На ростанях».

Прыгадваючы жыццё ў Смольні, Язэп Міхайлавіч дае яркія штрыхі да характарыстыкі дзядзькі Антося—аднаго з галоўных, каларытных персанажаў «Новай зямлі».

— Дзядзьку Антося,—гаворыць ён,—мы любілі болей як бацьку. Дзядзька нас, малых, і не караў. Мы з ім хадзілі на рыбалку. І на паляванне браў з сабою. І пчол падглядалі, і бярозавік падпускалі. А бывала, калі хто-каторы з нас пасваволіць, то дзядзька адно пагрозіць пальцам, а то пад носам, па губе, правядзе, а рука ў яго была шурпатая, як тарка, і прыгаворвае: «Глядзі, унь смаркач які доўгі, як лейца». Жартаўнік быў наш дзядзька Антось. Як збяруцца ўсе ў хату, да стала—а сямейка была дай божа, «дзяцей тых, як снапоў на таку»,—то дзядзька і пачынае, жартуючы, склікаць: «Просім пана вучыцеля на бліны». Гэта да Кастуся. А да Алеся: «Гэй, кандуктар, прынясі вады». Алесь вучыўся на кандуктара...

Гаворка наша была доўгай, але не дакучлівай. Цікава было слухаць дзядзьку Юзіка, жывую гісторыю Смольні, як ён сябе называе жартам. Успаміналася жыццё-быццё далёкае, калі тут панавалі Радзівілы. Пасля смерці бацькі-лесніка Міхала Казіміравіча (ён пражыў 52 гады, хаця быў, паводле ўспамінаў Я. Коласа, «вельмі дужы, шырокі ў плячах, цягавітага заводу чалавек», памёр 8 лютага 1902 года) яго пасаду атрымаў старэйшы сын Уладзя. Неўзабаве яго перавялі ў Цёмныя Ляды, дзе была смалярня. Арандавалі зямлю. Зямля была—адна пустэча, пяскі. У розных месцах—кавалкі, адрэзкі. За тую зямлю сплачвалі, за дзесяціну—30 пудоў збожжа.

— Мы перасяліліся ў карчму, на ўскраі Мікалаеўшчыны,—расказвае далей Язэп Міхайлавіч.—Купілі хату ў карчмара, які збіраўся ў Амерыку. Але нахапіўся пажар, і карчма згарэла. Мы засталіся пагарэльцамі. Дзядзька ў Яршах старгаваў зруб, прыгналі дрэва Нёманам, і мы пабудаваліся ў Смольні. Як паставілі хату, дзядзька Антось цешыўся: «О, маем, над палацамі палац!..»

Тут, у Смольні, дзе цяпер філіял музея, Колас бываў наездамі. Ён ужо настаўнічаў, друкаваў вершы і апавяданні ў газеце «Наша ніва».

Тут, у Смольні, адбылася першая сустрэча двух будучых вялікіх паэтаў, уладароў дум і спадзяванняў свайго некалі абяздоленага народа.

Наведвальнікам музея ў Смольні Уладзімір Іванавіч расказвае:

— Вось, бачыце, на сядзібе ліпы. Іх пасадзіў Якуб Колас, калі наязджаў у Смольню. Колас марыў яшчэ пасадзіць садок. Цяпер мы, яго нашчадкі, пасадзілі ў памяць песняра сад—каля пяцідзесяці пладовых дрэў...

— Кажуць, што гэтыя ліпы Колас пасадзіў на памяць аб сустрэчы з Янкам Купалам?—пытае нехта з прысутных.

— Можа і так, дакладна мы не ведаем,—адказвае Уладзімір Іванавіч.—Але ліпы пасаджаны той вясною...

Пра тую памятную сустрэчу з Янкам Купалам сам Колас расказваў: «Аднойчы пайшоў я ў Мікалаўшчыну да некага з хлопцаў пагуляць, адпачыць часінку... Мне далі знаць: прыйшоў Купала і чакае ў нас у ха-







Якуб Колас. 1911 год.



Якуб Колас, яго жонка Марыя Дзмітраўна, сын Даніла і М. Ц. Каменская. 1914 год.

це. Я вельмі ўзрадаваўся. Вярсту да Смольні бегма бег...»

Сустрэчу памятае малодшая сястра паэта Марыя Міхайлаўна Бруй. Жыве ў сына Васіля, калгаснага шафёра, увіхаецца ля дому. Хата іх стаіць у Мікалаеўшчыне, у невялікім завулку, пры самым Нёмане, у прагале паміж старых даўгакосых вярбін. Срэбрам на сонцы блішчыць шырокая паласа вады. Над хатаю—высозныя, раскідзістыя бярозы, купчастыя грушы-дзічкі... Адсюль, з узбярэжжа, добра відзён наднёманскі лес і тая Прыстанька, дзе ўлетку 1906 года збіраліся маладыя мікалаеўскія настаўнікі на свае сходкі і пагулянкі, думаючы пра лёс землякоў, пра свой народ, які жыў тады ў нудзе і бядзе...

...Марыя Міхайлаўна запрашае зайсці ў хату. Звыкла, па-сялянску выцірае ручніком рукі, садзіцца ля стала і, лагодна ўсміхнуўшыся, гаворыць:

— А як жа, памятаю тое-сёе з таго, як жылі ў Альбуцці, асабліва ў карчме і ў Смольні. Калі пад настрой, то многае ўспамінаецца...

Калі ў Смольню прыязджаў Я. Купала, Марыя Міхайлаўна якраз і бегала па Кастуся на вёску.

— Колас і Купала,—расказвае яна,—вельмі рады былі, сустрэўшыся. Доўга гаварылі між сабою. Спачатку быў пры сустрэчы і дзядзька Антось. Трохі выпіў з імі, тады пайшоў, можа, каб не замінаць іх гаворцы. Сядзелі яны позна, гаварылі шчыра. Нанач пайшлі ў гумно. Маці давала ім пасцель, але Купала адмовіўся, сказаў, жартуючы, што мы вось каласочак пад галовы пасцелем, і нам будзе добра. Яны, відаць, ноч не спалі. Усю ноч, мабыць, так і прагаварылі... А раніцою пайшлі ў Свержань.

Марыя Міхайлаўна разгаварылася, вочы яе заблішчэлі, і ўся яна неяк ураз, адным часам, як памаладзела; на абветраным твары разгладзіліся зморшчыны, і голас ліўся звонка і молада. Бабуля Марыя добра і шмат чытае на памяць: чытае яна вершы проста, натуральна, і ў гэтым нешта ад прыроды, ад здольнасці знаходзіць у слове смак і сэрцам адчуваць тое, што чытаеш. Дэкламавала бабуля з сапраўдным артыстычным майстэрствам. Калі я пра гэта нагадаў, то яна, засаромеўшыся, сказала:

— Мая сястра Юзя (памерла ўжо даўно) таксама добра чытала. І Уладзя наш... Усе нашы шанавалі кнігу. А вершы я вучыла больш дома. Люблю чытаць і хутка запамінаю, калі прачытаю які-небудзь вершык, байку ці казку... Вось паслухайце, нават не ведаю чыё гэта, можа і Купалава:

— Калыхала маці сына ў калысцы ліповай
І пяяла яму песні гэтак слова ў слова:



Якуб Колас. 1925 год.



Якуб Колас. 50-я гады.

Спі і сні вясельні, гулі,
А як вырасцеш вялікі, не забудзь матулі...

— А гэта,—пасля нейкай паўзы гаворыць Марыя Міхайлаўна і ціха, як бы сама сабе, разважае:—Песні жальбы:

Думкі мае думкі,
Сэрца майго раны,
Ці вы мае дзеці,
Ці вы кім насланы?
Што ж вы завіліся
Віхрам нада мною
І няма ніколі
Мне ад вас спакою?..

І зноў плывуць успаміны.

— Любіў Кастусь касьбу, лета, жніво. Ахвотна памагаў па гаспадарцы. Калі настаўнічаў, то ўлетку ў Смольні збіраліся настаўнікі. У яго быў Сямён Самахвал з Негертава. Моцна з ім Кастусь дружыў. Яшчэ вельмі дружыў з Алесем Сянкевічам. Ён тады ўжо настаўнічаў у Мікалаеўшчыне. Спявалі песні. Ігралі. Кастусь добра граў на скрыпцы. Нават забароненыя песні. «Вихри враждебные», помню...

...Мікалаеўшчына. Пра яе толькі што расказваў Уладзімір Іванавіч экскурсантам: «Вёска наша вядома больш як тры стагоддзі. У IX томе кнігі «Россия» сказана, што гэта было радзівілаўскае мястэчка пры ўпадзенні ракі Турчанкі ў Нёман, з царквою, перарobленай пасля 1866 года з касцёла, які будавалі яшчэ Радзівілы».

Пад час маленства Коласа ў Мікалаеўшчыне было больш як 360 двароў. Паводле архіўных матэрыялаў і ўспамінаў старажылаў Уладзімір Іванавіч зрабіў карту старой Мікалаеўшчыны. З яе відаць, якія былі вуліцы, дзе стаяла чыя хата, дзе былі школа, царква, шынок. Установлены не толькі прозвішчы гаспадароў, але іх вулічныя мянушкі. Дзеда Коласа, бацькавага бацьку, Казіміра Міцкевіча, звалі Арштулік, Станіслава Скарабагатага—Стаська, Казіміра Семяняку—Шустка і г. д. На карце пазначаны мясціны, якія сустракаем у творах Коласа: Драздова гара, Сіняўскі гай, Дзям'янаў гуз, Караліна, Елава, Клепшчыцы, Лявонаў луг, Бервянец, Высокі бераг...

Многія мікалаеўцы ўвайшлі ў творы Я. Коласа пад сваімі сапраўднымі імёнамі і прозвішчамі, нават знешнія партрэты і характарыстыкі іх вельмі дакладныя, спісаныя з канкрэтных людзей. І Марыя Міхайлаўна, і дзядзька Юзік расказвалі, што ў Мікалаеўшчыне адзін год была нахапілася суша, і людзі бедавалі, чакаючы дажджу. Перабіраючы прычыны, за што мог так угнявацца бог на людзей, жанчыны вырашылі, што гэта ўсё ліха пайшло ад Матэвы: «Гэта ён, ліхадзей, плот гарадзіў між Юр'ямі». І яны ўпотай рашаюць раскідаць той плот і ноччу, да ўсходу сонца, двойчы



Беларускія пісьменнікі ў Ленінградзе. 1947 год.

Якуб Колас у адным з калгасаў Пухавіцкага раёна. 1952 год.



пераараць сахою Нёман, каб асвяжыць паветра і адвесці боскі гнеў.

...Дзядзька Юзік па-майстэрску чытае апавяданне вершам «За дождж» і дае свой каментарый:

— Жыў у Мікалаўшчыне і стары Матэва, і былі тыя жанчыны: Аўгіння, Тадора, Тарэся. Сварка між кабетамі перададзена вельмі трапна і проста «жывасілам» узята з натуры. Толькі паслухайце, якія забіяцкія словы знаходзіліся ў сварцы: супастка, канач, мешалка, квач, заткала, брында, задрыла, дзюндра.

— А Матэва?—з усмешкаю пытае дзядзька Юзік і адказвае:—Мікалаеўскі дзядок. Цікавы быў дзед. Ужо быў сівы, як лунь. Любіў забаўляцца, гуляць з дзецьмі. Назбірае хлапчукоў і зачне гульню ў вайну. Камандуе імі. Каторы жэўжык заенчыць: «Дзед, у мяне шынель парваўся, а ён сур'ёзна: «Ідзі ў чыхаўз, атрымаеш новы».

Між людзей, якія сталі прататыпамі коласаўскіх твораў,—дзядзька Карусь, Карл Міцкевіч, якога ўсе ў Мікалаеўшчыне звалі Дзівак. Гэты Карусь Дзівак, між іншым, і быў сведкаю таго, як пасварыліся за дождж Аўгіння з Тарэсяй, і абсмяяў іх на ўсю вёску.

— От цікавы быў чалавек, наш дзядзька Карусь,—успамінае і Марыя Міхайлаўна.—Выдумшчык. Перасмешнік. Бывала, цётка Магда пачне яго дакараць, што ў царкву спавядацца не ходзіць, што зусім бога ацураўся, а ён ёй з печы ў адказ: «А што казаць я богу маю? Я печ на рай не памяняю». Востры быў на язык дзядзька, не дарма Дзіваком празвалі...

Пра той час, калі Я. Колас працаваў настаўнікам у Верхмені, і Марыя Міхайлаўна (яна там жыла ў брата) расказвае цікавыя дэталі пра таго ж верхменскага бацюшку Уладзіміра Бляева (у аповесці—айцец Уладзімер).

— Ён, верхменскі поп, быў ужо стары чалавек, але, відаць, у бога не верыў. Бо аднойчы да Коласа прыйшоў і расказваў, як хадзіў у рыбу і яму не пашэнціла, праваліўся ў палонку ці што там... Селі чай піць, і тут у хату—царкоўны стараста: «Айцец, можна ўжо ісці званіць?» А ён злосна: «Ані звэнг, як бог да мяне, так і я да бога». А яшчэ той стары бацюшка ўмеў надта ж вычварна клясці. Бывала, як пачне: «А каб праз тваё рэбры козы цягалі!.. Каб ты па гары хадзіў ды сонца не бачыў». Як скажа, дык за жывот хопішся...

— Яшчэ калі Кастусь вучыўся ў Нясвіжы і прыязджаў на вакацыі,—прыгадвае Марыя Міхайлаўна,—быў у Мікалаеўшчыне такі выпадак. Ураднік у Сынклеты, беднай удавы, за няўплату падатку забіраў яе кароўку. За яе ўступіўся семінарыст Адам Мілюк. Сабраў грошы, і выратавалі бедную Сынклету ад разарэння. І Колас быў сведкаю гэтага здарэння і таксама памагаў.

— То можа верш «Удовіна хата» і навеяны гэтым здарэннем?—пытаюся.

— Правільна,—сцвярджае Марыя Міхайлаўна.—Відаць, Коласу запала глыбока гэтае здарэнне, і верш зладжыўся. Колас вельмі спачуваў бедным людзям. Праз гэта, што заступаўся за бедных, і ў турме адсядзеў. Я і сама аднойчы з маці ездзіла ў Мінск на спатканне з Кастусём. Усяго адзін раз. З мамаю. Кастусь усё хваліў маму нашу, што яна не плакала, не паказвала слёз. Пра тое больш можа расказаць Міхаліна—старэйшая сястра. Міхаліна хадзіла да Кастуся ў турму часта....

Я іду па шырокіх, зялёных мікалаеўскіх вуліцах і думаю: «Дзе ж сляды той, старой Мікалаўшчыны, пра якую некалі пісаў Колас:

«...страха на страсе, хата прыціснутая да хаты, гумно да гумна. У сутычках чалавек можа прайсці толькі бокам. І амаль без усякага намагання можна прабегчы вёску па стрэхах, пераскокваючы з адной на другую.

Гэта Мікалаўшчына—маё роднае сяло. Такім я помню яго з маленства і на працягу доўгіх гадоў...

...Зямля невыгодная, пясчаная, дый тае мала. Удаль бягуць доўгія палосы, гарбатыя, бо аралі, адварочваючы пласты ад суседа. Паміж імі амаль непрыкметная, але абавязковая мяжа. Худы сялянскі сабака ніяк не ўмесціцца ўпоперак паласы. Хвост ляжыць на паласе ў аднаго суседа, а галава ў другога.

Так сумна кпіў народ з свайго беззямелля».

Даўно і ў паміне няма той вёскі. Ёсць новая Мікалаеўшчына, багатае, добраўпарадкаванае сяло. Прамыя, шырокія, як праспект, вуліцы промнямі збягаюць ад цэнтра, дзе на пагорку белая двухпавярховая камяніца з калонамі—школа імя Якуба Коласа. Побач сучасны лёгкі будынак з белай паленай цэглы—сельскі савет. Перад імі—пляц, на ім маладыя ліпкі, бярозкі, таполі, клёнікі.

Пасярод пляца завіхаюцца муляры—ужо стаў пастамент помніка вялікаму мікалаеўцу Якубу Коласу. Парк названы таксама яго імем.

Куды ні кінеш позірк, усюды—дамы, прыгожыя, светлыя. Пад шыфернымі, гонтавымі дахамі. Над імі—лес тэлеантэн. Усцяж працягнуліся ніткі электраперадач. Чытаю назвы вуліц: Савецкая, Якуба Коласа, Алеся Сянкевіча. Яны—Кастусь і Алесь—сябравалі. Маладыя, гарачыя сэрцам юнакі пад плёскат хваляў Нёмана пакляліся: «Служыць народу, змагацца за яго лепшую долю».

Быў ясны нядзельны дзень. Канчаўся жнівень. З-за Нёмана, ад Кнотаўшчыны, дзе ў мроіве застылі вежы і будынкі цэнтральнай сядзібы калгаса «Радзіма Якуба Коласа», цягнула хлебным пахам. Залацістымі гмахамі-брылямі выглядалі сціпты свежай саломы і пpаглядваліся далёка, аж з канца цэнтральнай вуліцы.

Ля хат, на прызбах, у размовах бавяць час пажылыя людзі. Купкамі і ў парах снуюць маладыя—вясёлыя хлопцы, ружавашчокія, у модных абновах дзяўчаты. Маладыя маладзіцы, танклявыя, як дзяўчынкі, коцяць калясачкі з немаўляткамі. Навыперадкі бегаюць жэўжыкі-дзеці...

Людна ля магазінаў, прамтаварнага і прадуктовага, адчынены дзверы цырульні, швейнай майстэрні. Купка мужчын і жанчын на аўтобусным прыпынку. Моладзь з гармонікам. Можа куды сабраліся на вяселле?..

Хораша ўлетку ў Мікалаеўшчыне! Зялёнае мора ваколіц. Ціхія, прапахлыя вішнямі вуліцы. Недалёка, рукою падаць, плешчуцца хвалі срэбнаводнага Нёмана; ветрык-ласкавік разносіць гаючыя пахі—ад лугоў, ад недалёкага бору; адтуль, з Высокага берага, плыве задумлівы пошум векавых асілкаў-дубоў...

Мы разгаварыліся з каржакаватым, румянец на ўсю шчаку, старым, які сядзеў ля свайго дома на лавачцы, адзін і, убачыўшы новага чалавека, заўсміхаўся мне, быццам знаёмаму.

— Як ураджай сёлета, бацька?

— А, ураджай, братка, нішто сабе. Добры ўраджай, адным словам,—ахвотна адазваўся гаспадар і, відаць, проста такі ўзрадаваўся, маючы магчымасць пагаварыць.—Цяперака, братка, не тое, што было ў даўніну, поркаліся з сярпом ці з крывуляю-касою. Адным словам, за які тыдзень і ўбралі ўсё. І абмалацілі. Казаў наш аграном, Шукала яго прозвішча, так па трыццаць і болей цэнтнераў намалацілі з гектара. Уга, дай божа! Адным словам, ёсць хлеб і да хлеба. А даўней як мы жылі? Рабілі, як валы, выбіваліся з сіл, а хадзілі ў зрэб'і і ў лапцях, нішчымніцай душыліся. Адным словам, як пісаў наш Колас пра таго Грышку: «Эх, наперла ліха-гора, ні сяніны, ні зярна...»

— Дык вы, бацька, і творы Коласа ведаеце?

— А як жа, ведаю,—ажывіўся стары.—Адным словам, ён, Канстанцін Міхайлавіч, яшчэ, можа, і нейкай раднёю даводзіцца. Маё прозвішча такое ж—Міцкевіч, Ігнат Ігнатавіч. Дык пра што й та я? Ага, пра Грышку. Быў такі чалавек, Грышка Белы. Адным словам, бедалага, восем дзяцей меў, а зямліцы—дзве дзесяціны, на пясчаніку, у Канцавалоках... Ды што той Грышка! У мяне ў самога такая ж была фацэція. Сямейка дай божа, дзесяць дзяцей, а зямлі—на паласе добрай кабеціне сесці. Так і мучыліся, на рум хадзілі, плыты аж у Прусы ганялі... Былі ў Мікалаўшчыне такія двары, што на паўдзесяціне жылі. Ды зямля, скажу табе, братка, адно званне, што зямля. Колас правільна пісаў: «Поле ўбогае, поле пясчанае...» Яго, тое поле, цяпер не пазнаеш. Балоты асушылі, на іх добра родзіць і жыта, і аўсы, і бульба; пясчанікі здабрылі—лубін сеем,—добрая спажыва для зямелькі; мінеральныя ўгнаенні даем—таксама прыбаўка збожжа. І ўраджай маем. Скажу табе, чалавеча, такіх ураджаяў у нас не было ні за царом, ні за польскім часам. Ні пасля гэтае вайны, калі яшчэ жылі на сваіх палосах...

А вам цікава, як Колас, ці часта бываў у Мікалаўшчыне, ці дружыў з землякамі?—перапытаў Ігнат Ігнатавіч і неяк адразу нібы прасвятлеў:—Ого, наш Колас дужа любіў сваё сяло, хварэў душою за яго людзей, а памагаў нам, мікалаўцам, колькі! Усім, і чужым, і сваякам сваім, усёй радні. Вазьміце такі факт, як у 1940 годзе, на прадлецці, згарэла, лічы, амаль усё сяло. За дзве гадзіны змяло пажарам дзвесце два двары, адны галавешкі курэлі... Тады адразу ж адгукнуўся Колас, шмат памог нам, і мы хутка адбудаваліся, сталі на ногі... А школу нашу бачылі? Яе ж пабудавалі, лічы, Колас, і бальніцу таксама. І ў мяне было здарылася няшчасце: хлопчык зламаў быў хрыбетнік, дык Колас і дактароў знайшоў, і памог грашыма, і цяпер мой сын таксама піша, скончыў універсітэт, працуе ў Рэчыцы, у рэдакцыі. І ўсе мае дзеці выйшлі ў людзі—ёсць настаўнікі, дактары і трактарыстам адзін працуе. Добра, заможна жыве...

На развітанне Ігнат Ігнатавіч амаль што наказвае:

— Глядзіце ж, зайдзіце ў школу. Паглядзіце там і музей.

...Пад той час тут усё было гатова да пачатку заняткаў, і класы зіхцелі свежай фарбаю, чысцінёю. На калідоры вісеў нумар насценгазеты «Наднёманская рунь» школьнага літаб'яднання «Каласкі». Вершы. Замалёўкі. Заметкі. Не зводзіцца ў Мікалаеўшчыне племя паэтаў. У іх творах гучыць матыў роднай прыроды, бацькоўскай зямлі, якую завяшчаў ім вялікі зямляк.

«Я ганаруся,—піша Ала Цвірко ў сваёй нататцы пра першую сустрэчу Янкі Купалы і Якуба Коласа,—што адбылася яна, сустрэча двух волатаў, двух сокалаў, тут, у маёй роднай, мілай сэрцу Мікалаеўшчыне. Вы спытаеце: «А ці жывуць тыя ліпы, што пасаджаны ў гонар сустрэчы сяброў?». Я адказваю: яны моцныя, тыя ліпы. Іх пышныя кроны відаць здалёк. Тут кіпіць жыццё, улетку роем гудуць пчолы. І так будзе заўсёды: ліпы жылі, жывуць так, як неўміручыя вобразы Купалы і Коласа».

Школа, як і ўся Мікалаеўшчына, ужо з лета рыхтавалася да юбілею—90-годдзя з дня нараджэння вялікага сына і песняра беларускай зямлі. У бібліятэцы выстаўлены кнігі Якуба Коласа, праводзяцца коласаўскія чытанні, вечары ўспамінаў.

Адкрыты дзверы школьнага музея, дзе сабраны цікавыя дакументы і матэрыялы, фотаздымкі і карціны пра жыццёвы і літаратурны шлях паэта, кнігі і падручнікі, па якіх вучыўся К. М. Міцкевіч у Нясвіжскай семінарыі, пісьмы Я. Коласа да землякоў, успаміны яго школьных сяброў.

Некалі кніга была рэдкай госцяй у Мікалаеўшчыне. Цэлай падзеяй у сям'і Міцкевічаў было, калі Кастусёва хросная, жонка ляснічага Аксеня падаравала Кастусю два томікі вершаў М. Ю. Лермантава і томік Адама Міцкевіча.

Сёння творы А. С. Пушкіна, Л. М. Талстога, М. А. Някрасава, У. У. Маякоўскага, Янкі Купалы, Якуба Коласа чытаюць у кожным доме. Толькі ў школьнай бібліятэцы восем тысяч кніг.

У паштовым аддзяленні мне далі лічбы. Жыхары Мікалаеўшчыны—у вёсцы 374 двары—выпісваюць 1680 экземпляраў газет і 815—часопісаў.

...Амаль што ў канцы адной з вуліц, якая выходзіць на ўзрэчча, дзе пачынаюцца лугі і сцежка, паўз Церабеж у Смольню, жыве ў невялікім утульным дамку адзін з пляменнікаў Я. Коласа—Уладзімір Іванавіч Міцкевіч, які з часу заснавання загадвае філіялам літаратурнага музея. Пры ім старэнькая маці, адна з сясцёр Коласа—Міхаліна Міхайлаўна. Ёй 87 гадоў. У маладосці была стройная, цёмнакосая прыгажуня. І цяпер бабуля Міхаліна яшчэ рухавая, тупае па двары, памагае нявестцы ладзіць парадак у гаспадарцы. Бабуля Міхаліна ахвотна прыгадала дэталі з жыцця сям'і Міцкевічаў, падзялілася ўспамінамі пра Якуба Коласа.

— Калі Кастусь сядзеў у турме, то я хадзіла да яго. Нам можна было мець з ім спатканні. Дазвалялі. Я жыла ў Мінску, у Аксені Сянкевіч, удавы ляснічага, што памёр тады ў Альбуці. Мяне прыстроілі ў майстэрню, і я вучылася на швачку... Ён, Кастусь, быў такі, што перад панамі не здымаў шапку, не гнуўся ў крук. І ў турме, помню, калі мы былі на спатканні, праходзіла нейкае начальства, а Кастусь як сядзеў, так і сядзіць. За гэта яму далі колькі дзён адсідкі ў карцары... І Сянкевічыха, жонка ляснічага, хадзіла, насіла Кастусю перадачы, не баялася, што бяду на сябе наклікча. А маці наша была цвёрдая, ніколі не заплакала на тых спатканнях. За гэта яе Кастусь хваліў: «Я люблю сваю маму, што яна не плача...»

Уладзімір Іванавіч нагадвае, што настаўніцкі з'езд у Мікалаеўшчыне быў 26 ліпеня 1906 года. Спачатку настаўнікі (з Мікалаеўшчыны было каля 20 рэвалюцыйна настроеных настаўнікаў) сабраліся на ўзбярэжжы Нёмана, на маляўнічай паляне ўрочышча Прыстанька. Потым збор перанеслі ў школу, да настаўніка Аляксандра Антонавіча Сянкевіча. Паліцыя нахапілася знянацку. Звольнілі з пасад 22 чалавекі. Следства вялося два гады. Коласа судзілі ў Вільні. Асудзілі да турэмнага зняволення толькі аднаго Коласа—як арганізатара з'езда і быццам за тое, што ён нібыта напісаў адозву. Адозву ж тую напісаў настаўнік Жук, але Колас узяў усё на сябе. За ім ужо даўно паліцыя сачыла, бо ён быў блізкі з сялянамі, выступаў з «крамольнымі» вершамі ў друку.

...А бабуля Міхаліна ўсё ўздыхае і сама сабе гаворыць ціха:

— Напакутаваўся ён, Кастусь наш. У маладыя гады адно гора было... Не бачыў жыцця...

— Ат, кінь маці,—устаўляе Уладзімір Іванавіч.—Наадварот, бачыў, усё наскрозь бачыў, як людзі жылі, і душа балела за іх, за сваіх людзей.

— Хіба што...

За вокнамі, на двары ледзь чутна шапоча вецер, і плывуць успаміны. Успамінаецца маленства, юнацтва. Жыццё ў Альбуці, у Смольні, Мікалаеўшчыне.

Уладзімір Іванавіч раскрыў папку з пісьмамі Я. Коласа да свайго стрыечнага дзядзькі Ігнася, з якім сябраваў на працягу многіх гадоў, а ў пасляваенныя гады вёў перапіску аж да таго часу, калі стары Ігнась памёр увосень 1949 года. Пісьмаў гэтых больш за 50 перадаў музею Ігнасёў пляменнік Л. М. Біруля, які жыве ў Мікалаеўшчыне.

Два вечары запар чытаў мне тыя пісьмы Уладзімір Іванавіч, і я зрабіў з іх некаторыя выпіскі. Як зазначыў ён, многія з гэтых пісьмаў нідзе не друкаваліся...

«...11.9.45 г. Як ідзе будаўніцтва школы?





Свята ў Мікалаеўшчыне. Даніла Канстанцінавіч сардэчна вітае гасцей—прадстаўнікоў шматнацыянальнай савецкай літаратуры.

Вядомаму рускаму пісьменніку Віталію Закруткіну—хлеб-соль ад землякоў Якуба Коласа.





Слухаюць вершы.



Стаміўся я, Ігнаська. Адчуваю сябе не дужа добра.

...20.9.45 г. Школа ваша будзе будавацца. Заканчваюцца рабочыя чарцяжы...

...29.11.45 г. Учора ездзіў па кнігі. Толькі сёння адабраў на 572 рублі.

Прыняты новы праект школы.

...30.6.46 г. Закіданы ўсякімі артыкуламі. Адчуваю стомленым, сну няма.

Як будаўніцтва? Рабочым адсылаю таго-сяго.

...21.4.46 г. Цэлая куча пісем. З адной Мікалаўшчыны штук з дзесяць...

...5.5.46 г. Нашы геолагі зацікавіліся мікалаўскай глінай, каб агледзець яе.

Патрабаванне на лаўкі і электраабсталяванне перадаў у Міністэрства.

...16.5.46 г. Мне так хочацца пабачыць Грудок і ціхія дарожкі.

Калі трохі акрыяю, то паеду спачатку ў Балачанку (лясная вёска ў Пухавіцкім раёне, дзе часта гасцяваў пасля вайны Якуб Колас.—**С. К.**), а потым у Мікалаўшчыну.

...23.6.46 г. Покі я жыву, буду дбаць аб Мікалаўшчыне і аб школе, і аб амбулаторыі.

...30.6.46 г. Мой родны Ігнась, закінуты ўсякімі артыкуламі, не бачу свету...

Рабочым будуць дасланы розныя рэчы з адзення, прамтавары. У пачатку жніўня атрымаеце паўтары тоны бензіну. Чарапіцу прыслалі бракаваную.





Галава мая, як цэбар, а спраў, як у міністра.

Як са школаю? З-за сходаў і пасяджэнняў прагуляў нядзельку...

...18.1.47 г. Закончыў паэму «Рыбакова хата». Што зроблена для заканчэння школы?

...25.5.47 г. У Мікалаўшчыну прыеду, калі можна будзе пакупацца ў Нёмане.

...23.5.48 г. Прашу перадаць, што камсамольцам перашлю кнігі для хаты-чытальні...

...8.6.49 г. Па сувязі з табою, з блізкімі мне людзьмі і мясцінамі прыгадваю Мікалаўшчыну. Як Смольня, дзе пышна разрасліся дрэвы, пасаджаныя маімі рукамі, і засталіся ўсе тыя будынкі, што будаваў мой дзядзька Антось; будынкі, у якіх жыла мая маці і даглядала іх. Цудоўная мясціна Мікалаўшчына, утульная і прывабная. Толькі гэта прывабнасць праменіцца ўжо з далёкіх і непаўторных дзён юнацтва, калі галава і сэрца поўніліся нейкімі няяснымі і чароўнымі ў сваёй няяснасці надзеямі і парываннямі...»

...Слухае гэтыя словы бабуля Міхаліна, і вочы яе ўмомант вільгатнеюць. Яна прыгадвае тую апошнюю прыездку брата Кастуся ў Мікалаеўшчыну.

Была вясна 1956 года, апошняя яго мікалаеўская вясна. 30 красавіка. Цёплы сонечны дзень. Прыехаў Якуб Колас у родную вёску з Максімам Лужаніным і сынам Данілам. Спыніліся ў сястры Міхаліны. Колас пахадзіў па вуліцы. Пабыў на могілках. Паглядзеў магілу бацькі, дзеда Юркі Лёсіка, доўга, у задуме, стаяў ля магілы маці.

— Вярталіся мы з Церабожа, з могілак,—гаворыць Міхаліна Міхайлаўна,—і ад Нёмана, з лугу, блізка к дарозе ішоў адзін наш чалавек, Пётра Верабей. І, павярнуўшыся назад, аклікнуў сваю дачку: «Алеся!» А Колас адразу да яго: «А што, яна яшчэ жыве?»

«Не, гэта мая дачка»,—адказаў Пётра...

Уладзімір Іванавіч растлумачвае:

— Гэта некалі, у пару, калі Колас вучыўся ў школе, была адна дзяўчына, Алесяй звалі, якая падабалася яму. Ужо семінарыстам, Колас, прыехаўшы на летнія вакацыі, сустракаўся з ёю. Але іх дарогі тады разышліся: Кастусь паехаў на пасаду настаўніка, на Палессе, а Алесю выдалі замуж...

...Тым красавіцкім днём Колас пабыў у Смольні, у сваёй хаце, пахадзіў па двары, палюбаваўся сваімі ліпамі, агледзеў гумно, дзе некалі вёў гаворкі са сваімі калегамі-настаўнікамі.

●

Перад развітаннем з коласавымі мясцінамі, з Мікалаеўшчынай, я яшчэ раз завітаў у Смольню, пахадзіў па невялічкіх, але змястоўна абстаўленых залах музея. Слухаў, як з экскурсантамі гутарылі Уладзімір Івана-



Барысаўскі гарадскі ансамбль танцуе на свяце ў Мікалаеўшчыне

віч і Язэп Міхайлавіч—дзядзька Юзік.

А яны, наведвальнікі—пажылыя людзі і моладзь, студэнты і вучні—ішлі і ішлі да Коласа, каб нанова перажыць яго маленства, пахадзіць ягонымі сцежкамі і дарогамі.

На другім паверсе цяпер выстаўлены рэчы, якімі карыстаўся ў пасляваенныя гады ў Мінску Якуб Колас: шафа, а ў ёй знаёмы цёмна-сіні велюравы капялюш, шэры, у ледзь прыкметную палоску касцюм...

А во і тая сукаватая грушавая кавенька. Гэтую кавеньку Я. Колас забыў неяк у Мікалаеўшчыне, калі 1-га чэрвеня 1947 года аглядаў новую школу. У пісьме да дзядзькі Ігнася ён пісаў: «Я забыў сваю палку. Прыбяры яе. Як-небудзь перашлеш...»

Між рэчаў, якія сабраны тут, уражвае найбольш адна—крэсіва. Невядома, ці карыстаўся ім калі гаспадар, але гэтая, мабыць, дзедаўская прылада для выкрасання агню так падабалася яму. Глядзіш на яе і думаеш: якім жа простым і разам з тым чалавечным чалавекам быў ён.

Яшчэ і яшчэ раз хочацца перачытаць пісьмо Якуба Коласа ад 4 лютага 1940 года да землякоў на запрашэнне прыехаць у родныя мясціны—пабачыцца, пагасціць.

«Дарагія землякі!—пісаў Канстанцін Міхайлавіч.—Даўно мяне цягне свой родны куток, дзе я гадаваўся, вучыўся, дзе правёў свае маладыя леты, куток, якога я не бачыў з 1915 года. З гэтага часу я бываў у Мікалаўшчыне толькі ў мыслях ды ў сне. Сніліся мне Канцавалокі, і Міхалаў Крыж, і Дуброўкі, і Лядзяны, і Бервянец, і Раймонтава Шырокае, і Высокі Бераг, і сотні іншых урочышч, якія цяжка пералічыць і назвы якіх быць можа забыліся і перайначыліся».

Усё гэта, што было дорага сэрцу Коласа, усе мясціны, з якімі ён моцна кроўнымі ніцямі быў звязаны, можна ўбачыць на Стаўбцоўшчыне. Яны памятныя нам па творах пісьменніка. Якуб Колас дапамог нам убачыць іх чароўную красу.

Разрасліся тыя дубы-волаты над Нёманам, якія будзілі думку паэта; бруіцца тая ціхая крынічка ў Альбуці, дзе складаліся першыя няясныя гукі ў песню вясны; на Канцавалоках—ракочуць камбайны, займаючы апошнія загоны жніва; над Нёманам у Смольні толькі што прашумеў цёплы ўліўны дождж. Якраз, можа, такі, якому вельмі б парадаваўся Колас...

Зямля, якую любіў і ўслаўляў у сваіх творах Колас, расквітнела здабыткамі вольнай чалавечай працы. Глядзіш на плён іх рук і розуму і, здаецца, бачыш жывога Коласа, працаўніка і сейбіта, паэта і грамадзяніна. І здаецца, што жыве ён між людзей сваіх і з усмешкаю лагоднаю кажа: «Моцна-моцна звязан з вамі я...»



Слаўныя музыкі з Чэрвеня.



# ВЯЛІКАЕ СВЯТЛО ЖЫЦЦЕСЦВЯРДЖЭННЯ

Кожнае імя, далучанае народам да сузор'я вялікіх, бессмяротных у развіцці высокага чалавечага духу, нясе ў сабе непаўторны духоўны свет, непаўторнае эмацыянальнае святло, якое існуе як бы па-за асобай, святло ўсепранікальнае, якое то ўспыхвае зырка-зырка, то прыцьмявае, але ніколі не згасае. Як не згасае імкненне чалавека да прыгажосці і дабрыні, імкненне народа да сцвярджэння сваёй непаўторнай нацыянальнай самабытнасці і годнасці. Як не згасае жыццё. Свет гэты, святло, якое ён выпраменьвае, заўсёды непаўторныя.

Пушкін, Лермантаў, Талстой, Шаўчэнка, Чэхаў, Купала, Колас... Кожны з гэтых адзінкавых у сваёй завершанасці і цэласнасці мастацкіх светаў цікавы сваёй унутранай змястоўнасцю, сваёй эмацыянальнай, духоўнай атмасферай, якая яго ахінае і якая мае ўласцівасць, калі трапляеш у яе сілавое поле, пакласці адбітак на наш дух, нашы пачуцці, на духоўнае аблічча народа, усведамленне ім свайго месца і сваёй ролі ў чалавечым грамадстве, сярод іншых людзей.

Той вялікі зарад нацыянальнай самасвядомасці, які і цяпер жывіць дух нашага народа, быў закладзены яшчэ ў дарэвалюцыйныя часы ў першую чаргу літаратурнай і грамадскай дзейнасцю Янкі Купалы і Якуба Коласа. Каб стаць сапраўдным паэтам свайго народа, народным паэтам па сутнасці, трэба не проста выразіць сённяшняе аблічча народа, яго надзённыя патрэбы, а ўбачыць гістарычнае прызначэнне, характар і мэту яго духоўных імкненняў, яго глыбінную ўнутраную сутнасць. Менавіта такімі былі, ёсць і будуць для беларускага народа Янка Купала і Якуб Колас.

Заклік «Людзьмі звацца», з такой страснасцю выгукнуты Купалам, — гэта і сацыяльнае патрабаванне, патрабаванне зямлі і волі для народа і ў той жа час агульнанацыянальная патрэба мець сваё годнае месца сярод іншых народаў. То была задача першаступеннай важнасці, задача неймавернай цяжкасці. Яе на свае маладыя, моцныя плечы ўсклалі нашы першыя народныя паэты. І з гонарам выканалі. Гэта іх неацэнная заслуга ў духоўным развіцці нацыі.

У тым, што Я. Купала і Я. Колас рабілі вялікую справу разам, удвух, ёсць як бы наканаванне лёсу, зліццё шчаслівай выпадковасці і глыбокай гістарычнай неабходнасці. Народ, нацыя нарадзілі іх для таго, каб убачыць сябе, паказаць і сцвердзіць. Шматвяковым сацыяльным і нацыянальным уціскам духоўнае жыццё беларускага народа, яго нацыянальная свядомасць былі даведзены да такога ўзроўню, што патрэбны былі намаганні двух вялікіх талентаў, каб узняць яго дух, паказаць народу, што ён такое, абудзіць сілы для барацьбы за сваю самастойнасць.

Купала і Колас падышлі да вялікай справы нацыянальнага адраджэння як бы з розных бакоў.

Купала — рамантык, г. зн. у пэўных адносінах паэт ідэальнага. Таму Купалава творчасць у найбольшай ступені выразіла народны бунтарны дух, яго мары, імкненні, яго ідэалы дабра і прыгажосці, якія мелі ярка выражанае сацыяльнае і нацыянальнае напаўненне, абумоўленае гістарычнымі ўмовамі. Купала ўвесь бунтарны, неспакойны, увесь імкненне і кіпенне.

Колас па характары сваёй творчасці — рэаліст-эпік, вельмі цесна звязаны з жыццём, ва ўсім багацці яго зместу. Міхась Лынькоў так пісаў пра паэзію Коласа: «Яго светлая і чароўная паэзія — гэта жывое дыханне народа, увасабленне яго мудрасці, яго любві да жыцця, да працы, яго спрадвечнага імкнення да свабоды і шчасця чалавека. Гэтыя словы стасуюцца і да ўсёй творчасці пісьменніка. У Коласа як бы ўраўнаважваюцца матэрыя і дух, добрае і дрэннае, сацыяльныя калізіі і побыт, рэальнасць і мара. У яго ёсць нешта ад універсальнасці, энцыклапедычнасці Пушкіна. Больш таго, адчуваецца пэўнае падабенства ў самім светаўспрыманні — аптымістычным, жыццесцвярджальным».

У трылогіі «На ростанях» Лабановіч, герой, блізкі сваёй духоўнай сутнасцю пісьменніку, разважае: «Ёсць важныя дзве часціны, з якіх складаецца жыццё і яго глыбокі сэнс і хараство — чалавек і прырода. Бо ніколі не страціць для нас цікавасці чалавек, бо праяўленне яго розуму бязмежна, бо дарогі яго не вызначаны, бо формы яго жыцця і яго адносін да другіх людзей бясконца разнастайныя, канчаткова не выяўлены і ніколі не могуць стаць канчатковымі. А прырода? Колькі вялікага задавальнення дае нам яна! Бо прырода — найцікавейшая кніга, якая разгорнута перад вачамі кожнага з нас. Чытаць гэту кнігу, умець адгадаць яе многалучныя напісы — хіба ж гэта не ёсць шчасце?»

Словы гэтыя вельмі дакладна выражаюць змест, сутнасць мастакоўскага светаразумення і светаадчування Коласа. Такой улюбёнасці ў прыроду, пакланення ёй, такога паэтычнага яе ўспрыняцця, як у Коласа, мы не сустрэнем ні ў кога з беларускіх пісьменнікаў ні старэйшага, ні маладшага пакалення. Адзінства з прыродай, з сусветам, адзінства нейкае пантэістычнае, дае коласаўскаму герою ўсё, з'яўляецца крыніцай яго чалавечай цэласнасці, душэўнага здароўя, а таксама крыніцай жыццядзейнай энергіі для творчасці самога пісьменніка. Так жывапісаць прыроду, перадаваць яе ўнутраны стан, бачыць жыццё кожнай травінкі, кожнага лісточка, так адчуваць дыханне сусвету можна толькі тады, калі сам адчуваеш сябе часцінкай сусвету. У Коласа адносіны да прыроды, навакольнага свету сузіральна-паэтычныя, а не аналітычныя. Сузіральныя ў добрым разуменні слова: не расчапленне, раз'яднанне, а цэласнае свядомае і падсвядомае ўспрыняцце і адчуванне. Пры гэтым не толькі ўсяго багацця яго знешніх праяўленняў, пахаў, фарбаў, рухаў, адценняў, але і яго духоўнага напаўнення, яго непазнанай, таямнічай існасці.

Гэта — адзін бок адносін мастака да рэчаіснасці: чалавек і прырода. Другі бок — чалавек і грамадства. Тут у Коласа дамінуе перад усім план сацыяльны ў самым канкрэтным выяўленні. Колас з усёй глыбінёй свайго таленту раскрывае класавыя ўзаемаадносіны людзей у грамадстве. Мы амаль не знойдзем у яго канфліктаў асабістых, чыста маральна-этычнага характару. Над усім пануе сацыяльная абумоўленасць.

Чалавек у прыродзе і чалавек у грамадстве, у свеце сацыяльных ўзаемадачыненняў, — вось што ў першую чаргу цікавіла нашага выдатнага мастака слова на працягу ўсёй яго творчасці. Прырода і сацыяльныя ўмовы — тыя дзве стыхіі, якія ўвесь час уздзейнічаюць на чалавека, фармуюць ягоны духоўны свет, практычную жыццёвую філасофію. Тое дрэннае, адмоўнае, негатыўнае, што раскрывае нам мастак у сваіх творах, — заўсёды мае сацыяльныя прычыны, сацыяльную абумоўленасць. І адмаўляецца пісьменнікам як не ўласцівае чалавечай прыродзе, чалавеку самому па сабе. Таму ў тым мастацкім свеце, які створаны Коласам, у той атмасферы, якая ахутвае гэты свет, у тым эмацыянальным святле, што ён выпраменьвае, мы не адчуем, не ўбачым нянавісці, пагарды, гідлівасці да чалавека, жаху перад ім, разгубленасці, што ўласціва мадэрнісцкай літаратуры. Колас любіў свой народ, любіў чалавека.

У творчасці пісьменніка адчуваецца вельмі глыбіннае, часта незаўважнае канфліктнае ідэйна-мастацкае ўзаемадзеянне дзвюх сфер, дзвюх сіл свету рэальнага ў свеце мастацкім: сацыяльнага і прыроднага. Ім абумоўлены ў чымсьці вельмі істотным рух характараў, логіка і характар развіцця

самой мастацкай думкі. З гэтага ўзаемадзеяння, ім народжаны, вынікае і асноўны пафас творчасці, яго мастацкая актыўнасць і жыццёвасць. І калі часам — а ў Коласа такое здаралася вельмі рэдка — сацыяльная сфера паслаблялася, твор губляў сваю жыццёвую і мастацкую сілу. У гэтым важны ўрок Коласа-мастака.

Вось гэтыя дзве сферы ў іх арганічным адзінстве і ўтвараюць багаты і разнастайны ў сваіх праяўленнях і фарбах, глыбока змястоўны коласаўскі мастацкі свет. Найбольш поўна, цэласна і завершана ён увасоблены ў «Новай зямлі», гэтым класічным, непаўторным творы нашай літаратуры. Да паэмы цалкам стасуюцца словы, сказаныя ў свой час В. Р. Бялінскім пра раман А. С. Пушкіна «Яўгені Анегін». «Тут, — зазначыў крытык, — усё жыццё, уся душа, уся любоў яго; тут ягоныя пачуцці, паняцці, ідэалы. Ацаніць такі твор, значыць ацаніць самога паэта ва ўсім аб'ёме ягонай творчай дзейнасці». Багацце мастацкага свету Коласа — гэта і багацце рэальнага жыццёвага напаўнення, і мастацкае багацце. Складаныя сацыяльна-класавыя ўзаемадачыненні, побыт ва ўсіх сваіх праяўленнях, святы і будні, жыццё і смерць, каханне і сяброўства, багацце мастацкіх характараў, шырыня сацыяльных даследаванняў, тонкасць і дакладнасць псіхалагічнага аналізу, жывапіс словам і высокая эмацыянальная насычанасць, гумар, сатыра, высокая патэтыка, задушэўнасць і шчырасць, багацце і чароўнасць моўных інтанацый, свежасць і разнастайнасць стылёвых фарбаў — усё ёсць у тым непаўторным чароўным свеце, імя якому — творчасць Коласа. Народжаны жыццём у адзін з самых крытычных момантаў развіцця народнага духу, увабраўшы ў сябе жыццё найбольш поўна і ў самых разнастайных яго праявах, коласаўскі мастацкі свет увайшоў у жыццё народнага, нацыянальнага духу, у жыццё кожнага з нас і прысутнічае, жыве з намі, у кожным з нас, ад нараджэння да скону, выпраменьваючы святло высокай паэтычнай кандэнсацыі і пранікальнасці, святло чалавечнасці, вялікага жыццесцвярджэння і жыццялюбства.

Літаратура ў сваім руху наперад ідзе і па шляху раз'яднання, расчаплення і аналізу свету, і па шляху сінтэзу, цэласнага, у пэўным сэнсе універсальнага ўспрыняцця і бачання. Усвядоміць сябе, свайго героя як сына народа, нацыі, без якіх ён не можа існаваць, як і яны без яго будуць бяднейшымі, больш таго, усвядоміць сябе як арганічны элемент сусвету — вышэйшая задача і мэта мастацкага пазнання чалавека.

І Колас — першы ў нас на гэтым шляху.

**Серафім АНДРАЮК.**

■ ■ ■




## 1972

### СНЕЖАНЬ

**3**

60 гадоў з дня нараджэння (1912) М. В. Турбіна, вучонага ў галіне генетыкі і селекцыі, акадэміка Акадэміі навук БССР.



А. С. Русецкі.

**4**

60 гадоў з дня нараджэння (1912) А. С. Русецкага (Бурдзялёва), беларускага паэта.

**5**

**Дзень Канстытуцыі СССР.**

**7**

60 гадоў з дня нараджэння (1912) М. Т. Раманоўскага, доктара геаграфічных навук, дэкана геаграфічнага факультэта, загадчыка кафедры эканамічнай геаграфіі зарубежных краін Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.



Ю. В. Пучынскі.

**12**

35 гадоў назад (1937) адбыліся першыя выбары ў Вярхоўны Савет СССР на аснове новай Канстытуцыі СССР.

**14**

55 гадоў назад (1917) выйшаў першы нумар газеты «Советская правда» — органа абласнога выканаўчага камітэта Заходняй вобласці і фронту.



А. С. Васілевіч.



І. К. Сіўцоў.



М. Ц. Гуціеў.

**14—18**

50 гадоў назад (1922) у Мінску адбыўся IV Усебеларускі з'езд Саветаў.

**14**

70 гадоў з дня нараджэння (1902) У. І. Крылова, вучонага ў галіне вылічальнай матэматыкі, прафесара кафедры вылічальнай матэматыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна, акадэміка Акадэміі навук БССР.

**19**

50 гадоў з дня нараджэння (1922) Ю. В. Пучынскага, мастака-графіка.

**22**

50 гадоў з дня нараджэння (1922) А. С. Васілевіч, беларускай пісьменніцы.

**27**

50 гадоў з дня нараджэння (1922) І. К. Сіўцова, беларускага пісьменніка. Памёр у 1959 годзе.

**30**

50 гадоў з дня ўтварэння (1922) СССР. (Зацвярджэнне Дэкларацыі і Дагавора аб утварэнні СССР паміж РСФСР, УССР, БССР і ЗСФСР).

**31**

60 гадоў з дня нараджэння (1912) М. Ц. Гуціева, беларускага мастака-графіка, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

30 гадоў назад (1942) быў створаны Мінскі падпольны гарадскі камітэт ЛКСМ Беларусі.



# СОНЦА РАСІІ

Пачуеш — Расія, і адразу ў памяці ўстаюць смаленскія пералескі, гаі Падмаскоўя, пясчаныя волжскія плёсы, нібыта патрэсканыя старыя фаліянты, складкі Уральскіх гор, Кулундзінскія стэпы і бязмежная сібірская тайга. Ажываюць перад вачыма блакітныя сопкі над Амурам, блакітныя Хібінскія горы, шуміць і пеніцца Вялікі акіян каля прычалаў Уладзівастока і Находкі.

Расія, Расія! Ні канца, ні краю — яе прасторам. У адзін і той жа дзень у садах Краснадара цвітуць абрыкосы, а на Таймыры лютуюць завірухі, у Хабараўску хвошчуць дажджы, а ў Астрахані ратуюцца ад спёкі.

Ніхто ніколі не спытае: «Якое надвор'е ў Расіі?» У адзін і той жа дзень усё, што ёсць у прыродзе, сустрэнеш на яе прасторах. Такая неабдымная і розная, непаўторная ў сваёй красе і вельмі падобная па сваёй сутнасці, па шырыні, цвёрдасці і дабрыні характару Расія.

Яе голас я пачуў у даўнім маленстве:

У лукоморья дуб зеленый,
Златая цепь на дубе том,
И днём и ночью кот учёный
Всё ходит по цепи кругом.

За Пушкіным мяне вялі па Расіі Кальцоў і Нікіцін, Някрасаў і Пляшчэеў, а пазней зачараваў шчымлівай тугою разанскіх прастораў і неўтаймоўнаю сілай душы Ясенін.

Не кожнае слова тады разумеў хлапчук з палескага сяла, але ёмістая, пявучая, вельмі блізкая да маёй мова захапіла сваім водарам, паўнагучнай меладычнасцю і прыгажосцю. Расія здавалася далёкай па адлегласці і блізкай па духу. Яе стэпы і шырокія гасцінцы, шчабятлівыя гаі і ціхія рэкі, шырокую душу яе народа адкрывалі Талстой, Тургенеў, Чэхаў і Горкі, а потым малады Шолахаў запаланіў уяўленні і сэрца буйствам гарачых фарбаў данскіх прастораў і незвычайнасцю крутых характараў казакоў і казачак.

Я марыў сустрэцца з Расіяй, падыхаць яе палынамі і смольнымі вятрамі, убачыць волжскія адхоны, пачуць яе песні, зазірнуць у светлыя вочы расіян, якіх палюбіў з лермантаўскай «Калыханкі», якіх некалі сустракаў у запыленых гімнасцёрках і злінялых будзёнаўках каля нашых студняў. Я марыў прайсціся па Неўскім і Сенацкай плошчы, убачыць «Аўрору» і Смольны, хоць пастаяць у Сімбірску каля таго доміка, дзе нарадзіўся Ленін, дакрануцца да сцен Крамля, выстаяць у доўгай чарзе, каб пераступіць парог Маўзалея. Пра большае марыць не адважваўся.

А жыццё вырашыла мудрэй. Яно мне адкрыла ўсю веліч Расіі — ад Смаленскіх узвышшаў да астравоў на Ціхім акіяне, ад Мурманска і Нарыльска да Чарнаморскіх узбярэжжаў. Урал і Алтай, Кержанскія лясы і Барабінскія стэпы, енісейскія прасторы зачароўвалі сваёй прыгажосцю, гасцінна давалі прытулак, частавалі сваім хлебам, адкрылі душы ласкавых і шчырых сяброў.

Пра ўсё ўбачанае і адчутае адразу не раскажаш, усе пачуцці не раскрыеш, пра ўсё, што ўсхвалявала і ўразіла, адразу не ўспомніш. Але пра самае-самае дарагое сэрцу не змоўчыш.

* * *

Цяпер той горад носіць імя любімца чалавецтва, першага пасланца Зямлі да зораў, сына простай сінявокай жанчыны з добрым сэрцам і спрацаванымі шырокімі далонямі. Яна сеяла і касіла, даіла кароў і капала грады, зведала голад і холад. Яна дала сыну мужнае сэрца і крылы для палёту. Ганна Цімафееўна Гагарына. Я сустрэўся з ёю і Аляксеем Іванавічам чэрвеньскім днём на шырокай ціхай вуліцы Гжацка каля іх невялікага доміка з лавачкай пад вокнамі і півонямі ў палісадзе. Каб і не ведаў, адразу пазнаў бы па светлай гагарынскай усмешцы, па адкрытасці душы, па ўласцівай рускім жанчынам мацярынскай дабрыні.

Пра сына, атуленага славай і любоўю зямлян, яна гаварыла стрымана і проста, як у маленстве, называла Юрачкам і ўспаміналa любімы ім купалаўскі верш пра хлопчыка і лётчыка. І тады падумалася, як мова Пушкіна і Леніна з'яднала нашы шматмоўныя народы, як узбагаціла іх скарбамі неадольнага духу, раскрыла думы і душы ўсіх савецкіх людзей, згуртаваных у адзіную сям'ю, імя якой Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

У сінім плацці ў белыя крапінкі, з гладка зачэсанымі светлымі валасамі, з адкрытым паглядам добрых і мудрых вачэй Ганна Цімафееўна жыве ў памяці ясным увасабленнем маці, зліваецца з вобразам цярплівай, добрай, ласкавай і шчодрай Расіі. На яе падобны мільёны мацярок і маладзіц гераічнага Ленінграда, Урала і Прыамур'я, Сібіры і Запаляр'я. Я іх сустракаў у лясных вёсках на Кержанцы, на стэпавых дарогах каля Валачаеўкі, на далёкіх сібірскіх заімках, у палатках геолагаў каля Камсамольска, на рыштаваннях Дзіўнагорска і запалярнага пасёлка Туманны. Якое падабенства! Колькі агульнага з вобразам тае прамаці, якая некалі ўразіла музу Някрасава:

В игре её конный не словит,
В беде — не сробеет, — спасет:
Коня на скаку остановит,
В горящую избу войдет!

Я гавару пра маці. Расія дала ёй сілу і прыгажосць, шырыню і веліч, сціпласць і нязломную веру ў дабро. Ёсць яшчэ ўсім мацяркам маці, што некалі ў невялікім флігелі на Стралецкай вуліцы Сімбірска люляла таго, хто прыйшоў у свет, каб павярнуць яго да святла і праўды. Яна бласлаўляла сваіх дзяцей на пакуты і выгнанне ў імя вышэйшай справядлівасці, каб Расія не была мачахай для разнамоўных і рознаплямённых народаў.

У агні рэвалюцыі Расія стала роднай маці ўсім зняважаным і занядбаным, сабрала ўсіх за адзін прасторны стол, дала сілы для нябачанага ўзлёту. І панеслі сыны на розных мовах самыя светлыя і дарагія словы: «Рэвалюцыя і Ленін». Іх нарадзіла Расія.

Я гляджу на карту сваёй неабсяжнай Радзімы. Ад Брэста да Уладзівастока разбегліся па ёй чатыры літары — СССР. Карта для мяне жывая, шматкалёрная, шматгалосая, напоўненая стэпавым ветрам, піхтавым водарам тайгі, салёнымі пырскамі акіяна, дымамі Магніткі і Камсамольска, пералівамі хваляў алтайскай пшаніцы. У памяці ажываюць вочы і абліччы, усмешкі і словы расіян, сустрэчы з якімі дарыў мне лёс на далёкіх і блізкіх дарогах.

Нельга забыць дзён і начэй у горадзе на Волзе, салаўінага звону на Вянцы, рыбацкага агеньчыка над шырокім плёсам вялікай рускай ракі. Здавалася, недзе на гэтых вуліцах яшчэ чуваць крокі Ільіча, а ў доме № 58 па вуліцы Леніна яшчэ звініць старэнькі раяль і круціцца вучнёўскі глобус, на які глядзеў Уладзімір Ільіч, думаючы пра лёс свету, пра будучае народаў Расіі. Успамінаюцца на вуліцах Краснаярска «кандовыя» дамы, асветленыя імем Леніна. Ён тут рыхтаваў сваіх паплечнікаў і сібірскіх марксістаў на вялікі подзвіг, які адкрыў новую эру ў гісторыі чалавецтва.

Самая магутная ў свеце Краснаярская ГЭС, Магнітагорскі металургіч-







Сустрэча беларускіх пісьменнікаў з бацькамі Юрыя Гагарына. Лета 1964 года.

ны камбінат, заводы і шахты Нарыльска і Талнаха, вясёлыя, таленавітыя дзеці Запаляр'я і Артэка, сады Алтая і расквітнелыя прасторы нашай рэспублікі — здзейсненыя мары самага вялікага расіяніна, справы партыі, згуртаванай і загартаванай бессмяротным Леніным, — подзвіг непераможнага братэрства ўсіх народаў савецкай зямлі.

Дзе б я ні быў, ад самай паўночнай Серабранскай ГЭС на Кольскім паўвостраве да буйнейшай гідраэлектрастанцыі на Нурэку, скрозь разам працуюць і дружна жывуць рускія і ўкраінцы, беларусы і грузіны, армяне і чувашы, узбекі і таджыкі... Яны спяваюць свае песні, чытаюць натхнёныя радкі сваіх паэтаў і разумеюць адзін аднаго, бо гавораць на мове Леніна, бо з'яднала іх адна мара, адна мэта, агульныя беды ў гады ліхалецця і агульнае шчасце тварыць на зямлі дабро.

Пагоднымі чэрвеньскімі днямі я праехаў сотні кіламетраў па алтайскай зямлі. Каласілася абмытая цёплымі дажджамі зялёная пшаніца, ночы пахлі вільготным чарназёмам і рачнымі туманамі, малінавым звонам трымцелі світанні ў Кулундзінскіх стэпах. На гэтую зямлю не падалі бомбы; не палалі вёскі ў пякельным агні. Але ў кожным сяле стаяць абеліскі з бетону і мармуру, з алтайскага ружовага граніту і просценькія, з чэсаных валуноў помнікі. На іх — імёны аднавяскоўцаў і апошнія, нібыта выбітыя кулямі, даты ад сорак першага да сорак пятага года. А магілы адважных сібіракоў, што наводзілі жах на ачмурэлы вермахт, засталіся на ростанях беларускіх дарог, у сланечнікавых стэпах Украіны, на безыменных вышынях Малдавіі, на ўзбярэжжах Латгальскіх азёр, на пясчаных выдмах Куршскай касы. Сыны Расіі змагаліся і паміралі за волю і шчасце нашай зямлі, як дзеці ўсіх народаў нашага братэрства аддавалі жыцці за свабоду Расіі.

На Алтай мы з паэтэсай Вольгай Іпатавай прывезлі жменьку хатынскай зямлі, каб перадаць мясцоваму музею. Але алтайскія сябры вырашылі, што свяшчэнная беларуская зямля не можа быць толькі музейным экспанатам, а, зліўшыся з сібірскім чарназёмам, павінна даваць жыццё ўмалотным каласам пшаніцы.



Адкрыццё абеліска ў Тальменскім раёне.

Сонечным днём каля аўтастрады Барнаул-Новасібірск сышліся сотні людзей з раённага гарадка Тальменка, з'ехаліся з суседніх калгасаў і саўгасаў. На ўзгорку, пры самай дарозе, пад белым полагам стаяў абеліск. Былы беларускі партызан Мікалай Кузьменка і Герой Савецкага Саюза Георгі Быстроў гаварылі пра гераізм, пакуты і страты беларускага народа, пра мужнасць партызанаў і воінаў нашай зямлі.

На полі загулі тры трактары «Беларусь». Іх вялі былы партызан Гомельскага злучэння Васіль Баганаў, танкіст, што прайшоў ад Растова да Берліна, Дзмітры Скабёлкін і камсамолец Іван Логінаў. Мне выпаў гонар пад гукі «Інтэрнацыянала» пасеяць хатынскую зямлю на алтайскім полі. Трактары заaралі яе ў шырокія баразны чорнай, як аксаміт, зямлі.

Намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Расійскай федэрацыі народны паэт Башкірыі Мустай Карым і сакратар Тальменскага райкома КПСС Андрэй Трахімавіч Цыгулёў знялі пакрывала з памятнага абеліска з надпісам: «Як сімвал непарушнага адзінства савецкага народа тут у глебу Алтайскага поля ў Дні савецкай літаратуры ўнесена беларуская зямля, палітая крывёю абаронцаў Радзімы».

Вакол абеліска вырас узгорак кветак з алтайскіх палёў. Многія жанчыны выцiралі слёзы, успамінаючы сваіх блізкіх, што не вярнуліся ў родныя хаты.

У тыя хвіліны на ўсё жыццё я адчуў бязмежную любоў і павагу рускіх братоў і сясцёр да майго народа, да нашай зямлі, да ўсіх народаў краіны Саветаў, цеплыню і сілу нашага адзінства.

Усе шляхі падарожжаў пачынаюцца і сыходзяцца ў горадзе гарадоў рускіх, у сэрцы нашай Радзімы — Маскве. І кожны раз адкрываеш яе непаўторныя рысы, дзівішся новым раёнам, дамам, узнятым аж да аблокаў, уключаешся ў яе таропкі рытм, спяшаешся ў падземныя палацы метрапалітэна, зноў і зноў займаеш чаргу ў «Траццякоўку», музей выяўленчых мастацтваў, дастаеш білет у МХАТ або ў Вахтангаўскі тэатр.



Масква дае ўсёй краіне самы вышэйшы тон працоўнага рытму, узор дакладнасці і дасканаласці любой работы, адкрывае невычэрпныя глыбіні навукі, чароўны свет мастацтва, гаворыць усяму свету пра радасці нашых здзяйсненняў.

А вечарамі, калі над Крамлём узыходзяць рубінавыя зоры і ў небе рэе галоўны сцяг Дзяржавы, я заўсёды прыходжу на Красную плошчу. Спаскія куранты, пушчаныя Леніным, адлічваюць час новай эры чалавецтва. Слухаеш іх удары і ўяўляеш, колькі ў гэтую хвіліну зроблена сталяварамі і шахцёрамі, энергетыкамі і будаўнікамі, трактарыстамі і сейбітамі, нафтавікамі і геолагамі! Усё чуе, усё ведае Масква.

З усімі планамі, трывогамі і радасцямі мы звяртаемся да Масквы. Яна зразумее, выручыць, дапаможа, падтрымае, вылечыць, суцешыць, парадуецца тваімі радасцямі.

Б'юць куранты, і з варот Спаскай вежы ўрачыстым крокам ідзе новае пакаленне ганаровай варты да Маўзалея.

Успамінаюцца майскія дні 1945 года, калі да падножжа Маўзалея былі кінуты сцягі гітлераўскіх разбойных палкоў і дывізій. Цяпер тут ніколі не скончыцца самая праведная і маўклівая чарга. Кожны думае: з чым ён ідзе да Ільіча, ці варты ён быць ленінцам? Бо Ленін працуе, вучыць, раіць, абураецца абыякавасцю, бюракратызмам, плануе для нас і нашчадкаў, бачыць далёка наперад вачыма партыі. Адсюль, з галоўнай плошчы Дзяржавы, здаецца, відны барвовыя заравы над мартэнамі Магніткі, агні Таймыра, вяршыні памірскіх пікаў і нашы расквітнелыя палескія прасторы. А ў гэты час над Сахалінам узнімаецца сонца новага дня. Яно і на маю зямлю заўсёды прыходзіць з Расіі. Мы слухаем на світанні знаёмае: «Гаворыць Масква!» І звяраем час і сэрцы з Масквою.

Самы дакладны час! Самае вялікае і добрае сэрца! Яго слухаюць, яму вераць народы свету.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**





● Віктар ПЛЕШАВЕНЯ

# СЭРЦА РАДЗІМЫ МАЁЙ

## РЭПАРТАЖ З МАСКВЫ

**«Хацелася б... асобна сказаць аб Маскве. Усім савецкім людзям яна дарагая як сталіца нашай Радзімы, буйнейшы цэнтр прамысловасці, культуры і навукі, як сімвал нашай вялікай сацыялістычнай дзяржавы».**

**Л. І. БРЭЖНЕЎ.**

**(Са Справаздачнага даклада ЦК КПСС XXIV з'езду партыі.)**

У пачатку 1918 года ўзнікла пытанне аб тым, дзе пастаянна знаходзіцца і працаваць надалей ураду першай у свеце дзяржавы рабочых і сялян—Савету Народных Камісараў на чале з У. І. Леніным. Пытанне гэтае ўзнікла таму, што заставацца далей у Петраградзе стала небяспечна. Блізкасць варожага капіталістычнага свету, з'яўленне немцаў у водах Балтыкі, канцэнтрацыя контррэвалюцыйных войск паблізу нашай граніцы, дадзеныя разведкі аб пранікненні ў Петраград авантурыстаў, белагвардзейцаў, шпіёнаў і, нарэшце, змова эсэраў-афіцэраў і замах на У. І. Леніна —усё гэта сведчыла аб тым, што Савецкі ўрад неадкладна павінен шукаць новае месца.

Выбар выпаў на Маскву, і пачалася падрыхтоўка да пераезду. Уся арганізацыя гэтай вельмі сур'ёзнай задачы была ўскладзена на кіраўніка спраў Саўнаркома Уладзіміра Дзмітрыевіча Бонч-Бруевіча.

Я ўжо ў каторы раз перачытваю з цікавасцю яго ўспаміны аб тым часе.

...10 сакавіка пачалі спешна збірацца. Гадзіне а сёмай быў адпраўлен на цягнік адборны атрад латышоў з кулямётамі для аховы. У Маскву прыбылі 11 сакавіка ўвечары, гадзіне а восьмай. На вакзале амаль ніхто не сустракаў, паколькі нікому не было вядома, калі прыйдзе цягнік. Спачатку Уладзімір Ільіч спыніўся ў гасцініцы «Нацыяналь», дзе для яго Маскоўскім Саветам былі выдзелены два пакоі. У той жа вечар у гутарках з мясцовымі камуністамі Ленін даведаўся, што Масква і вобласць маюць свой Саўнарком, сваіх камісараў, аж да камісара замежных спраў. Уладзімір Ільіч, як піша Бонч-Бруевіч, надзвычайна ажывіўся і ад душы смяяўся, але ў той жа час распарадзіўся падрыхтаваць рашэнне аб скасаванні «гэтай бязглуздзіцы». Такое рашэнне потым было прынята. «Маскоўскае царства», як тады жартавалі, улілося ў структуру агульнадзяржаўнай Савецкай улады.

На другі дзень пасля прыезду Уладзімір Ільіч накіраваўся ў горад. Пахла вясной, ззяла сонца, раставаў снег. Ленін уважліва і пільна разглядаў старажытную Маскву, горад, у якім суджана было яму не толькі ствараць рабочую дзяржаву, але і быць параненым, цяжка, невылечна захварэць, быць пахаваным на яе Краснай плошчы, ля сцен сівога Крамля.

У той жа дзень, 12 сакавіка 1918 года, Уладзімір Ільіч уехаў у Крэмль. Над Маскоўскім Крамлём залунаў чырвоны сцяг—знак рэвалюцыі і перамогі над буржуазным светам, сцяг нашай барацьбы за сацыялізм...

У жыцці Масквы пачаўся новы гістарычны этап, паварот у яе лёсе да лепшага будучага. Яна стала сталіцай маладой Савецкай дзяржавы.

Перагружаны вялікімі дзяржаўнымі клопатамі, Ленін тым не менш пастаянна думаў пра Маскву, пра яе не толькі сённяшні, але і заўтрашні дзень, бачыў яе ў сваіх марах новым, сацыялістычным горадам. Бачыў і змагаўся, працаваў у імя гэтага штодзённа, штогадзінна, не шкадуючы ні часу, ні сіл.

Старая, купецкая Масква, у гразі, цемры і запушчэнні, была заўсёды п'яная і жудасная, раўнадушная і халодная. Аб жыцці старой Масквы часопіс «Будзільнік» пісаў: «У Маскве ціха, як у скрыні. На вуліцах снуюць рамізнікі, у дамах іграюць на фартэпіяна, у рэдакцыях рыпяць пёрамі...»

Прыгнечанае ўражанне зрабіла старая Масква і на вялікага рускага пісьменніка Л. М. Талстога. «...Жывучы ў горадзе (Маскве—**В. П.**), я ўбачыў,—пісаў ён,—гарадскую беднасць і доўга не мог зразумець асаблівасць яе. З першых жа дзён я сустрэўся з беднасцю ў асобе жабракоў—абшарпаных, напаўголых, бедных людзей, якія стаялі ля магазінаў і азіраліся на гарадавога, і жанчын з груднымі дзецьмі, якія баязліва кланяліся і прасілі на пагарэлае, старых... сляпых, здаровых мужыкоў у рабочай вопратцы з тапаром ці без тапара, якія гаварылі, што работы не знайшлі і не елі... Масква поўная жабракоў...»

Як вядома, Масква да 1918 года не магла змяніцца да лепшага. За доўгія гады імперыялістычнай вайны яна стала яшчэ больш змрочная. У першы ж перыяд свайго прабывання ў Маскве У. І. Ленін ставіць задачу: «Перш за ўсё... ачысціць Маскву ад таго бруду і запушчанасці, у якую яна трапіла.»

Яшчэ не абжыўшы сваю кватэру, Уладзімір Ільіч запрашае да сябе вядомага тады архітэктара І. У. Жалтоўскага і гутарыць з ім пра будучае народнай сталіцы, гаворыць яму аб тым, што яна ў кароткі тэрмін павінна стаць адным з самых прыгожых і добраўпарадкаваных гарадоў свету. Кіраўнік дзяржавы раіцца з архітэктарам аб планах жыллёва-грамадзянскага будаўніцтва ў сталіцы, робіць шэраг канкрэтных указанняў і прапаноў. Што адбылося далей, уражліва было сказана ў маскоўскай буржуазнай газеце «Заря России» за 1918 год, рэпарцёр якой пабываў у майстэрні Маскоўскага Савета і быў здзіўлены. «Гэта не сон і не ўтопія,—пісаў ён,—але ў гэта цяжка паверыць, тым больш у нашы дні ўсеагульнага збяднення, разрухі і жудасці. Стварыць з Масквы ўпарадкаваны еўрапейскі цэнтр; напаіць яе паветрам, святлом, садамі; перарэзаць і звязаць жалезным вузлом яе ўскраіны—вось бліскучая задача, якую сабе паставіла «будаўнічая майстэрня» на чале з ініцыятарам яе ўзнікнення І. У. Жалтоўскім... Цэлыя дні ў майстэрні ідзе дзейсная распрацоўка праектаў. Тут і пабудова Маскоўскага порта, шлюзаванне Масква-ракі, і злучэнне яе з Клязьмай праз Хапілаўскі ставок, і будаўніцтва школ, бальніц, пасёлкаў і г. д. і да т. п...»



**Мікалай Гонічаў і Пётр Емяльянаў выдатна плавяць сталь на заводзе «Серп і молат».**

давязе вас усяго за восем мінут. Метро, такім чынам, самы хуткі від гарадскога транспарту. З ім не могуць параўняцца ні тралейбусы, ні аўтобусы, ні тым больш трамвай. Ды і хуткаходныя таксі не заўсёды здолеюць спаборнічаць з падземным блакітным экспрэсам. Цікава, што пад зямлёй цягнікі ходзяць з выключнай дакладнасцю. Кожныя 90 секунд да платформы падаюцца ўсё новыя і новыя эшалоны. Людзі тут звяраюць гадзіннікі і ўпэўнены, што час заўсёды дакладны.

Маскоўскі метрапалітэн—гонар савецкага народа. Гэта не толькі цудоўная падземная чыгунка, але цэлы падземны горад. Складаная транспартная і энергетычная гаспадарка; палацы з багатым архітэктурным афармленнем, упрыгожаныя мазаічнымі карцінамі, скульптурамі, абліцаваныя мармурам, гранітам; разгалінаваная сетка гандлёвых кропак, тэатральных кас і кіёскаў—вось далёка няпоўны пералік таго, што ёсць у метро. Галоўнае ж у тым, што Маскоўскі метрапалітэн—першакласнае інжынерна-тэхнічнае збудаванне. Яго складаная і шматгранная гаспадарка аснашчана навейшай тэхнікай, якая забяспечвае не толькі дакладнасць руху цягнікоў, але і яго поўную бяспеку. Айчынная прамысловасць забяспечыла першую ў Савецкім Саюзе падземную чыгунку камфартабельнымі, цэльнаметалічнымі вагонамі зварнай канструкцыі, якія маюць вялікую ўмяшчальнасць, высокую трываласць і плаўнасць ходу. У нашым метро дасканалая сістэма сувязі, аўтаблакіроўкі, магутная вентыляцыя, зручныя эскалатары і многае іншае абсталяванне.

Маскоўскі метрапалітэн будаваў увесь савецкі народ. Вышэйшыя дасягненні навукі і тэхнікі, лепшыя спецыялісты, самыя высокаякасныя матэрыялы выкарыстоўваліся для гэтай мэты. Заказы Метрабуда выконваліся ў многіх гарадах краіны. Буйнейшыя прадпрыемствы Масквы, Ленінграда, Харкава, Мінска рыхтавалі складанае абсталяванне, машыны, механізмы. Зараз пад зямлёй 141,4 кіламетра эксплуатацыйных ліній і 91 станцыя. Маскоўскі метрапалітэн па праву прызнаны лепшым у свеце, і ён заслужана носіць імя Уладзіміра Ільіча Леніна.

Цяпер Масква будуецца па новым генеральным плане, які зацверджаны Цэнтральным Камітэтам КПСС і Саветам Міністраў СССР. Галоўнае ў ім—клопаты пра савецкага чалавека, аб стварэнні для яго самага высокага ўзроўню жыцця. Масква павінна стаць прыкладам для іншых гарадоў нашай краіны ў развіцці прадукцыйных сіл, выкарыстанні дасягненняў навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, павышэнні эфектыўнасці грамадскай вытворчасці, у вырашэнні сацыяльных і выхаваўчых праблем. Адначасова масквічы будуць браць на ўзбраенне ўсё лепшае, што дасягнута ў краіне, пераймаць добры вопыт, падхопліваць карысныя пачынанні, узніклыя ў іншых месцах.

Велізарныя работы будуць выкананы ў Маскве ў бягучай пяцігодцы. У развіццё ўсіх галін народнай гаспадаркі сталіцы будзе ўкладзена 13,3 мільярда рублёў, у тым ліку ў гарадскую гаспадарку на 1,5 мільярда больш, чым за мінулыя пяць гадоў. Паскарэнне навукова-тэхнічнага прагрэсу—асноўная лінія развіцця маскоўскай прамысловасці. За пяцігодку будуць рэканструяваны і тэхнічна



**Павел Філаненка—адзін з лепшых машыністаў дэпо Масква-Сарціровачная.**

пераўзброены прадпрыемствы. Састарэлае абсталяванне заменяць сучасныя, высокапрадукцыйныя станкі і машыны. Да 1975 года прадугледжваецца ўвесці ў эксплуатацыю 6 мільёнаў 700 тысяч $м^2$ прамыслова-вытворчых і дапаможных плошчаў—амаль у тры разы больш, чым за мінулую пяцігодку. У дзевятай пяцігодцы жыллёвы фонд горада ўзрасце на 27 мільёнаў 600 тысяч квадратных метраў карыснай плошчы—штогод будзе ўзводзіцца па 120 тысяч кватэр. Кожны год каля паўмільёна масквічоў справяць наваселлі.

Новабудоўлі значна зменяць аблічча цэнтральнай часткі горада. Старое і новае гарманічна зліюцца ў адзіныя, закончаныя архітэктурныя ансамблі. У час рэканструкцыі будуць беражна захаваны і рэстаўрыраваны архітэктурныя і гістарычныя помнікі, помнікі культуры, а таксама ўсе іншыя апорныя ў забудове горада будынкі, якія могуць выкарыстоўвацца працяглы час. Асабліва гэта адносіцца да раёна ў межах Садовага кальца. Ён ахоплівае гістарычную частку сталіцы: Крэмль, Красную плошчу, ансамблі архітэктурных помнікаў, урадавыя ўстановы, тэатры, музеі, выставачныя залы. Па-ранейшаму гэты раён будзе асноўным гісторыка-рэвалюцыйным, культурным і адміністрацыйным цэнтрам горада.

Прадоўжыцца будаўніцтва метрапалітэна. У той жа час будзе развівацца наземны пасажырскі транспарт. Для замены і папаўнення рухомага саставу горад атрымае каля чатырох з паловай тысяч аўтобусаў, 1100 тралейбусаў і 300 трамвайных вагонаў. Да канца пяцігодкі масквічоў і іх гасцей будуць абслугоўваць 16 тысяч новых камфартабельных аўтамабіляў-таксі «Волга». У 1971 годзе іх было 14 тысяч.




У Маскве цяпер больш як 113 тысяч асабістых легкавых аўтамабіляў, а да канца пяцігодкі іх стане амаль 250 тысяч. Многае намячаецца зрабіць для паляпшэння тэхнічнага абслугоўвання гэтых аўтамашын.

У пярэдадзень вялікага свята—50-годдзя ўтварэння СССР—Масква рыхтуе падарункі не толькі сваім жыхарам. Яна запрашае ў госці прадстаўнікоў усіх братніх народаў вялікай савецкай Радзімы, сяброў з-за мяжы і прыме іх шчыра, сардэчна.

Фота **В. Смятаніна.**

За гады Савецкай улады Масква стала зусім непазнавальнай. За кароткі тэрмін была праведзена велізарная, не бачаная раней у гісторыі гарадоў работа па ператварэнні Масквы ў буйнейшы цэнтр прамысловасці, навукі і культуры, цэнтр каштоўнейшага вопыту будаўніцтва новага сацыялістычнага жыцця.

Цяпер больш сямі мільёнаў жыхароў налічвае наша сталіца. Для цікаўных скажам, што ў Маскве жыве сто тысяч Іванових, з іх тысяча Іванаў Іванавічаў (паспрабуй, знайдзі патрэбнага табе, калі ты ўпершыню трапіў у Маскву!), восемдзесят тысяч Смірновых, дваццаць Аляксандраў Пушкіных, дваццаць сем Барысаў Гадуновых і ўсяго адзін Іван Грозны—па звестках мінулага года.

Цікавая, між іншым, дэталь. Першы перапіс насельніцтва ў Маскве праводзіўся крыху больш за стагоддзе назад, 12 (24) снежня 1871 года. Тады ў Маскве жыло 600 тысяч чалавек, а займаў горад усяго дваццатую частку сучаснай тэрыторыі. Сёння гэтыя лічбы могуць выклікаць усмешку, няхай добразычлівую, але ў той час у Еўропе было ўсяго два гарады, буйнейшыя за Маскву—Лондан (3.110 тыс. жыхароў) і Парыж (1.852 тысячы). І яшчэ факт для цікаўных. Тады ў Маскве мужчын было больш, чым жанчын. (Цяпер, як вядома, наадварот).

У Маскве 1500 прадпрыемстваў. Яны выпускаюць тысячу відаў і назваў розных станкоў, машын, прыбораў, аўтаматаў, бытавых рэчаў. За суткі масквічы вырабляюць больш за тры мільёны квадратных метраў тканін, амаль сто сорак тысяч пар абутку, звыш трыццаці тысяч гадзіннікаў (бытавых), тры тысячы тэлевізараў.

У свой час масквічы выступілі ініцыятарамі спаборніцтва за павышэнне якасці прадукцыі. Першы ў СССР дзяржаўны Знак якасці быў прысвоены электрарухавіку Маскоўскага электрамеханічнага завода імя Уладзіміра Ільіча. Гэта было 22 красавіка 1967 года. А да 1 красавіка 1972 года ўжо каля 800 сталічных вырабаў былі ўдастоены дзяржаўнага Знака якасці. Цяпер 50 фабрык і заводаў носяць высокае званне прадпрыемстваў камуністычнай працы. Характэрна таксама, што звыш 800 маскоўскіх заводаў і фабрык паспяхова вытрымліваюць канкурэнцыю на сусветным рынку, экспарціруючы сваю прадукцыю ў 60 краін свету.

У сталіцы нашай Радзімы сканцэнтраваны буйныя сілы вучоных і спецыялістаў. Тут працуе 240 тысяч навуковых работнікаў, у тым ліку больш як 8 тысяч дактароў навук і звыш 58 тысяч кандыдатаў навук. Адначасова 80 вышэйшых навучальных устаноў за год выпускаюць 80 тысяч спецыялістаў. Усяго навучаецца ў ВНУ і тэхнікумах Масквы звыш 850 тысяч студэнтаў.

У Маскве цудаў шмат, але, бадай больш за ўсё здзіўляе гіганцкі размах будаўніцтва. Нібы ў казцы, Масква раздаецца ўшыркі і ўглыбіню, узнімаецца ўгору. Яе маштабы—40 кіламетраў з поўначы на поўдзень, 30 кіламетраў з захаду на ўсход. 4500 вуліц, завулкаў і плошчаў працягам на 2700 кіламетраў. Самая доўгая вуліца—Ленінскі праспект—20 кіламетраў, самая кароткая вуліца Венецыянава—48 метраў. У Маскве 2700 гектараў зеляніны, 200 сажалак. А ў агуле ўладанні сталіцы раскінуліся на 88 тысячах гектараў—гэта больш Н'ю-Йорка, Лондана, Парыжа. Толькі ў апошнія гады ў межы Масквы ўліліся адразу пяць гарадоў—Бабушкін, Люблiна, Кунцава, Тушына, Пярова, а таксама дзесяткі вёсак. І яшчэ адна лічба: кожныя тры гады ў сталіцы будуецца столькі жылля, што адна гэтая «прыбаўка» роўная ўсяму жылому фонду дарэвалюцыйнай Масквы.



Іх прынялі ў піянеры на Краснай плошчы ў дзень нараджэння У. І. Леніна.



Шмат выдатных людзей на Маскоўскім аўтазаводзе. Сярод іх—слесар-зборшчык Анатоль Сямёнаў, начальнік бюро тэхнічнага кантролю Павел Лагутаў, майстар 2-га зборачнага ўчастка Віктар Зацапілін, слесар-зборшчык, Герой Сацыялістычнай Працы Мікалай Усачоў.

У будаўніцтве і добраўпарадкаванні сталіцы ўдзельнічае ўся краіна, у тым ліку і Беларусь. І не толькі савецкіх людзей, але і іншаземцаў здзіўляе арыгінальнасць задум і знаходлівасць архітэктараў і будаўнікоў Масквы. Захапляюць таксама парадак і чысціня ў горадзе. У гэтай сувязі цікавае, між іншым, выказванне амерыканскага журналіста Гары Фрымана. Параўноўваючы Маскву з Н'ю-Йоркам, ён скардзіцца на тое, што яго родны горад з кожным годам становіцца не лепшым, а горшым. Новых будынкаў у горадзе з'явілася мала, у той час, як старыя да таго занялі, што сталі не прыгодныя для жылля; у іх узнікаюць пажары. Састарэлы метрапалітэн, які пабудаваны многа дзесяцігоддзяў назад, працуе дрэнна і не мае дастатковай прапускной здольнасці. Наземны транспарт рухаецца, нібы чарапаха—у цэнтры горада ён адстае ад пешаходаў. Тэлефонная сувязь стала пастаяннай крыніцай раздражнення і скаргаў. Вуліцы брудныя, закіданы паперай, банкамі з-пад кансерваў. Н'ю-Йорк тэрарызуюць гангстары і зладзеі.

Незабыўнае ўражанне на гасцей, асабліва тых, што прыязджаюць з-за мяжы, робіць маскоўскі метрапалітэн. Прыгожая і зручная падземная чыгунка казачна палепшыла транспартныя сувязі паміж рознымі раёнамі Масквы. Можна без перабольшвання сказаць, што без метрапалітэна немагчыма было б рашаць праблемы транспартнага абслугоўвання насельніцтва сталіцы і яе шматлікіх гасцей.

Заўважце, метро штодзень перавозіць больш чатырох мільёнаў чалавек! А кожны вагон прабягае за дзень адлегласць, як ад Масквы да Ленінграда.

У такім вялікім горадзе, як Масква, надзвычай важнае значэнне для жыхароў мае эканомія часу за кошт транспарту. Тут метро сапраўды незамянялънае! Калі ад Вялікага тэатра да Сакольнікаў ехаць тралейбусам, то на гэта патрэбна 25 мінут. Метро ж



# ВЫТОКІ

Мы плывём уверх па Дзісне. Наша срабрыстая *лодка-«казанка»* кроіць тугую плынь вады, ззаду ўспухаюць, разыходзяцца дзве гладкія ў карунках хвалі, б'юцца ў берагі, матлашаць звіслыя кучары прыбярэжных ракіт. Роўна, рупна гудзе лодачны матор «Масква».

Сярэдзіна лета. Рака і там, і там густа, ад берагу да берагу, перашыта доўгімі касмылямі водарасцяў, шчацініцца астраўкамі густога трыснягу, услана лістамі гарлачыкаў. Качкам, рыбе, розным водным насельнікам гэта, напэўна, рай. А нам даводзіцца глушыць матор і брацца за вёслы, каб выграбацца на чыстае. Цячэнне досыць імклівае, але лодка добра слухаецца і вёслаў.

Выехалі з Шаркоўшчыны. Ззаду ўжо асталіся прырэчныя вёскі Гарбуны, Пялікі, Жданы, Станіслава. На згібе ракі, дзе на высокім левабярэжжы затуляецца ў зеляніну ліп і бэзу самавітая вёска Кусні, робім прыпынак. Зацерушыў дробны дождж, але мы на яго нават не бяром увагі. Мы на свае вочы бачылі на Шаркоўшчынскай метэастанцыі прагноз на ліпень, які дакляруе іменна на наша падарожжа сонца, гарачыню, навальніцы.

Неўзабаве праходзім пад гулкім чыгуначным мостам. Міма праплываюць вяршаліны стогадовых ліпаў у прыстанцыйным Полаве. Праз якую паўгадзіну на левым беразе, на краі высокага абрыву паміж сівавата-зялёных лозаў паказваюца лазенькі Жукоўшчыны, вялікай вёскі, якую ўсю затапілі сады. Жукоўшчына прыкметная сама па сабе, але яна больш знаная па тым, што тут зварочваюць з шашы ў вёску Алашкі, у славуты сад садавода-селекцыянера Івана Паўлавіча Сікоры. Алашкі побач, тры-чатыры кіламетры на поўнач.

У садзе, які мае афіцыйны тытул — Шаркоўшчынскі доследны сад Інстытута садоўніцтва, гародніны і бульбы Акадэміі навук БССР, чатыры *тысячы толькі адных гатункаў яблынь* і ігруш. Іх вывеў шляхам гібрыдызацыі і адбору Іван Паўлавіч Сікора, працавіты сялянскі сын. Ён хацеў быць настаўнікам, але пры цару не змог і ўвесь пал сваёй багатай душы прысвяціў адной справе: каб у ягоным родным прыдзісенскім краі раслі, цвілі і давалі плады дзівоснейшыя расліны, якія ёсць і якіх яшчэ няма на свеце. Садавода-самавука з Алашак ведалі і цанілі многія вядомыя вучоныя ў нас і за мяжой.

Сікора падарыў сваім землякам яблыню—ранет, цукрыстыя, пахкія плады яе могуць ляжаць аж да сярэдзіны мая, ігрушу, плады якой не псуюцца да канца зімы, суніцу — яна цвіце і дае ягады з пачатку лета да самых замаразкаў, выдатныя гатункі вішань, агрэсту, парэчак...



Прыдзісенне багатае садамі. І лепшае ў іх — гэта сікораўскае.

Недалёка за Жукоўшчынай да Дзісны сыходзяцца Пастаўскі і Браслаўскі раёны, стужка ракі — граніца паміж імі. Дождж не сціхае, наадварот, прыпускае спарней, сыплецца. Але мы верым не яму, а прагнозу, па якім з гадзіны на гадзіну павінна ярка, горача засвяціць сонца.

Матор спраўна пхае нашу лодку проці вады. Лена, па непагадзі, кружаць чайкі, вялікія, шызыя—радзей, часцей трапляюцца шэрыя, меншыя. Часам са свістам скосяць убок дзікія качкі, шырока размахне крыллем цыбатая чапля ды боўтне і праплыве ўздоўж берага даверлівая андатра. Раз-пораз у ціхай завадзі плёхнецца рыбіна.

Дождж ужо цубіць як мае быць, як у сярэдзіне восені. Змоклыя, мы нарэшце вылазім на бераг ля вёскі Васіліны, цэнтра калгаса «Уперад» Пастаўскага раёна. Васіліны гасцінна даюць нам прытулак на ноч.

Раніцай, павесялелыя, плывём далей. На першай зручнай прыстаньцы выходзім на бераг.

Казяны — радасная для вока, нейкая святочная вёска. Шырокая вуліца, паабапал стаяць у зеляніне шаляваныя, ярка пафарбаваныя хаты.

Вялікі цагляны дом — кантора і клуб калгаса «Гвардыя» Браслаўскага раёна, побач — два магазіны, школа, сельсавет, пошта. Скрозь — прыметы заможнасці, трываласці, дагледжанасці. Многа кветак. У садах густа чырванеюць вішні, бялеюць яблыні...

— Калі я ў 44-м вярнуўся дамоў,— апавядае нам былы партызан, камісар атрада, цяпер прадавец у магазіне гаспадарчых тавараў Уладзімір Іосіфавіч Мацук,— дык, паверце, сэрца сціснула. Стаіць адна царква, кругом гола, брук, а па баках на папялішчах крапіва, чарнобыль, лебяда. Быдта і не было вёскі. Як, думаў, жыць будзем...

Казяны і многія бліжэйшыя вёскі былі датла вынішчаны ў вайну нямецкімі фашыстамі. У агні гарэлі старыя, дзеці. Гэтак люта помсціў чужаземец тутэйшаму краю за тое, што не захацеў скарыцца, паўстаў змагацца.

Ля Казян, у бяскрайніх цяністых лясах (хто на сотню вёрст наўкруг не ведае гэтай славутай назвы — Казянскія лясы) мясціліся ў часе вайны моцныя злучэнні народных мсціўцаў. Тут мелі базу тры беларускія партызанскія брыгады — імя Жукава, «Спартак» і «За Радзіму», адна літоўская— «Жальгірыс» і нейкі час стаялі латышскія партызаны, якія затым перайшлі на тэрыторыю недалёкай Латгаліі, пад Даўгаўпілс.

**Вечная памяць героям. Ля помніка ў Казянах.**



Казянскія лясы тулілі беларусаў, рускіх, літоўцаў, латышоў і сыноў іншых савецкіх народаў, якіх паяднала адна любоў да свабоды, вернасць аднай маці — сацыялістычнай Бацькаўшчыне, адна нянавісць да фашысцкага ярма.

Партызаны трымалі пад сваім кантролем вялікую тэрыторыю навокал, нападалі на гарнізоны, каралі здраднікаў, вялі прапаганду сярод насельніцтва. Лясныя браты разам хадзілі на заданні, дзяліліся зброяй, боепрыпасамі, харчам, разам прымалі самалёты з Вялікай зямлі на аэрадроме паблізу Жураўоўшчыны, разам святкавалі перамогі над ворагам, разам дзялілі нягоды блакады.

Дыверсійныя групы з літоўцаў, беларусаў, рускіх пастаянна «працавалі» на чыгуначных лініях Дукштас—Пабраддзе, Свянцяны—Друя, дабіраліся нават пад Шаўляй. На асобных перагонах рух паяздоў партызаны перараралі надоўга.

Уладзімір Іосіфавіч вядзе нас у цэнтр вёскі, дзе ўзбоч вуліцы на невялікім узвышшы брацкая магіла партызан. На высокай каменнай пліце — фігуры трох мужчын і жанчыны ў сялянскай вопратцы, са зброяй. У постацях, ва ўсім выразе партызанаў суровасць, рашучасць. Быццам яны выйшлі ў дазор.

Каля помніка — мемарыяльная пліта. На граніце золатам адліваюць слупкі прозвішчаў. Рускія: «Клушын А. К., Сядых, Калеснікаў», беларускія: «Мішкат А., Дземідовіч А. А., Кучынскі», літоўскія: «Лашэнковас В. Е., Місюнас І. К., Бараўскас С. Б.»

Ад вуліцы ўстаноўлена яшчэ адна гранітная пліта. На ёй надпіс: «Партызанам Беларусі і Літвы, якія аддалі свае жыцці ў імя перамогі над ворагам у 1941—1945 гадах».



Штогод на Дзень Перамогі, на дзень вызвалення Беларусі, у вялікія нашы святы да брацкай магілы прыходзяць людзі з беларускіх і літоўскіх вёсак, нясуць вянкі, кветкі, нясуць сваю пашану паўшым. Беларусы паставілі помнік, літоўцы — мемарыяльныя пліты.

Асабліва людна было тут сёлета, калі адзначалася 30-годдзе з дня заснавання першага партызанскага атрада ў Казянскіх лясах. З розных канцоў з'ехаліся былыя народныя мсціўцы. Як браты, сустракаліся рускія, беларусы, літоўцы, латышы, успаміналі сяброў, радаваліся сённяшняму шчасліваму жыццю.

Ніколі так не жылі людзі ў Казянах, як цяпер. Уладзімір Іосіфавіч Мацук, карэнны казянец, сваю хату пакідаў толькі на час вайны, калі давялося ўзяцца за зброю, помніць змрочныя гады белапольскага панавання на заходнебеларускай зямлі і асабліва даражыць тым, як жыве цяпер, як жывуць людзі скрозь. Хаты пад шыферам, дранкай, з верандамі, рэдкая без тэлевізара.

Набірае моцы калгас «Гвардыя».

З Казян цяпер едзь аўтобусам у любы бок — у Відзы, Браслаў, Паставы, у Маладзечна, Мінск. Калісьці самым адукаваным у вёсцы лічыўся поп. А цяпер моладзь, скончыўшы мясцовую дзесяцігодку, падаецца ва універсітэт, у інстытуты, тэхнікумы, вучылішчы. Мы выпадкова сустрэлі ля ракі Таню Мацук і Рыту Якімовіч. Яны, як у той песні, мылі ручнікі. Таня скончыла Мінскі тэхналагічны інстытут імя Кірава, а Рыта — Маскоўскі педагагічны. Абедзве ў бацькоў на адпачынку. Першая — дачка нашага знаёмага Уладзіміра Іосіфавіча Мацука, другая — таксама дачка былога партызана Мікалая Нікадзімавіча Якімовіча.

Мы кажам вёсцы Казяны «да пабачэння».

Рушым далей.

Толькі ад'ехаліся ад Казян, як Дзісна пад вуглом заломвае ўправа. Прама, на поўнач,— Дрысвята (цікавая асаблівасць — мясцовыя жыхары завуць рэкі ласкава: Дзісенка, Ельніца, Мнюціца, Бірвятка, Дрысвятка), вузкая, бурнаплынная, гайдае ў сваіх цёмных вірах буравата-зялёныя водарасці. На захад — сама Дзісна. Яна шырэйшая, але не такая хуткая. Ад берагу да берагу, ледзь не ўсутыч, на вадзе ляжаць тлустазялёныя круглыя лісты, паміж якіх жоўтымі ці белымі гузачкамі свецяцца гарлачыкі. Быстры паток Дрысвяты, уліваючыся ў Дзісну, быццам абразае зялёную паласу.

**Камсамолец Ніколас Паншыс — механізатар літоўскага калгаса імя Людаса Гіры.**



**Педагог Рыта Якімовіч.**

Насупраць першай жа вёскі Васевічы, якая ўпіраецца ў раку агародамі, прычальваем. Пакідаем свой ціхаход і пылім па прасёлку пешшу. Пакуль што суха, хоць неба з усіх бакоў супіцца.

Васевічы — вялікая вёска, падобная на іншыя ў Прыдзісенні. Два рады хат, сады, антэны. Ціха, пуставата — разгар летняга дня. Каля хат рэдкія постаці, найначай, сумуючых па пагодзе гараджан-адпускнікоў, ды ў панадворках чародкі дзяцей.

На ўскраіне цесляры ставяць на зрубе кроквы. Васевічы яшчэ будуюцца.

Наступная вёска — Дзіснас, літоўская цёзка нашага горада Дзісна. Далей Навікай, ці ў беларускім вымаўленні Навікі. Пасёлішчы не так даўно сабраныя з хутароў. Дзве-тры хаты і памяшканне Дзіснаскага сельсавета, якія стаяць на канцы Навікая, па інерцыі лічацца ў вёсцы Дзіснас, хоць да той на добрых тры вярсты — чыстае поле.

Заходзім у сельсавет.

Невялікі пакой. За сталом — малады чарнявы хлопец. Старшыня. Альвідас Спечус, тутэйшы. Бацька — селянін, цяпер на пенсіі, маці яшчэ робіць даяркай. Па спецыяльнасці электрахімік, нядаўна ўступіў у члены партыі. Сакратар выканкома Броня Красаўскене. Яна жартавала, што ў ёй змешана літоўская і польская кроў, а ў гаворцы дык аж некалькі моў — літоўская, польская, руская і беларуская. Яны і пачалі знаёміць нас са сваім краем.

Гэта прыгранічны літоўскі калгас імя Людаса Гіры, народнага паэта Літвы, вялікага сябра Янкі Купалы. Людас Гіра першы з літоўскіх пісьменнікаў пераклаў яго творы. А адзін з вершаў — «З новым годам!» — напісаў па-беларуску.

У Дзіснаскім сельсавеце яшчэ ёсць саўгас, трохі вышэй па ўзбярэжжы Дзісны, ён называецца «Дзіснас».

Стопудовыя ўраджаі — тут пройдзены этап, летась калгас меў па 23,5 цэнтнера зерня з гектара, саўгас — па 22. Мы па дарозе бачылі, як шугаюць кругом ячмяні, авёс, бульба, лён.

У пойме Дзісны на вялікіх плошчах зроблена меліярацыя. Палі скрозь роўныя, без кусціка, перарэзаныя глыбокімі водаадводнымі каналамі. Меліяратары паглыбілі раку.

Паспяхова развіваецца і грамадская жывёлагадоўля. З году ў год павышаюцца надоі. На фермах укараняецца комплексная механізацыя.

Вясковыя людзі абзаваліся матацыкламі, паяўляюцца ў вёсцы і ўласныя легкавушкі. У Дзіснасе і Навіках — водаправод, на цэнтральных сядзібах — цагляныя дамы. А на ўскраінах сельсавета,— нам пра гэта паведамілі з гонарам,— у Дзіджазалісе расце сапраўдны горад. Там узводзяцца буйнейшы ў краіне Ігналінскі за-

вод дрэнажных труб. На будоўлі працуюць людзі з розных рэспублік.

У калгасе імя Людаса Гіры галоўныя спецыялісты з вышэйшай адукацыяй. Працаўнікі з дыпломамі ўзначальваюць брыгады, фермы. Гэта найбольш моладзь, сыны і дочкі сялян, якія ў Савецкай Літве атрымалі шырокую дарогу ў навуку, у жыццё. Нам называлі: у Дзіснасе свінафермай загадвае заатэхнік Рэгіна Баужытэ, брыгадзірам у Лазінках аграном Яніна Мацюшонене, а ў Дзіснасе — аграном Ефрасіння Матэюнене з вышэйшай адукацыяй, галоўны заатэхнік калгаса Вітаўтас Мейдус і заатэхнік-селекцыянер яго жонка Вераніка скончылі сельскагаспадарчую акадэмію ў Каўнасе, галоўны аграном грузін Сяргей Каранадзе і эканаміст яго жонка літоўка Браніслава.

У кабінеце парторга мы былі прыемна здзіўлены, сустрэўшы на кніжнай паліцы кнігу «Віцебская вобласць» і альбом «Браслаўшчына». Гэта падарункі ад дэлегацыі калгаса «Гвардыя» Браслаўскага раёна.

Узаемныя візіты паміж гэтымі гаспадаркамі — звычайная з'ява. Літоўцы і беларусы прыязджаюць адзін да аднаго, каб пазычыць вопыту, разам падвесці вынікі сацыялістычнага спаборніцтва. На Дзень вясны літоўскія госці бываюць у беларусаў, а на нацыянальнае літоўскае свята — угодкі Савецкай улады, якое адзначаецца ў ліпені, абавязкова бываюць прадстаўнікі з «Гвардыі».

Цесныя кантакты ў Казянскай сярэдняй і Дзіснаскай васьмігадовай школ.

Гэта, што датычыць афіцыйнага боку.

Рэдкія вечары моладзі ў Казянах ці ў Дзіснасе абыходзяцца без гасцей з левага ці з правага берагу Дзісны. Гучыць на вяселлях традыцыйнае «горка» па-літоўску, па-беларуску. З вёскі ў вёску людзі ездзяць на наваселлі, на радзіны і па розных іншых буднях і святочных клопатах. Рака Дзісна не дзеліць дзве рэспублікі, а лучыць іх.

Развітваючыся, Альвідас Спечус шкадаваў, што госці гэткія нечаканыя, шкадаваў, што госці гэткія нечаканыя, каб жа знаў загадзя...

Каб хоць што-небудзь зрабіць прыемнае, Альвідас па чарзе падвёз нас на сваім старшынёўскім «усюдыходзе».

Каля нашай лодкі тым часам сабралася цэлая талака дзятвы. Русявыя, бялявыя, у вяснушках, як і ўсюды, цікаўныя дзіцячыя тварыкі. Малы літовец, малая беларуска, а той беларуса-літовец ці літова-беларус. Змешчаных сем'яў па абодвух берагах Дзісны многа. Калі суседзі радняцца, то гэта ўжо, будзьце пэўны, добрыя суседзі!..

Дзеці махаюць нам услед ручанятамі, пакуль нам льга бачыць іх. Па цячэнні, хаця і трапляецца трава, плысці лёгка. Хутка мы вяртаемся назад, уключаем матор і ўваходзім у Дрысвяту. Рэчка ледзь месціцца ў вузкіх берагах. Усё добра, пакуль лодка раптам не шаргае па жвірыстым дне. Мы глушым матор, бярэмся за вёслы, пускаемся ўніз па рацэ, да Шаркоўшчыны, адкуль пачыналі свой шлях.

Нарэшце спешваемся і перасаджваемся на матацыкл.

Калясім ледзь не па ўсім Браслаўскім раёне, дабіраемся ў Опсу, адтуль па старым, у разгалістых лозах і бярозах, гасцінцы трапляем у вёску Дрысвяты. Яшчэ з касагора бачым яе, гідраэлектрастанцыю «Дружба народаў» — белы цагляны, вышынёй паверхі ў тры будынак, на два бакі ад якога відаць атарочаная дрэвамі сінеча вады. ГЭС стаіць у пачатку кароценькай, метраў 300, ператокі з возера Дрысвяты ў возера Аболе, якое дае пачатак рацэ Дрысвяты. Сціснутае з двух бакоў высокімі ўзгоркамі, возера Дрысвяты падыходзіць сюды вузкім адросткам; вузкае, доўгае і возера Аболе.

На дзвярах ГЭС строгі надпіс: «Старонним уваход забаронены».

Дзяжурны, мусіць, здагадаўся, што зноў прыбылі нейкія экскурсанты, і выходзіць сам. Ён — прыветны, гаваркі вясковы дзядзька.

Сігізмунд Вікенцевіч Ясіновіч — старажыл гэтых мясцін. Некалі будаваў ГЭС і з самага пуску працуе на ёй зменным электрыкам.

Сёлета 8 чэрвеня споўнілася 20 гадоў, як тры прымежныя гаспадаркі: цяперашні беларускі саўгас «Авангард», літоўскі калгас імя Адама Міцкевіча і латвійскі саўгас «Узвара» пачалі супольную будоўлю.



Шмат рыбных гаспадарак у гэтым краі. Штодзённы клопат рыбавода—падкарміць сваіх гадаванцаў.



Моцная дружба яднае гэтых хлопцаў з калгаса «Дружба» Даўгаўпілскага раёна тракtarыста Фёдара Тарасава, слесара Васіля Чыркіна, трактарыста Сяргея Філіпава, практыканта сельгасакадэміі Яніса Янушэўскага, шафёра Станіслава Янушэўскага, шафёра Уладзіслава Ляхоўскага, галоўнага інжынера Рамуальда Янзонса.

Сёння, калі ўся наша краіна заліта электрычнасцю і Беларусь, Літва, Латвія маюць такія гіганты электраэнергетыкі, як Бярозаўская і Лукомльская ДРЭС, Плявінская ГЭС, Літоўская ДРЭС, электрастанцыя «Дружба народаў» магутнасцю 320 кілават здаецца светлячком. Яе энергіі наўрад ці хапіла б на адзін мясцовы саўгас «Авангард». Але яна тым і дарагая, што была першая, што гэтак ярка выявіла, як савецкія людзі моцна і цесна з'яднаныя ў адзіную працоўную сям'ю.

...І там, і тут сінім шклом блішчаць азёры.

Злева цягнецца возера Дрысвяты, самае вялікае з усіх тутэйшых азёр. Яно падыходзіць ледзь не пад самую нашу дарогу. Мякка плешчуцца лёгкія хвалі. Вада чыстая і празрыстая, кожны каменьчык на дне відаць, як праз крышталь.

Калгас «Камунар». Тут канчаецца тэрыторыя Беларусі. У невялікім ляску развілка. Налева вёска Турмантэс, літоўскі саўгас «Кімбарцішкіс», направа — Дэменэ, латвійскі калгас «Дружба». Кіруемся направа, да латышоў.

Гравійка прыводзіць да вялікай драўлянай будыніны. Калгасны цэнтр. Знаёмімся з работнікамі канторы, потым з механізатарамі, якія ў майстэрні завіхаюцца ля камбайнаў. Ураджай і тут, як усюды, дзе мы пабывалі, добры.

У калгасе «Дружба» мы чулі жарт. Калі на калгасных урачыстасцях пачынаюць віншаваць перадавікоў, то падобна, быццам ідзе пасяджэнне Палаты Нацыянальнасцяў Вярхоўнага Савета краіны: латышскае прозвішча змяняе беларускае, беларускае — літоўскае, літоўскае — рускае, тое — украінскае і г. д.

Латыш Уладзіслаў Янзонс кіруе будаўнічай брыгадай. Мы бачылі: на моцны вугал будуюць у «Дружбе». Дояць кароў беларус Леанід Рак (ужо не дзіва мужчыны-даяры цяпер, калі на многіх фермах поўная механізацыя), палячка Людміла Ляхоўская... Сярод механізатараў літовец Марыёнас Бжэзаўскас, сярод паляводаў рускі Роберт Кокін...

У гасцінныя землі звадзіла нас Дзісна. Гэтая рака мае шчодрыя вытокі. Яе жывяць глыбокія, чыстыя азёры, крыніцы, ручаі. Ні ў лютую зіму, ні ў сухое лета Дзісна не перасыхае, бруіцца светлымі, тугімі струменямі. Прырода дала агульную для трох суседніх народаў раку.

**Герман КІРЫЛАЎ.**

Фота К. Жарнасека.

## Снежань

# НА КІНАЭКРАНАХ РЭСПУБЛІКІ

## «А зоры тут ціхія...»



Пастаўлены рэжысёрам Станіславам Растоцкім фільм «Дажывём да панядзелка» быў удастоены Залатога прыза на VI Маскоўскім міжнародным кінафестывалі. Гледачы палюбілі гэту карціну за сур'ёзнасць роздуму, за трапяткую ўсхваляванасць.

І вось цяпер на экраны рэспублікі выпускаецца новая работа рэжысёра — двухсерыйная шырокаэкранная кінастужка «А зоры тут ціхія...», пастаўленая ім на Маскоўскай кінастудыі імя М. Горкага па матывах аднайменнай аповесці Барыса Васільева. Яна вяртае нас у суровыя, незабыўныя дні Вялікай Айчыннай вайны.

## «Танец матылька»

У аснову гэтага новага каляровага шырокаэкраннага мастацкага фільма, створанага рэжысёрам Альгертам Дункерсам на Рыжскай кінастудыі па матывах апавядання Зігмунда Скуіньша «Кар'ера», лягла думка пра мастака і грамадства, пра чалавечыя ўзаемаадносіны і танную пазалоту незаслужанай славы. Што калі пагоня за ёй становіцца самамэтай, калі чалавекам пачынае кіраваць эгаізм, разлік, славалюбства? На гэтыя пытанні спрабуюць адказаць аўтары фільма.

## «Нечаканы госць»



Імя кінааператара Уладзіміра Манахава стала шырока вядомым пасля выхаду на экраны яго лепшай работы — фільма «Лёс чалавека», які прынёс яму званне лаўрэата Ленінскай прэміі. І да гэтага ён зняў нямала карцін: «Скакуха», «Вышыня», «Аптымістычная трагедыя». Яго рэжысёрскім дэбютам была карціна «Няпрошанае каханне», затым ён паставіў фільм «Пра цуды».

Цяпер на суд гледачоў перадаецца новая шырокаэкранная мастацкая кінастужка «Нечаканы госць», пастаўленая Уладзімірам Манахавым на кінастудыі «Масфільм».

Фільм таксама, як і апавяданне Э. Казакевіча «Пры святле дня», па матывах якога ён створаны, чалавечны, багаты думкамі і пачуццямі. У ім акцэнтавана тэма гераізму, шчодрасці чалавечай душы.

У галоўных ролях заняты Іван Лапікаў, Андрэй Мягкоў, Аліна Пакроўская.

## «Бой пасля перамогі»



Германія капітулюе! У чыстым майскім небе ляцяць самалёты, і яны не страляюць, не кідаюць бомбы. Па дарогах брыдуць рэшткі фашысцкага войска. Вайна скончылася!

Гэтаму часу і прысвечана новая работа рэжысёра Вілена Азарава — шырокаэкранная мастацкая кінакарціна «Бой пасля перамогі», пастаўленая на кінастудыі «Масфільм» па сцэнарыі, напісаным ім у садружнасці з Васілём Ардамацкім і Міхаілам Блейманам. Гледачы ўжо знаёмыя з героем новай стужкі, мужным савецкім разведчыкам Сяргеем Крыловым па дзвюх папярэдніх карцінах В. Азарава «Шлях у «Сатурн» і «Канец «Сатурна».

Вайна скончылася, а для Крылова бой яшчэ працягваецца. Бой пасля перамогі.

Асноўны акцёрскі састаў перайшоў з папярэдніх фільмаў. Гэта Міхаіл Волкаў, які іграе ролю Сяргея Крылова, Людміла Максакава (Сафі Краўзе), Мікалай Пракаповіч (Вільгельмі), Георгі Жжонаў (Цімерын) і іншыя. На ролю начальніка нямецкай разведкі генерал-маёра Гелена запрошаны эстонскі акцёр Мацці Клаорэн.

## «Прызнанне камісара паліцыі пракурору рэспублікі»

Гэта шырокаэкранная мастацкая кінастужка створана вядомым італьянскім рэжысёрам Даміяна Даміяні. Фільм пераканаўча паказвае самавольства буржуазных «ахоўнікаў закона», убоства заходняга правасуддзя.

У цэнтры карціны — паліцэйскі камісар Банавіа, які шмат гадоў вядзе марную барацьбу супраць аднаго з верхаводаў мафіі — буйнога будаўнічага падрадчыка Ламуна: тройчы ён накіроўваў у суд матэрыялы пра яго злачынствы і тройчы злачынец выходзіў сухім з вады «за адсутнасцю доказаў». І не дзіўна: у будаўнічых спекуляцыях і афёрах Ламуна ўдзельнічаюць такія асобы, як старшыня праўлення банка, дэпутат парламента, яму садзейнічае нават сам галоўны пракурор горада...

Фільм Даміяна Даміяні — ярасны, жорсткі, як сама рэчаіснасць Сіцыліі, паказаная ў ім з сапраўдным рэалізмам. Гэты фільм — дастойны ўзор таго палітычнага кінематографа, які сёння ўмацоўвае ў Італіі свае пазіцыі.

На сёмым Міжнародным кінафестывалі ў Маскве карціне «Прызнанне камісара паліцыі пракурору рэспублікі» прысуджаны Залаты прыз.

Выпускаюцца на экраны рэспублікі таксама новыя мастацкія кінафільмы «Зорны колер» (Кіеўская кінастудыя імя А. П. Даўжэнкі) — пра барацьбу з басмацтвам ва Узбекістане, «Лясная балада» («Казахфільм») — пра брацкую садружнасць савецкіх людзей у гады Вялікай Айчыннай вайны, «Калі спыніўся млын» («Таджыкфільм») — пра барацьбу сельскага хлапца за ўстанаўленне новых норм жыцця ў сваім кішлаку, «Айрык» («Арменфільм») — пра будні аднoй армянскай сям'і.

З зарубежных кінакарцін будуць дэманстравацца: балгарская — «Чорныя анёлы» (пра дзейнасць падпольнай маладзёжнай камуністычнай групы ў гады барацьбы з фашызмам), аргенцінская — «Святы са шпагай» (пра героя-палкаводца Хасе дэ Сан Марціна, які змагаўся ў першай палавіне XIX стагоддзя за вызваленне Аргенціны ад іспанскіх заваёўнікаў), «Пэпі ў краіне Така-Тука» (ФРГ) — пра прыгоды юнай Пэпі і яе сяброў.

# ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

**...калі б усе альвеолы лёгкіх (а іх 300 мільёнаў) удалося выпрастаць і разгладзіць, яны занялі б плошчу цэлага футбольнага поля.**

**...акрамя сваіх асноўных функцый (дастаўкі кіслароду ў тканкі і вывядзення вуглекіслага газу і вады з арганізма), лёгкія ўдзельнічаюць і ў абмене рэчываў.**

**...пры кашлі ў дыхальных шляхах узнікае сапраўдны шторм. У глотцы яго сіла пераважвае за 12 балаў, бо паветра нясецца з хуткасцю 50—120 метраў у секунду, як пры моцным урагане. У трахеях сіла ветру крыху змяншаецца—да 7 балаў, але і тут ён «дзьме» з хуткасцю 35—15 метраў у секунду, як жорсткі шторм ці моцны вецер. Амаль з той жа сілай (12—7 балаў) вецер нясецца па асноўных бронхах. Тут хуткасць перамяшчэння паветра ў межах 32—13 метраў у секунду. Аднак у бранхіёлах жорсткі шторм ператвараецца ў сярэдні, слабы, лёгкі і нават ціхі ветрык, а хуткасць перамяшчэння паветра тут не больш як 6—1,2 метра ў секунду.**

**...у чалавека ў дыханні прымае ўдзел уся паверхня цела, ад тоўстай скуры пят да зарослай валасамі скуры галавы. Асабліва ўзмоцнена дыхае скура на грудзях, спіне і жываце. Але плошча дыхальнай паверхні лёгкіх, па самых прыблізных разліках, у 45—50 разоў большая, чым уся паверхня скуры.**

**...лёгкія з'яўляюцца адным з найбольш цяжкіх унутраных органаў (каля 1350 г). Сярод парэнхіматозных органаў па важкасці яны стаяць на другім месцы пасля печані, якая важыць 1500 г, а сярод усіх унутраных органаў—на трэцім, пасля галаўнога мозгу, які важыць у сярэднім 1375 г. Затое ўдзельная вага лёгкіх дарослага чалавека роўна 0,342, у той час як удзельная вага печані і галаўнога мозгу больш за 1.**

**«...што ёсць атрута? Усё ёсць атрута, нічога не пазбаўлена атрутнасці; і ўсё ёсць лякарства. Адна толькі доза робіць рэчыва атрутай ці лякарствам». Гэтыя словы належаць славутаму ўрачу і хіміку эпохі Адраджэння Парацэльсу. І сапраўды. Напрыклад, 0,002 г медзі неабходны арганізму чалавека кожны дзень, інакш ён захварэе малакроўем. Аднак ужо 0,5 г медзі выклікаюць у яго парушэнні функцый стрававання.**

**...страўнік з'яўляецца не толькі аб'ёмістай «рэтортай» стрававальнага шляху, а і шрубавой (спіральнай) трубкай з правым ходам (нарэз управа): вось страўніка—лінія, якая злучае сярэдзіну асобных сячэнняў страўніка—уяўляе сабой вінтавую лінію.**

**...кожную секунду ў нашым арганізме распадаюцца і ўтвараюцца зноў тры мільёны эрытрацытаў.**

**...на кожны квадратны кіламетр зямлі прыходзіцца каля двух мільёнаў тон кіслароду. Дзякуючы кругазвароту рэчываў у прыродзе падтрымліваецца нязменнасць саставу атмасферы. Але пры кожным трансатлантычным пералёце рэактыўнага самалёта (а такіх рэйсаў кожны дзень адбываецца сотні) згарае 35 тон кіслароду. У выніку гэтага, а таксама з прычыны інтэнсіўнай дзейнасці прамысловых прадпрыемстваў і хуткага знікнення лясоў і іншай расліннасці, колькасць вуглекіслага газу ў атмасферы ўвесь час павялічваецца. Вучоныя лічаць, што гэта можа прывесці да значнага павышэння тэмпературы вады і паветра, і тады пачнецца інтэнсіўнае раставанне ільдоў і снягоў.**

■ ■ ■





**Жаночая алімпійская зборная СССР па спартыўнай гімнастыцы перад ад'ездам у Мюнхен наведала ЦК ЛКСМБ. У цэнтры—тры беларускія дзяўчыны—Вольга Корбут, Антаніна Кошаль і Тамара Лазаковіч.**

Фота **В. ЖДАНОВІЧА.**

# ЗОЛАТА НАШЫХ ДЗЯЎЧАТ

Трыбуны мюнхенскага «Шпортхале». Усё вакол вірыць, бы вулканічная лава—захапленне і на трыбунах, і ўнізе, дзе ўстаноўлены чатыры гімнастычныя снарады. З вышыні трыбун твары прысутных амаль не бачны. Але партатыўныя тэлевізары «Грундыг», раз'яднаўшы нас у ложы прэсы папарна, раз-пораз выхопліваюць чый-небудзь твар буйным планам. І нам бачны то радасныя ўсмешкі, то сціснутыя вусны, то кроплі поту, то слёзы...

Мы стараемся нічога не прамінуць, бо гэта Алімпіяда, і тут другарадных падзей няма. Наша ўвага скіравана перш за ўсё да шасці дзяўчат у белых гімнастычных трыко з гербам СССР на грудзях.

Зборная стваралася на нашых вачах. Яшчэ летась у нас у Мінску Людміла Турышчава і Тамара Лазаковіч першымі фінішавалі на чэмпіянаце Еўропы і канчаткова зацвердзіліся ў ролі лідэраў алімпійскай каманды. Мы першымі ўбачылі здзіўляючыя знаходкі гродзенскага трэнера Ранальда Кныша, увасобленыя на гімнастычным памосце яго вучаніцай Вольгай Корбут—тыя самыя звышскладаныя элементы, што прывялі ў захапленне ўвесь алімпійскі Мюнхен.

У Мінскім палацы спорту зборная праводзіла апошнія трэніроўкі, тут канчаткова вызначыўся яе склад. Між гімнастак была і Тоня Кошаль— дзяўчынка са Смалявіч, якая скончыла ў алімпійскім годзе Мінскую спецыялізаваную школу-інтэрнат.

Мы верылі ў перамогу нашых дзяўчат і ўсё ж хваляваліся. Нам была вядома сіла зборнай Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі—вопытнай Эрыкі Цухальд, якая можа быць то абыякавай, то азартнай, юнай Ангелікі Хельман, чыё майстэрства расце на вачах, і славутай Карын Янц, якая амаль год не паяўлялася на еўрапейскіх памостах, і мы толькі з газет даведваліся пра высокія балы, якія выстаўлялі ёй суддзі. Што і казаць, моцная алімпійская каманда ГДР! Ды і наогул, чаго толькі ў гімнастыцы не здараецца. Яшчэ не сцёрлася з памяці драматычная сітуацыя на апошнім чэмпіянаце свету ў Люблянe, калі каварнае гімнастычнае бервяно скінула Тамару Лазаковіч, і пачалася як бы ланцуговая рэакцыя—скідаліся гімнасткі адна за другой. І толькі дзякуючы выключнаму намаганню волі ўдалося ім зноў набыць упэўненасць і дамагчыся каманднай перамогі.

Алімпіяда—асаблівае спаборніцтва. Ні з адным чэмпіянатам яе параўнаць нельга. Усё, што спартсменка рыхтавала чатыры гады, усё, што адпрацоўвалася ў цішыні трэніровачных залаў,—усё сваё майстэрства і ўсе спадзяванні яна выносіць на суд строгіх арбітраў і гледачоў, і для многіх такой магчымасці больш не будзе. Рэдка каму ўдаецца выступіць на дзвюх алімпіядах. У нашай камандзе такіх толькі дзве—Турышчава ды яшчэ Лазаковіч, якая ў Мехіка была запасной. Як жа вынесуць нашы дзяўчаты гэтыя велізарныя нервовыя перагрузкі?

Але вось гучыць марш, і чоткім грацыёзным крокам шасцёркі гімнастак выходзяць на памост. Мы, вядома, не хвалімся, але сапраўды нашы лепшыя, прыгажэйшыя. Наперадзе трэнер Паліна Астахава—славутая гімнастка, яна выводзіць зборную краіны да алімпійскіх снарадаў.

Паслужлівы «Грундыг» набліжае да нас твары дзяўчат, і мы пільна ўзіраемся ў іх. Ледзь прыкметна кусае вусны Тамара Лазаковіч. Адвяла позірк убок Люда Турышчава, і толькі Тоня Кошаль глядзіць навокал шырока адкрытымі, поўнымі захаплення вачыма. Ёй, пэўна, усё яшчэ не верыцца, што яна на алімпіядзе. Мы заўважаем на трыбуне нашых трэнераў: Вікенці Дзмітрыеў пра нешта спакойна гутарыць з настаўнікам Турышчавай Уладзіславам Растароцкім, а сам не-не ды і кіне хуткі позірк на памост. Побач прымасціўся Кныш, як заўсёды, ціхі і сціплы. Віктар Хамутоў, выхавацель Кошаль, увіхаецца са сваёй кінакамерай. Апошнія хвалюючыя імгненні...

І вось да брусся ў падыходзіць гімнастка з Ташкента Эля Саадзі. Увогуле ў яе добра атрымалася, але суддзі паскупіліся—9,2 бала. Ды гімнастка да гэтага была падрыхтавана. Такая ўжо традыцыя ў суддзяў,— таму, хто выступае першым, высокай ацэнкі ніколі не паставяць. Правільна гэта ці не, пытанне іншае. Але пакуль трэба цярпець, не злавацца, не губляць спакою і ўпэўненасці. І Эля, усміхаючыся, глядзіць на Тоню Кошаль, якая ўжо ўзыходзіць на памост—маўляў, не хвалюйся, усё ў парадку. І Тоня, якую ў гэтай велізарнай зале амаль ніхто не ведае, выдатна выконвае абавязковую камбінацыю, так дакладна і ярка, быццам даўным-даўно прывыкла да алімпійскіх выпрабаванняў. Суддзі ставяць ёй добрыя балы—9,5. Гэта вельмі патрэбная для каманды ацэнка, таму што тым, каго лічаць фаварытам, цяпер давядзецца выстаўляць яшчэ большыя—гэтакі няпісаны закон судзейскай механікі.

Няма патрэбы ўспамінаць усё, што было пасля. Многія дэталі алімпійскай барацьбы свежыя ў памяці тых, хто тымі вечарамі не адыходзіўся ад сваіх «Тэмпаў», «Электронаў» ды «Сігналаў». Яны напэўна памятаюць, як у захапленні загула зала, убачыўшы яшчэ на размінцы фантастычны палёт Вольгі з верхняй жэрдкі брусся на ніжнюю, і якая бура авацый узрушыла «Шпортхале», калі Вольга закончыла сваю камбінацыю. Яны не забыліся, як лятала над 10-сантыметровай драўлянай сцежкай гімнастычнага бервяна Тамара Лазаковіч і якія крышталёва чыстыя і натхнёныя былі яе вольныя практыкаванні. Перад вачыма стаіць строгая сканцэнтраванасць Люды Турышчавай, якая не дазволіла сабе ні разу зрабіць сур'ёзнай памылкі.

Былі ў дзяўчат і маленькія няўдачы. Але яны не засмучалі, а толькі згуртоўвалі дзяўчат, і кожная гатова была прыйсці на дапамогу сяброўцы. А Паліна Астахава, клапатлівая, як маці, супакойвала і падбадзёрвала дзяўчат.

Трыумф нашай каманды—незвычайны. Аглядальнікі не шкадавалі кампліментаў у яе адрас, і больш за ўсё добрых слоў выпала на долю Вольгі Корбут. Мюнхенская газета «Шпорт-курыр» так пачала сваю справаздачу пра апошні дзень гімнастычных спаборніцтваў: «Самая маленькая была самай вялікай. 12 тысяч зачараваных гледачоў віталі Вольгу Корбут». А другая газета, «Зюдойчэ цайтунг», выказвалася так: «У Мехіка рускія прывезлі Наташу, у Мюнхен— Олю. Якое імя будзе мець наступны рускі цуд—Галя або Зіна?» Вольга Корбут пакарыла «Шпортхале» майстэрствам, смеласцю і складанасцю камбінацый.

Пасля выступлення Корбут з адвольнай праграмай на бруссях у зале ўзняўся сапраўдны скандал. Тая ж «Шпорт-курыр» пісала пазней: «На працягу дзесяці мінут «Шпортхале» надрываўся ў шалёным свісце, але ні арбітр Матхолава, ні надзелены высокімі паўнамоцтвамі прэзідэнт тэхнічнага камітэта Берта Біланшэ не аднесліся паблажліва да выпраўлення ацэнкі».

Мадам Біланшэ не рызыкнула з'явіцца на прэс-канферэнцыю, што адбылася пасля гэтых спаборніцтваў. Прэзідэнт міжнароднага гімнастычнага саюза швейцарац Артур Гандэр палічыў за лепшае не ўмешвацца ў справы жаночай гімнастыкі. Шаноўныя арбітры ўзмоцнена ахоўвалі свой прэстыж і абвінавачвалі гледачоў і журналістаў у некампетэнтнасці. Вольга ж на гэтай прэс-канферэнцыі паводзіла сябе з годнасцю і толькі атрымала ў дадатак яшчэ кампліменты і сімпатыю. Яна сказала:

— Я ведаю, што ў мяне былі некаторыя памылкі, і справа суддзяў ацэньваць, наколькі яны сур'ёзныя. Я яшчэ вельмі маладая і нявопытная, каб спрачацца...

А тыя самыя журналісты, якія дамы з жаночага тэхнічнага камітэта палічылі недастаткова дасведчанымі ў гімнастыцы, убачылі ў гэтым штосьці большае, чым судзейскую памылку. Вядомы аглядальнік з ФРГ Інгеборг Хольбах зазначыла: «У жаночай гімнастыцы перавага ўсё яшчэ аддаецца чысціні выканання перад цяжкасцю. Гэта можа прывесці да застою на некалькі гадоў, таму што ні адна гімнастка не стане павышаць складанасць сваіх камбінацый, калі гэта не будзе цаніцца».

Мы ўсё ж лічым, што гэта не пагражае нашай гімнастыцы. Мы ведаем, што творчыя адносіны да справы, нястомныя пошукі заўсёды вызначалі нашых трэнераў. Алімпіяда дала ім багатую глебу для роздуму, для новага палёту фантазіі. Прагрэс спыніцца не можа. Пацвярджаючы гэта, хочацца прывесці невялікі, але характэрны факт: адразу ж пасля вяртання з Мюнхена, не адпачыўшы ад усіх хваляванняў, самы малады з трэнераў нашых алімпійцаў Віктар Хамутоў адправіўся ў Гродна да вопытнага і надзвычай вынаходлівага Ранальда Кныша, каб падзяліцца з ім сваімі думкамі, каб яшчэ раз паглядзець, павучыцца, нарэшце. Так што паважаная Інгеборг можа не хвалявацца— застою не будзе.

Хочацца яшчэ раз павіншаваць нашых дзяўчат—слаўных, дружных і сціплых—з алімпійскай перамогай і з гонарам нагадаць пра той вялікі ўклад, які ўнесла ў яе беларуская гімнастыка.

Не, недарэмна дзяўчаты з Віцебска, Гродна і Мінска былі год назад прызнаны лепшымі на Спартакіядзе народаў СССР у Маскве. Яны цяпер склалі палову алімпійскай каманды і разам з сяброўкамі з Грознага, Варонежа і Ташкента здабылі самы высокі тытул, які толькі ёсць у спорце.

**Міхаіл СУПАНЕЎ.**



# нашы аўтары

**МАЛЯУКА Мікола** нарадзіўся ў 1941 годзе ў вёсцы Мікалаеўшчына на Міншчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Працуе на Беларускім радыё.
Аўтар паэтычных зборнікаў «Едуць маразы» і «Жалеза».

**КІРЭЕНКА Кастусь,** вядомы беларускі паэт, нарадзіўся ў 1918 годзе ў вёсцы Гайшын Слаўгарадскага раёна.
Выдаў зборнікі вершаў «Ранак ідзе», «Пасля навальніцы», «Мая рэспубліка», «Маякі», «Родны свет», «Любоў і дружба», «Светлая хваля», «Слаўся, юнацтва», «Смага», «Жывыя ідуць наперад», «Цёплая радуга», «Сто песень» і інш.
Выступае таксама ў жанры прозы. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы. Галоўны рэдактар часопіса «Полымя».

**АЛЕКСАНДРОВІЧ Сцяпан** нарадзіўся ў 1921 годзе ў мястэчку Капыль Мінскай вобласці.
Доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларускай літаратуры БДУ імя У. І. Леніна.
Аўтар літаратуразнаўчых прац «Старонкі братняй дружбы», «Гісторыя і сучаснасць». Выступае таксама ў жанры прозы. Ім напісаны вядомыя аповесці пра Якуба Коласа «Ад роднае зямлі», «Далёкія зарніцы». «Ад гоману бароў» — працяг гэтых дзвюх кніг.

**МАЛЬЧЭУСКАЯ Яўгенія** нарадзілася ў 1949 годзе ў вёсцы Замошша Чашніцкага раёна. Скончыла тэхнікум гумавай прамысловасці. Працуе літсупрацоўнікам у рэдакцыі чашніцкай райгазеты.

**ВІТКА Васіль (Цімох Крысько),** вядомы беларускі пісьменнік, нарадзіўся ў 1911 годзе ў вёсцы Еўлічы на Случчыне. Аўтар паэтычных зборнікаў «Гартаванне», «Поўдзень», «Вернасць», «Ружа і штык», «Паверка», «Выбраная лірыка», «Праводзіны лета», зборнікаў вершаў для дзяцей «Вавёрчына гора», «Буслінае лета», «Азбука Васі Вясёлкіна», «Чытанка-маляванка» і інш. Працуе таксама ў галіне драматургіі. Ім апублікаваны п'есы «Прамень будучыні» і «Шчасце паэта». Галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка».

**ШТРЫТМАТАР Эрвін** нарадзіўся ў 1912 годзе. Нямецкі пісьменнік (ГДР), аўтар многіх аповесцяў, раманаў, вершаў і п'ес.
Кнігі Штрытматара неаднаразова выдаваліся ў нашай краіне.
Паэтычныя мініяцюры, якія друкуюцца ў гэтым нумары, прерададзены аўтарам у рэдакцыю ў рукапісе.


**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 11**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854—сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592—аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

АТ 15561. Здадзена ў набор 28/IX 1972 г. Падпісана да друку 27/X 1972 г.
Папера 70×108[1]/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5.
Тыраж 15003 экз. Зак. 1220. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Мінск, Ленінскі прасп., 79.**